ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ШТОМЕСЯЧНАЯ ПОЛІТЫЧНАЯ, ПЭДОЛЕГА-ПЭДАГОГІЧНАЯ І ПОЛІТЫКА-АСЬВЕТНАЯ ЧАСОПІСЬ



# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАНЬНЕ

ОРГАН НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ І САЮЗУ ПРАЦАЎНІКОЎ АСЬВЕТЫ



№ 11 ЛІСТАПАД 1930

ВЫДАНЬНЕ НАРОДНАГА КОМІСАРЫЯТУ АСЬВЕТЫ БССР
МЕНСК 1930

# ПРЭЧ З ДАРОГІ „АДРАДЖЭНЦАЎ“ БУРЖУАЗНАЙ БЕЛАРУСІ!

## Зьнішчым інтэрвэнтаў у нашай краіне!

Гутаркі аб трывалай стабілізацыі, аб працьвітаньні капіталістычнай сыстэмы даўно закінуты нават прысяжнымі сьпевакамі буржуазнага ладу. У лягеры сусьветнага капіталізму ўсё часьцей чутны галасы трывогі і роспачы. Экономічны крызіс, які патрасае асновы капіталістычнага сьвету і ў радзе краін перарастае ў політычны крызіс, прыводзіць да такога абвастрэньня клясавых супярэчнасьцяй, што найменш дальнабачныя прадстаўнікі буржуазіі ўсьведамляюць набліжэньне краху, нарастаньне навальніцы, якая зьмяце капіталістычную сыстэму.

Ужо ня шкодныя «агенты Масквы», а «благонамеренные» апологеты капіталізму і прызнаныя правадыры буржуазіі, прышоўшы ў замяшаньне перад тварам насьпяваючых падзей, гавораць аб пагражаючай буржуазнаму сьвету катастрофе. Вядомы правадыр і організатар польскай буржуазіі, чалавек, абагрыўшы свае рукі ў крыві рабочых Польшчы ў гады рэволюцыі 1905-1907 г. г.—Роман Дмоўскі піша аб «хуткім разьвіцьці *гаспадарчай катастрофы* нацый, якія да гэтага часу панавалі ў сьвеце...». Ён мае на ўвазе Францыю—Францыю Пуанкарэ, Брыянаў, Жанэнаў,—уплывы якое «хутка выцясьняюцца Англіяй і Амэрыкай», але ён адначасова гаворыць, што «Англія, Амэрыка, Нямеччына—іменна народы, якія сёньня галоўным чынам знаходзяцца пад пагрозай у галіне *гаспадарчага ладу і ня толькі гаспадарчага*».

Гэты мацёры контррэволюцыянэр прымушан літаральна паўтараць тыя характарыстыкі сусьветнага экономічнага крызісу, якія ўжо даўно дае комуністычная прэса. «Практыка *мінулага* вучыць, што гаспадарчыя і фінансавыя крызісы—справа хутка праходзячая, гэта,—шчыра прызнаецца Дмоўскі,—толькі ўцеха для ахвяр цяперашняга становішча. На жаль,—гаворыць далей незадачлівы конкурэнт Пілсудзкага,—тое, што адбываецца сёньня ў гаспадарчым жыцьці, *не зьяўляецца звычайным крызісам: у гэтым ёсьць нешта большае*».

Гэта «большае» мы лёгка расшыфруем: цяперашні крызіс зьяўляецца найбольш яркім праяўленьнем загніваньня капіталізму ва ўмовах нарастаючай міжнароднай пролетарскай рэволюцыі, якая на $^1/_6$ земнае кулі ўжо перамагла і замацавалася, уводзячы на чатырнаццатым годзе Савецкі Саюз у пэрыод соцыялізму.

Умацаваньне гаспадарчых, політычных, культурных, нацыянальных і вайсковых фундамантаў пролетарскай дыктатуры ў краіне саветаў, вялізарны ўздым на гэтай глебе клясавай самасьвядомасьці, рэволюцыйнай актыўнасьці і энэргіі пролетарыяту СССР і ўсяго сьвету—вось адна з асноўных прычын таго, што сучасны крызіс капіталізму зьяўляецца «ня звычайным», «скора праходзячым», «нормальным» крызісам капіталізму. Таму іменна ўсе міжнародныя супярэчнасьці інтарэсаў, якія разьдзіраюць капіталістычны сьвет, адыхо-

дзяць на задні плян перад асноўнай супярэчнасьцю сучаснай эпохі, супярэчнасьцю паміж капіталістычным сьветам і сьветам пролетарскай рэволюцыі.

Невыпадкова луджаныя глоткі сусьветнага буржуазнага друку выюць аб «савецкім дэмпінгу», як пагрозе зьвяржэньня капіталістычнай цывілізацыі. У ашалелым выцьці буржуазнай прэсы і социял-фашысцкіх рэптылій супроць мнімага «савецкага дэмпінгу» чуецца сьмяротны страх асуджаных клясаў, якія ня ў стане справіцца з рулём і вятрыламі капіталістычнага карабля, што заліваецца грозна-бушуючым морам соцыяльнага катаклізму.

Той бурны гаспадарчы і культурна-палітычны рост СССР і ў першую чаргу нацыянальных рэспублік і вобласьцяй, а таксама паасобных нацыянальнасьцяй, адставаўшых раней у сваім разьвіцьці ў выніку палітыкі прыгнечаньня і эксплёатацыі, што ўжываліся царызмам, няўхільнае ажыцьцяўленьне грандыёзнага 5-гадовага пляну соцыялістычнай перабудовы нашай краіны, у рэзультаце якога Савецкі Саюз за год пасоўваецца наперад на цэлыя дзесяцігодзьдзі; бальшавіцкія тэмпы нашай работы, якія зьяўляюцца рэзультатам надзвычайнага ўздыму энэргіі, энтузыязму, актыўнасьці рабочае клясы, яе згуртаванасьці вакол бальшавіцкае партыі і бязьмернага давер'я да яе ленінскага кіраўніцтва і вернасьці генэральнай лініі партыі,—усе гэтыя фактары, садзейнічаючы рэволюцыйнаму змаганьню шырокіх працоўных мас усяго сьвету, выклікаюць шалёнае імкненьне буржуазіі—разграміць Савецкі Саюз, як непагасаючае вогнішча сусьветнай рэволюцыі.

Капіталістычны сьвет ня раз яднаў свае сілы супроць пролетарскай рэволюцыі. Заўсёды пролетарыят даваў жорсткі адпор гэтым спробам. Міжнародная контррэволюцыя з роспаччу асуджанага аднаўляе свае атакі—яна зварачаецца да самых хітравумных комбінацый, каб уцягнуць масы ў вайну супроць Савецкага Саюзу. Конфлікт на Далёка-Ўсходняй чыгунцы быў лепшым паказальнікам гэтых «происков» імпэрыялістых Савецкая ўлада пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі вытрымала тады і двойны экзамэн: яна разбурыла пляны інтэрвэнтаў, пераканаўшы нават найбольш адсталыя дробнабуржуазныя масы ўсяго сьвету, што бальшавікі сапраўды за мір і супроць вайны, яна адначасова продэмонстравала ўсяму сьвету гэроізм, бяздольнасьць, вытрыманасьць і высокі тэхнічны ўзровень нашай слаўнай Рабоча-Сялянскай Чырвонай арміі.

Сусьветныя драпежнікі ў сваіх «происках», накіраваных на задушэньне сусьветнай пролетарскай рэволюцыі і яе вогнішча—СССР, не абмежаваліся падрыхтоўкай ваеннага нападу звонку. Яны шукалі саюзьнікаў і агентаў унутры краіны пролетарскай дыктатуры і знаходзілі іх сярод асколкаў раней кіруючых клясаў, сярод апошняга аплоту капіталізму ў нашай краіне—сярод кулацтва, сярод тэй часткі дробнабуржуазнай інтэлігенцыі, якая зьяўлялася ідэолёгам кулацтва, і тэй часткі спэцыялістых, якія не маглі пагадзіцца са стратай прывілей і тэй долі ўдзелу ў эксплёатацыі працоўных мас, якую ласкава адпускала ім буржуазія.

Пераход Савецкага Саюзу ў рэконструкцыйны пэрыод, у шырокае соцыялістычнае наступленьне на капіталістычныя элемэнты нашай краіны, паварот пераважнай масы серадняцтва на соцыялістычны шлях разьвіцьця сельскае гаспадаркі, ажыцьцяўленьне палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі—актывізавала ба-

рацьбу клясавага ворага супроць пролетарскай дыктатуры і звонку і ўнутры краіны.

Дыяпазон сродкаў, ужываных асуджанымі клясамі ў барацьбе супроць пролетарскай рэволюцыі, хістаўся ад зьвярынага кулацкага тэрору ў вёсцы, накіраванага супроць вясковых актывістых і колгасьнікаў, ад шпіёнажу і здрадніцтва за наяўны разьлік у франках, злотых і інш. валюце, прыпраўленага «ідэёвымі» розгалосьсямі з савецкай уладай, да найбольш утончаных мэтодаў навукова-тэхнічнага шкодніцтва.

Жалезная рука пролетарскай дыктатуры наносіла зьнішчальныя ўдары выступленьням клясавага ворага. Слаўная АДПУ раскрыла і абясшкодзіла шахцінскіх шкоднікаў, шкоднікаў у вайсковай, тэкстыльнай, суднабудаўнічай прамысловасьці, у мясной справе, у машынабудаўніцтве, у хэмічнай, залатой, нафтавай і іншых галінах прамысловасьці. Цяпер, дзякуючы пільнасьці вернага вартаўніка рэволюцыі—АДПУ, на лавах падсудных загаварылі прадстаўнікі «прампартыі»—экс-кандыдаты ў міністры фашысцкай Расіі, рыхтуючы дарогу крыві, тэрору, голаду і окупацыі для ўезду на белым кані старога расійскага дзяржыморды.

Шкоднікі па простым заданьні былых гаспадароў расійскай прамысловасьці—Рабушынскіх, Нобэляў, Манташавых і іншых гэрояў «Торгпрома» ў Парыжы, а таксама па дырэктывах капіталістычных генштабаў, у першую чаргу французскага і польскага, павінны былі, як паказвае шкоднік Рамзін, так паставіць справу, каб «стварыць найбольшы разгар экономічных крызісаў і затрудненьняў іменна к лету 1930 году, што ў пэўнай ступені, паводле цынічнай заявы Рамзіна, і было дасягнута». Уся работа шкоднікаў, шпіёнаў і здраднікаў знаходзілася ў шчыльнейшай сувязі з распрацаванымі ў цішыні францускага генштабу плянамі ўзброенай інтэрвэнцыі ў 1930 годзе.

У плянах інтэрвэнцыі міжнароднай контррэволюцыі вялізарную ролю—ролю пачынальніка павінна была адыгрываць фашысцкая Польшча. Аб яе ролі ў інтэрвэнцыі, якая падрыхтоўвалася, і аб бязьмежных захватніцкіх апэтытах польскіх фашыстых Рамзін у сваіх паказаньнях падрабязна інформаваў савецкі суд. У сьвятле яго паказаньняў выяўляецца да канца зьмест «пацыфікацыйных» карных экспэдыцый на Зах. Украіне і Зах. Беларусі. Жудасны окупацыйны тэрорыстычны рэжым на Зах. Беларусі і Зах. Украіне—курс на фізычнае зьнішчэньне комуністых і рэволюцыйнага актыву рабочае клясы, на разгром і задушэньне антыфашысцкага блёку і яго сустаўной часьці нацыянальна-вызваленчага руху, арышты, руйнаваньне бядняцка-серадняцкіх мас беларускае вёскі штрафамі, рабункам сэрвітутных правоў (права на пасьбу скаціны ў лесе, які юрыдычна належыць памешчыку) і г. д.—знаходзіцца ў простай сувязі з ліхаманкавымі падрыхтаваньнямі капіталістычнага сьвету да інтэрвэнцыі. Мышыная бегатня з усякімі аграрнымі конфэрэнцыямі, экскурсіямі прэзыдэнтаў і генштабістых набывае спэцыфічнае значэньне. Савецкі друк даўно выкрыў ваенны характар гэтых фактаў. Паказаньні Рамзіна, пацьвярджаючы заключэньні савецкага друку, адкрыюць вочы самаму адсталаму рабочаму або дробнаму буржуа на Захадзе на сапраўднае значэньне «аграрных конфэрэнцый», «прыяцельскіх прагулак» маршалаў і прэзыдэнтаў у сталіцы суседніх дзяржаў.

Вядома, *буржуазныя элемэнты* раней прыгнечаных царызмам нацыянальнасьцяй не маглі заставацца ў баку ад контррэволюцыйных, антысавецкіх «происков» міжнароднай буржуазіі. Пролетарская рэволюцыя, нясучы працоўным масам Беларусі вызваленьне ад падвойнага ярма социяльнага і нацыянальнага ўціску, экспропрыявала беларускіх экспропрыятараў побач з буржуазіяй усіх іншых нацыянальнасьцяй. Гэтыя элемэнты, у асобе Ластоўскіх, Лёсікаў, Некрашэвічаў, Булак-Балаховічаў, у шчыльнейшым саюзе з вялікадзяржаўнай расійскай контррэволюцыяй, з украінскімі буржуазнымі «незалежнікамі», накшталт пагромшчыка Пятлюры, вялі з першых дзён Кастрычніка непрымірымае ўзброенае змаганьне супроць пролетарыяту Беларусі, які змагаўся рука ў руку з рабочай клясай усяго Савецкага Саюзу. У гэтым змаганьні клясавыя ворагі беларускіх працоўных мас заключалі здрадніцкія зьдзелкі з царскімі генэраламі, ідучымі супроць працоўных пад сьцягам «адзінай і непадзельнай», з кайзэрам, таптаўшым жалезным ботам свае окупацыі хацінкі беларускай галечы, з францускім генштабам, з бандытам Булак-Балаховічам і з монархістычным эсэрам Савінковым, з дэфэнзыўных спраў майстрамі з кампаніі Пілсудзкага, ствараючымі на пажарышчах Зах. Беларусі Польшчу «од можа до можа».

Перамога беларускіх працоўных мас, атрыманая над окупантамі і інтэрвэнтамі ў саюзе з працоўнымі ўсяго Саюзу, пад кіраўніцтвам партыі пролетарыяту і яе ленінскага ЦК, прымусіла беларускую контррэволюцыю пасьледваць прыкладу Рамзіных, Чаянавых, Яфрэмавых і зьмяніць тактыку. Прыкрываючыся заявамі аб лёяльнасьці ў адносінах да савецкай улады, яны папрабавалі з сярэдзіны ўзарваць социялістычнае будаўніцтва наогул і ў прыватнасьці будаўніцтва социялістычнай культуры—нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьмесьце.

*Рэакцыю беларускіх працоўных мас на нацыянальны ўціск і эксплёатацыю пры царызьме, абвостраную контррэволюцыйнымі вылазкамі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму пасьля рэволюцыі, нацыянал-дэмократы прабавалі выкарыстаць у сваіх варожых для працоўных мэтах.* Яны таксама прабавалі пад прыкрыцьцём установак і выступленьняў нацыянальных опортуністых унутры партыі стварыць глебу для рэстаўрацыі капіталізму ў нашай краіне, для падрыхтоўкі ўмоў для наступленьня інтэрвэнтаў.

У шчыльнейшым ідэёва-політычным контакце з беларускімі нацыянал-фашыстымі, агентамі польскай дэфэнзывы на Зах. Беларусі, яны падрыхтоўвалі глебу, на якой пад назвай Беларускай Народнай Рэспублікі павінна была расквітнець буржуазна-фашысцкая Беларусь Радзівілаў, Скірмунтаў, Луцкевічаў і «сялян-культурнікаў» тыпу вясковага эксплёататара, кулака Мароза. Гэта «незалежная» буржуазна-фашысцкая Беларусь, вядома, апынулася-б у «фэдэрацыі» і пад скіпэтрам аўтараў «цудаў над Віслай» і «цудаў у выбарчай урне», але гэтага іменна і трэба «адраджэнцам», бо лепшага бізуна для прымусу працоўных да паслухмянства эксплёататарам, чым нагайка польскага фашызму, яны ня змогуць знайсьці.

Мэты і задачы нацыянал-дэмократаў—сутнасьць іх «адраджэнчай» ідэолёгіі лепш за ўсё характарызуюць *програмныя імкненьні «Нашай нівы» ў 1909 г. аб стварэньні з Беларусі домініёну па ўзоры Канады ўнутры расійскай імпэрыі Раманавых, рэформаванай паводле ангельскага прыкладу, практыкі Некрашэ-*

*вічаў у 1919 г. і нацыянал-фашыстых Луцкевіча, Астроўскага, Станкевіча, Ярэміча ў Зах. Беларусі ў нашыя дні.*

Ня менш ярка выкрывае контррэволюцыйную, эксплёататарскую сутнасьць нацыянал-дэмократаў тэорыя аб адзінстве беларускае нацыі—аб яе «працоўным» характары. Гэта тэорыя мела сваёй задачай замаскаваць пад зашчытны «працоўны» колер кулака і гарадзкога эксплёататара і ў клясавым змаганьні раззброіць рабочага і асноўныя бядняцка-серадняцкія масы. Тую-ж мэту мелі і гутаркі аб славутай «самабытнасьці».

Тав. Гей на апошнім Менскім партактыве даскана́ла выявіў сутнасьць і цану гэтай «самабытнасьці».

«Мы ведаем, казаў т. Гей, што беларускі нацыянал-дэмократызм орыентаваўся *на капіталістычны Захад* у процівагу пролетарскай Маскве і *часткова орыентаваўся на буржуазную Польшчу*. Гэта орыентаваньне зьвязвалася ў поўнай меры афармленым імкненьнем да стварэньня беларускай народнай «рэспублікі», якая ў нашых ўмовах, на данай ступені разьвіцьця імпэрыялізму, была-б *ня чым іншым, як дыктатурай фашызму*. У радох нацыянал-дэмократызму быў *«самабытніцкі»*, *«незалежніцкі»* струмень, які то ўзмацняўся, то аслабляўся... Справа з самабытнасьцю стаяла, прыкладна, так: узмацняюцца надзеі на ўнутраны пераварот, на кулацкае паўстаньне ўнутры СССР—узмацняецца «самабытніцкае» крыло нацыянал-дэмократызму, калі-ж надзеі на кулацкае паўстаньне аслабляюцца, дык узмацняюцца надзеі на польскую інтэрвэнцыю, узмацняецца заходняя орыентацыя, аслабляецца «самабытніцкае» крыло».

Нацыянал-дэмократы, як гэта відаць па рабоце раду савецкіх устаноў: НКА (пры *Ігнатоўскім і Баліцкім*), БДВ (пры *Жылуновічы і Шыпіле*), НКЗ (пры *Прышчэпаве, Адамовічу А.*), *Інбелкульту* і потым БАН (пры Ігнатоўскім) мелі сур'ёзны ўплыў на лінію гэтых устаноў, прыводзячы ня толькі да скажэньня лініі партыі ў гэтых установах, але часта, апіраючыся на нацыянал-опортуністых, яны прыводзілі да поўнай падмены лініі партыі нацдэмаўскай практыкай. Галоўныя свае намаганьні нацыянал-дэмократы накіроўвалі на захоп у свае рукі работы ў галіне культуры і сельскагаспадарчай экономікі.

«Нацыянал-дэмократызм зьяўляўся натхніцелем і правадыром хутарызатарскай зямельнай політыкі, якая рабіла стаўку на кулака і імкнулася павярнуць сельскую гаспадарку на шлях капіталістычнага разьвіцьця». (II Кастрычніцкі пленум ЦК КП(б)Б, 1930 г.).

Яны дальнабачна браліся за справу ўмацаваньня і пашырэньня свае соцыяльнай базы—кулацтва.

Невыпадкова таксама нацыянал-дэмократызм усе сілы накіроўвае на тое, каб культурнае будаўніцтва БССР пайшло па шляху стварэньня культуры, буржуазнай па сваім зьмесьце і нацыянальнай па сваёй форме. За многія гады работы БДВ здолела выдаць толькі сем брошур, популярызуючых ідэі марксызму-ленінізму, выдаючы дзесяткі і сотні брошур чужых, варожых дыктатуры пролетарыяту.

Улюбёнай формай скарыстаньня нацыянал-дэмократамі савецкай легальнасьці для змаганьня з пролетарскай дыктатурай і для пропаганды сваіх паглядаў былі: літаратурная крытыка (тэатральная дыскусія — *Дудар-Глыбоцкі, Купцэвіч* і інш.), поэзія, бэлетрыстыка і нарыс («Крывічы», «Падарожжа на новую Зямлю»—*М. Зарэцкага*, «І пурпуровых ветразей узьвівы»—*Дубоўкі*, «Случчына» — *«Лужаніна»*, «Лісты да сабакі»—*Я. Пушчы*, падобныя матывы

часамі гучэлі ў творах і другіх беларускіх пісьменьнікаў, у тым ліку Янкі Купалы і інш.). Яны выкарыстоўвалі таксама гісторыю і мовазнаўства (ідэалізацыя фэўдальнага мінулага Беларусі, архаізацыя і провінцыялізацыя мовы, барацьба супроць «саветызмаў»—новых слоў, якія адлюстроўваюць тыя зрухі, што зрабіла ў нас рэволюцыя).

У аповесьці «Крывічы» Зарэцкага найбольш ярка сформулявана нянавісьць нацыянал-дэмакратаў да машыны, да фабрыкі. Яны баяліся пролетарыяту і таму марылі аб сельска-кулацка-саматужнай Беларусі, якая была-б Hinterland'ам—сырцовай каленіяй чужаземнага капіталу, у якой малалікі фабрычна-заводзкі і транспортны пролетарыят быў-бы моцна закуты ў ланцугі фашысцкага тэрору і окупанцкага ваеннага рэжыму. Як бачым, нацыянал-дэмократы невыпадкова ў кулацкіх паўстаньнях, як сустаўной часьці інтэрвэнцыі, бачылі шлях да «адражэньня» буржуазна-фашысцкай Беларусі.

Партыя разгорнутым фронтам вяла і вядзе непрымірымае змаганьне супроць контррэволюцыйнага нацыянал - дэмократызму і супроць нацыянал-опортунізму. Гэтае змаганьне з усёй яскравасьцю выкрывала той факт, што «рукамі нацыянал-опортуністых дзейнічаў наш клясавы вораг»... Нацыянал-опортуністы на справе аказаўся «такім-жа нацыянал-дэмократам, толькі з партбілетам у кішэні». II пленум ЦК КП(б)Б пастанавіў прызнаць несумяшчальным з прыналежнасьцю да партыі ня толькі пропаганду нацыянал-опортуністычных поглядаў, але і падзяленьне поглядаў, солідарызацыю з імі.

Разграмляючы і вытручваючы вялікадзяржаўны расійскі шовінізм, як галоўную небясьпеку, партыя выкрыла ў вачох працоўных контррэволюцыйную сутнасьць і шкодніцкі характар работы беларускіх саюзьнікаў Рамзіных, Кандрацьцевых, Яфрэмавых з СВУ і іншых агентаў сусьветнай контррэволюцыі, так сама як і шовіністых усіх іншых нацыянальных адценьняў.

*Гэтае бязьлітаснае змаганьне прывяло да таго, што ў выніку яго зараз органамі ДПУ Беларусі сарвана канчаткова маска з групы контррэволюцыйнай нацыянал-дэмократычнай інтэлігенцыі,* пазбаўленай усякага ўплыву ў масах, якая, па двурушніцку, абяцаючы пролетарыяту добрасумленна працаваць у інтарэсах савецкага будаўніцтва, на справе працягвала контррэволюцыйную работу ў згодзе і па ўказаньнях зарубежных буржуазных нацыянал-фашысцкіх організацый. Арыштаваны рад контррэволюцыянэраў. Усе гэтыя даўно і добра вядомыя асобы—былыя «міністры» БНР і белагвардзейскія эмігранты, накшталт Ластоўскага, Цьвікевіча, Красоўскага, Смоліча, Лёсіка ці Некрашэвіча — б. агента генэрала Бэртэлё—эсэраўска-белагвардзейскі букет.

*Працоўныя масы БССР і Заходняй Беларусі, савецкая інтэлігенцыя з вялізарнейшай пагардай і нянавісьцю адняўсуцца, да гэтых «адраджэнцаў» капіталістычнага пекла, саюзьнікаў дэфэнзывы, якія ішлі па шляху Рамзіных, рыхтавалі крываваю лазьню працоўным масам нашай краіны, кавалі кайданы окупацыі, нацыянальнай няволі для БССР і падрыхтоўвалі зварот зямлі памешчыкам і фабрык капіталістым.*

Працоўныя масы БССР, савецкая інтэлігенцыя, пад кіраўніцтвам пролетарыяту, яшчэ шчыльней згуртуюцца вакол комуністычнай партыі бальшавікоў Беларусі і яе ЦК, каб яшчэ хутчэй, у ногу з працоўнымі ўсяго Савецкага Саюзу, будаваць соцыялізм і ўмацоўваць магутнасьць і абароназдольнасьць нашай краіны.

Пролетарыят, асноўныя масы сялянства ды савецкая інтэлігенцыя ў адказ на шпіёнскую, шкодніцкую работу агентаў міжнароднай інтэрвэнцыі павышаюць напружанасьць свае працы, удзесяцяраюць свае высілкі ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Мы павінны дабівацца баявога правядзеньня месячніку беларусізацыі, мы павінны пераможна закончыць ільназагатоўкі,—мы павінны з вялізарнейшай актыўнасьцю праводзіць мобілізацыю фінансавых сродкаў, мы павінны біцца як чэрці за выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну ўдарнага кварталу і трэцяга рашаючага году пяцігодкі, мы павінны ўзмацняць абароназдольнасьць нашай краіны. Мы павінны!—Мы будзем!—Мы дасягнем новых вялізарных посьпехаў! Гэта будзе лепшым адказам інтэрвэнтам і іх агентам з лягеру вялікадзяржаўных контррэволюцыянэраў, як і з лягеру беларускіх контррэволюцыйных нацыянал-дэмократаў.

Выкрыцьцё і арышт контррэволюцыйнай групы нацыянал-дэмократычнай інтэлігенцыі—агентаў чужаземных буржуазных і заходня-беларускіх нацыянал-фашысцкіх організацый ня толькі ня зьнімае з парадку дня змаганьня з нацыянал-дэмократызмам, але, наадварот, патрабуе ад нас яшчэ больш рашучага змаганьня за ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай політыкі, патрабуе асабліва ўважлівага пэрагляду ўсяе ўстаноўкі нашай работы, асабліва на культурным фронце, у навуковых, асьветных, выдавецкіх установах з тым, каб накіраваць іх работу на марксысцка-ленінскія рэйкі. Партыя павінна ўзмацніць работу ў галіне беларусізацыі згодна з дырэктывамі II пленуму ЦК КП(б)Б і завастрыць барацьбу супроць расійскага вялікадзяржаўнага шовінізму, як галоўнай небясьпекі на даным этапе. Гэта апошняе набывае тым большае значэньне, што партыя павінна паралізаваць усякія спробы вялікадзяржаўнага шовінізму, скарыстаць выкрыцьцё і арышт гэтай контррэволюцыйнай інтэлігенцка-міністэрскай групы для свайго рэваншу. Разам з тым партыя павінна ўзмацніць змаганьне і з іншымі шовінізмамі, якія прабуюць выкарыстаць раскрыцьцё гэтай групы, каб актывізаваць і ўцягнуць у свае здрадніцкія сеткі працоўныя масы.

Непахісна праводзячы ленінскую нацыянальную політыку, вядучы рашучае змаганьне за генэральную лінію, цьвёрда трымаючы курс на ліквідацыю кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, даючы бязьлітасны адпор правым і «левым» опортуністым і іх разнавіднасьці — нацыянал - опортуністым, моцна ўдараючы па фракцыянэрах з права-«лявацкага» блёку, партыя забясьпечыць канчатковую перамогу рабочай клясы, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі над міжнароднай контррэволюцыяй і яе агентамі ўнутры краіны.

# НА ФРОНЦЕ КУЛЬТУРНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

**Я. Мядзьведзеў**

## Культэстафэта—магутны сродак у справе культурнай рэвалюцыі

Паскарэньне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, нябачаныя тэмпы росту ва ўсёй экономіцы краіны, ліквідацыя кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі —усё гэта высунула неабходнасьць неадкладнага вырашэньня проблемы культурнай рэволюцыі. Пытаньне аб тэмпах культурнага будаўніцтва—*адно з найвастрэйшых пытаньняў, якое падлягае неадкладнаму вырашэньню.*

У галіне культурнага будаўніцтва БССР за ўвесь час свайго існаваньня дасягнула буйных посьпехаў. БССР пакрылася сеткай унівэрсытэтаў, інстытутаў, тэхнікумаў, розных школ, у якіх навучаюцца дзеці рабочых, колгасьнікаў, беднякоў і сераднякоў. Дасягненьні БССР ня вычэрпваюцца шпаркім ростам народнае асьветы. Ня менш значныя дасягненьні ёсьць і ў галіне стварэньня культурна-соцыяльных устаноў. Тэатры, дамы культуры, клюбы нардамы, больніцы, бібліотэкі ўздоўж і ўпоперак пакрылі абшары БССР. Культурнае будаўніцтва БССР ідзе па ўсіх галінах народнае гаспадаркі і ўвязваецца з барацьбой рабочых, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас за пяцігодку ў чатыры гады, за культуру—нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце.

Але-ж, ня гледзячы на такія вялізарныя дасягненьні, у культурным будаўніцтве ёсьць і рад прарываў. Шэраг важнейшых вучасткаў культурнага фронту апынуліся ў руках клясава-варожых элемэнтаў — контррэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў і іх агентуры—нацыянал-опортуністых. Абвастрэньне клясавай барацьбы знаходзіць свой адбітак і на фронце культурнай рэволюцыі. Контррэволюцыйныя беларускія нацыянал-дэмократы і іх агентура — нацыянал-опортуністыя імкнуліся, а ў некаторых выпадках і скарысталі культурны фронт для таго, каб проціпаставіць культуры нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зьмесьце сваю клясава-варожую, буржуазную культуру.

Імкненьню беларускіх нацыянал-дэмократаў і іх агентуры — нацыянал-опортуністых быў даны зруйнавальны ўдар. Рабочыя, колгасныя і бядняцка-серадняцкія масы, пад кіраўніцтвам Ленінскай КП(б)Б, вышлі ў паход за культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце.

***

Існуючыя да гэтага часу мэтоды, формы і тэмпы культурнага будаўніцтва ні ў якім разе ня могуць нас задаволіць на даным этапе рэконструкцыйнага пэрыоду. Рабочыя і працоўныя масы ня толькі разумеюць, што бяз уздыму культуры

нельга пабудаваць социялізму, ня толькі хочуць здабыць адпаведныя веды, *але пад кіраўніцтвам КП(б)Б ідуць у бой за аўладаньне ўсімі без выключэньня вышынямі на культурна-ідэолёгічным фронце.*

Таму зараз галоўнае, што забясьпечвае пасьпяховае ажыцьцяўленьне культурнай рэволюцыі,—*гэта організацыя ініцыятывы рабочых, колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас, якая павінна быць накіравана на рашучае выкананьне дырэктыў партыі і савецкай улады па культурнаму будаўніцтву.*

Ці ёсьць жа якія-небудзь новыя формы па організацыі ініцыятывы мас у барацьбе за культуру нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце? На гэта можна адказаць толькі станоўча. Маскоўская вобласьць, Ніжня-Волскі край паказваюць прыклад таго, як трэба організоўваць працоўныя масы ў паход за культуру.

Ніжня-Волскі край—гэта буйны пастаўнік для краіны сельска-гаспадарчай продукцыі, у асаблівасьці зернева-экспортнага значэньня. Край, як і ўвесь СССР, ідзе шпарка па шляху індустрыялізацыі і рэконструкцыі сельскае гаспадаркі на соцыялістычны лад. Усё гэта разгорнутае соцыялістычнае будаўніцтва ўпёрлася ў надзвычайна нізкую пісьменнасьць працоўнага насельніцтва, што не магло адмоўна не адбіцца на разьвіцьці вытворчых сіл краю. Улічваючы гэта, Ніжня-Волскі крайком УсеКП(б) у пачатку 1928 г. абвясьціў культпаход на няпісьменнасьць. Гэты баявы заклік крайкому быў падтрыманы ўсёй парторганізацыяй, якая дружна ўзялася за мобілізацыю працоўных мас на барацьбу з няпісьменнасьцю, за культуру.

Для ілюстрацыі таго, наколькі культпаход аказаўся моцным у прасоўваньні справы культурнай рэволюцыі наперад, падамо некалькі характэрных лічбаў Ужо ў 28-29 навучальным годзе па Ніжняй Волзе было навучана ў парадку культпаходу 232 тыс. чалавек. У бягучым годзе намечана навучыць ня менш 1 млн. чалавек. У выніку таго, што ў барацьбу з няпісьменнасьцю былі ўцягнуты працоўныя масы, кошт навучаньня рэзка зьнізіўся. Калі выдаткі ў 27-28 годзе на аднаго навучаемага складалі 31 р., дык у час паходу яны зьнізіліся да 4 руб. 69 кап. Побач з колькаснымі вынікамі, ёсьць і вялікія якасныя паказальнікі. Так, калі ў мінулым годзе адсеў у лікпунктах складаў ад 40 да 60%, то ў 28-29 годзе ён зьнізіўся да 8-20%. Вопыт Ніжняй Волгі яскрава кажа за тое, што пасьпяховае вырашэньне проблем культурнай рэволюцыі залежыць у значнай ступені ад таго, наколькі добра будуць організаваны працоўныя масы вакол гэтай справы.

Пролетарская Масква і вобласьць у мінулым годзе ў галіне організацыі працоўных мас у паход за культуру пайшла яшчэ далей Ніжняй Волгі. На ўсесаюзны старт Масква зараз ідзе ўзбагачоная добрым вопытам культэстафэты, гэтай *новай формы бальшавіцкага культурнага штурму.* Культэстафэта ўнесьла вялікія зьмены ў сыстэму і форму культурна-масавай работы. Першае сваё баявое хрышчэньне культэстафэта атрымала на маскоўскіх фабрыках і заводах, у самай гушчы пролетарскіх мас. Гэта лішні раз сьцьвярджае тое, што толькі *пролетарыят, пры дапамозе ўсіх працоўных мас, пад кіраўніцтвам Ленінскай партыі, зможа пабудаваць сапраўдную пролетарскую культуру, нацыянальную па форме і соцыялістычную па зьмесьце*

**
*

БССР уключылася ў баявыя колёны культпаходу, які праводзіцца па ініцыятыве комсамолу. Культэстафэта, народжаная ў нетрах маскоўскіх фабрык і заводаў, знайшла больш шырокае сваё ажыцьцяўленьне ва ўмовах БССР. Культэстафэта праходзіць па 9 маршрутах, якія ў асноўным аб'яднаюць сабою ўсю суму першачарговых пытаньняў культурнай рэволюцыі.

Старт культэстафэты быў дадзены 25-X-30 г. Фініш прызначаны да адчыненьня зьезду ЎсеЛКСМ і дню стварэньня БССР.

Што ж прадстаўляе сабой культэстафэта? На мясцох культэстафэту разумеюць па-рознаму, што ўносіць вялікую блытаніну ў культпаход. Шырачэзныя працоўныя масы павінны ведаць асноўныя прынцыпы організацыйнай пабудовы культэстафэты, *з яе асаблівай сыстэмай рабочага культурнага ўдару, з тымі бясспрэчнымі і буйнейшымі дасягненьнямі, якія культэстафэта ўжо дала ў справе масавага разгортваньня культпаходу на вопыце пролетарскай Масквы.*

Эстафэта—гэта баявое конкрэтнае заданьне: навучыць столькі-та няпісьменных і малапісьменных да такога-та тэрміну; ахапіць у раёне столькі-та вучняў, якія падлягаюць усеагульнаму навучаньню; адчыніць столькі-та школьных комплектаў і г. д. Конкрэтнае заданьне называецца маршрутам. Пры фабрыках, заводах, саўгасах, колгасах і ўстановах організуюцца баявыя тройкі культэстафэты, якія падначальваюцца ў сваёй рабоце раённым штабам пры райкомах і гаркомах КП(б)Б.

Штабы павінны зараз жа прыступіць да організацыі культатрадаў, якія комплектуюцца на добраахвотных пачатках з ліку рабочых, колгасьнікаў, батракоў, беднякоў і сераднякоў, вучняў, студэнцтва і культурных сіл, якія ёсьць на тэрыторыі гораду ці раёну. Культатрады падзяляюцца на паасобныя команды і пасьля старту пачынаюць спаборнічаць паміж сабою на лепшае выкананьне баявых заданьняў культпаходу. Паколькі фініш прызначаны да дню стварэньня БССР (1-га студзеня 1931 г.), на працягу гэтага часу павінна быць праведзена ня толькі організацыйная работа, але і работа па практычнаму ажыцьцяўленьню ўсіх тых задач, якія вызначаны ў кожным маршруце культэстафэты. Кожны раён павінен паставіць сабе задачу—*дабіцца найбольшых якасных і колькасных вынікаў, што дасьць магчымасьць з перамогай прыйсьці да ўсебеларускага фінішу.*

Як-жа ўспрынята культэстафэта на мясцох? Трэба сказаць, што ў радзе раёнаў партыйныя, савецкія, комсамольскія, профсаюзныя і грамадзкія організацыі аднесьліся да культэстафэты, як да мерапрыемства, якое мае вялізарнае політычнае значэньне. Першымі ўключыліся ў культэстафэту Менск, Барысаў, за імі Віцебск, Бабруйск, Гомель і інш. Зусім адваротны прыклад паказваюць такія раёны, як Дрысенскі, Шклоўскі, Цераховскі, Жлобінскі, Магілеўскі, Пухавіцкі, Сьмілавіцкі, Бярэзінскі і інш. раёны, якія злачынна працягваюць недаацэньваць культурную рэволюцыю. Гэтая опортуністычная недаацэнка грунтуецца на тым, што культурная рэволюцыя можа і пачакаць, што яе практычным ажыцьцяўленьнем павінны займацца органы народнай асьветы, ну і па «доўгу службы»—комсамол.

Грунтам для правага ўхілу і ўсякага опортунізму ў галіне культурнага будаўніцтва, як і ў другіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва, зьяўляецца ня-

вера ў творчасьць рабочых і працоўных мас. Правыя і «левыя» опортуністыя вераць у выключнасьць старых мэтодаў культработы, якія базаваліся на вылічэньнях, колькі трэба пабудаваць школ, адчыніць новых комплектаў, колькі для гэтага трэба падрыхтаваць настаўнікаў, колькі гадоў патрэбна на іх падрыхтоўку і г. д. Што ж з гэтага выходзіць? З гэтага выходзіць тое, што на справу аднэй толькі народнай асьветы патрэбны дзесяткі мільярдаў рублёў, што патрэбны дзесяткі гадоў для таго, каб увесьці ўсеагульнае абвязковае навучаньне падрастаючага пакаленьня.

Так вырашаць зараз справу культурнага будаўніцтва нельга. На справу культурнага будаўніцтва трэба мобілізаваць усе ўнутраныя ресурсы, стварыць належны пералом у справе ўдзелу працоўных мас у культурным будаўніцтве.

Соцыялістычны наступ на капіталістычныя элемэнты выклікае з боку апошніх шалёнае супраціўленьне. Гэтае супраціўленьне клясавага ворага знаходзіць свой адбітак і на фронце культурнага будаўніцтва. Клясавы вораг—кулак, нэпман, шкоднік імкнуцца ўсякімі мерамі сарваць соцыялістычнае будаўніцтва, перашкодзіць пасьпяховаму стварэньню культуры нацыянальнай па форме, соцыялістычнай па зьмесьце.

Кіраўніцтва культпаходам ускладзена на мясцовыя парторганізацыі. Ад таго, наколькі добра будзе пастаўлена гэтае кіраўніцтва, будзе залежаць і посьпех культпаходу. *Фронт культурнай рэволюцыі—фронт клясавай барацьбы.* Рабочыя і працоўныя масы ўзьняты на штурм вышынь культурна-ідэолёгічнага фронту—*гэта моцны зрух у справе выкананьня дырэктыў партыі і ўлады па культурнаму будаўніцтву і зруйнавальны ўдар па правых і «левых» опортуністых, двурушніках, вялікадзяржаўных шовіністых, контррэволюцыйных нацыянал-дэмократах і іх агентуры нацыянал-опортуністых, якія выконваюць соцыяльныя заказы клясавага ворага і накіроўваюць сваю дзейнасьць на зрыў соцыялістычнага будаўніцтва.*

*Гэта ім ня ўдасца.*

---

**Б. Папкоўскі**

# У паход за культуру

Ленінскае разуменьне культурнае рэволюцыі зьвязана з вучэньнем Уладзімера Ільліча аб дыктатуры пролетарыяту. Толькі там, дзе рабочая кляса ўзяла ўладу ў свае рукі, культурнае будаўніцтва набывае характар сапраўднай рэволюцыйнае працы, сапраўднай масавасьці, сапраўднай актыўнасьці мільёнаў рабоча-сялянскіх мас.

„Працоўныя цягнуцца да ведаў таму, што гэтыя веды патрэбны ім для перамогі. Дзевяць дзесятых працоўных мас зразумелі, што веды зьяўляюцца зброяй у іх барацьбе за вызваленьне, што іх няўдачы тлумачацца недастатковай асьветай, і што ад іх саміх залежыць зрабіць асьвету сапраўды даступнай усім“ (Н. Ленін).

Культурны рух становіцца рухам шматмільённых мас, і ў гэтым зарука таго, што мы ў культурных адносінах дагонім і перагонім капіталістычныя дзяржавы.

Ленін казаў: „пытаньне ў тым, хто каго выперадзіць“. Вось чаму мы павінны разьвіць вялізарную актыўнасьць і арганізаванасьць мас дзеля таго, каб узмацніць тэмпы разьвіцьця нашае краіны, каб зьнішчыць клясавага ворага ўнутры краіны і вытрымаць клясавую бойку з сусьветнай буржуазіяй.

„Са сьцягам Леніна дабіліся мы рашучых посьпехаў у барацьбе за перамогу соцыялістычнага будаўніцтва“ (Я. Сталін). Ленінізм перамог і ў пытаньні аб пэрспэктывах культурнага будаўніцтва ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту. У крытычным артыкуле запісак Н. Суханава „Аб рэволюцыі“ Ленін сьмяяўся з пэдантызму дробнабуржуазных дэмократаў, гэрояў „II Інтэрнацыяналу“, прыхлебнікаў Ота Баўэра, Каўцкага, Кунфі, якія ставяць у залежнасьць ад пэўнага культурнага ўзроўню магчымасьць працоўных скінуць уладу капіталістых.

Чаму, пытаецца Ленін, „нельга пачаць спачатку з заваёвы рэволюцыйным шляхам належных умоў дзеля гэтага пэўнага ўзроўню, а потым ужо, на падставе рабоча-сялянскай улады і савецкага ладу, рушыцца даганяць іншыя народы“.

На падставе створаных умоў рабочая кляса, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, ужо мае цэлы шэраг рашучых посьпехаў у галіне культурнага будаўніцтва, якія зусім зьмянілі культурна-асьветны твар нашае краіны.

Мы бачым, як на нашых вачох вырастаюць такія волаты, як Волхаўбуд, Днепрабуд, як будуюцца новыя волаты індустрыі—Магнітагорск, новыя трактарныя заводы, будуецца новы мэханізаваны Донбас, як старыя першабытныя спосабы вядзеньня сельскае гаспадаркі пераходзяць да машыннай апрацоўкі, да колектыўнага вядзеньня гаспадаркі. Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы ўнутры краіны, пры наяўным супраціўленьні капіталістычных дзяржаў, ідзе перабудова жыцьця на новым соцыялістычным грунце.

У гэтай рабоце прымае ўдзел уся маса працоўных і, у першую чаргу, найбольш сьвядомая частка пролетарыяту, авангард рабочае клясы—комуністычная партыя.

Перашкаджае нам у творчай працы наша бяскультурнасьць, наша няпісьменнасьць. Гэта мы адчуваем на кожным кроку.

Ленін многа раз ставіў пытаньне аб тым, што нам патрэбна ўзьняць пісьменнасьць і культуру на вышэйшы ўзровень і, у першую чаргу, як мага хутчэй навучыць няпісьменных. Ліквідаваньне няпісьменнасьці ёсьць вялізнае політычнае і культурна-асьветнае заданьне.

„Пакуль у нас ёсьць у краіне такое зьявішча, як няпісьменнасьць, аб політычнай асьвеце цяжка гаварыць. Няпісьменны чалавек знаходзіцца па-за політыкай, яго спачатку трэба навучыць элемэнтарнай грамаце. Бяз гэтага ня можа быць політыкі. Бяз гэтага ёсьць толькі чуткі, плёткі, казкі, забабоны, але ня політыка...“ (Ленін).

У другім месцы Ленін пісаў: „у краіне няпісьменнай збудаваць комуністычнае грамадзтва нельга“.

А ад былой Расійскай дзяржавы мы атрымалі жудасную спадчыну.

Нават прамысловыя цэнтры мелі да вайны няпісьменнай большую палову насельніцтва. і цяпер на ўскраінах і ў Сібіры ёсьць зусім няпісьменныя нацыянальнасьці.

Паводле вестак усесаюзнага перапісу 1926 г., процант пісьменнасьці па асоб-

ных нацыянальнасьцях СССР вызначаецца у наступных лічбах:

| НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ | Проц. пісьменных | | |
|---|---|---|---|
| | Мужчын | Жанчын | Усяго |
| Расійцы | 58,8 | 34,9 | 46,1 |
| Украінцы | 56,9 | 30,6 | 43,3 |
| Беларусы | 67,8 | 39,9 | 54,7 |
| Палякі | 80,1 | 71,6 | 75,6 |
| Яўрэі | 83,8 | 80,0 | 81,9 |
| Карэлы | 55,3 | 29,1 | 41,4 |
| Вацякі | 41,3 | 11,6 | 25,5 |
| Самаеды | 10,0 | 2,9 | 6,6 |
| Чачэны | 5,3 | 0,3 | 2,9 |

Адгэтуль бачым, што найбольш няпісьменнай часткай насельніцтва зьяўляюцца жанчыны. Самы вялізарны процант няпісьменнасьці мы маем сярод азіяцкіх народаў.

Праўда, за апошнія 10 год лікпункты і школы прапусьцілі шмат мільёнаў няпісьменнага насельніцтва, але ня гледзячы на гэта, няпісьменных у СССР ва ўзросьце ад 16 да 34 год ёсьць звыш 10 мільёнаў чалавек. А калі да гэтае лічбы прыкінуць лічбу няпісьменных ва ўзросьце ад 34 да 50 год, дык яна амаль што падвоіцца.

Мы маем вялізарныя тэмпы ў галіне ліквідацыі няпісьменнасьці. Так, у 1927-28 навуч. годзе займалася 800 тыс. чалавек, у 1928-29 навуч. годзе—2 мільёны, а ў 1929-30 навуч. годзе ўжо 10 мільёнаў чалавек няпісьменных прайшлі пункты па ліквідацыі няпісьменнасьці.

Гэта тэмпы, ад якіх буржуазная професура ня можа ачухацца. Яны ня могуць сабе ўцяміць, што мільёны працоўных ідуць вучыцца і ведаюць, дзеля чаго ім, актыўным будаўніком соцыялізму, гэтая навука патрэбна. Нездарма белагвардзеец профэсар С. Гесэн у Лейпцыгскай пэдагогічнай часопісі „Выхаваньне“ бачыць у гэтым „прымусовае мерапрыемства, прынятае ў адносінах да рабочых“. Да большай тупасьці цяжка дадумацца.

Зараз уводзіцца ўсеагульнае абавязковае навучаньне. Гэта значыць, што пачатковыя школы ахопяць 14½ мільёнаў дзяцей 8-10-гадовага ўзросту, што ў параўнаньні з даваеннай царскай Расіяй павялічвае колькасьць вучняў у два разы.

XVI зьезд УсеКП(б) падкрэсьліў, што „правядзеньне ўсеагульнага пачатковага навучаньня і ліквідацыя няпісьменнасьці павінны стаць баявымі заданьнямі партыі ў бліжэйшы пэрыод“. Усе сілы кінуты на ажыцьцяўленьне гэтага заданьня.

Калі ўзяць Савецкую Беларусь, дык тут гэта мерапрыемства вялізарнай політычнай і культурнай вартасьці ажыцьцяўляецца ўжо на працягу некалькіх год. БССР па колькасьці пачатковых школ і па проц анту пісьменнасьці займае сярод іншых рэспублік СССР першае месца. З усяго ліку 8-гадовых дзяцей (129000) ахоплена пачатковай школай у 1929-30 навуч. годзе 117000, г. зн., 91 проц. Трэба ўлічыць, што 2 проц. дзяцей звычайна ня могуць наведваць школы па хваравітасьці. Застаецца ў гэтым годзе ахапіць школай 9000 дзяцей, каб правесьці ўсеагульнае навучаньне.

Большая частка не ахопленых школьнай сеткай дзяцей прыпадае на бядняцкія масы як гораду, так і вёскі. На дапамогу гэтай справе адпушчана было ў 1929-30 навуч. годзе 470000 руб., а ў бягучым годзе адпушчана 835000 руб. Колькасьць школьных комплектаў у бягучым 1930-31 годзе дасягне 10991 пры агульнай лічбе вучняў 556000, што ў адносінах да ўсяе колькасьці моладзі складае 94 проц., у той час, як летась у 1929-30 г. было ахоплена 86 проц.

У ліпнёўскай пастанове (г. г.) ЦВК і СНК БССР адзначана, што, у сувязі з блізкім сканчэньнем работы па ўсеагульнаму пачатковаму навучаньню ў аб'ёме 4-годкі, пачаць з наступнага навучальнага году работу па ўвядзеньні ўсеагульнага абавязковага навучаньня ў аб'ёме сямігодкі. З гэтай мэтаю ў 1930-31 навуч. годзе ў паселішчах гарадзкога тыпу ўводзіцца абавязковасьць навучаньня ў 5-й групе 2-га концэнтру працоўнай школы дзяцей рабочых і членаў профсаюзаў, якія ў папярэднім годзе скончылі 4-ую групу працоўнай школы. Разам з тым вядзецца работа па стварэньню школ новага тыпу: фабрычна-заводзкіх сямігодак і школ колгаснае моладзі.

Летась у 1929-30 навуч. годзе фаб.-заводзкіх сямігодак было 8, у 1930-31 навуч. годзе лік іх даходзіць да 25. Школ колгаснай моладзі ў 1929-30 навуч. годзе было 25, у 1930-31 навуч. годзе, у сувязі з пераключэньнем амаль што ўсіх вясковых сямігодак у школы колгаснае моладзі, колькасьць іх, паводле вестак Дзяржпляну БССР, узрастае да 200. Па пляну школьная сетка за 3 гады пяцігодкі павялічыцца да 3937 комплектаў, агульны лік вучняў—да 116000, пры гэтым нагрузка настаўніка ў сярэднім паменшыцца і дойдзе ў 3-м годзе пяцігодкі да 40 чалавек.

Такое пашырэньне школьнай сеткі патрабуе шмат новых настаўніцкіх кадраў. Зараз мы маем 16 пэдагогічных тэхнікумаў, якія ў 1930-31 годзе дадуць 1900 настаўнікаў, акрамя таго ёсьць 10 двухгадовых пэдагогічных курсаў, якія выпускаюць у год 400 настаўнікаў. Але гэтага не хапае, і проблема настаўніцкіх кадраў патрабуе свайго вырашэньня.

Цікава пар:ўнаць толькі што прыведзеныя лічбы з лічбамі дарэволюцыйнага часу. На тэрыторыі этнографічнай Беларусі ў 1913 годзе існавала 5 настаўніцкіх сэмінарый, якія маглі даць максымум 150 настаўнікаў. У параўнаньні з сучасным становішчам гэта мізэрная лічба. Трэба пры гэтым мець на ўвазе, што гэта былі настаўнікі для расійскіх пачатковых школ, бо іншых у той час не існавала. Аб абслугоўваньні паасобных нацыянальнасьцяй не магло быць і гутаркі.

Зараз у школах нацменшасьцяй мы маем наступны процант ахопу дзяцей 8-гадовага ўзросту: у беларускіх школах — 96 проц., польскіх — 80 проц., яўрэйскіх—65 проц. Нацыянальныя пэдагогічныя кадры ў БССР падрыхтоўваюць адзін польскі пэдтэхнікум і 2 яўрэйскія пэдтэхнікумы. Для забесьпячэньня латыскіх школ ёсьць 10 стыпэндый у Ленінградзкім латыскім пэдтэхнікуме.

Літоўскія школы абслугоўвае комуністычны унівэрсытэт народаў Захаду ў Маскве.

Правадзімая рэорганізацыя профасьветы хутка дасьць свае вынікі. Вышэйшыя і сярэднія проф.-навуковыя ўстановы пераходзяць на двухразовы прыём у працягу аднаго году.

З кожным годам процант рабочых у ВНУ павялічваецца, паляпшаецца соцыяльны склад студэнцтва. У 1928-29 г. рабочыя складалі ў сярэднім 58,9 проц. у прыёме 1929-30 г. гэты процант узрос да 70 проц. Акрамя таго, сыстэма дзённых і вячэрніх рабфакаў, вярбовачных кампаній, командыровак, падрыхтоўчых курсаў, сыстэма стыпэндый стварае са праўдныя магчымасьці сотням тысяч рабочых, колгасьнікаў і сялянства аўладаць вышэйшай асьветай, вышэйшай кваліфікацыяй, аўладаць аванпостамі навуковай думкі.

Апошні год прайшоў пад сьцягам барацьбы за новую, за політэхнічную школу.

„Пры разумным грамадзкім ладзе ўсе дзеці без выключэньня, пачынаючы з 9-гадовага ўзросту, павінны будуць прымаць удзел у вытворчай працы, гэтаксама і ніхто з дарослых ня можа быць выключаны з таго агульнага закону прыроды, што чалавек павінен працаваць, каб есьці, і ня толькі працаваць галавой, але і рукамі. Выходзячы з гэтага пункту гледжаньня, мы гаворым, што ні бацькі, ні прадпрыемцы ня могуць атрымліваць дазвол грамадзкасьці карыстацца працай дзяцей і падросткаў інакш, як пры ўмове, каб іх вытворчая праца была зьвязана з асьветай. Пад асьветай мы разумеем тры рэчы: 1) разумовую асьвету, 2) фізычнае выхаваньне, такое, якое даюць гімнастычныя школы і ваенныя практыкаваньні, 3) політэхнічнае выхаваньне, што знаёміць з агульнымі навуковымі прынцыпамі ўсіх вытворчых працэсаў і ў той жа час дае дзіцяці і падлетку практычныя звычкі ў абыходжаньні з элемэнтарнымі інструмантамі ўсіх вытворчасьцяй.

Дзеці—падросткі ад 9 да 17-гадовага ўзросту павінны быць падзелены на 3 клясы так, каб паступовае і прогрэсыўнае навучаньне было зьвязана з разумовым, гімнастычным і політэхнічным выхаваньнем.

За выключэньнем, можа быць, першае клясы, расходы на ўтрыманьне політэхнічных школ павінны часткова пакрывацца за кошт зробленых рэчаў. Злучэньне аплачанай вытворчае працы з разумовым разьвіцьцём, фізычным выхаваньнем і політэхнічнай падрыхтоўкай узьнімае рабочую клясу на больш высокі ўзровень, чымся той, на якім знаходзяцца зараз вышэйшыя і сярэднія клясы (саслоўнае дваранства, гандлёвыя і прамысловыя буржуа Б. П.) грамадзтва“ (рэзолюцыя I конгр. I Інтэрнацыяналу, напісаная К. Марксам).

Гэтыя словы Маркса аб стварэньні школы новага тыпу пара ўзяць на ўвагу. Пара па сапраўднаму ўзяцца за перабудову нашай школы, за стварэньне новае політэхнічнае школы. Гэтага патрабуе жыцьцё. З гэтым марудзіць далей нельга. Рэконструкцыя народнае гаспадаркі і яе рост патрабуюць такіх кадраў, якія маюць належныя агульнаасьветныя, агульнатэхнічныя веды і звычкі, з якімі на прадпрыемстве магчыма было-б забясьпечыць шпаркае падвышэньне кваліфікацыі.

„Нам патрэбны такія спэцыялістыя ўсіх катэгорый—ад інжынэра да рабочага, якія, маючы кваліфікацыю ў галіне аднаго рамяства, разам з гэтым мелі-б солідную агульнаасьветную і політэхнічную падрыхтоўку. Толькі ў гэтым выпадку наша народная гаспадарка будзе забясьпечана такімі кадрамі, якія ў поўнай меры будуць адпавядаць задачам социялістычнага будаўніцтва... Політэхнізм мы разумеем, як складаную частку комуністычнага выхаваньня“ (А. Бубноў).

Паказальнікам культурна-політычнага росту шырокіх рабоча-сялянскіх мас зьяўляецца вельмі значнае пашырэньне нашага друку. Тав. Кагановіч на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) падкрэсьліў значны рост тыражу нашых газэт у сакавіку 1930 г. Мы мелі тыражу ўсіх газэт у 21-22 мільёны, лічба, якая ў 8 разоў перавышае тыражы газэт даваеннага часу.

Асабліва значны рост заўважаецца ў нацыянальных рэспубліках, дзе да рэволюцыі было вельмі мала друкаваных выданьняў. Па нацыянальнаму друку мы ў час XV зьезду ЎсеКП(б) мелі 130



часопісяй, 201 газэту на 49 мовах, у час 16 зьезду УсеКП(б) мелі 357 часопісяй, 349 газэт на 58 мовах, пры гэтым значна ўзрасьлі тыражы.

Гэта ясны паказальнік нашых тэмпаў. Мы маем нябывалыя тэмпы, нябывалы рост пісьменнасьці сярод працоўных мас. СССР на нашых вачох з цёмнай, някультурнай краіны робіцца новай, культурнай, пролетарскай, соцыялістычнай. Гэтага ня хочуць зразумець нацыянал-дэмократы, носячыся з сьлюнява-інтэлігенцкім індывідуалізмам, узяўшы, об'ектыўна, сэнсуалізм у галіне філёзофскага разуменьня, што прыводзіць іх да суб'ектыўнага ідэалізму.

У вялізарных тэмпах росту пісьменнасьці мы можам пераканацца па росьце пісьменнасьці навабранцаў за апошнія 50 год як у нас, так і ў іншых краінах.

% пісьменных навабранцаў

| Краіны | 1880 г. | 1890 г. | 1900 г. | 1910 г. | 1920 г. | 1925 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Нямеччына | 84,1 | 94,6 | 99,3 | 99,7 | — | — |
| Францыя | 83,1 | 90,1 | 94,4 | 95,7 | 95,3 | — |
| Голяндыя | 88,5 | 92,8 | 97,7 | 99,0 | — | — |
| Італія | 51,1 | 58,9 | 67,1 | — | — | — |
| СССР | 22,1 | 31,0 | 49.0 | 73,0 | 83,0 | 96,0 |

У нас значны рост пісьменнасьці заўважаецца пасьля 1905 году, пры гэтым па пяцігодках 1900, 1905, 1910 мы мелі наступны процант пісьменнасьці навабранцаў: 49,0, 48,0, 73,0.

Выкарыстаем яшчэ апошнія весткі аб ліку вучняў на 1000 чал. насельніцтва па розных краінах, пры гэтым разьмесьцім пералік па зьніжэньні паказальніку з увядзеньнем саюзных рэспублік. У адносінах да іншых капіталістычных краін наш паказальнік стаіць яшчэ вельмі нізка, ён у 2½ разы меншы, чымся ў ПАЗШ і ў 2 разы меншы, чымся ў Нямеччыне.

Вось табліца:

| Краіна | Год | на 1000 ч. вучняў |
|---|---|---|
| ПАЗШ | 1924 | 210 |
| Нямеччына | 1922 | 153 |
| Японія | 1924 | 150 |
| Данія | 1925 | 144 |
| Норвэгія | 1924 | 144 |
| Вялікабрытанія | 1925 | 136 |
| Швэйцарыя | 1925 | 128 |
| Чэха-Славакія | 1925 | 121 |
| Польшча | 1926 | 119 |
| Швэцыя | 1925 | 112 |
| Беларусь | 1930 | 112 |
| Бэльгія | 1925 | 102 |
| Францыя | 1924 | 98 |
| Італія | 1922 | 98 |
| Закаўказьзе | 1929 | 97 |
| Румынія | 1922 | 96 |
| Латвія | 1925 | 93 |
| Украіна | 1930 | 93 |
| Грэцыя | 1922 | 90 |
| Мэксыка | 1923 | 83 |
| СССР | 1930 | 83 |
| РСФСР | 1930 | 81 |
| Гішпанія | 1925 | 79 |
| Юга-Славія | 1924 | 65 |
| Літва | 1925 | 55 |
| Туркмен СР | 1929 | 37 |
| Узбэк СР | 1929 | 35 |
| Брытан. Індыя | 1925 | 25 |

У канцы пяцігодкі (1933 г.), паводле вестак Дзяржпляну, мы будзем мець у першым концэнтры 17 мільёнаў вучняў. у другім концэнтры і ва ўсёй сыстэме політэхнічнай асьветы—ня менш 50% гэтай колькасьці, агульны лік вучняў, такім чынам, дасягне 25 мільёнаў, што будзе складаць на 1000 чалавек 144 вучні.

Вытрымаўшы такія тэмпы, мы дагонім передавыя краіны Захаду, а ў другую пяцігодку паўстае пытаньне дагнаць і перагнаць краіны з такім высокім паказальнікам, як ПАЗШ і Нямеччына, якія цяпер займаюць першае месца сярод іншых краін зямнае кулі.

Заданьне гэта рэальна, нічога фантастычнага ў гэтым няма.

Але нашыя тэмпы культурнае працы яшчэ не адпавядаюць запатрабаваньням жыцьця. І асабліва зараз, калі партыя

і савецкая ўлада, маючы значныя посьпехі ў галіне індустрыялізацыі, перайшлі да політыкі суцэльнай колектывізацыі, політыкі „організацыйнага наступу соцыялізму па ўсяму фронту“, востра адчуваецца наш нявысокі культурны ўзровень. Вялізарныя заданьні, што стаяць на шляху разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва, патрабуюць у далейшым пашырэньня і новых тэмпаў усяе нашай культурна-асьветнай працы.

Бязумоўна, тэмпы і дасягненьні на культурным фронце ў нас значныя. У чым прычына гэтых дасягненьняў? Прычыны ў тым, аб чым казаў Сталін на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б), аналізуючы соцыялістычную сыстэму гаспадаркі. Прычыны ў самім ладзе, у тым, што ўлада клясы капіталістых зьнішчана і зьменена ўладай рабочае клясы.

На падставе самадзейнасьці працоўных, на падставе соцыялістычнага спаборніцтва шырока разгортваецца культурная праца. Па ініцыятыве працоўных узьнік новы мэтод працы, мэтод соцыялістычнага спаборніцтва. Гэты мэтод зьяўляецца сродкам, „пры дапамозе якога рабочая кляса заклікана перавярнуць усё гаспадарчае і культурнае жыцьцё краіны“ (Я. Сталін).

На шляху культурнае рэволюцыі сустракаюцца вялізарныя цяжкасьці. Яны носяць характар цяжкасьцяй усяго нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта цяжкасьці росту і крутога ўздыму, цяжкасьці падрыхтоўкі новых кадраў, новых сотняў тысяч кваліфікаваных спэцыялістых, здавальненьня запатрабаваньняў рабочых мас ва ўсіх галінах жыцьця, ад рэчаў першай патрэбнасьці да самых высокіх ідэолёгічных надбудоў літаратурнага, мастацкага, політычнага, культурна-асьветнага, філёзофскага зьместу. І ўсё гэта набывае нябывалы размах. Гэта ня сьлюнява-інтэлігенцкае культ-і асьветніцтва лібэральных лёзунгаў і „левых“ сказаў, а сапраўдны ўздым мільёнаў у паход за культуру. Гэта цяжкасьці зьбіраньня вопыту ва ўсіх галінах творчае працы, вопыту, якога дагэтуль гісторыя ня ведала.

„А што гэта значыць? Гэта значыць, што нашы цяжкасьці зьяўляюцца такімі цяжкасьцямі, якія самі зьмяшчаюць у сабе магчымасьць іх перамогі. (Я. Сталін).

Трэба толькі забясьпечыць самую цесную сувязь усяе культурнай працы з чарговымі заданьнямі партыі і савецкае ўлады.

Складанасьць нашага часу, узмоцненая клясавая барацьба, актыўная праца пролетарыяту па выкарчоўваньню капіталізму ў нашай краіне, соцыялістычная рэконструкцыя нашае гаспадаркі, перабудова псыхо-ідэолёгіі сялянства і дробнаўласьніцкіх настрояў унутры адсталай часткі рабочай клясы абавязвае кожнага, хто хоча быць у шэрагах пролетарыяту, сапраўды ўзяцца за ўладаньне тэорыяй. У сувязі з гэтым пытаньні філёзофіі, пытаньні аўладаньня мэтодам матэрыялістычнай дыялектыкі высоўваюцца ў шэраг пытаньняў дня з нябывалай вастратой. Калі ўзяць спрэчкі паміж мэханістымі і дыялектыкамі, што вяліся на працягу некалькіх гадоў у галіне філёзофіі, спрэчкі ў літаратуразнаўстве (бойка з формалістымі, з пераверзіянствам), а цяпер спрэчкі вакол творчага мэтоду пролетарскай літаратуры, „вакол жывога чалавека“, вакол „тэорыі непасрэдных адчуваньняў“, дык стане ясна, што пытаньне аўладаньня мэтодам дыялектычнага матэрыялізму, пытаньне аўладаньня філёзофіяй набывае цяпер асаблівае значэньне.

Пара ведаць, што вопыт і практыка сьляпыя бяз тэорыі. Тэорыя бяз вопыту практыкі пустая тэорыя, якая ня мае

зьместу, гэта ведалі ўсе філёзофы ад Бэкона да Маркса.

Марксысцкая філёзофія—гэта „вынік, сума, вывады гісторыі, ведаў сьвету“ (Н. Ленін). Марксысцкая філёзофія апіраецца на вопыт сусьветнай гісторыі, зьяўляецца сама вывадам гэтага вопыту, зьяўляецца абагульненьнем усіх навук і новых вынаходак.

Нямецкая соцыял-дэмократыя, і ў асаблівасьці Каўцкі, лічылі пытаньні філёзофіі „прыватнымі пытаньнямі“, ня маючымі асаблівых адносін да барацьбы пролетарыяту. Бальшавізм, наадварот, адстойваў і адстойвае рэволюцыйную тэорыю, рэволюцыйную філёзофію Маркса, Энгельса, Леніна ад скрыўленьняў, рэвізіі і эклектычных аб'яднаньняў гэтай тэорыі з рознага роду ідэалістычнымі і паўідэалістычнымі поглядамі. „Без рэволюцыйнай тэорыі няма рэволюцыйнай практыкі“,—даводзіў на працягу ўсяе свае дзейнасьці Ул. Ільліч.

У большасьці з нас рэдка хто ведае філёзофскую спадчыну Леніна. Часьцей за ўсё праз трэція рукі чытаюць Маркса, Энгельса, а між тым трэба сур'ёзна паставіць пытаньне аб аўладаньні спадчынай клясыкаў марксызму, аб уладаньні рэволюцыйнымі тэорыямі.

У спэцыяльнай працы „О значении воинствующего материализма“ Ленін у 1922 годзе пісаў:

Мы павінны зразумець, што бяз салідная філёзофскага абаснаваньня ніякія навукі, ніякі матэрыялізм ня зможа вытрымаць барацьбы супроць націску буржуазных ідэй і аднаўленьня буржуазнага сьветапогляду“.

І гэта асабліва трэба зразумець зараз, калі ідзе „наступ па ўсім фронце“, і калі супраціўленьне клясавага ворага ў галіне ідэолёгічных пабудоў ясна выяўляецца. Гэтага патрабуе барацьба за культурны ўздым мільёнаў працоўных мас.

А. Бяляеў

# Інтэрнацыянальна-клясавае выхаваньне— на бальшавіцкія рэйкі

Як работа школ у мінулым годзе, так адносіны да інтэрнацыянальна-клясавага і тыя факты, якія маюць месца сёлета ў многіх школах, сьведчаць аб тым, што з боку некаторых школьных колектываў і антырэлігійнага выхаваньня вучняў— формальна чыноўніцкія, а дзе і зусім апалітычныя, шкодныя. У шмат якіх школах г. Менску і на мясцох як летась, так і ў гэтым годзе назіраюцца сярод вучняў праявы антысэмітызму, вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, а таксама і контррэволюцыйныя выпадкі. Школьныя колектывы большасьці школ ня справіліся з задачамі правільнай пастаноўкі інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня ў школах. Факты праяў антысэмітызму, розных колераў шовінізму, а таксама моманты недастатковага рэагаваньня на гэтыя шкодныя праявы з боку большай часткі школ яскрава кажуць аб тым, што школьныя колектывы ня сталі організатарамі барацьбы з вылазкамі клясавага ворага на ідэолёгічным фронце, на фронце выхаваньня падрастаючага пакаленьня.

Розныя шкодныя, а часамі і контррэволюцыйныя вылазкі клясавага ворага праз вучнёўскую масу і бацькоў вучняў назіраліся і назіраюцца ў шмат якіх школах г. Менску. Асабліва тут многа выпадкаў антысэмітызму. Выпадкі антысэ-

мітызму мелі месца ў 4, 7, 22, 29, 32, 34, 36 і інш. фабрычна-заводзкіх сямігодках. У гэтых школах былі выпадкі, калі вучні-беларусы абзывалі брыдкімі словамі вучняў-яўрэяў. Назіраліся праявы антысэмітызму і ў часы раздачы вучням падручнікаў. Вучні-беларусы 4 і 29 ФЗС пры выдачы падручнікаў казалі настаўнікам: «лепш раздавайце падручнікі беларусам, а не яўрэям».

Выпадак польскага нацыянальнага шовінізму меў месца ў Кальварыйскай польскай школе. Калі вучням-палякам было прапанавана пайсьці ў клюб разам з вучнямі-беларусамі, дык з боку польскіх вучняў пачуліся выкрыкі: «мы з беларусамі разам ня пойдзем».

Назіраюцца і выпадкі рэлігійнасьці сярод вучняў. Асабліва гэтая рэлігійнасьць і ўдзел дзяцей-школьнікаў у рэлігійных сьвятах назіраюцца ў польскіх школах. У жніўні месяцы ў адзін з польскіх «фэстаў» польскія дзеці вучнёўскага і піонэрскага ўзросту пасыпалі кветкамі ксяндзу сьцежку каля касьцёлу. Вучань 29 ФЗС Барушанскі сыстэматычна не наведвае школьных заняткаў у дні рэлігійных сьвят, і калі школа пачала цікавіцца асноўнымі прычынамі ненаведваньня, дык высьветлілася, што бацькі яго ня пускаюць у школу.

«У рэлігійныя сьвяты дзяцей у школу пускаць ня будзем»,—так адказалі бацькі Барушанскія настаўніку школы.

Не пазбаўлены менскія школы і контррэволюцыйных выпадкаў з боку вучняў. Асабліва гэтыя выпадкі маюць месца ў 1, 3, 9 і 18 ФЗС. У 1 і 18 ФЗС невядома хто сыстэматычна рэжа портрэты Леніна. На сьценах школы пішуцца фашысцкія знакі. У 3 і 9 ФЗС сыстэматычна атрамантам вымазваецца бюст Леніна. У 4 ФЗС назіраўся контррэволюцыйны выпадак з боку аднэй маткі. У часе абгаварэньня на паседжаньні комсоду пытаньня аб сувязі школьнага піонэратраду з піонэратрадам заводу адна матка вучня выступіла супроць, кажучы: «гэтага ня трэба рабіць, бо дзеці набяруцца дрэнных звычак».

Калі з боку вучнёўства ў школах ня было праяў вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, дык з боку бацькоў вучняў і ўстаноў гэта назіралася. Па г. Менску з гэтага навучальнага году быў значна павялічаны лік расійскіх груп у школах у той час, як колькасьць расійскага насельніцтва ў горадзе не павялічылася. Некаторыя адказныя работнікі цэнтральных устаноў пасылаюць сваіх дзяцей ў школу не па нацыянальных адзнаках, а ў расійскія школы. Жонка аднаго профэсара ВНУ забараніла сяброваць сваёй дачцы з дачкою дворніка—«дна мужыцкага паходжаньня...»

Вучань Койданаўскай сямігодкі падмалёўваў портрэты пролетарскіх правадыроў. У Тураўскай сямігодцы быў злосны выпадак антысэмітызму з боку вучняў VII клясы Радзівонава, Багая, Бэргман і інш. Пачалося з таго, што вучань Радзівонаў заявіў загадчыку школы, што «беларусам ставяць пры адказах адзнакі горшыя, чым вучням-яўрэям».

Потым антысэмітызм праявіўся з боку вучняў Багая, Дарошкі і інш., а ў гэты час вучаніца-яўрэйка Бэргман назвала вучня-беларуса Шнурка «мужыком» і «сьвіньнёй», а ў выніку ўсяго меў месца судовы працэс.

Рэагаваньні школьных колектываў на выпадкі нацыянальнай варожасьці, рэлігійных настрояў, шовінізму і г. д. не заўсёды бываюць мэтазгоднымі і дастатковымі. Замест таго, каб наладзіць сыстэматычную работу як сярод вучняў, так і бацькоў школ па інтэрнацыянальна-клясавым выхаваньні, школьныя колектывы «звычайна рэагуюць на гэта зусім

кепска, абмяжоўваю[illegible]ыся абгаварэньнем гэтага пытаньня дз[illegible]-небудзь на форпосьце ці пэдсавеце, [illegible]аста кампанейскім шляхам, альбо к[illegible]аліфікуючы антысэміцкія зьявішчы і [illegible]раявы рознага шовінізму, як дурасьлів[illegible]асьць ці хуліганскія ўчынкі пасобн[illegible]х школьнікаў». (З рэзолюцыі сходу а[illegible]сьветнікаў г. Менску).

Бываюць выпадкі іншага роду рэагаваньня. Школы, каб хутчэй пазбавіцца «бузацёраў», звычайна пастанаўляюць на школьных саветах аб пераводзе таго ці іншага вучня ў іншую школу (прыклад з вучаніцай Лебедзевай у 4 ФЗС). У профшколах, вячэрніх школах рабочай моладзі ёсьць выпадкі выключэньня соцыяльна-чужых вучняў без належнай мобілізацыі наўкол гэтага пытаньня грамадзкай вучнёўскай думкі школ.

У большасьці школ пытаньне інтэрнацыянальна - клясавага выхаваньня не адбіта ў вытворчых плянах, а вядзецца выпадкова (29 ФЗС і аб'яднаная профтэхшкола). Аб выпадковасьці і самацёку ў гэтым пытаньні гаворыць вынятка з пляну 0 групы 2-й ФЗС г. Менску. У пляне аб правядзеньні інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня ў гэтай групе зазначана: «спыняцца на момантах узаемаадносін паміж дзяцьмі і нацыянальнай варожасьці толькі ў выпадках некаторых узаемаадносін паміж дзяцьмі».

Праваопортуністычны погляд на правядзеньне ў школах інтэрнацыянальна-клясавага выхаваньня, самацёк і спасыланьне на «авось і нябось» у гэтым важным політычным пытаньні перашкаджае школам паставіць на належную вышыню практычную работу па правядзеньні сыстэматычнага клясава-інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня. У школах «няма шчыльнай сувязі інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня з навучальным і іншымі плянамі працы школ з пункту гледжаньня сыстэматычнага і глыбокага ажыцьцяўленьня адзінага комуністычнага вучэбна-пэдагогічнага процэсу; няма і сыстэматычнай і плянавай работы паміж школамі розных нацыянальнасьцяй». (З рэзолюцыі менскіх асьветнікаў ад 15/XI).

Ня лепшыя мэтоды рэагаваньня на падобныя шкодныя зьявішчы ў вясковых школах. Койданаўская сямігодка практыкуе безапэляцыйнае выключэньне вучняў са школы ў такіх выпадках. Тураўская сямігодка робіць яшчэ «прасьцей». Тут школьны колектыў, не задумваючыся ні над чым, перадае злачынцаў-вучняў, у дачыненьні да якіх магчыма было ўжыць выхаваўчыя меры, судова-сьледчым органам, не ствараючы ні да процэсу, ні пасьля яго мобілізацыі грамадзкай увагі школьных колектываў і бацькоў вучняў.

Мэтоды «рэагаваньня» на праявы антысэмітызму ў Тураўскай сямігодцы зьяўляюцца далёка не пэдагогічнымі, і зусім правільна адзначае касацыйная колегія Вярхоўнага суду аб процэсе вучняў Тураўскай сямігодкі:

«Суд над вучнямі, якія абвінавачваліся ў антысэмітызьме, зьяўляецца, уласна кажучы, судом над настаўніцкім колектывам... Настаўнікі забыліся пра асноўную політычную задачу школы—гэта задачу комуністычнага выхаваньня, пры наяўнасьці якога толькі апраўдвае сябе самае існаваньне школы. Пры іншых абставінах школа ператвараецца ў культуртрэгерскую ўстанову, аполітычную, нікчэмную і нават шкодную для пролетарыяту»... І далей, колегія Вярхоўнага суду зазначыла, што Тураўская

сямігодка ня выканала асноўнай задачы школы—«быць ня толькі праваднікам прынцыпаў комунізму, але і праваднікам ідэёвага, арганізаванага, выхаваўчага ўплыву пролетарыяту на пролетарскія колы працоўных мас».

Усе прыклады рэагаваньня, якія мелі месца ў некаторых менскіх і вясковых школах, гавораць аб тым, што як органы наркомасьветы, так і профсаюзныя організацыі працаўнікоў асьветы павінны безадкладна праверыць работу школьных колектываў у галіне інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня. Мясцовыя партыйныя організацыі не павінны стаяць збоку ад гэтай праверкі, а па бальшавіцку рэагаваць на ўсе гэтыя зьявішчы.

Моманты рэагаваньня на гэтыя зьявішчы былі часткова як з боку наркомасьветы, ЦП саюзу працасьветы, так і мясцовых партыйных організацый. Брыгады культманэўраў займаліся шырокім высьвятленьнем у школах г. Менску шкодных зьявішчаў. Наркомасьветы таксама прымаў удзел у праверцы фактаў антысэмітызму ў школах, але рэагаваньне на гэтыя выпадкі было слабое. Ня было зроблена гэтага і агульным асьветніцкім сходам г. Менску, які толькі зазначаў на факты, без конкрэтных прапаноў на будучы час.

Вялікае значэньне ў правядзеньні інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня мае і работа школьных грамадзкіх організацый, асабліва ячэек МОПР'у, саюзу ваяўнічых бязбожнікаў і ОЗЭТ. На жаль, гэтыя організацыі, якія маюць вялікае выхаваўчае значэньне ў школах, не разгарнулі адпаведнай практычнай працы, а існуюць формальна, зьбіраюць членскія ўзносы.

Вылазкі клясавага ворага пад рознымі шыльдамі і групоўкамі павялічваюцца ў нашай савецкай краіне. Клясавы вораг імкнецца ўсімі сіламі і сродкамі сарваць індустрыялізацыю краіны, социялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі, паслабіць абароназдольнасьць краіны для таго, каб падрыхтаваць глебу для інтэрвэнцыі, для рэстаўрацыі капіталізму. Абвостраная клясавая барацьба знаходзіць свой адбітак і на фронце культурнай рэволюцыі, асабліва на фронце клясава-інтэрнацыянальнага і антырэлігійнага выхаваньня. Клясавы вораг і яго агентура ў партыі, правыя і «левыя» опортуністыя імкнуліся скарыстаць, а ў некаторых выпадках і скарысталі культурны фронт для барацьбы супроць пролетарскай дыктатуры, супроць культуры нацыянальнай па форме і социяльна-пролетарскай па зьмесьце, якая ствараецца рабочай клясай пры дапамозе і ўдзеле ўсіх працоўных, пад кіраўніцтвам ленінскай комуністычнай партыі.

Абвостраная клясавая барацьба вымушае паставіць пытаньне інтэрнацыянальна-клясавага і антырэлігійнага выхаваньня ва ўсю шырыню. Школы павінны стаць клясавымі асяродкамі выхаваньня падрастаючага пакаленьня. Аполітычнасьць, спасыланьне на самацёк у пытаньнях інтэрнацыянальна-клясавай пільнасьці—самы нецярпімы правы опортунізм у школьнай справе на практыцы. Недастатковыя рэагаваньні на шкодныя праявы антысэмітызму і розных колераў шовінізму трэба разглядаць, як прымірэнцтва да гэтых шкодных праяў.

З усёй бальшавіцкай рашучасьцю школам трэба зараз жа пераключыць на бальшавіцкія рэйкі клясава-інтэрнацыянальнае і антырэлігійнае выхаваньне як сярод вучняў, так і бацькоў.

# СТАВІМ НА АБГАВАРЭНЬНЕ

М. Кунда

## Варыянт програмы па прыродазнаўству для 5 і 6 году навучаньня

(*Проект*)

Політэхнізацыя школы патрабуе грунтоўнай пераапрацоўкі ўсіх праграм як з боку зьместу, так і з боку мэтоду. Зьмест праграм да апошняга часу зьяўляецца ў аснове „прадметным“. Іншыя матар'ялы—грамадзка-карысная, вытворчая праца, тэхнолёгічныя асновы, яшчэ не пасьпелі заняць таго цэнтральнага месца ў програмах, якое ім належыць у працоўнай савецкай школе; яны зьяўляюцца ў програмах дадатковым, дапасоўным матар'ялам, як вывад, „момант“ у тым ці іншым „прадметным“ матар'яле.

Але гэтыя „моманты“, дзякуючы грамадзкай накіраванасьці ўсяе школьнай працы, дзякуючы буксіру школы камсамольскімі і піонэрскімі організацыямі, сталі цэнтральнымі пытаньнямі ў жыцьці школы, шчыльна падвялі нашую школу да мяжы, за якою пачынаецца сапраўды політэхнічная школа. Школа павінна будаваць програмны матар'ял вакол вытворчых задач соцыялістычнай гаспадаркі. А калі гэта так, дык „прадметныя“ програмы па біолёгіі, хэміі, географіі, літаратуры і г. д. трэба замяніць „вытворчымі“ програмамі. Гэта значыць, напр., што зьмест програмы па прыродазнаўству (біолёгіі) павінен будзе ў асноўным складацца з вывучэньня процэсу біолёгічнай вытворчасьці матэрый. Адны з „дысцыплін школьнага выхаваньня“ павінны будуць стаць непасрэдна вытворчымі, вывучаючымі тэхніку вытворчасьці (фізыка, хэмія), іншыя будуць абслугоўваць рознастайным чынам вытворчыя заданьні школы (матэматыка, мова).

Ясна, што вытворчы проект, як мэтод школьнай працы, пры гэтых умовах зьявіцца натуральна прыстасаваным і цесна зьвязаным са зьместам усяго школьнага навучаньня. Адсюль вынікае, што самы прынцып пабудовы програмы політэхнічнай школы павінен быць зьменены, пераведзены, так сказаць, з „прадметнага“ на політэхнічны. Гэта вымагае таго, каб больш сур'ёзна зьвярнуцца да комплекснасьці ў пабудове програм, каб на аснове програм выкладчыкі ўсіх дысцыплін будавалі сваю працу вакол пэўных проектаў, альбо організацыйна-вытворчых тэм. Дзеля гэтага програмы політэхнічнай школы, канешне, павінны быць комплексна-праектнымі, г. зн., на чале ўсіх програм павінны быць пастаўлены агульныя тэмы-проекты, комплексы, якія ўсебакова разьвіваюцца програмамі паасобных дысцыплін у пэўнай карэляцыі паміж сабою. Вядома, цяжка паставіць тэмы, аднолькава прыгодныя для ўсіх раёнаў і школ БССР, аднак гэта неабходна дзеля таго, што програмы зьявяцца падставаю для пабудовы мясцовых школьных комплексна-проектных плянаў з тымі зьменамі, якія вымагаюцца мясцовымі ўмовамі, але прынцыповая ўстаноўка застаецца агульная.

Мясцовая праца над програмамі набывае тым большае значэньне, што кожная школа павінна ўключыцца ў гаспадарчы і вытворчы плян свайго раёну, саўгасу, колгасу, заводу, з іх асаблівасьцямі, стаць органічнаю часткаю прадпрыемства. Гэта патрабуе ад програм такой пабудовы, якая дае прынцыповую асноўную схэму аб'ёму і разьмеркаваньня матар'ялу, з тым каб школьны плян таго ці іншага раёну ці прадпрыемства,

паклаўшы ў аснову гэтую схэму, змог шырэй разгарнуць тыя разьдзелы і тэмы, якія характэрны для гаспадарчага росту па соцыялістычнаму шляху для пэўнага раёну (ці прадпрыемства, з якім зьвязана школа).

Варыянт програмы па прыродазнаўству для 5 і 6 году, улічваючы вышэйпададзеную мэтодычную ўстаноўку па зьместу і характару разьмеркаваньня матар'ялу, будуецца, выходзячы з наступных палажэньняў.

а) з вывучэньня процэсу біолёгічнай вытворчасьці матэрыі ў сувязі з узьдзеяньнем на гэты процэс колектыўнай сілы чалавека;

б) з пэрспэктыў разьвіцьця сельскай гаспадаркі па шляху спэцыялізацыі па галінах і раёнах і індустрыялізацыі сельска-гаспадарчай вытворчасьці на аснове колектывізацыі;

в) з умоў БССР, як раёну з напрамкам сельска-гаспадарчай вытворчасьці ў бок продукцыйнай жывёлагадоўлі, прамысловага разьвядзеньня бульбы і лёну і пладова-гароднай гаспадаркі;

г) шырокага скарыстаньня магутнай кармавой базы, балотных масываў пры дапамозе мэліорацыі;

д) разьвіцьця правільнай гадоўлі лесу і лесапрамысловай гаспадаркі;

е) фабрычна-заводзкай прамысловасьці, якая апрацоўвае продукты расьлінагадоўлі (бульбы, лёну, садовіны), жывёлагадоўлі (мяса, малака, скуры, клею, жалятыны, водкідаў), леса-хэмічнай прамысловасьці (каніфоля-шкіпідарнай, цэлюлёзнай, папяровай і інш.), дрэваапрацоўчай, па здабываньні і пераапрацоўцы торпу. Сюды належаць і іншыя віды мясцовай прамысловасьці;

ж) разьмеркаваньня матар'ялаў і тэм такім чынам, каб можна было ў працы карыстацца комплексна-проектным мэтодам, выходзячы з конкрэтных вытворчых і грамадзкіх задач колгасу, саўгасу, прадпрыемства, з якім зьвязана школа;

з) даць магчымасьці школам пры спэцыяльных сельска-гаспадарчых прадпрыемствах і ў раёнах з пераважным напрамкам пэўнай галіны гаспадаркі паглыбіць і пашырыць у програме вывучэньне гэтай галіны, не парушаючы агульнай схэмы програмы; тое самае трэба сказаць і адносна школ пры фабрычна-заводзкіх прадпрыемствах, якія павінны павялічыць політэхнічную частку, адпаведна асаблівым умовам прадпрыемства; тут неабходна мець на ўвазе, што індустрыялізацыя краіны і прыстасаваньне прамысловых мэтодаў у сельскай гаспадарцы ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва, ліквідуе разрыў паміж гэтымі сэктарамі народнае гаспадаркі, і таму політэхнічная програма сяміgодак у горадзе і ў вёсцы, асабліва ва ўмовах БССР, можа быць у аснове адзінаю;

і) даць магчымасьць у практычнай працы шырока скарыстаць популярную і дзіцячую літаратуру па тэхніцы і сельскай гаспадарцы; тэматыка програмы будуецца так, каб яна адпавядала тэхніка-вытворчым пытаньням, якія популярызуюцца ў агро-тэхнічнай і інш. літаратуры масавага характару; гэтым самым палягчаецца політэхнізацыя школы і значна зьмяншаюцца перашкоды ў працы па недахопах падручнікаў, і інш.;

к) тэмы програмы разьмеркаваны ў залежнасьці ад вытворчых задач асеньняга і вясновага сэзону, але-ж у асноўным захавана і прыродная сэзоннасьць, наколькі гэта магчыма пры летнім перапынку ў працы школы; выходзячы з гэтых меркаваньняў, напр., лес, балота у 5-м годзе вывучаецца ўвясну, пладова-гародная гаспадарка—у 6-м годзе ўвосень (у адпаведных умовах увосень можа быць складзены проект працы на колгасным ці прышкольным гародзе, ці садзе, з выкананьнем яго на працягу зімы і вясны і нават улетку);

наогул трэба сказаць, што праца ў 5-м годзе павінна плянавацца галоўным чынам навакол палявое гаспадаркі і ў 6-м годзе—навакол спэцыяльных галін сельска-гаспадарчай вытворчасьці;

л) для большай суцэльнасьці і выразнасьці ў сыстэме працы ў 5-м годзе вывучаецца расьлінагадоўля і батанічны

матар'ял, і гэтым не адхіляецца патрэбнасьць азнаямленьня з біолёгіяй шкоднікаў і прыяцеляў расьлін у пэўнай комплекснай сувязі, увесь зоолёгічны матар'ял аднесены да VI году навучаньня ў сувязі з жывёлагадоўчымі тэмамі, першая ўводная тэма 6-га году падагульвае працу 5-га году і ўводзіць вучня ў пытаньні спэцыялізацыі і індустрыялізацыі с.-г. вытворчасьці; тут знаходзіць сабе пэўнае месца спэцыялізаваная галіна сельскай гаспадаркі, напр., садовагародная гаспадарка ў прыгарадных колгасах і саўгасах і прамысловасьць, што пераапрацоўвае прадукты расьлінагадоўлі;

м) урэшце, сыстэма разьмеркаваньня біолёгічнага матар'ялу мае вялікую мэтодычную каштоўнасьць, і тая мешаніна, якая існуе ў цяперашняй програме прыродазнаўства, павінна быць выпраўлена; дзеля гэтага перш за ўсё програма павінна даць батанічны матар'ял у 5-м годзе па конкрэтных важнейшых с.-г. расьлінах, унікнуўшы такіх агульных, безадносных тэм, як „Разьвіцьцё расьлін і догляд за імі", ці „прыродныя ўмовы с.-г. вытворчасьці" і г. д.

Батанічны матар'ял павінен быць пададзены такім чынам, каб ён у паступовай пасьлядоўнасьці на конкрэтных гаспадарча важных расьлінах высьвятляў біолёгічныя асаблівасьці, якія робяць гэтую расьліну асабліва каштоўнай для чалавека, і каб на працягу году вучань набыў пэўнае навуковае разуменьне прыродных зьяў. Такім чынам, напр., батанічны матар'ял у програме разьмяркоўваецца паступова ўскладняючыся, ад першых тэм, дзе разглядаюцца ўплыў пагоды на с.-г. расьліны, самыя простыя ўзаемаадносіны кораню збожжавых расьлін і глебы, простыя суадносіны культурных і пустазельлевых расьлін у збожжавым полі і г. д. да апошніх, дзе дасьледуецца мікроскопічная будова расьлін, фотосынтэз, складаныя біолёгічныя суадносіны ў лесе і на балоце і складаныя процэсы ў глебе, будова кветкі і г. д.

Тое самае робіцца і з зоолёгічным матар'ялам ў 6-м годзе. Вывучэньне пачынаецца з больш лёгкага, як, напр., шкілета і мускулатуры рабочага каня, затым, праз досыць складаную страўнікавую сыстэму каровы, малочныя залозы, асаблівасьці організацыі сьвіньні, пераходзіцца да больш падрабязнага пляну ўнутраной будовы трусіка і птушкі.

На тэмах у сувязі з рыбнаю гаспадаркаю ідзе далейшае пашырэньне зоолёгічных ведаў на прыкладах воднай і берагавой фаўны. Урэшце ідзе падагульваючы, формуючы сьветапогляд біолёгічны матар'ял, які тут натуральна ўвязваецца з воднаю стыхіяю — калыскаю жыцьця на зямлі.

## Програма для 5-га году навучаньня. Гадавая тэма: „Соцыялістычная перабудова сельска-гаспадарчай вытворчасьці"

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Колектывізацыя сельска-гаспадарчай вытворчасьці. 1. Асеньняя сельска-гаспадарчая кампанія. | Удзел школы ў асеньня-пасеўнай і ўборачнай кампаніі. Дапамога колектывізацыі разам з завод м. | Зьбіраньне матар'ялаў, якія будуць патрэбны для зімовай працы ў сувязі з наступнымі тэмамі. | Тэхніка сельска-гаспадарчай працы і спосабы падвышэньня яе на аснове колектывізацыі. Азнаямленьне з вытворчым гадавым плянам колгасу, саўгасу і характарам гаспадаркі. Машына-коннатрактарная станцыя і яе праца ў палявой гаспадарцы. Азнаямленьне з палявой гаспадаркаю колгасу, саўгасу. | Асеньнія зьявы ў прыродзе і ўплыў іх на с.-гаспадарчую вытворчасьць. Азнаямленьне з біолёгічнаю дзейнасьцю шкоднікаў с.-гаспадарч. расьлін у горадзе, садзе і полі. Нарыхтоўка, монтаж біолёгічнага матар'ялу на зімовы час, гарбарызацыя, складаньне колекцыяй, абсталяваньне жывога кутка. | Выясьненьне ролі прамысловасьці гораду і індустрыялізацыі краіны ў соцыялістычнай перабудове вёскі. Падрыхтоўка да „Дню ўраджаю і колектывізацыі". |
| | 2. Збожжавыя культуры на колгасным і саўгас. полі. | Працяг працы па асеньняй сельска-гаспадар. кампаніі і барацьба за колектывізацыю. | Насен. матар'ял Узоры збожжавых і пустазельлевых расьлін. Узоры глеб і ўгнаеньня. Шкоднікі с.-гасп. расьлін ў колекцыях і жывым кутку. | Тэхніка адбору і падрыхтоўкі насеньня. Апрацоўка глебы, угнаеньне і месца ў севазвароце збожжавых расьлін. Праверка выкананьня палявога агромінімуму ў колгасе, саўгасе. Збожжа-нарыхтоўкі і таварная якасьць зерняці для прамысловай пераапрацоўкі (мінімальныя таварныя досьледы). | Плод збожжавых: будова, органічны склад. Прарастаньне насеньня. Біолёгічныя асаблівасьці кораня збожжавых ва ўзаемаадносінах з глебаю. Глеба. Водныя, паветраныя і тэмпэратурныя ўмовы ў глебе. Прасьцейшы мэханічны і хэмічны аналіз. Надземная частка збожжавых расьлін. Умовы росту ў сувязі са спосабамі севу. Пустазельле ў суадносінах са збожжавымі культурнымі расьлінамі. Вылучэньне сямейства збожжавых па агульных адзнаках. Азнаямленьне з будоваю сьцябла, ліста, коласа, мяцёлкі збожжавых. Грыбныя хваробы збожжавых. Біолёгія галоўных шкоднікаў збожжа ў полі, сьвіркі і змаганьне з імі. | Выясьненьне пераваг колектыўных мерапрыемстваў у барацьбе за ўраджай. Беэдапаможн. асобнай сялянскай гаспадаркі і зьвязаныя з гэтым рэлігійныя забабоны ў змаганьні з адмоўнымі зьявамі ў прыродзе. |
| | 3. Бульба, як адна з самых карысных і пашыраных у на- | Нарыхтоўкі для гародаў і прамысловай пераапрацоўкі. | Экскурсіі на прадпрыемствы па пераапрацоўцы бульбы і іншых | Бульба як сыравіна для прамысловасьці. Таварнае і насеннае сартаваньне бульбы. Спосабы захаваньня бульбы ў | Органічны склад клубня. Крухмал. Атрыманьне крухмалу з зернятаў збожжавых расьлін і параўнаньне з буль- | Плод і насеньне бульбы і інш. гэтага сямейства. |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | роднай гаспадарцы расьлін. | | крухмаліст. расьлін. Клубні розных гатункаў. Хворыя клубні і лісьце. Плады бульбы, памідора і інш. | буйных гаспадарках. Скарыстаньне мёрзлай і папсаванай бульбы. Уплыў хвароб на захаваньне бульбы і барацьба з імі. Месца ў севазвароце. Уплыў апрацоўкі на глебу і значэньне яе. Машынізацыя вытворчасьці бульбы ў саўгасе, колгасе. | бяным. Значэньне для харчаваньня і тэхнікі расьліннага крухмалу. Клубень як орган вэгет. размнажэньня. Плод і насеньне бульбы і інш. з гэтай сям'і. Грыбныя хваробы бульбы і іншых з гэтага сямейства. | |
| | 4. Лен—сыравіна для прамысловасьці. | Удзел у нарыхтоўках і контрактацыі лёну для прамысловасьці і экспорту. | Матар'ял у розных стадыях апрацоўкі сьцябла і насеньня. Узоры фабрычнай сыравіны. Узоры расьлін лёну і пустазельля. Выясьненьне засьмечанасьці. | Мэханізаваны і заводзкі спосабы пачатковай апрацоўкі лёну на валакно ў прыстасаваньні да колектывізаваных раёнаў. Атрыманьне ільнянога алею і яго скарыстаньне. Скарыстаньне ўсіх водкідаў пры заводзкай апрацоўцы лёну. Лён у севазвароце. Мэханізацыя палявой работы (уборка лёну машынаю) і значэньне гэтага для ільняных раёнаў. | Насеньне ільну, як жывы склад алею. Лябораторнае здабываньне алею і ўласьцівасьці яго. Будова сьцябла лёну і атрыманьне валакна. Мікроскопічнае і інш. дасьледваньне лёну ў параўнаньні з бавоўнаю. Разуменьне аб цэлюлёзе. Засьмечанасьць ільнянога поля і біолёгічны характар барацьбы з пустазельлем. Гатункі ільну, кліматычныя і глебавыя ўмовы разьвядзеньня іх. | Выясьненьне значэньня пашырэньня тэхнічных культур лёну і бульбы для індустрыялізац. сельскай гаспадаркі і ўмацаваньня сувязі гораду і вёскі. Значэньне мэханізацыі вытворчасьці тэхн. с.-г. культур для продукцыйнасьці с.-г. працы і палепшаньня быту жанчыны-колгасьніцы. |
| | 5. Кармавыя буракі і інш. карм. караньплоды спрыяюць разьвіцьцю жывёлагадоўлі. | Дасьледваньне стану культуры караньплодаў у раёне і прычыны, якія затрымліваюць іх пашырэньне. | Расьліны 1-га і 2-га году. Плады, насеньне караньплодаў. | Асаблівасьці культуры караньплодаў: угнаеньне, апрацоўка глебы, догляд за імі ў часе росту, месца ў севазвароце. Значэньне працоўнай сілы для працаёмкіх культур і прыстасаваньне машын. Ацэнка ўраджайнасьці (у пераводзе на сухую масу) у параўнаньні са збожжавымі культурамі. Значэньне караньплодаў для зімовага харчаваньня жывёлы. Вывады аб гаспадарчай каштоўнасьці караньплодаў. | Корань, яго біолёгічнае значэньне; развіцьцё сьцябла. Дасьледваньне складу органічнай матэрыі кораня; проц. сухой матэрыі, прысутнасьць цукру. Выцяжка афарбоўваючай матэрыі і рэакцыя яе на шчолак, кіслату. Плады і насеньне караньплодаў. Як на караньплодным полі складаюцца найлепшыя ўмовы для скарыстаньня расьлінаю фактараў прыроды (сонца, матэрыі глебы, воднага рэжыму, аэрацыі глебы), спры- | |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | яючых запашаньню органічных матэрый, у сувязі з рацыянальным доглядам за пасевамі. | |
| | 6. Канюшына, як важнейшая расьліна, што вырашае кармавое пытаньне і аднаўляе пладароднасьць глебы. Сэрадэля, лубін і інш. бабовыя. | Удзел у распрацоўцы гадавога пляну палявой гаспадаркі колгасу, саўгасу. Падрыхтоўка да вясновай с.-гасп. кампаніі. | Узоры расьлін. Насеньне. Прэпараты карэньняў. Узоры глебавых структур. Колекцыі ўгнаеньняў. | Месца канюшыны і іншых кармавых траў у пасеўным пляне колгасу, саўгасу і прычыны гэтага. Як вырашаецца кармавое пытаньне ў раёне і характарыстыка кармоў. Разуменьне аб розных адменах у шматпольнай сыстэме ў залежнасьці ад напрамку гаспадаркі і адноснай вагі ў ёй тае ці іншае з галоўных культур. Падагульненьне разуменьня аб тыпах севазвароту і глебавых умовах с.-гасп. вытворчасьці. | Сьцябло канюшыны, галінстасьць, лісьцевае пакрыцьцё, густы, высокі травастой, хуткі рост. Характар сужыцьця канюшыны з цімафейкаю і іншых збожжавых пры зьмешаным пасеве. Спажыўныя матэры расьліннага паходжаньня, крухмал, тлушчы, бялок. Насеньне бабовых, як склад бялку. Назапашаньне ў зялёных частках канюшыны спажыўных матэрый. Роля ліста ў жыцьці расьліны: параваньне, засваеньне вугляроду, дыханьне. Харчаваньне расьлін пры дапамозе ліста і кораня. Хэмічныя элемэнты, што складаюць цела расьліны, узятыя з глебы і паветра. Угнаеньне глебы і кругазварот азоту. Корань канюшыны, як азотазьбіральнік. Узбагачэньне глебы азотам і зьмены глебавай структуры ў выніку дзейнасьці кораня канюшыны. Бактэрыі глебы і важнейшыя процэсы, зьвязаныя з дзейнасьцю бактэрый у глебе. | |
| II | Скарыстаньне с.-гас. прыродн. багацьцяў пры колектывізацыі вёскі. | | Экскурсіі ў лясныя гаспадаркі, на лесараспрац. смалярні, пільні, дрэвааапрацоўчыя, папяровыя, каніфоля-шкіпінарн. і інш. прадпрыем. | Экономічнае значэньне лесу для дзяржавы і раёну. Карыстаньне лясною плошчаю колгасам, саўгасам. Дзяржаўныя лесанарыхтоўкі. Першапачатковая пераапрацоўка драўніны, кары, смаляку. Што дае дрэва пры хэмічнай пераапрацоўцы. | Жыцьцё лесу, як расьліннага згуртаваньня. Узаемны ўплыў глебы, клімату, рэльефу. Утварэньне лясной глебы. Формаваньне асноўных тыпаў дрэвастану. Размнажэньне дрэўных парод і аднаўленьне лесу. Біолёгія расьліннага гле- | Параўнаньне драпежніцкіх адносін да лясоў і інш. прыродных багацьцяў пры капіталістычн. сыстэме з грамадзка-рацыянальным |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1. Лясная гаспадарка і прамысловае скарыстаньне лесу. | Дапамога ўразьвядзеньні лесу ў раёне. Організац. „Дню лесу". | | Скарыстаньне лясной глебавай расьліннасьці. Лесаразьвядзеньне і ўпарадкаваньне лясной плошчы ва ўмовах калектыву вёскі. | бавага акрыцьця лесу ў залежнасьці ад сьвятла, паветра, тэмпэратуры, глебы пад лясным полагам.. Галоўныя шкоднікі і хваробы дрэў і карысныя птушкі (кароткае біолёгічнае знаёмства). Жыцьцё і будова дрэва. Праца і будова кораня і сьцябла. Каморкі, сасуды. Рух сокаў. Рост. Ліст, будова яго. Хлёрафіл і назапашаньне зьвязанага вугляроду і сонечнай энэргіі. Кругазварот двутленьніку вугляроду ў прыродзе. | карыстаньнем імі пры соцыялістычных умовах. |
| | 2. Скарыстан. балот і паплаваў пры колектывізацыі, як магутнай кармавой базы для жывёлагадоўлі. | Удзел школы ў вывучэньні балот раёну. Дапамога мэліорацыйным т-вам і арцелям. | Экскурсіі. Гэрбарыі балотнай флёры. Глебавыя ўзоры. Гэрбарыі і колекцыі насеньня культурных траў, якія растуць на асушаных балотах. Торп і колекцыі яго пераапрацоўкі. | Мэліорацыя балотных масываў БССР. Тэхніка земляробства на паплавох і балотах. Культура кармавых траў. Угнаеньне кіслых глеб і вапнаваньне. Скарыстаньне торпу на ўгнаеньне, апал, для пакаваньня і захоўваньня продуктаў, для санітарнай справы ў хлявох, пры будоўлі і інш. Што дае торп пры хэмічнай пераапрацоўцы. | Расьліннае згуртаваньне поплаву і балота (параўнаньне). Забалочваньне паплавоў і лясоў. Утварэньне балот у вадаёмах. Расьлінныя зоны зарастаючых вадаёмаў і ўтварэньне тарпянікаў. Глебы балот у параўнаньні з мінэральнымі. Паасобныя прадстаўнікі расьлін балота і поплаву і іх біолёгічныя асаблівасьці. Будова кветкі, апылкаваньне. Разуменьне аб відзе, сямействе. Праца з вызначальнікам расьлін. | Выясьненьне значэньня соцыялістычных мерапрыемств. у справе заваёвы балотных масываў. Бездапаможнасьць індывідуальнай гаспадаркі змагацца з балотнымі нетрамі, рэлігійны страх і забабоны селяніна ў выніку гэтага. |

## Програма для 6-га году навучаньня. Гадавая тэма: „Індустрыялізацыя сельска-гаспадарчай вытворчасьці; спэцыялізацыя па раёнах і галінах у СССР і БССР"

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I | Барацьба за таварнасьць сельскай гаспадаркі і рэконструкцыю | Дапамога і праверка колгасу ў выкананьні ім вытворчага гадавога пляну па спэцы- | Экскурсіі ў спэцыялізаван. саўгасы і колгасы, на прадпрыемствы па пераапра- | Забесьпячэньне гораду і прамысловасьці с.-гасп. продуктамі і сыравінаю ў пляне пяцігодкі. Значэньне ў гэтым таварнай спэцыялізаванай с.-г. | | Выясьненьне значэньня колектывізацыі і соцыялістычнай перабудовы с.-гаспад. |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | яе на індустрыяльны лад. | яльных галінах гаспадаркі і абавязкаў па нарыхтоўцы продуктаў для прамысловасьці. Праца ў садова-гародных гаспадарках. | цоўцы сел.-гасп. продуктаў і сыравіны. | вытворчасьці. Спэцыялізацыя с.-гас. вытворчасьці па раёнах і галінах у СССР і БССР. Агрокомбінаты. Машына-конна-трактарныя станцыі. Садова-гародныя саўгасы і колгасы ў раёнах гарадоў. Тэхніка садова-гароднай працы ў саўгасе, колгасе і досьледы на прышкольным вучастку (праца можа плянавацца на круглы год ці восень, зіму і вясну на колгасных ці школьных гаспадарках). Прамыслов. пграпрацоўка продуктаў палявой і садова-гароднай гаспадаркі. | | вытворчасьці для ўвядзеньня і укараненьня прамысловых мэтодаў працы ў сельскай гаспадарцы і вялізарнага павялічэньньня яе продукцыйнасьці. |
| II | Жывёлагадоўля ва ўмовах колектывізацыі. | Падрыхтоўка колгасу, саўгасу да зімовага ўтрыманьня жывёлы. Догляд жывёлы і вывуч. статку. | Экскурсіі ў спэцыялізаваныя жывёлагадоўчыя гаспадаркі. | Утварэньне магутнай кармавой базы для жывёлагадоўлі-асноўная задача палявой гаспадаркі БССР. Сіласныя культуры і тэхніка сіласаваньня. Асноўныя галіны жывёлагадоўлі ў БССР і тыпы спэцыялізаваных жывёлагадоўчых гаспадарак. | Кармовы расьліны і іх пажыўная ка[ш]тоўнасьць у залежнасьці ад органічнага складу, спосабу захаваньня і падрыхтоўкі для дачы жывёле. Сіласаваньне, як хэміка-бактэр. процэс. | |
| | 1. Асноўныя галіны жывёлагадоўлі ў сельскай гаспадарцы і перапрацоўчай прамысловасьці. | Практычная праца па жывёлагадоўлі ў колгасе, саўгасе. | Экскурсіі ў вайсковыя стайні, конныя заводы, вэтэрынарныя лячэбніцы. Часткі шкілета. Анатомічныя прэпараты і колекцыі. | **Конь, як жывая мэханічная сіла ў сельскай гаспадарцы, прамысловасьці і Чырвонай арміі.** Значэньне каня пры ўмовах мэханізацыі вытворчасьці і ў Чырвонай арміі. Паляпшэньне пароды сялянскага каня пры ўмовах колектывізацыі. Пашырэньне продукцыйнага стада за кошт скарачэньня цягавай сілы ў колгасе. Кармленьне і догляд каня ў колгасе. Рабочы рэжым каня. Які конь патрэбен Чырвонай арміі. Баявая падрыхтоўка маладога каня і карыстаньне ім у Чырвонай арміі. | Конь, як жывы рухавік. Асаблівасьці будовы шкілета. Гісторыя аднапалай нагі коня. Мускулатура. Страўнікавая сыстэма. Дыханьне. Узбуджальнікі небясьпечных хвароб (сап). Паразыты (авадзень, кароставы зудзень). Пароды коняй і паходжаньне. Прыстасаваньне пород у залежнасьці ад характару дарог, грунту. | |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | **Мясная проблема і сьвінагадоўля ў БССР.** Прычыны асаблівай увагі сьвінагадоўлі ў рэнтабельнасьці вытворчасьці і калёрыйнай каштоўнасьці сьвініны. Тэхніка сьвінагадоўлі мясной і племянной у спэцыялізаваных гаспадарках. Віды адкорму: бэконны, мясны, паўсальны і сальны. Значэньне іх у мясной прамысловасьці. Мясныя комбінаты, бэконныя фабрыкі, халадзільнікі ў БССР. | Сьвіньня, як тып вельмі спэцыялізаванай формы жывёлы. Паходжаньне сьвіньні і дзікія родзічы яе. Біолёгічнае значэньне асаблівасьцяй організацыі дзіка. Характар зьмен і способы іх атрыманьня ў організьме культурных парод і значэньне ў гэтым пладлівасьці.<br>Мускул і мяса, як продукт. Фізыолёгічнае значэньне ў організьме тлушчаў; сала, як продукт. | Рэлігійныя байкі аб тым, што хатнія жывёлы былі створаны ў такім стане спэцыяльна для патрэб чалавека. Рэлігійныя забабоны, зьвязаныя з ужываньнем мяса і рытуал забою жывэлы. |
| | | | | **Малочная жывёлагадоўля і прамысловасьць.** Тэхніка ўтрыманьня малочнай жывёлы ў буйных мэханізаваных гаспадарках. Нарыхтоўка корму і кармавыя нормы, вадапой, догляд, абсталяваньне стойлаў. Санітарная справа. Організацыя і палепшаньне статку. Гадоўля маладняку.<br>Значэньне малака і малочных продуктаў для харчаваньня. Тэхніка контролю за якасьцю малака. Організацыя дастаўкі малака буйным гарадом. Пастэрызацыя, стэрылізацыя, гомоголізацыя малака. Прамысловая пераапрацоўка малака на масла, сыр, казэін, малочны цукар. | Паразыты чалавека і сьвіньні-аскарыда і солітэр.<br>Біолёгічныя асаблівасьці каровы, што зрабілі яе аднэй з самых карысных хатніх жывёл. Характар ежы і спосаб здабываньня. Процэс траўленьня і страўнікавая сыстэма. Утылізацыя грубых расьлінных кармоў організмам каровы і ператварэньне іх у каштоўныя продукты. Ацёл і выпрацоўка малака. Яго склад. Мэханічныя прымешкі ў малацэ. Мікроорганізмы малака і іх дзейнасьць.<br>Паразыты рагатае жывёлы, якія псуюць якасьць продукцыі (авадзень) і пераносчыкі хвароб) кляшчы і крывавая мача, мухі і сібірка, тубэркулёз. | |
| | | | Матар'ял па 5-гаеоваму пляну сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Колекцыі, | **Прамысловасьць, якая апрацоўвае продукты забітай буйнай жывёлы.** Скураная вытворчасьць. Вытворчасьць па пераапрацоўцы водкідаў мясной | Органічны склад асноўных жывёлінных матэрый і іх тэхнолёгічная характарыстыка, як сыравіны. Скура, шэрсьць, рогі, капыты, косьць. | Рэлігійныя забабоны, зьвязаныя з захвораньнем жывёлы і знахарства. |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | характарызуючыя галоўныя віды продукцыі саўгасу-колгасу. Колекцыі прамысловай перапрацоўкі с.-г. сыравіны. Экскурсіі на прадпрыемствы. | і скураной прамысловасьці: крыві, касьцей, рагоў, капыт, шэрсьці, кішок і інш. | | |
| | 2. Галоўныя віды дробнай жывёлагадоўлі. | Організацыя школаю пры колгасе галін дробнай жывёлагадоўлі на продукцыйных асновах. Удзел школы ў складаньні вытворчага пляну колгасу, саўгасу. | Анатомічныя прэпараты. Жывёлы для прэпараваньня і інструмэнтары. Модэлі абсталяваньня. Колекцыі, табліцы і інш. таварнай продукцыі. | **Гадоўля трусоў** на мяса і скуркі. Выбар пароды трусоў для разьвядзеньня. Тэхніка гадоўлі трусоў у колгасах-саўгасах. | Унутраная будова цела сысуна. Ускрыцьцё сысуна. Органы груднойі брушной парожні. Родавыя органы. Ныркі. Сыстэма звароту крыві. Нэрвовая сыстэма. Пароды трусоў. Адбор і скрыжаваньне. | |
| | | | | **Продукцыйная гадоўля птушак.** Курыца і таварная якасьць курыных продуктаў. Рацыяналізацыя тэхнікі нарыхтоўкі яек. Контрольная і племянная справа ў колгасах і саўгасах. Інкубацыйная справа. Гусіная продукцыя. Спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця гадоўлі вадзяной птушкі экспортнага значэньня. Нарыхтоўка птушкі. Адкормачныя пункты і халадзільнікі. | Біолёгічныя асаблівасьці, якія высунулі курыцу на першае месца сярод хатніх птушак. Пахаджэньне курыных парод. Будова цела і унутраная організацыя птушак у параўнаньні з сысунамі. Ускрыцьцё птушкі. Акрыцьцё цела. Пяро, пух. Яйцо. Разьвіцьцё яйца і зародку. | |
| | | | | **Пчалярства ў колгасах.** Організацыя пасекі. Выбар сыстэмы вульля. Атрыманьне высокай таварнай якасьці мёду і воску. Шаўкоўніцтва ў БССР і яго пашырэньне. | Пчала, як неабходны апылавальнік шмат якіх расьлін. Унутраная будова цела членістаногіх і будова цела пчалы ў сувязі з біолёгічнымі асаблівасьцямі. Выпрацоўка мёду і воску. Соты. Разьвіцьцё пчалы. Пчаліная сям'я | |

| Чарга | Тэмы | Вытворчая і грамадзка-карысная праца | Экскурсіі. Матар'ял для працы ў школе | Політэхнічныя пытаньні | Біолёгічныя пытаньні | Ідэолёгічна-выхаваўчыя задачы |
|---|---|---|---|---|---|---|
| III | Рыбная гаспадарка і яе разьвіцьцё. | Удзел школы ў організацыі пры колгасе, саўгасе рыбаводнай гаспадаркі ў спрыяючых прыродных умовах. | Экскурсіі на рыбаводныя гаспадаркі і вадаёмы. Утрыманьне ў жывым кутку насельнікаў вадаёмаў. Анатомічныя прэпараты. Колекцыі экскурсійнага матар'ялу. Мікроскопічныя прэпараты. | Рыбная прамысловасьць і гаспадарка і яе разьвіцьцё. (пяцігадовы плян). Рыба, як продукт харчовай прамысловасьці. Гадоўля рыбы ў саджалках. Віды і пароды саджалкавых рыб. Харчаваньне рыбы: натуральнае і штучнае. | Будова цела рыбы ў параўнаньні з наземнымі жывёламі (унутраная і вонкавая). Агульныя адзнакі клясы рыб. Біолёгічныя асаблівасьці жыцьця вадаёмаў (возера, саджалка). Кармовыя рэсурсы, газавы абмен. Расплоджваньне рыб. Насельнікі вадаёму і берагавое зоны. Жаба. Яе разьвіцьцё. Будова цела. (Чарапаха, вужака). Смоўж. Рак. Камары і іх лічынкі. Вадзяныя шасьціножкі (біолёгіч. асаблівасьці). Дробныя ракападобныя (цыклопы). Плангтон. Аднакаморкавыя організмы. Утварэньне сапропэлю. | |
| IV | Веснавая праца ў спэцыялізаваных галінах с.-гас. вытворчасьці. | Удзел школы ў веснавой с.-гасп. працы ў спэцыялізаваных галінах вытворчасьці. | | Практычная праца ў розных галінах вытворчасьці ў саўгасе, колгасе, у сувязі з заданьнямі школы ў веснавую кампанію. | Адзінства жывёліннага сьвету (агульны параўнаўчы агляд). Адзінства паходжаньня жывёлы. Роля расьлін у прыродзе. Узаемаадносіны паміж жывёламі і расьлінамі ў процэсе памену матэрый прыроды. | Антырэлігійныя пытаньні, зьвязаныя з рэлігійным вучэньнем аб стварэньні сьвету. |

Б. Сілін

# Уся грамадзкасьць павінна прыняць удзел у складаньні програм

*(Аб новых програмах на 1930-31 нав. год для профтэхнічных навучальных устаноў)*

Да пачатку бягучага навучальнага году, на падставе дырэктыў партыйных і савецкіх органаў і матар'ялаў шэрагу папярэдніх нарад, комісій і конфэрэнцый па профасьвеце, навукова-мэтодолёгічным комітэтам НКА былі распрацаваны, узгоднены з адпаведнымі організацыямі і зацьверджаны новыя тыповыя навучальныя пляны для ўсіх тыпаў і спэцыяльнасьцяй профтэхнічных навучальных устаноў: політэхнікумаў (па ўсіх аддзяленьнях), тэхнікумаў, профтэхшкол і ФЗВ на базе 7-годкі і асобна на базе 4-годкі, навучальных майстэрняў, навуч. пунктаў і шэрагу тыповых профтэхкурсаў (усяго да 50 плянаў).

У аснову перараскладаньня навучальных плянаў былі пакладзены скарачэньне тэрміну навучаньня, з пераходам на 10-месячны навучальны год, лепшае разьмеркаваньне нагрузкі дню, больш вузкая і выразна вызначаная спэцыялізацыя, зьмяншэньне многапрадметнасьці і рацыяналізацыя ў складзе вывучаемых дысцыплін з больш правільным разьмеркаваньнем часу для кожнага прадмету па сетцы і асабліва важнае мерапрыемства—гэта значнае павялічэньне нясупыннай вытворчай практыкі да 40-60 проц. ад усяго тэрміну навучаньня.

На падставе гэтых навучальных плянаў, а таксама матар'ялаў іншых рэспублік, пры актыўнай дапамозе паасобных таварышоў з ліку настаўніцтва, што працуе ў профтэхнічных навучальных установах, рабочых брыгад з іх, а таксама колектываў тэй ці іншай установы ў цэлым (політэхнікум) з рэцэнзіямі, у патрэбных выпадках, спэцыялістых былі распрацаваны і зацьверджаны навукова-мэтодолёгічным комітэтам НКА програмы па ўсіх прадметах агульнаадукацыйнага і агульнатэхнічнага цыкляў і ў значнай часьці програмы па прадметах спэцыяльнага цыклю, асабліва масавых спэцыяльнасьцяй і програмы вытворчага практыкуму (ўсяго звыш 600 програм).

Такім чынам, навучальныя профтэхнічныя ўстановы індустрыяльнага характару ў асноўным амаль цалкам былі забясьпечаны програмным матар'ялам для нормальнай навучальнай працы ў пачатку 1930-31 нав. году.

Паказаныя програмы ў большасьці распрацаваны вельмі падрабязна. разьлічаны на актыўны мэтод выкладаньня, з падзелам на паасобныя тэмы, з конспэктыўным зьместам кожнай тэмы і шэрагам тыповых контрольных пытаньняў і прыкладных заданьняў для лябораторнай работы вучняў, а таксама з орыентыровачным вызначэньнем патрэбнага ліку гадзін на прапрацоўку таго ці іншага пытаньня, а часамі для кожнага заданьня паасобку.

Такога роду програмы з паясьняльнымі запіскамі да кожнай з іх, на мой погляд, павінны організаваць і палегчыць працу настаўнікаў на мясцох, даць неабходную аснову для складаньня імі сваіх рабочых плянаў па кожнаму прадмету, асноўныя тычкі да падбору адпавядаючых зьместу програм конкрэтных об'ектаў вывучэньня тых ці іншых навучальных дысціплін па прадметах вытворчасьці. Апрача таго, такія програмы, якія зьмяшчаюць конспэктыўна элемэнты матар'ялу, які трэба прапрацаваць, да некаторай ступені зьменшаць сучасны недахоп падручнікаў, дапаможнікаў, калі не для вучняў, дык у першую чаргу для саміх настаўнікаў, асабліва для маладых, ці ня зусім добра політэхнічна падрыхтаваных.

Праведзеная, такім чынам, работа над програмамі зьяўляецца вельмі вялікай па аб'ёму (да 200 арк.). Але гэтая праца ні ў якім разе ня можа разглядацца

як сталая канчатковая. Жыцьцё, далейшыя рэформы і ўдасканаленьні, практыка выкарыстаньня програм на мясцох уносяць шэраг корэктываў, дадаткаў і выпраўленьняў тых памылак, якія нямінучы ў гэтых програмах.

Аднак, ня гледзячы на папярэджаньне НМК пры рассылцы програм і частыя напамінкі школам і паасобным таварышом, якія маюць справу з гэтымі програмамі на мясцох (настаўнікі, інструктары, студэнты, вучні, рабочыя), а таксама і організацыям (пэдсаветы, мэтодычныя бюро, профсаюзныя і грамадзкія організацыі, вытворчыя прадпрыемствы і ІТС), да гэтага часу сур'ёзнай крытыкі адзначаных програм амаль ня было.

Мэтодкомам НКА мяркуецца ў бліжэйшы час друкаванае выданьне вышэйадзначаных програм. Таму зьяўляецца вельмі пажаданым, каб каля прграмнага пытаньня больш ажывілася і актыўна разгарнулася грамадзкая крытычная думка, і НМК атрымаў-бы чакаемы матар'ял для выпраўленьня недахопаў у програмах яшчэ да выданьня іх. Па маёй думцы, выданьне зборніка програм індустрыяльна-профтэхнічных навучальных установ, апрача непасрэднай карысьці для такіх установ, паспрыяла-б і аказала-б значную дапамогу, як матар'ял па політэхнізацыі школ наогул.

Усе заўвагі і таварыская крытыка з месц і асабліва конкрэтныя прапановы з вялікай ахвотай будуць прымацца пад увагу навукова-мэтодолёгічным комітэтам НКА пры друкаваньні гэтых програм.

---

С. Васілёнак

# Проект програмы па беларускай і расійскай мастацкай літаратуры для I і II курсаў сельскагаспадарчых тэхнікумаў [1])

## Мэты вывучэньня літаратуры

Вывучэньне мастацкай літаратуры ў с.-г. тэхнікумах, як і ў іншых савецкіх навучальных установах, ставіць сабе мэтай выхаваньне новага чалавека, чалавека з пролетарскай ідэолёгіяй, марксысцкім сьветапоглядам, актыўнага, сьвядомага і адданага будаўніка комуністычнай грамады.

Клясавая накіраванасьць і эмоцыянальнасьць мастацкай літаратуры робяць яе значным фактарам у дасягненьні азначанай мэты.

Пры выкладаньні мастацкай літаратуры трэба разглядаць яе, як асобны від ідэолёгічнай пабудовы, дзе адбіваецца клясавая псыхоідэолёгія, якая вызначаецца социяльна-політычным станам, што вырас на аснове экономічных адносін, абумоўленых становішчам вытворчых сіл данае эпохі, бо „процэс літаратурных кірункаў (стыляў) адбівае барацьбу клясаў. Клясавая барацьба прасякае ўсю грамаду. Гэта ёсьць раней за ўсё барацьба за процілеглыя спосабы вытворчасьці, а на аснове гэтага—за адпаведны ім політычны лад (дзяржава) і адпаведную ідэолёгію (філёзофію, мастацтва, літаратуру і інш.), якія зьяўляюцца формамі клясавай барацьбы, клясавага ўзьдзеяньня на ўвесь ход грамадзкага жыцьця“ (Бяспалаў—„Проблема литер. науки“, стар. 4).

Пры разьмеркаваньні матар'ялу меркавалася не вывучэньне літаратуры, як

[1]) Друкуецца, як матар'ял для програм. Просьба ўсіх настаўнікаў прысылаць свае заўвагі і дапаўненьні. Рэдакцыя.

такой—літаратуры для літаратуры, а вывучэньне літаратуры, як зброі клясавай барацьбы, дзеля гэтага і клясыфікацыю тэм прыходзілася рабіць не па літаратурных адзнаках, а па социяльнай функцыі твораў (або творчасьці пісьменьніка), якую ён выконваў у тую ці іншую эпоху. Вось чаму ў програме і сустрэнуцца такія тэмы, як „поэзія адміраючага барства“, „барацьба за капіталізм і пачатак барацьбы супроць яго“, замест такіх тэм, як „літаратура эпохі і распаду прыгону“ і „пародыйны клясыцызм“ і г. д.

## Мэтод вывучэньня

Мала разумець мэту, трэба ўмець знайсьці мэтод і навучыцца карыстацца ім, каб дасягнуць мэты.

Мастацкая літаратура дасягне пастаўленай вышэй мэты тады, калі марксысцкі мэтод вывучэньня літаратуры будзе перанесены ў практыку выкладаньня літаратуры. Не сакрэт, што ёсьць шэраг выпадкаў, калі сапраўдны актыўна-працоўны (лябораторны) мэтод падмяняецца зваліваньнем з плеч настаўніка працы на плечы вучняў, без усялякага разьліку, пляну, прынцыпу—„ад старонкі да старонкі чытайце, а потым раскажэце, што прачыталі пры здачы (фактычна заліку) заданьня“.

Трэба і ў школьную практыку шырэй і глыбей укараняць мэтоды соцыялістычнага будаўніцтва—ударніцтва і спаборніцтва як паміж асобнымі клясамі і групамі, так і паміж асобнымі вучнямі. Мэтод выкладаньня павінен прадугледжваць разьвіцьцё ў вучняў ініцыятывы, актыўнасьці, дыялектычнага мысьленьня, вось чаму мэтод выкладаньня павінен мець пэўную форму, сыстэму, прынцыповасьць, а не заключацца толькі ў парадзе „ад гэтай старонкі да гэтай старонкі“. Што датычыцца распрацоўкі паасобных мастацкіх твораў, то тут трэба карыстацца толькі схэмай Пляханава, якая зводзіцца да наступнага:

1) Стан вытворчых сіл.

2) Абумоўленыя ім экономічныя адносіны.

3) Соцыяльна-палітычны лад, які вырас на даным экономічным грунце.

4) Псыхіка грамадзкага чалавека, якая формуецца часткова непасрэдна экономікай, а часткова тым соцыяльна-палітычным ладам, які вырас на данай экономіцы.

5) Розныя ідэолёгіі, якія адлюстроўваюць у сабе ўласьцівасьці псыхікі грамадзкага чалавека.

Мастацкая літаратура і зьяўляецца аднэй з форм выяўленьня гэтых ідэолёгій, як выражэньня клясавай самасьвядомасьці ў вобразнай форме.

Паводле пададзенай схэмы, літаратура, як клясавая псыхоідэолёгія, як надбудова, ня толькі адлюстроўвае грамадзкую рачаіснасьць, але і організуе, актыўна ўзьдзейнічае на гэту рачаіснасьць. Такім чынам, вывучэньне мастацкага твору павінна пачынацца з характарыстыкі эпохі, продуктам якой зьявіўся твор, а адсюль вельмі патрэбна самая шчыльная ўвязка ў выкладаньні грамадазнаўства і мастацкай літаратуры, што, на вялікі жаль, не заўсёды робіцца. Яшчэ мы маем факты, калі грамадавед чытае пра дэкабрыстых, а літаратуравед пра „васьмідзясятнікаў“.

Увага 1. Увесь програмны матар'ял па мастацкай літаратуры для тэхнікумаў зьяўляецца працягам і паглыбленьнем матар'ялу для сямігодак па програме г. году.

2) Програмай прадугледжана павялічэньне сучаснай літаратуры за кошт зьмяншэньня да мінімуму „гісторызму“.

3) Паколькі вывучэньне сучаснай літаратуры зьвязана з вельмі вя-

лікімі перашкодамі (цяжка аднесьці таго ці іншага пісьменьніка, скажам, да пролетарскай групы, калі ён на працягу свайго жыцьця можа мець зьмены ў сваёй дзейнасьці, па якіх яго нельга будзе лічыць пролетарскім), таму сучасная літаратура клясыфікавана ў програме не па пісьменьніках, а па іх конкрэтных творах, пры чым у групу „пролетарскай літаратуры“ аднесены творы, аўтары якіх не зьяўляюцца пролетарскімі пісьменьнікамі, як Мурашка, Галавач, часткова Шолахаў і інш., але яны па сваёй творчасьці вельмі блізкія да пролетарскіх пісьменьнікаў; яны перажываюць, калі можна так сказаць, пэрыод аформленьня пролетарскага пісьменьніка, і таму іх нельга не занесьці ў гэту групу.

4) У „мінімум“ унесена па некалькі твораў. Памойму, іх неабавязкова разглядаць усе, трэба выбраць адзін-два, у залежнасьці ад часу і магчымасьці, і прапрацаваць. „Максымум“ мяркуецца для чытаньня дома і для больш пасьпяваючых вучняў.

5) Мастацкая літаратура, асабліва сучасная—гэта зьява жывая, якая расьце і зьмяняецца ў залежнасьці ад тых ці іншых социяльных прычын; таму як толькі ўзьнікае новы твор, лепшы за той, які ўнесен у програму, трэба рабіць адпаведныя зьмены ў програмах і знаёміць вучняў з гэтымі зьменамі.

6) Ні ў якім выпадку нельга ўтоесамліваць, праводзіць знак роўнасьці паміж пісьменьнікамі толькі таму, што яны ў програме пастаўлены ў аднэй тэме.

У Пушкіна, Талстога, Тургенева ёсьць вельмі шмат featureнага, як у людзей, якія жылі і працавалі ў розныя часы, але ў іх ёсьць і агульныя ўласьцівасьці—яны ствараюць адзіны стыль. Яны апісваюць, адбіваюць адну і тую-ж социяльную зьяву, але ў яе разьвіцьці—гэта адміраньне прыгону, а з ім і клясаў, носьбітаў гэтае культуры ў розныя часы,

Такім чынам, знаходзячы ў пісьменьнікаў „агульнае“, трэба бачыць у іх і „рознае“, а таму паасобныя пісьменьнікі і іх творчасьць і ўведзены ў програму ў паасобныя падтэмы агульнай тэмы.

## Програма.

Першы курс (па тры гадзіны ў пяцідзёнку).

1-я тэма (лябораторны мэтод, 9 гадз.)

### Мэтоды самастойнай працы над кніжкай і з кніжкай:

а) як слухаць і запісваць лекцыі і даклады;

б) як складаць пляны, конспэкты, тэзісы;

в) як працаваць над кніжкай, газэтай;

г) як рыхтаваць і рабіць даклады.

Увага. Пры распрацоўцы гэтай тэмы трэба, акрамя тэорэтычных ведаў, пазнаёміць вучняў, як практычна складаць пляны, конспэкты, даць невялічкія ўзоры плянаў, конспэктаў, тэзысаў і інш.; акрамя гэтага, пры распрацоўцы далейшых тэм трэба, карыстаючыся набытымі ведамі з гэтай тэмы, пашыраць і паглыбляць гэтыя веды і звычкі, каб аднач асова вывучаючы літаратуру, вучні маглі навучыцца самастойна працаваць над кніжкай і з кніжкай.

2-я тэма (лекцыйны мэтод, 3 гадз.).

### „Стыль і спэцыфікум мастацкай літаратуры“.

3-я тэма (лябор., 9 гадз).

### „Вусная народная творчасьць“.

I.

## Жыцьцё і клясавая барацьба рабочых і працоўнага сялянства ў эпоху разьвіцьця капіталізму.

4-я тэма (лябор., 15 гадз.).

**„Поэзія адміраючага барства і яго адносіны да прыгону і прыгонных.**

ПАДТЭМЫ:

| Мінімум. | Максымум. |
|---|---|
| а. Пушкін —„Евг. Онегин“, „Дубровский“. | „Капитан. Дочка“. „Деревня“, „Ист. села Горохина“. |
| Тургенев—„Рудин“, „Бурмистр“. | „Льгов“, „Малин. вода“, „Отцы и дети“ |
| б. Дунін-Марцінкевіч—„Гапон“. | „Пінская шляхта“ |
| Гоголь—„Мертвые души“. | „Ревизор“. |

5-я тэма (лябор., 24-гадз.).

**„Барацьба за капітал і пачатак барацьбы супроць яго“.**

ПАДТЭМЫ:

| Мінімум. | Максымум. |
|---|---|
| а. Поэзія актыўнай пануючай буржуазіі. | |
| Ганчароў—„Обыкновен. история“. | „Обломов“. |
| Островский — „Гроза“, „Свои люди сочтемся“. | „Бедность не порок“ |
| б. „Поэзія соцыяльнай барацьбы“. | |
| Някрасаў—(Дваране, якія раскайваліся ў сваіх учынках) „Кому на Руси жить хорошо“. | „Железная дорога“. |
| Багушэвіч—„Кепска будзе“ і інш. | „Быў у чыстцы“, „У вастрозе“. |
| в. Поэзія перадрэволюцыйнай эпохі. (Творчасьць Горкага і Чэхава, як дзьве процілегласьці). | |
| Чэхаў — „Вішнёвы сад“, „Мужыкі“. | „В овраге“, „Человек в футляре“. |
| М. Горкі— „Буревестник“, „Враги“. | „Мать“, „На дне“. „Фома Гордеев“. |

II.

## Жыцьцё і клясавая барацьба рабочых і працоўнага сялянства ў эпоху першай рэволюцыі.

6-я тэма (лекцыйны, 3 гадз.).

Нацыянал-дэмократычны твар „Нашай нівы“ і яе ўплыў на разьвіцьцё беларусскай літаратуры.

7-я тэма (лябор., 12 гадз.).

**„Жыцьцё і змаганьне рабочых да Кастрычніцкай рэволюцыі“.**

ПАДТЭМЫ:

| Мінімум. | Максымум: |
|---|---|
| а. Ляшко —„Минучая смерть“ і інш. | „В разлом“, „Доменная печь“. |
| б. Ц. Гартны—„Сокі цаліны“, „Штрэйкбрэхэр“ і вершы па выбару. | „Шукаючы працы“. |

Увага. Пры распрацоўцы гэтай тэмы творчасьць Ляшко і Гартнага трэба вывучаць, як самастойныя дзьве падтэмы, пры чым трэба спыніцца на палітычных памылках Ц. Гартнага.

8-я тэма (лябор., 12 гадз.).

**„Жыцьцё і змаганьне працоўнага сялянства да Кастрычніцкай рэволюцыі“**

| Мінімум. | Максымум: |
|---|---|
| Я. Купала —„Раскіданае гняздо“. | „Безназоўнае“, „Сон на кургане“. |
| Я. Колас—„Новая зямля“. | „Сымон музыка“, „У Палескай глушы“, Бядуля, „Салавей“ інш. |

9. Падагульненьне і падлік гадавой працы (3 гадзіны),

II КУРС.

(Па 2 гадзіны ў пяцідзёнку).

III.

## Кастрычнік і яго эпоха.

1-я тэма (лекц., 4 гадз.).

„Ідэолёгічны і мастацкі твар галоўных літаратурных організацый пасьля Кастрычніка“.

(„Серапионы“, „Кузница“, „Октябрь“, Пролеткульт“, „Перевал“, „На посту“, „Маладняк“, „Полымя“, „Узвышша“ і інш.

2-я тэма (лекц., 6 гадз.).

**„Буржуазная і кулацкая плыні ў сучаснай літаратуры"**

ПАДТЭМЫ:

А. Нацдэмократызм у сучаснай літаратуры

Б. Поэзія.

а) Ясенін і „Ясенінщчына"—вершы па выбару.

б) Пушча—„Лісты да сабакі і ад сабакі".

в) Лужанін—„Случчына", „Да 10-годзьдзя БССР".

г) Дубоўка—„Строма", „Кругі", „Крыху восені і жменя пажоўклых лістоў".

В. Проза.

а) Пільняк—„Штосс в жизнь", „Дело смерти" і інш.

б) В. Іваноў—„Особняк", „Гибель железной", „На покой" і інш.

в) Зарэцкі—„Голы зьвер", „Ой ляцелі гусі", Сьцежкі—дарожкі", „Падарожжа на новую зямлю".

Увага. Пры распрацоўцы гэтай тэмы трэба шляхам вынятак і цытат або шляхам чыткі ўсяго твору пазнаёміць вучня з буржуазнымі і кулацкімі творамі і растлумачыць ім соцыяльныя карэньні і клясавую сутнасьць гэтых твораў, пры чым неабавязкова ўсе паказаныя творы вывучаць, можна вывучаць іх па выбару адзін-два. Пры вывучэньні твораў трэба хаця і коратка пазнаёміць вучняў з аўтарамі гэтых твораў і іх творчасьцю ў цэлым.

3-я тэма (лябор., 14 гадз.).

**„Літаратура працоўнага сялянства".**

ПАДТЭМЫ:

| Мінімум. | Максымум. |
|---|---|
| а) Каваль—„Крыніцы", „Па загонах". | Кляшторны—„Беларусь". |
| б) Крапіва—„Крапіва" і інш. | Скрыган—„Затока ў бурах". |
| в) Баранаў—„Межы" | Сэйфуліна — „Перегной". |
| г) Нявераў—„Андрей непутевы". | „Няверaў—„Ташкент город хлебный". |
| д) Замойский—„Лапти" | Карпаў—„Пятая любовь". |
| е) Дорогойченко—„Большая Каменка". | |
| ж) Тверяк—„На отшибе". | |

4-я тэма (лябор., 28 гадз.).

**„Пролетарская літаратура".**

Поэзія.

ПАДТЭМЫ:

| Мінімум. | Максымум. |
|---|---|
| а) Д. Бедный—„Главная улица". | „Мужики" і інш. творы |
| б) Маяковский—„Левый марш", „Хорошо" | „150.000.000", „Ленін" |
| в) Александровіч—„Фабрыка сьмерці", „Цені на сонцы" і інш. | „Паўстанцы", „На заводзе" і інш. |
| г) Чарот—„Босыя на вогнішчы". | „Чырвонакрылы вяшчун", „Карчма". |
| д) П. Трус—„Дзесяты падмурак" і інш. | „Безыменский"—„Труд труби", „Комсомолия", „Выстрел". |

Проза.

ПАДТЭМЫ:

| | |
|---|---|
| а) Серафимович—„Желез. поток". | Караваева—„Лесозавод". |
| б) Гладков—„Цемент" | Фурманов—„Мятеж". |
| в) Лебединский—„Неделя". | Лебединский—„Комисары" |
| г) Никифоров—„У фонаря". | Горбатов—„Ячейка". |
| д) Фадеев—„Разгром". | Тихонов—„Сами". |
| е) Панферов—„Бруски". | Чумандрин—„Фабрика Рабле". |
| ж) Шолохов—„Тихий Дон". | Лынькоў—„Над Бугам", |
| з) Лынькоў—„Гой", „Гома". | |
| і) Мурашка—„Сын". | Мурашка—„Галіна". „Званкі". |
| к) Галавач—„Доляры". | Галавач—„Вінаваты". „Дасужая". |

5-я тэма (лекц., 2 гадз.).

**„Сучасныя літаратурныя і крытычныя групоўкі".**

6-я тэма (лекц., 2 гадз.).

**„Сучаснае становішча тэатру і кіно".**

7-я тэма. Падагульненьне і падлік гадавой працы (4 гадз.).

А. Ш—а

# Як політэхнізаваць нашу школу?

Шпаркія тэмпы будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне рашуча ставяць перад НКА патрабаваньне аб перабудове ўсяе сыстэмы народнай асьветы, аб пераключэньні працы ўсіх культасьветных устаноў, асабліва школ, на новыя рэйкі, на новыя формы і мэтоды працы.

Пытаньне аб політэхнізацыі школы становіцца найгалоўным пытаньнем сёньняшняга дню. І нельга сказаць, што гэтаму пытаньню аддаецца мала ўвагі. Прапрацоўвалася яно і на спэцыяльных політэхнічных зьездах у такіх цэнтрах, як Масква, Менск і іншых гарадох, шмат увагі аддаецца яму і на мясцох: так, у раёнах на асьветніцкіх конфэрэнцыях пытаньне аб політэхнізацыі школы займала першае месца. Пачала практычна разьвязваць гэтае пытаньне і сама школа на мясцох. Складаюцца дагаворы школ з колгасамі, з рознымі прадпрыемствамі, вучні пачынаюць праводзіць практычную працу на вытворчасьці. І там, дзе настаўнікі маюць большменш конкрэтнае ўяўленьне аб правядзеньні політэхнізацыі ў школе, там, дзе гэта пытаньне абгаворана на бацькаўскім сходзе, дзе яно абгаварвалася разам з гаспадарчымі ўстановамі, з адміністрацыяй і заўкомамі прадпрыемстваў, там, дзе настаўніцтва сапраўды з шырокай пролетарскай ініцыятывай, там, можна сказаць з упэўненасьцю, пытаньне політэхнізацыі школы будзе разьвязана ў станоўчым сэнсе, і ўжо ў гэтым навучальным годзе школа ў сваёй працы значна набліціцца да вакольнага жыцьця, стане, як кажуць, цэхам колгасу, фабрыкі, заводу. Але для ператварэньня школы ў такі цэх, патрэбна рашучая і безадкладная зьмена ў самой сыстэме школьнай працы, патрэбна карэнная перабудова школьнай працы.

У першую чаргу трэба ўвесьці ў школах бесьперапынны навучальны год. І сапраўды, як можна гаварыць аб поўнай увязцы школьнай працы з працай колгасу, напрыклад, як можна будаваць плян вытворчай школьнай працы, выходзячы з агульнага вытворчага пляну колгасу, як можна гэты плян правесьці ў жыцьцё, калі школа сваю працу спыняе на два, а то і болей месяцы, г. зн., у той час, калі амаль што 50% гэтай вытворчай працы прыпадае якраз на гэты перапынак (чэрвень-жнівень)?

Некаторыя мэтодыстыя паказвалі на тое, што школьнікі, асабліва піонэры, праводзяць працу на вытворчасьці (у колгасе) і ў час перапынку, але не пад кіраўніцтвам настаўніцтва, а пад кіраўніцтвам, напр., форпосту, комсамольскай організацыі; паказваючы на гэта, яны хацелі захаваць чарговы двохмесячны адпачынак настаўніцтву. Такая мера, па мойму,усё-ж ня выхад са становішча. Трэба, каб і на гэты час працы адчувалася школа з яе ўкладам, парадкам, каб адчувалася праца ўсяго школьнага колектыву.

Бесьперапынны навучальны год, па мойму, павінен быць наступным. Папершае, трэба адмовіцца ад прадметнага выкладаньня ў школе, выходзячы з таго, што такая сыстэма зьяўляецца на сёньняшні дзень аджыўшай, непатрэбнай, да некаторай ступені зьяўляецца тормазам для ўвядзеньня таго новага ў школьным жыцьці, якога патрабуе сучаснасьць. Уся нікчэмнасьць гэтай сыстэмы выкладаньня ў школе стане яскравай з наступнага прыкладу. Лекцый літаратуры ці іншай дысцыпліны мы маем у пэўнай групе 4 у дэкаду. Пры

будаваньні раскладу на дэкаду выходзіць, што гэтых лекцый прыходзіцца на першы дэкадны дзень 2 і на 7-ы—таксама 2. Такім чынам, толькі на сёмы дэкадны дзень вы пачнеце з вучнямі, магчыма, працяг гутаркі (ці працяг самастойнай распрацоўкі), якую вы распачалі ў першы дэкадны дзень. Ясная справа, якая-б дысцыпліна ні была, а вы павінны будзеце шмат часу затраціць для таго, каб асьвяжыць у памяці вучняў тое, аб чым гутарылі ў першы раз; выходзіць дарэмная трата часу, таптаньне на месцы. У галаве вучняў у дадатак атрымліваецца цэлы хаос, вінэгрэт. На працягу 6 гадзін дзённай працы галава вучня павінна ўмясьціць і крыху літаратуры, і грамадазнаўства запомніць правілы з расійскай граматыкі, не забыць зробленага вываду па фізыцы ці хэміі і г. д. Так галава вучня павінна ўвабраць у сябе шэсьць (добра, калі менш) розных няпоўных частак, адарваных часамі няўдала ад цэлага, перад вучнямі, як у калейдаскопе, праходзяць 4-5 настаўнікаў, кожны з сваімі патрабаваньнямі.

Мне здаецца, што прышоў час, калі гэту т. зв. прадметную сыстэму выкладаньня патрэбна здаць у архіў, што яна аджыла сваё, што яна зусім не дапасоўваецца да сучаснага жыцьця, што яна зьяўляецца значным тормазам у правядзеньні політэхнізацыі школы, і ад яе рашуча трэба адмовіцца. У апошнія гады мы бачым імкненьне з боку нашых мэтодыстых перакроіць і нашы навучальныя програмы, так перакроіць, каб яны адпавядалі жыцьцю, каб школа, працуючы па гэтых програмах, увязвалася з вакольным жыцьцём.

Калі нават адкінуць тое, што часамі з-пад нажоў краўцоў-мэтодыстых наогул выходзілі нядобра выкраеныя програмы, то ўсё-ж трэба зазначыць, што адны толькі програмы яшчэ ня могуць зрабіць тае ўвязкі, якая патрабуецца зараз жыцьцём. Усёроўна часамі вывучэньне кветкі прыпадае на лістапад м-ц, вывучэньне сенажаці робіцца тады, калі на ёй відаць толькі выгрызеныя каровамі чорныя лысіны. І зусім зразумела Колькі ні мяняй програмы, колькі іх ні перакройвай, як ні расстаўляй там матар'ял, як ні дапасоўвай яго да жыцьця, нічога станоўчага не атрымаеш да тае пары, пакуль ня зьменіш самой сыстэмы школьнага выкладаньня, пакуль не адмовішся ад прадметнай сыстэмы выкладаньня. Прадметную сыстэму выкладаньня трэба зьмяніць на цыклявую сыстэму, адсюль і бесьперапынны навучальны год і поўнае правядзеньне ў жыцьцё прынцыпаў політэхнізацыі школы, поўная ўвязка школьнай працы з жыцьцём. Не бяручы на сябе адказнай ролі мэтодыстага, я ўсё-ж бяру на сябе сьмеласьць даць тут некаторую сьціслую, можа, занадта грубую схэму працы такога бесьперапыннага навучальнага году.

1-ы цыкль складаецца з грамадазнаўства і экономгеографіі, беларускай літаратуры і мовы, расійскай і замежнай, гэта т. зв. гуманітарны цыкль.

2-і — матэматычна -фізыка -тэхнічны цыкль складаецца з матэматыкі, фізыкі і маляваньня.

3-і—хэміка-прыродазнаўчы складаецца з хэміі, прыродазнаўтва і сельскай гаспадаркі.

Кожны цыкль прапрацоўваецца асобна, пры чым неабходна такое разьмеркаваньне цыкляў, каб гуманітарны цыкль прыпадаў, галоўным чынам, на зімовы час, а цыкль прыроды і сельскай гаспадаркі, напрыклад, на летні час. Такія дысцыпліны, як сьпевы, фізкультура могуць вывучацца на працягу амаль што ўсяго году. Ваенізацыя можа быць

праведзена на працягу 1-1½ мес., маляваньне магчыма разьбіць на дзьве часткі: адну далучыць да 2-га цыклю, другую—да прыродазнаўчага (3-га). У першым цыклі маляваньне будзе ўвязана з выкладаньнем фізыка-тэхнікі, у апошнім—з выкладаньнем прыродазнаўства. Працу на прадпрыемствах трэба праводзіць у зімовы час, каб лета вучні маглі выкарыстаць на працы ў колгасе.

Пры такім разьмеркаваньні школьнай працы можна мець шмат добрых вынікаў, як экономія часу, што вельмі важна зараз, калі адчуваецца востры недахоп у настаўніцкіх сілах. Такое разьмеркаваньне дае магчымасьць пры меншай траце часу лепш распрацаваць тую ці іншую дысцыпліну, павялічвае пасьпяховасьць вучня і дае мажлівасьць поўнасьцю ажыцьцявіць прынцыпы політэхнізацыі школы.

Такі плян бесьперапыннага навучальнага году мае яшчэ адзін надзвычайна важны дадатны бок: ён разьвязвае пытаньне аб падвышэньні кваліфікацыі настаўніцтва. Гэтым пытаньнем шмат хто займаўся. На сёньняшні дзень яно ў нас разьвязваецца альбо ў выглядзе завочнага навучаньня, альбо курсаў у час летняга адпачынку і часамі ў выглядзе кароткатэрміновых, г. зв. курсаў, конфэрэнцый.

І трэба сказаць, што ні адно, ні другое, ні трэцяе не дасягае належнай мэты. Умовы для завочнага навучаньня надзвычайна цяжкія. Перагрузка грамадзкай працай робіць немагчымым распрацоўку дасылаемых заданьняў. Усякія пажаданьні аб тым, каб завочнікаў разгрузіць ад грамадзкай працы, даць ім спрыяючыя ўмовы для працы застаюцца, на жаль, аднымі толькі пажаданьнямі, жыцьцё штодзённае, кіпучае жыцьцё вымагае зусім іншага, ня лічыцца з гэтымі пажаданьнямі, і настаўнік увесь свой вольны ад школьных заняткаў час аддае грамадзкай працы. У выніку мы і маем тое становішча, што завочнікаў, якія выконваюць заданьні, можна пералічыць па пальцах аднэй рукі. Летнія курсы таксама не дасягаюць мэты. Каму ня хочацца пасьля цяжкай школьнай працы падыхаць сьвежым паветрам на сенажаці, у полі, у лесе? Часамі інспэкторыятам пасылаюцца на летнія курсы настаўнікі бяз згоды гэтых настаўнікаў, і ў выніку матар'ял для РКК мясцкому працасьветы. Пры карэннай-жа зьмене сыстэмы выкладаньня, пры цыклявым выкладаньні мы атрымліваем экономію часу для настаўніцтва. Так, напрыклад, выкладчыкі гуманітарнага цыклю свае дысцыпліны могуць прапрацаваць за 5-6 месяцаў, калі залічыць сюды і перапынак на некаторы час, так што ў іх, акрамя чарговага двохмесячнага адпачынку ёсьць 4 вольных ад заняткаў месяцы; у гэты час і трэба праводзіць курсы па падвышэньні кваліфікацыі гэтых настаўнікаў; праводзіць курсы трэба таксама па цыклях.

Ясная справа, што чарговы двохмесячны адпачынак для настаўніцтва таксама захоўваецца і толькі выкарыстоўваецца ў розны час.

Вучні таксама павінны мець адпачынак. Акрамя кароткатэрміновага адпачынку увосень і ўвясну (7 лістапада і 1 мая), неабходна даць адпачынак і ў зімовы час, больш доўгі. ня менш, чым на дзьве дэкады.

Настаўніцтву гэты адпачынак вучняў таксама можна залічыць часткова ў адпачынак, а то можна настаўніцтва выкарыстаць і для іншай працы.

Ясна, што на летні час прыпадае ў большасьці практычная праца вучняў, праца на полі, гародзе, сенажаці, у садзе, тэорэтычныя веды будуць зьменшаны да мінімуму, так што адпачынак

ад разумовых заняткаў (многія настаўнікі баяцца, што вучням будзе цяжка ўвесь год працаваць) будзе зроблены самой сыстэмай выкладаньня. Яшчэ раз дадаю, што толькі такой сыстэмай школьнай працы мы на 100% ажыцьцявім прынцыпы політэхнізацыі школы.

Мэтодыстым нельга адкладваць гэтага пытаньня на доўгі час, неабходна прыцягнуць да вырашэньня гэтага пытаньня грамадзкую думку, думку настаўніцтва, даць мажлівасьць выявіць сваю ініцыятыву паасобным школам, і тады гэтае пытаньне будзе разьвязана ў станоўчым сэнсе, наша савецкая школа стане сапраўды політэхнічнай школай, будзе зьяўляцца часткаю таго кіпучага, бурлівага жыцьця, якое яеабкружае, будзе сапраўды месцам выхаваньня з нашых дзяцей сапраўдных барацьбітоў за комунізм.

---

Д-р Р. Монасзон-Любіна

# Да вывучэньня прычын школьнай непасьпяховасьці

(*Паводле матар'ялаў пэдолёгічнага габінэту Гомельскага дзіцячага дыспансэру*)

Вывучэньню прычын школьнай непасьпяховасьці адводзіцца вялікае месца ў спэцыяльнай пэдагогічнай і пэдолёгічнай літаратуры. І гэта зусім зразумела. Дзіця, якое не пасьпявае, зьяўляецца няшчасьцем для школы, яно тармозіць працу ўсяго школьнага колектыву, яно стварае высокі процант другагодніцтва, якое кладзецца цяжарам на дзяржаўны бюджэт і затрымлівае тэмпы падрыхтоўкі кадраў. Усё гэта прымушае нас аддаць асаблівую ўвагу гэтаму пытаньню.

Той матар'ял, які пакладзены ў аснову гэтай працы, адрозьніваецца ад матар'ялу большасьці дасьледчыкаў, якія вывучалі цэлыя школьныя групы і выяўлівалі ў іх непасьпяваючых дзяцей, аналізавалі прычыны гэтага зьявішча. Мы-ж прапрацавалі індывідуальныя карткі дзяцей, якія накіроўваліся школай для консультацыі ў пэдолёгічны габінэт, з мэтай вызначэньня ступені разумовага разьвіцьця. Пэдагогі школы бачылі прычыну непасьпяховасьці гэтых вучняў якраз у іх разумовай адсталасьці і лічылі іх кандыдатамі для пераводу ў дапаможную школу. Але, як мы ўбачым ніжэй, лік дэбільных і імбэцыльных дзяцей сярод іх нязначны, у большасьці ж іх разумовае разьвіцьцё знаходзіцца на такой ступені, якая сама па па сабе не магла зьявіцца перашкодай да навучаньня. Пэдагог масавай школы загружаны бягучай працай, абцяжараны вялікай групай, ня мае мажлівасьці аддаць належнай увагі асобным дзецям і іх пэдолёгічнаму вывучэньню, і першая думка, якая ў яго ўзьнікае, калі ў яго групе выявіцца цяжка навучаемае дзіця, гэта думка аб яго разумовай адсталасьці, адсюль ён робіць вывад аб неабходнасьці пераводу такога вучня ў дапаможную школу з мэтай аздараўленьня школьнага колектыву і дапамогі гэтаму дзіцяці. З тае прычыны, што ў Гомелі, без заключэньня пэдолёгічнага габінэту, дапаможная школа вучняў ня прымае, усе гэтыя дзеці, без выключэньня, праходзяць праз пэдолёгічны габінэт дзіцячага дыспансэру, дзе да агляду іх, у выпадку патрэбы, прыцягваюцца і іншыя ўрачы спэцыялістыя. Падкрэсьліваем, што гутарка ідзе аб цяжка навучаемых дзецях, бо мы сьвядома адкінулі карткі тых, якія накіроўваліся да нас, з мэтай консультацыі, у сувязі з цяжкасьцю іх выхаваньня.

Усяго прапрацавана 317 картак дзяцей агульных гомельскіх школ соц-

выху (бяз школ для падросткаў, дзіцячых дамоў і г. д). Паводле даных пэдагогічнага досьледу, сярод іх выявілася:

1. Разумова адсталых . . . . 28 %
2. З неадпаведнасьцю пашпартнаму ўзросту . . . . . . . 4,5 %
3. Субнормальна здольных . . 30 %
4. Са здавальняючым разумовым разьвіцьцём . . . . . . . . 37,5 %

Такім чынам, з усіх прысланых толькі 28 проц. дзяцей падлягае пераводу ў дапаможную школу, астатнія павінны застацца ў агульнай школе. І тут з боку пэдагогаў даводзіцца сустракаць моцную опозыцыю. У большасьці выпадкаў, пасьля падрабязнага агляду вучня, яны згаджаюцца з дыягнозам габінэту, але катэгорычна настойваюць у інтарэсах дзіцяці і групы ў цэлым на пераводзе вучня абы куды, хаця-б у тую-ж дапаможную школу. Часта пэдагогі разважаюць правільна, калі настойваюць на пераводзе дзіцяці, бо яно зрывае ўсю працу групы, але уся бяда ў тым, што ў нашых сучасных школах няма асобных груп для выключных катэгорый дзяцей; гэта павінна зьявіцца бліжэйшай організацыйнай задачай інспэктуры народнай асьветы.

Разгледзім жа наш матар'ял, паглядзім, што гэта за дзеці, і ў чым яны маюць патрэбу для пасьпяховасьці ў сваёй працы.

Дасьледваныя намі дзеці ў вялізарнай большасьці навучаюцца ў 1, 2 і 3 групах першай ступені (нулявыя групы дасьледуюцца намі пагалоўна і ў гэту распрацоўку не ўвайшлі). Па сваім узросьце яны звычайна на 1-2 гады старэйшыя за сярэдні ўзрост гэтай школьнай групы, хаця нямала і гэтакіх, якія маюць сярэдні школьны ўзрост для данага году навучаньня.

Сярод пасланых да нас дзяцей хлопчыкі займаюць больш значнае месца, чым ў сярэднім у школах, пры чым гэта пераважаньне хлопчыкаў асабліва прыкметна ў групе социяльна занядбаных дзяцей са здавальняючым разумовым разьвіцьцём.

Разумова адсталых дзяцей у нас прайшло 88 чалавек, з іх: 1) ідыётызм знойдзены ў 4, 2) імбэцыльнасьць —у 7 і 3) у 77—дэбільнасьць. Усе гэтыя 77 чалавек прызначаны да пераводу ў дапаможную школу, а 11 выключаны са школы з прычыны адсутнасьці ў Гомелі адпаведных устаноў. Прычыны, якія садзейнічалі затрыманьню разумовага разьвіцьця, добра вывучаны; у нашых дзяцей у гэтых адносінах мы нічога новага адзначыць не маглі: тое-ж цяжкае разьвіцьце ў вантробе, кепская спадчыннасьць, кепскія ўмовы жыцьця разьвіцьця дзіцяці, што зьяўляецца агульнымі, для пераважнай большасьці разумова адсталых дзяцей.

14 дасланых нам школьнікаў выявіл[і] агульнае пропорцыянальнае затрыманьне ў сваім разьвіцьці (неадпаведнасьці пашпартнаму ўзросту), гэтыя дзеці маюць значнае фізычнае недаразьвіцьц[е] для сваіх гадоў і, побач з гэтым, маюц[ь] і адпаведны ўзровень разумовага разьвіцьця.

Гэтыя дзеці залічаюцца ў школу, б[о] ім скончылася 8 год, тым часам як ян[ы] фактычна яшчэ шасьцігадовыя дзец[і,] якім месца ў дзіцячым садзе, а ня [ў] школе.

Для. таго, каб вызначыць правільн[ае] месца навучаньня для такіх дзяцей. вел[ь]мі важна праводзіць папярэдні агляд іх [д]а залічэньня ў школу. Тады такое дзі[ця] можа быць сваячасова накіравана ў дз[і]цячы сад. У нашых жа ўмовах дзі[ця] трапляе ў школу, пачынае адразу а[д]ставаць ад таварышоў і праз пару м[е]сяцаў накіроўваецца на консультацыю [ў] пэдолёгічны габінэт. Да гэтага часу ў дзіцячыя сады ўжо ўкомплектаваны, [і] перавесьці туды такога вучня не ўдае[ц]ца, з другога боку, перавод яго з шк[о]лы ў дзіцячы сад або выключэньне [са] школы робіць кепскі псыхолёгіч[ны] ўплыў на слабое дзіця, і вельмі час[та] такія дзеці застаюцца ў школе і не [пе]раходзяць у другую групу. Накол[ькі] гэты выхад прынцыпова няправільн[ы] і нецярпімы, зразумела, спрачацца [не] прыходзіцца, але другога выхаду ў [нас] няма. У асобных выпадках такіх дзяц[ей] пераводзяць у нулявую групу, і г[э]та ўжо найлепшае, што магчыма зрабі[ць.] Калі ж такія дзеці сустракаліся нам [у] нулявых групах, дык мы тады, калі х[ат]нія абставіны ў дзіцяці былі здава

няючыя, настойліва раілі бацьком забраць дзіця на год-два са школы.

Якія ж прычыны выклікалі затрыманьне ў разьвіцьці дзіцяці? З 14 дзяцей трынаццаць маюць розныя цяжкія хваробы (сухоты, цяжкую анэмію, нэрвовасьць і інш.), трое дзяцей маюць вельмі цяжкую спадчыннасьць (алкоголізм, люэс). Цяпер восем дзяцей жыве ў вельмі цяжкіх матар'яльных умовах; культурна-бытавыя абставіны ў гэтых дзяцей таксама нездавальняючыя, чацьвёра зьяўляюцца сьведкамі сямейных сварак, якія глыбока адбіваюцца на дзіцячай сьвядомасьці. Адным словам, тут комбінуюцца соцыяльныя і біолёгічныя прычыны, і ў выніку гэтага процэс разьвіцьця дзіцячага організму тармозіцца і праходзіць больш марудна, чымся звычайна. Але ў процэсе назіраньня за гэткімі дзяцьмі на працягу шэрагу гадоў магчыма сказаць, што гэта затрыманьне паступова робіцца менш прыметным, і дзеці ад чатырнаццаці да пятнаццаці гадоў даганяюць сваіх равесьнікаў.

Група дзяцей мала здольных займае сярод дасьледваных намі значнае месца— 30 проц. усіх дзяцей. Аб неабходнасьці асаблівае ўвагі гэтай групе, з мэтай правільнага сыстэматычнага навучаньня пісалі ўжо ў нашых ранейшых дасьледах. Тады мы мелі на мэце дзяцей, якія толькі ўвайшлі ў сьцены школы; цяпер жа да нас было накіравана 95 чалавек, пераважна вучняў другой групы, якія адстаюць на занятках, прабылі ў першай групе два гады, ледзь перайшлі ў другую і зноў ня могуць пасьпяваць, з прычыны чаго настаўнік пачынае думаць аб іх разумовай адсталасьці.

Паводле нашых дасьледаў нулявых груп, мы мелі 18-20 проц. дзяцей, здольнасьць якіх ніжэй сярэдняга,між тым у наш габінэт з першых груп школы даслана ўсяго толькі 95 чал. Ці гэта горшыя па свайму разумоваму разьвіцьцю сярод малаздольных, ці тут іншыя прычыны, якія перашкаджаюць ім працаваць разам з такімі дзяцьмі, як і гэтыя? Разгледзім вынікі нашых дасьледаў, каб адказаць на гэтае пытаньне.

З агульнага ліку дзяцей гэтай катэгорыі 24 проц. нарадзіліся слабымі, хваравітымі, або неданошанымі; усе гэтыя дзеці, а таксама частка, якая нарадзілася здаровай (усяго 40 проц.), разьвіваліся няправільна: позна прарэзаліся зубы, доўга не хадзілі і г. д. Асабліва трэба адзначыць запозны пачатак гутаркі, у 19 проц. дзяцей пасьля 3 год, часта ў 4 і 5 год. Рахіт сярод гэтых дзяцей быў вельмі пашыраны (30 проц.), ён пакінуў пасьля сябе значныя сьляды ва ўсёй сыстэме касьцей дзіцяці; у 5 проц. дзяцей адзначаны розныя прыпадкі дэгенэрацыі. Больш $^1/_3$ дзяцей (37 проц.) маюць цяжкую спадчыннасьць, пераважна сухоты і нэрвовыя хваробы ў бацькоў. У дзіцячыя гады гэтыя дзеці шмат хварэлі: 43 проц. дзяцей мелі розныя цяжкія хваробы, якія значна адбіліся на агульным стане здароўя дзіцяці, з іх 12 чалавек мелі мэнінгіты і конвульсіі.

Які ж стан іх здароўя да часу дасьледу? Перш за ўсё трэба адзначыць кепскае самаадчуваньне дзяцей (у 46 проц.), здароўе 50 проц. дзяцей параўнаўча здавальняючае, другая палова мае розныя хваробы сэрца, лэгкіх і г. д. Органы знадворных адчуваньняў у некаторых дзяцей таксама ня зусім нормальныя—у 16 чалавек зрок значна паніжаны, у 20—паніжаны слых. Розныя фізычныя недахопы (кульгавасьць, паралізаваныя верхнія канечнасьці) адзначаны ў 8 чалавек, пры чым дзеці ад гэтых дэфэктаў пакутуюць ня толькі фізычна, але і морaльна, бо іншыя дзеці з іх сьмяюцца і г. д. З прычын, якія могуць адбіцца на ўсім іх жыцьцёвым тонусе, трэба спыніцца на адэноідах, якія знойдзены ў 11 проц. дзяцей, магчыма нават іх больш, бо дасьледваліся ў гэтых адносінах толькі тыя дзеці, якіх прысылаў пэдолёг, а ня ўсе дзеці. З боку нэрвовай сыстэмы таксама ёсьць шэраг адхіленьняў ад нормы ў большай колькасьці выпадкаў, чым сярод усіх вучняў. Розныя недахопы мовы ёсьць у 5 проц. дзяцей. Усё гэта вельмі тармозіць процэс школьнага навучаньня, бо дзеці саромяцца ў клясе чытаць, баяцца пытаньняў з боку настаўніка, часта ня прымаюць удзелу ў гутарцы, баю-

чыся, што з іх будуць сьмяяцца. Аб нятрываласьці мачы ўночы нам удалося атрымаць весткі ў 20 проц. (замест 15 проц. у сярэднім); дзіцячай нэўрастэніяй пакутуе 8 проц. дзяцей, рознымі псыхопатыямі—5 проц. Зьвяртае на сябе ўвагу тое, што сярод дзяцей 43 проц., г. зн., каля паловы—нэўропаты, але часьцей затарможаныя, а ня ўзбуджаныя (12 проц. замест 27,7 проц., як мы бачылі ў часе агульнага досьледу вучняў нулявых груп). Умовы жыцьця гэтых дзяцей такія, што ня толькі ня спрыяюць паляпшэньню, а, наадварот, яшчэ больш паглыбляюць усе адхіленьні ад нормы. Так, напрыклад, матар'яльныя ўмовы ў 60 проц. вельмі цяжкія (супроць 15 проц. у сярэднім), культурна-бытавыя ў 70 проц.—зусім нездавальняючыя; тут мы сустракаемся з дзяцьмі, у якіх ёсьць мачыхі ці айчымы (14 проц.), з іншымі сямейнымі неладамі (27 проц.), з рознымі сямейнымі згрызотамі (12 проц.), з частаю п'янкаю (70 проц.) і г. д. Сярод гэтых дзяцей многа такіх, якія належаць да дэклясаваных груп насельніцтва; дзяцей рабочых, як і наогул у школе, 40 проц., але ў большасьці гэтыя рабочыя сем'і малакультурныя, з нізкім заработкам; дзяцей служачых менш, чым у сярэднім у школе—17 проц. замест 29 проц.

Варта толькі задумацца над усім сказаным намі аб гэтай групе дзяцей, каб стала зразумелай іх школьная непасьпяховасьць і агульная паніжаная ўстаноўка, якая прымушае западозрыць у дзіцяці дэбіліка. Каб гэта было яшчэ больш ясным, трэба толькі дадаць, што ў 1/3 дзяцей заўважаецца пэдагогічная занядбанасьць—дзіця да школы ня вучылася, ня было ў дашкольнай установе, ды і пасьля паступленьня ў школу не атрымлівае з боку сям'і імпульсаў для вучобы, бацькі вельмі спакойна, а іншы раз нават спачувальна адносяцца да нежаданьня дзіцяці працаваць, адсюль зразумела, што ў дзяцей кульгае школьная дысцыпліна (23,5 проц.). Тыя-ж, якія хочуць працаваць, часта скардзяцца на празьмерную зморанасьць, галаўныя болі ў час заняткаў і г. д., бо ў сувязі з хваравітым станам і цяжкімі ўмовамі жыцьця ў паловы дзяцей працаздольнасьць паніжана.

Ці могуць гэтыя дзеці нормальна працаваць у агульнай школе? Можна ўпэўнена і без памылкі сказаць—не. Кволы дзіцячы організм, малаздольны, які разьвіваецца ў такіх цяжкіх умовах, патрабуе ад нас дапамогі, і мы павінны яму дапамагчы. Мы павінны памятаць, што гэта ня група ў 95 чал., а значны процант школьнай масы, а гэтыя 95—толькі выпадковыя, можа быць, толькі больш яркія прадстаўнікі гэтай групы.

Цяпер пяройдзем да апошняй групы, якая больш за ўсё цікавіць нас ва ўсім гэтым досьледзе. Гэта група ў 120 дзяцей са здавальняючым, а ў некаторых выпадках з бязумоўна добрым разумовым разьвіцьцём, настолькі адстае ў школьнай вучобе, што пэдагог лічыць іх кандыдатамі для пераводу ў дапаможную школу.

Перш за ўсё сярод гэтай групы дзяцей наглядаецца вельмі значны лік цяжкіх хвароб, якія рэзка зьніжаюць агульны тонус жыцьця дзіцяці. Цяжкую спадчыннасьць маюць 14 проц. усіх дзяцей, пры чым у некаторых комбінуюцца розныя факты. У шасьці дзяцей—рэзка паніжаны слых і ў 6—паніжаны зрок, пры чым частка гэтых дзяцей ня скардзілiся на гэтыя недахопы, ня ўмеючы сформуляваць сваіх адчуваньняў; адзін з іх пасьля атрыманьня акуляраў пачаў добра займацца. Розныя нэрвовыя хваробы і патолёгічную конституцыю мы адзначылі сярод 1/3 дзяцей, пры чым у 4 дзяцей—частыя прыпадкі падучай хваробы. Бацькі 4 дзяцей адзначаюць, што дзеці нормальна разьвіваліся да перанесенага мэнінгіту, пасьля якога затрымаўся тэмп у разумовым разьвіцьці, страцілася належная ўвага, наглядаліся агульная вяласьць і пасыўнасьць. Вельмі тыповы ў гэтых адносінах Міколка Л., які ў габінэце ўрача выяўляе з сябе разумнага, спрытнага хлопчыка, а ў школе ня хоча працаваць, сядзіць доўга задумена, або бязуважна глядзіць у адзін пункт. Да мэнінгіту гэта быў жвавы, чулы да таварыскасьці хлопчык.

Сабраць весткі ў бацькоў аб онанізьме дасьледуемых дзяцей часам вельмі цяжка, бо частка бацькоў не гаворыць пра факт нават урачу, а большая частка

бацькоў проста не надае гэтаму значэньня і не прыглядаецца ўважліва да паводзін дзяцей. У 4 проц. дзяцей мы выявілі ўпарты онанізм, пры чым да таго, як дзіця пачало мастурбаваць, яно было жвавым, вясёлым і пасьпяваючым, цяпер жа стала маўклівым, нэрвовым і закінула вучобу. Так сама, як і ў групе мала здольных, мы і тут бачым групу (4 проц.) дзяцей з недахопамі ў мове, пераважна з заіканьнем, што рэзка адбіваецца на ўсіх паводзінах дзіцяці. Між іншым, сярод гэтых дзяцей 10 пачалі вельмі позна (пазьней 3 год) гаварыць, пры чым, напр., адзін з іх Янка Л. не гаварыў да $4^1/_2$ год. Каб дзеці не пакрыўдзілі няўмеючага гаварыць хлопчыка, бацькі трымалі яго зусім ізалявана ад дзяцей. З дзіцячым колектывам Янка пазнаёміўся толькі ў школе. Тут, у школе, яго паводзіны, тэмп мысьлёвага працэсу, агульная слабая орыентыроўка і прымусілі западозрыць у ім дэбіліка, тым часам як гэта зьявілася ў выніку няўмелага выхаваньня. Такі мэтод выхаваньня не зьяўляецца рэдкім: бацькі ізолююць дзіця, баючыся дрэнных уплываў вуліцы (Толя П.), баючыся інфэкцый (Яша Ш.), баючыся нападу суседніх дзяцей і г. д. Гэткае недарэчнае выхаваньне дзіцяці дае сябе адразу-ж адчуваць, як толькі дзіця пойдзе ў школу.

Тыя абставіны, у якіх жывуць дасьледваныя дзеці, таксама не дапамагаюць школьнаму навучаньню. У 25 проц. гэтых дзяцей хатнія культурна-бытавыя ўмовы вельмі цяжкія, ня лепшае і матар'яльнае становішча, а, пры наяўнасьці беднасьці і някультурнасьці бацькоў, дзіця пачынае часта адставаць у вучобе і прапускаць заняткі з прычыны таго, што значна перашкаджаюць перагружанасьць ў сям'і і па догляду за малодшымі дзяцьмі, або рамяство бацькі і г. д. (5 проц.) а таксама адсутнасьць абутку і адзеньня (4 проц.) і г. д.

Побач з гэтым ідуць частыя пропускі з прычыны хвароб (17 проц.), пры чым тут асаблівае месца займае лішай, які прымушае дзяцей выбываць са школы на доўгія месяцы. Бедная і малакультурная сям'я не зацікаўлена у пропусках заняткаў дзіцём, ня толькі тады, калі ёсьць важныя прычыны, але і тады, калі дзіця прапускае па сваёй волі, ня хочаісьці ў школу. Такіх дзяцей у гэтай дасьледванай групе даволі багата — 21 чал. Характэрным прыкладам зьяўляецца Вера М. Бацька яе—былы карчмар, цікавіцца працай дзіцяці толькі тады, калі школа выклікае яго, каб пагутарыць пра непасьпяховасьць дачкі. Ён б'е яе, і на гэтым канчаецца яго выхаваўчая роля. Дзяўчынка, калі прыходзіць са школы, ідзе да знаёмых, сваякоў і там праводзіць дні і ночы, не працуе зусім і, зразумела, не пасьпявае, ня гледзячы на прыродную здольнасьць.

Варта зьвярнуць увагу на падвышаную ўражлівасьць у значнай часткі гэтых вучняў, бо некаторыя з іх (10 проц.) перажылі цяжкія нэрвовыя падзеі: пажар, напад, пакражы і г. д. Напр., адзін хлопчык Я. С. пасьпяваў і быў спакойным да таго часу, пакуль яго брат не загінуў пад аўтомобілем; з таго часу мінула $1^1/_2$ гады, ён стаў няўважлівым, пакінуў працаваць; дзяўчынка Рыва К., знаходзячыся пад цяжкім уражаньнем разладу паміж бацькамі, зьвязанай з гэтым рэзкай пераменай матар'яльнага становішча сям'і, пакут маткі, стала няўважлівай да працы, бо думае яна заўсёды пра сям'ю. На грунце гэтай жа падвышанай нэрвовасьці ствараецца і падвышаная сарамяжлівасьць, асабліва ў самалюбных дзяцей (9 проц.), якія, баючыся кепска адказаць, зусім не адказваюць настаўніку. Іншы раз гэта сарамяжлівасьць падтрымліваецца тымі абставінамі, якія ствараюцца ў клясе; нам хочацца ўспомніць тут аб Моне Л., пераведзеным у Гомельскую школу з другога гораду; хлопчык з вельмі беднай сям'і і прышоў у школу ў жаночай кофце і ня лепшай астатняй вопратцы, сустрэў тут насьміханьні з боку часткі дзяцей і зусім зьмяніўся; ён папаў у колектыў, які складаўся з дзяцей матар'яльна забясьпечаных; наведваць колектыў яму было цяжка, бо ня было цёплага адзеньня, сказаць гэта таварышом ці паклікаць іх да сябе ён саромеўся,—і ў выніку добры, здольны хлопчык трапіў у катэгорыю, якая рэзка не пасьпявала ў занятках.

Наогул трэба сказаць, што перакіданьне дзяцей з адной школы ў другую, якое вельмі шырока практыкуецца ў нашых школах, а ў межах школы—ад аднаго настаўніка да другога, часта зусім кепска адбіваецца на вучобе. Так, напр., 6 проц. бацькоў зьвярталі нашу ўвагу на тое, што, у выніку гэтых перакіданьняў, іх дзеці кінулі працаваць, бо ім заўсёды трэба прызвычайвацца да новых умоў, да новых мэтодаў выкладаньня і г. д. З тэй прычыны, што звычайна перакідваюцца вучні, якія не належаць да катэгорыі лепшых у групе, дык зразумела, што для іх гэтыя перакіданьні асабліва цяжкія. Мне давялося ў лютым дасьледваць хлопчыка Гейшу П., які за гэты год перабываў у 3 настаўнікаў і пераводзіўся з аднае групы ў другую паводле выпадковых прычын (жаданьне загадчыка школы ўраўняць колькасную нагрузку пэдагога і г. д.), зразумела, што працаваць на працягу гэтага году дзіця не магло, і над ім пэдагог працаваць таксама ня меў магчымасьці. Ствараецца своеасаблівая пэдагогічная занядбанасьць дзіцяці, ня гледзячы на бесьперапыннае школьнае навучаньне. Наогул гэтая пэдагогічная занядбанасьць адзначана намі ў 16 проц. дзяцей гэтай групы.

Не ўваходзячы ў далейшае апісаньне прычын, якія садзейнічаюць адставаньню ў занятках дзяцей, я хочу спыніцца цяпер толькі на двух заключэньнях. Адно— гэта паніжаны тэмп мысьлёвага процэсу дзіцяці. Дзіця на досьледзе добра і спрытна выконвае ўсе заданьні, але траціць на кожнае ў $1^1/_2$—2 разы больш часу, чымся сярэдні школьнік. Зразумела, што ў школьных умовах, дзе пэдагог ня можа даць яму патрэбнага часу для адказу, дзіця не спраўляецца з працай і вельмі адстае; сярод гэтых дзяцей было 5 такіх, дзе гэта было адзінай прычынай непасьпяховасьці. Было ў нас і трое дзяцей, якія пры агульным здавальняючым разьвіцьці выявілі выключна кепскую памяць.

Але цяпер нам трэба больш падрабязна спыніцца на тэй катэгорыі дзяцей, якія не пасьпяваюць, у якіх гэта непасьпяховасьць тлумачыцца цяжкасьцю іх выхаваньня, соцыяльнай занядбанасьцю; гэта група дзяцей заслугоўвае асаблівай увагі, бо гэтыя дзеці ня толькі не працуюць самі, але і не даюць працаваць усім астатнім, яны зусім зрываюць працу свае групы.

Тут ужо трэба гаварыць не аб кепскай дысцыпліне,—яе мы адзначылі ў $^1/_5$ нашых дзяцей (24 чал.), а аб дэзорганізацыі; тут мы можам пералічыць гэткіх дзяцей, як Толя П., Мэер Л., Гэра Г., Уладзімер А. і г. д., якія пры сярэднім, а іншы раз і добрым разумовым разьвіцьці зусім ня ўдзельнічаюць у школьным жыцьці, ад гэтага не пасьпяваюць у вучобе, не засвойваюць элемэнтарных звычак і робяць на пэдагога ўражаньне нэўропатаў-дэбілікаў. Між тым гэтыя дзеці зусім ня дэбільныя, але патрабуюць другіх умоў для вучобы, а ў нашай масавай школе яны не знаходзяць іншага прыстасаваньня для свае энэргіі, для свае падвышанай рухавасьці, як недарэчныя выбрыкі: беганьне па сталох, бойкі, кпіны над слабейшымі і г. д.

Сярод гэтай групы было некалькі дзяцей, аб якіх магчыма было-б гаварыць, як аб моральна-дэфэктыўных, але да гэтага азначэньня трэба падыходзіць асабліва асьцярожна, бо тут патрэбна доўгае і ўважлівае вывучэньне дзіцяці, перш чым будзе пастаўлены такі дыягноз. У якасьці добрага прыкладу дазвольце спыніцца на дзяўчынцы Гэрце К. Дачка інтэлігентнага служачага, з даволі забясьпечанай сям'і, заўсёды крадзе ў школе алоўкі і крэйду; іншы раз яна прыносіць іх да хаты, часьцей у хаце іх не знаходзяць. Калі ў клясе ў яе знаходзяць пакражы, ёй становіцца вельмі сорамна, але пасьля гэтага яна зноў крадзе. У дзяўчынкі ніякіх нэўропатычных адзнак ня выяўлена. Як жа тлумачыць гэтыя ўчынкі? Хутчэй, зразумела, тут клептоманія, бо матка, вельмі зьбянтэжаная паводзінамі дачкі, заяўляе, што яна гатова купляць і купляе дачцы гэткія алоўкі, крэйду і г. д. Пасьля доўгаганазіраньня за ёю выявілася наступнае: бацька ня любіць дачкі, б'е яе, аддаючы большую ўвагу сыну. Дзяўчынцы цяжка быць у хаце, і яна імкнецца ўвесь час праводзіць у сяброўкі, тая-ж прымушае яе красьці і

прыносіць сабе алоўкі. Цяпер матар'яльны стан сям'і значна пагоршыўся, але абставіны ўнутры сям'і палепшыліся, і дзяўчынка ніколі нічога не крадзе. Такія-ж факты кепскага ўплыву таварышоў мажліва адзначыць на прыкладзе Навума С., Уладзімера А. Першы з іх паўсірата, да якога дрэнна адносіцца мачыха, другі—поўны сірата, жыве ў дзядзькі; абодвум цяжка жыць у нялaскавай да іх сям'і, яны ўцякаюць з сям'і, выпадкова трапляюць ў кампанію маленькіх злодзеяў і самі робяцца гэткімі. Ці можна гаварыць тут аб моральнай дэфэктыўнасьці? Зразумела, не. Але якія чулыя і ўважлівыя адносіны пэдагога да дзіцяці патрэбны для таго, каб стварыць дзіцяці ў школе і атрадзе той радасны працавіты настрой, які дапаможа сублімаваць уплыў вуліцы ці дрэнных сяброў. Наша апісаньне асобных прычын мы маглі-б працягнуць, бо ў кожным асобным выпадку ёсьць свае асаблівасьці.

Калі ўважліва ўгледзецца ў тыя прычыны, якія, па нашай думцы, ствараюць школьную адсталасьць у групе дзяцей са здавальняючым і паніжаным разумовым разьвіцьцём, дык мы ўбачым, што ў асноўным яны супадаюць. Каб гэта было больш ясна, мы злучым асноўныя прычыны ў наступную табліцу:

| | ДЗЕЦІ | | | |
|---|---|---|---|---|
| | са здавальн. разум. разьвіцьцём. | | з паніжаным разьвіцьцём | |
| Цяжкія занядужаньні . . . . . . | 44 | % | 40 | % |
| Кепская спадчыннасьць . . . . . | 14 | „ | 37 | „ |
| Нэўропатычная конституцыя . . | 32 | „ | 43 | „ |
| Перанесеныя хваробы мазгоў . . | 3 | „ | 4 | „ |
| Недахопы слыху . . . . . . . . | 5 | „ | 5 | „ |
| „ зроку . . . . . . . . | 5 | „ | 6,5 | „ |
| „ мовы . . . . . . . . | 4 | „ | 5 | „ |
| Познае разьвіцьцё мовы . . . . | 9 | „ | 19 | „ |
| Перанес. цяжкія нэрвовыя перажываньні . . . . . . . . . | 10 | „ | 12 | „ |
| Цяжкія культбытавыя ўмовы . . | 23 | „ | 70 | „ |
| „ матар'яльныя „ . . . | 29 | „ | 66 | „ |
| Пэдагогічная занядбанасьць . . . | 16 | „ | 30 | „ |
| Соцыяльная „ . . . . | 6 | „ | 5 | „ |
| Кепская дысцыпліна . . . . . . | 21 | „ | 23 | „ |
| Цікавасьць да вучобы . . . . . | 82 | „ | 50 | „ |

З гэтай табліцы мы можам зрабіць наступны вывад: дзеці малаздольныя знаходзяцца ў горшых умовах, чымся здавальняюча здольныя. Тут асабліва кідаецца ў вочы перавага ліку хворых малакультурных бацькоў, якія жывуць у беднасьці; дзеці такіх бацькоў часьцей нараджаюцца слабымі і маюць паніжаны тэмп разумовага разьвіцьця. Там, дзе гэтыя ўмовы адбіліся ня так выразна, дзеці разьвіваюцца здавальняюча, але ўсё-ж ня могуць раўняцца па агульных школьных запатрабаваньнях. Нас могуць запытаць: дазвольце, дзеці, якія растуць у такіх жа ўмовах і якія маюць аналёгічныя псыха-фізычныя адхіленьні, добра вучацца ў школе, стаяць нават іншы раз у першых шэрагах яе, значыць, ня ў гэтым прычына іх школьнай непасьпяховасьці? Зразумела, нельга спрачацца супроць таго, што часта хворыя і нэрвовыя дзеці ці дзеці бедных бацькоў бываюць аднымі з лепшых, але, як правіла, цяжкія ўмовы жыцьця, дрэннае самаадчуваньне згубна адбіваюцца на працаздольнасьці дзіцяці. Тут жа мы бачым падсумаваньне няспрыяючых уплываў; на кожнае дзіця прыходзіцца ў сярэднім 3,1 няспрыяючых фактараў.

З гэтых фактараў на першым месцы стаяць хвароба, недахопы разьвіцьця і г. д.; на другім—бытавыя ўмовы, побач з імі ідуць нэрвова-псыхічныя асаблівасьці дзіцяці і вынік недахопаў школьнай працы (пэдагогічная занядбанасьць, дрэнная дысцыпліна і г. д.).

Якія-ж вывады магчыма зрабіць з усяго вышэйсказанага?

1. Школьная непасьпяховасьць дзяцей—вельмі складанае зьявішча, якое патрабуе свайго доўгага вывучэньня ў цэлым і дакладнага пэдолёгічнага досьледу ў кожным асобным выпадку.

2. Пэдагог масавай школы, з аднаго боку, надзвычайна перагружаны бягучай справай у групе, з другога боку, не заўсёды пэдолёгічна падрыхтаваны і хоча вінаваціць у школьнай непасьпяховасьці перш за ўсё разумовае разьвіцьцё дзіцяці.

3. Паводле даных Гомельскага пэдолёгічнага габінэту, нізкі ўзровень разумовага разьвіцьця сярод школьнікаў, дасланых на консультацыю, выяўлены толькі ў 28 проц. выпадкаў, у астатніх разумовае разьвіцьцё было або трошкі

затрымана, або ў 37 проц. зусім адпавядала ўзросту дзіцяці.

4. Прычынай школьнай непасьпяховасьці дзяцей з паніжаным ці здавальняючым разумовым разьвіцьцём зьяўляюцца фактары біолёгічныя, бытавыя, школьныя і г. д.

5. Школьная непасьпяховасьць часткі дзяцей стварае вялікі процант другагоднікаў, тармозіць нормальнае разьвіцьцё дзяцей, якія адстаюць, і перашкаджае правільнай працы школы ў цэлым.

6. У змаганьні з гэткім высокім процантам непасьпяваючых у Гомельскай школе патрэбны наступныя мерапрыемствы:

а) пашырыць сетку дапаможных школ ці груп з такім разьлікам, каб ахапіць і ўскраіны гораду — Н.-Беліцу, Манастырок і інш;

б) у часе прыёму дзяцей у школу праводзіць папярэдні ня толькі профілактычны, але і больш глыбокі агляд дзеля таго, каб дзеці, якія не адпавядаюць свайму пашпартнаму ўзросту, ня прымаліся ў школу; адначасова трэба змагацца з прынцыпам мэханічнага пераводу дзіцяці з дзіцячага саду ў школу, як толькі яму мінае 6½-7 год, ня лічачыся з яго фізычным і разумовым разьвіцьцём;

в) у нашых школах павінны быць арганізаваны „слабыя“ групы для малаздольных дзяцей, разьлічаныя на трохі больш тэрмін навучаньня (замест 4 прыблізна 5 год); дадатковыя траты на ўтрыманьне гэтакіх груп, зьвязаныя з лішнім годам навучаньня, зьменшанай колькасьцю гэтых груп і г. д., будуць з лішкам зьвернуты за лік эканоміі, якая створыцца ад зьмяншэньня ліку другагоднікаў;

г) для дзяцей, якія цяжка выхоўваюцца, павінны быць арганізаваны асобныя школы (паводле тыпу псыха-нэўролёгічных школ) з асаблівым рэжымам;

д) социяльная і аздаравіцельная дапамога слабым дзецям павінна быць значна павялічана;

е) дапаможныя дзіцячыя групы для разумова адсталых дзяцей, якія цяжка выхоўваюцца, павінны быць арганізаваны ўжо ў дашкольных установах;

ж) перавод з агульнай школы ў дапаможную павінен адбывацца не радзей 2 разоў у год дзеля таго, каб дзеці, якія патрабуюць гэтага пераводу, ня трацілі году і не перашкаджалі працы свае групы;

з) павялічэньне сеткі пэдолёгічных габінэтаў дзеля дапамогі пэдагогу, побач з арганізацыяй гурткоў па падвышэньні пэдолёгічных ведаў сярод пэдагогаў.

Толькі тады, калі наша працоўная школа абрасьце дапаможнымі пэдагогічнымі і лекавымі ўстановамі, яна зможа пасьпяхова правесьці сярод больш аднастайнага дзіцячага колектыву сваю плённую працу.

Вялізарны культурны і эканомічны рост, які адбываецца цяпер у нашай краіне, павінен адбіцца на паляпшэньні агульнага стану дзяцей і зьявіцца пэўнай прадпасылкай псыха-фізычнага здароўя нашага маладога пакаленьня.

**Ад рэдакцыі.**

Рэдакцыя не згаджаецца з вывадам аўтара, нібы біолёгічныя фактары стаяць на першым месцы ў вызначэньні разьвіцьця разумовых здольнасьцяй і школьнай пасьпяховасьці дзяцей. Важнейшым рашаючым фактарам зьяўляюцца социяльныя адносіны, клясавая сутнасьць тае групы, да якой належыць дзіця.

А. Харэвіч

# Аб рабочых пакоях[1]

У школе І-й ступені трэба організаваць для кожнай групы клясу-лябараторыю і для ўсіх чатырох груп адзін агульны рабочы пакой.

Рабочы пакой павінен быць організаваны для таго, каб праводзіць рознастайныя сыстэматычныя віды працы (картонажна-пераплётныя, працы па дрэву, па мэталю, працы з глінай і інш.).

Клясу-лябараторыю неабходна выкарыстаць для лябараторна-дасьледчых заняткаў, гутарак, чытаньня, пісьма, лічэньня, графікі і інш.

Для вайсковай школы, калі нельга адшукаць асобнага пакою, дык у клясе-лябараторыі абавязкова стварыць рабочы куток.

Сродкі на абсталяваньне здабываць шляхам дадатковых асыгнаваньняў па бюджэту, вылучэньня профсаюзнымі організацыямі сродкаў у фонд політэхнізацыі школы, пастановак спэктакляў, кружачных збораў і іншых відаў шырокай грамадзкай дапамогі.

Майстэрні пры пэдтэхнікуме скласьці каштарыс не пазьней 1 лістапада гэтага году на самае неабходнае абсталяваньне (клясная дошка, палічкі для зробленых рэчаў, шафы для захаваньня інструмантаў і матар'ялаў, вітрыны для паказальных узорных рэчаў, скрыначкі для картак падліку працы, скрынка-аптэчка, рукамыйнікі, хвартукі па колькасьці вучняў), на самыя неабходныя інструманты і матар'ялы.

Організацыя і форма працы ў рабочых пакоях будзе значна залежаць ад школьных умоў. Найбольш мэтазгодная форма працы—не фронтальная, калі працуе аднachасна ўся група (40-50 чал.), а ячэйка-зьвеньневая, калі група падзяляецца на 2 зьвяны (20-25 чал.), а кожнае зьвяно—на 4 ячэйкі (5-6 чал.).

Працу мэтазгодна плянаваць так:

а) у парадку грамадзкай дапамогі (альбо за асобную плату, дзе ёсьць сродкі) запрашаюцца ў якасьці кіраўнікоў і інструктароў працы ў рабочых пакоях тэхнікі, майстры, кваліфікаваныя рабочыя бліжэйшых фабрык і заводаў, а таксама найбольш спрактыкаваныя вучні бліжэйшых майстэрняў (напрыклад, для Рагачэва—вучні профшкол). У такіх разох настаўнік працуе з адным зьвяном у клясе-лябараторыі, а запрошаны інструктар—з другім зьвяном у рабочым пакоі;

б) калі такой дапамогі нельга будзе атрымаць, дык самі настаўнікі (скажам, настаўнікі 1 і 2 гр., 3 і 4 гр.) увязваюць свае рабочыя пляны так, што адзін з іх (скажам, н-к 1 групы) працуе з адным зьвяном у рабочым пакоі, а другі настаўнік (скажам, 2 групы) у гэты самы час працуе са сваёй групай і другім зьвяном 1 гр. у клясе-лябараторыі. Пасьля гэтага працуе ў рабочым пакоі другое зьвяно 1 групы, а першае зьвяно ідзе ў клясу-лябараторыю. Потым настаўнікі мяняюцца працай;

в) пры наяўнасьці ў школе толькі аднаго рабочага кутка, працу переважна прыдзецца весьці з усёй групай (фронтальна).

[1]) Друкуючы артыкул т. Харэвіча аб організацыі рабочых пакояў у Рагачэўскім раёне, рэдакцыя просіць усіх асьветнікаў прысылаць свае заўвагі, проект і прапановы адносна формаў і мэтодаў політэхнізацыі нашых школ і высьвятляць на стар. часопісі вопыт у гэтай працы.

З рознастайных відаў працы ў рабочым пакоі неабходна ўжываць тыя, якія вымагаюцца комплекснымі програмамі для політэхнічнае школы, якія падказваюцца жыцьцём рабочай або сялянскай сям'і, школай, клюбам, колгасам і саўгасам, фабрыкай, заводам, агульнай гаспадаркай раёну і ўсёй наогул практыкай социялістычнага будаўніцтва.

Праца не павінна выліваца выключна ў адлюстраваньне асьветнай працы. Патрэбна таксама і праца, якая мае вытворчы характар, у выніку якой зьяўляюцца рэчы, што маюць тую або іншую рэальную, грамадзкую каштоўнасьць (прадметы быту, вучэбныя прылады, інструманты працы, абсталяваньне, цацкі і іншае).

Працоўныя звычкі ні ў якім разе не павінны ператварацца ў самамэту, не павінны атрымоўваць профэсійна-рамесьніцкага характару.

Праца ў рабочым пакоі або майстэрні, вывучэньне вытворчасьці, вытворчая практыка, уся наогул школьная праца павінны быць органічна зьвязаны з політыкай пролетарскай дыктатуры і будаўніцтва социялізму, з усімі актуальнымі пытаньнямі генэральнай лініі партыі.

Праца ў рабочым пакоі таксама павінна быць зьвязана з лябораторна-дасьледчай працай у клясе-лябораторыі шляхам адпаведных досьледаў іназіраньняў над вытворчымі процэсамі, над якасьцю матар'ялаў, над галоўнейшымі інструмантамі, прыладамі і машынамі.

Праца ў рабочым пакоі павінна тэорэтычна і практычна разьвіць у дзяцей рацыянальныя спосабы організацыі працы. Трэба з першых груп прызвычайваць дзяцей да парадку ў рабочым пакоі, прывучыць усё прыбраць на сваё месца, даць звычкі па ахове і гігіене працы, словам, прывіць тое, што мы называем працоўнай культурай. З малых дзён трэба павесьці рашучую барацьбу з неахайнасьцю, з нядбайнымі адносінамі да працы, да матар'ялу, да інструмантаў.

Разьвіцьцё організацыйных звычак неабходна ўвязаць з разьвіцьцём звычак да супольнай, колектыўнай працы, пачынаючы з невялікіх задач—не перашкаджаць таварышом у працы, ня браць з-пад рук матар'ял, інструмант, паступова пераходзячы да рознастайных форм узаемадапамогі ў працы і канчаючы сапраўды колектыўнымі формамі працы; для гэтага ў першую чаргу неабходна выкарыстаць організацыю працы ў рабочым пакоі, майстэрні і, нарэшце, скончыць буйнай вытворчасьцю.

Агульная задача школы—ня ў тым, каб увесьці як мага большы круг работы, а ў тым, каб кожную працу, хацяб самую маленькую, якая ўводзіцца ў процэс навучаньня, зрабіць асноўнай дзеля атрыманьня організацыйных і колектыўных звычак, пачынаючы з самай просьценькай работы, самых просьценькіх матар'ялаў і інструмантаў, паступова пераходзячы да больш складанай работы, прылад і машын.

Разьвіцьцё організацыйных, колектыўных і тэхнічных звычак немагчыма без разьвіцьця ўменьня організоўваць і плянаваць сваю працу. Спачатку вусна паведаміць настаўніка, што і як мяркуецца зрабіць, а потым у пісьмовай і графічнай форме падрыхтаваць усё неабходнае для працы. Да гэтай мэты вельмі падыходзяць індывідуальныя працоўныя проекты-заданьні.

Працоўныя заняткі павінны быць пабудаваны на грунце самадзейнасьці, дзіцячай творчасьці і ініцыятывы, вынаходзтва. Гэтаму найбольш адпавядае мэтод проектаў. Ужо першы комплекс першага году навучаньня «Першыя крокі ў школе» вымагае цэлага шэрагу невялікіх жыцьцёва-неабходных проектаў.

Склеіць каробку для перакіднога альфабэту, сшыць сшытак або кніжку, выразаць і склеіць конвэрт, разграфіць рэгістрацыйны ліст, арганізаваць куток Леніна, МОПР'у і інш.—усё гэта вымагаецца комплекснымі праграмамі. Зразумела, што ў старэйшых групах працоўныя проекты будуць больш складаныя.

У школе пры пэдтэхнікуме арганізаваць вопытна-паказальны рабочы пакой. Школам раёну неабходна трымаць сувязь і выкарыстоўваць гэты вопыт.

Дзеля тэхнічнай і палітычнай падрыхтоўкі настаўнікаў прарабіць наступнае:

а) прапусьціць настаўнікаў гораду праз тэхнічны практыкум у мясцовых профшколах;

б) наладзіць індустрыяльны практыкум на вытворчасьці; камісіі па палітэхнізацыі школы прапрацаваць гэтае пытаньне, склаўшы адпаведны арганізацыйны плян;

в) арганізаваць пры доме асьветы гурток па вывучэньню пытаньняў палітэхнізацыі школы;

г) для вясковых настаўнікаў арганізаваць курсы па палітэхнізму;

д) папоўніць школьныя бібліотэкі тэхнічнай літаратурай;

е) выпісаць часопісі «Молодой Ударник» і «Политехнический труд в школе»;

ж) даручыць мясцовай кнігарні закупіць для рабочых пакояў наглядныя дапаможнікі па тэхнолёгіі, тэхніцы і вытворчасьцях, модэлі рухавікоў, тэхнічныя дыяпозытывы для чароўнага ліхтара, тэхнічныя малюнкі, дзіцячую мастацкую і вытворчую тэхнічную літаратуру, тэхнічныя цацкі, што знаёмяць з рознастайнымі мэханізмамі і іх працай, цацкі з рознастайнымі пабудовамі, як, напрыклад, конструкцыйна-тэхнічны набор тыпу «Піонэр» і «Конструктар», што спрыяюць разьвіцьцю конструкцыйна-тэхнічных здольнасьцяй у дзяцей;

з) арганізаваць пры доме асьветы шэраг масавых лекцый на тэмы, зьвязаныя з палітэхнізацыяй школы, з рознымі найноўшымі дасягненьнямі ў галіне навукі і тэхнікі.

---

**Беразоўская і Аляксандраў**

# Грамадазнаўства ў пэдтэхнікумах

*(конкрэтныя прапановы)*

Вялізарны тэмп разьвіцьця нашага соцыялістычнага будаўніцтва, шырокае разгортваньне культурнай рэволюцыі паставілі перад намі задачу паскорыць выпуск чырвоных настаўнікаў. У выніку гэтага тэрмін навучаньня ў пэдтэхнікумах быў скарочаны з 4 на 3 гады.

Але, скараціўшы тэрмін навучаньня, мы не павінны забыцца пра якасьць тых кадраў, якія мы выпускаем са сьцен тэхнікумаў.

Наступленьне соцыялізму па ўсім фронце выклікае шалёнае супраціўленьне нашых клясавых ворагаў, і таму яшчэ больш востра стаіць перад намі задача падрыхтаваць настаўніка з марксысцка-ленінскім сьветапоглядам, настаўніка, які сапраўды зьяўляўся-б агітпропам партыі і савецкай улады ў мястэчку і на вёсцы.

Трэба адзначыць, што НКА з гэтай задачай не спраўляецца. З таго часу, як пэдтэхнікумы перайшлі на скарочаны тэрмін навучаньня, НКА яшчэ ня выпрацаваў праграмы па грамадазнаўству, якая адпавядала-б ліку гадзін, вызначаных для гэтага прадмету.

Усяго для пэдтэхнікуму вызначана 270 гадзін па грамадазнаўству (па гісторыі клясавай барацьбы—150 гадз.,

гісторыі партыі—60 гадз., ленінізму—60 гадз.). Мэтодком жа вызначыў на гэтыя гадзіны 51 тэму. Праўда, прапануючы гэтыя тэмы, мэтодком агаварваецца, што яны орыентыровачныя.

Міжвольна паўстае пытаньне, ці можна за такі малы лік гадзін глыбока прапрацаваць вызначаныя мэтодкомам тэмы?

Не, ні ў якім разе нельга.

Сямігодка, маючы для грамадазнаўства 486 гадзін, можа праводзіць больш глыбокую прапрацоўку, чым пэдтэхнікум.

Падыходзячы з гэтага пункту погляду да сучаснай програмы для пэдтэхнікумаў, прыходзіцца адзначыць, што тут і мэтодычна і організацыйна справа абстаіць кепска. Курс гісторыі клясавай барацьбы фактычна зьяўляецца паўтарэньнем матар'ялу сямігодкі, зразумела, на больш глыбокай базе, а ўсяго для гэтага вызначана 150 гадзін.

Кожнаму ясна, што нават лекцыйна няма ніякай магчымасьці праслухаць гэты курс, тым больш няма чаго гаварыць аб актыўнай самастойнай прапрацоўцы.

На апошнія дзьве дысцыпліны—гісторыю партыі і ленінізм,—дысцыпліны, якія павінны ўзброіць будучага настаўніка ўсебакова, адводзіцца па 60 гадзін.

Для таго, каб зразумець, наколькі немагчыма актыўна прапрацаваць гэтыя дысцыпліны, досыць адзначыць, што курс ленінізму складаецца з 26 тэм, а на адны ўступы да гэтых тэм (а яны, бязумоўна, патрэбны) мы павінны патраціць 85 проц. вызначанага часу.

Дзе-ж выхад з гэтага становішча?

Нам здаецца, што пры сучасных тэмпах нашай культурнай рэволюцыі, калі неабходна ў мінімальны тэрмін дасягнуць максымальных эфэктаў, грамадазнаўчыя дысцыпліны трэба ставіць практычна, інакш кажучы, больш аддаваць ўвагі тым пытаньням і проблемам, з якімі настаўнік будзе сустракацца ў сваёй практычнай працы.

Курс гісторыі клясавай барацьбы трэба максымальна наблізіць да сучаснасьці. Мы ня супроць гісторыі, але тэхнічна немагчыма засвоіць пры малой колькасьці гадзін вялізарны гісторычны матар'ял.

Нам здаецца, што пры пераходзе пэдтэхнікумаў на 3-гадовы курс гісторыю клясавай барацьбы трэба пачаць з рабочага руху другой паловы XIX стагодзьдзя з невялікім уступам аб пэрыодзе буржуазнай рэволюцыі першай паловы XIX стагодзьзя ў Зах. Эўропе, Расіі і БССР.

Матар'ял па гісторыі Расіі можна ўвязаць з гісторыяй партыі.

А на грунце ўсяго гэтага можна перайсьці да ленінізму, які павінен даць тэорэтычнае і практычнае абагульненьне на вопыце барацьбы рабочае клясы. за соцыялізм.

Кожную нашу перамогу ў соцыялістычным будаўніцтве нашы ворагі сустракаюць дзікім выцьцём. Яны ўпарта стараюцца на кожным кроку нам перашкодзіць, выкарыстоўваючы ўсе магчымасьці.

Адным са сродкаў змаганьня ў руках нашага клясавага ворага зьяўляецца рэлігія. І мы добра ведаем, як варожыя нам сілы выкарыстоўваюць рэлігію супроць колектывізацыі.

І таму мы, падрыхтоўваючы вясковага настаўніка, які мусіць быць ваяўнічым бязбожнікам на вёсцы, павінны ўзброіць яго антырэлігійнымі ведамі.

Трэба адзначыць, што ні ў старой, ні ў новай програме антырэлігійнаму цыклю няма месца.

Мы лічым, што будучаму актывістаму на антырэлігійным фронце патрэбны веды ў гэтым абсягу, і таму патрэбен самастойны курс (а ня толькі, як уступ у гісторыю клясавай барацьбы) гісторыі культуры. Гэты курс павінен уключыць у сябе значны элемэнт гісторыі матар'яльнай культуры (ня толькі першабытнай), гісторыі рэлігіі (даведзенай да сучаснага дня), гісторыі духоўнай культуры. Матар'ял гэтага курсу асабліва неабходны для настаўніка першага концэнтру політэхнічнай школы, дзе непадрыхтаванасьць настаўніка адчуваецца вельмі востра.

Выходзячы з усяго гэтага, мы прапануем наступнае разьмеркаваньне гадзін:

Гісторыя культуры—50-60 гадзін.

Гісторыя кляс. барацьбы (2 палова XIX стагодзьдзя, Кастрычн. рэволюцыі)—90-100 гадзін.

Гісторыя партыі—90 гадзін.

Ленінізм—90 гадзін.

А ўсяго 300 гадз. (цяпер 270 гадзін.).

Трэба, каб програмы па ўсяму грамадазнаўчаму цыклю для пэдтэхнікумаў былі складзены з максымальнай экономіяй часу. Так, напр., у цяперашняй програме па курсу „Ленінізм“ некаторыя тэмы зьяўляюцца паўтарэньнем адпаведных тэм па гісторыі партыі.

Гэтага можна пазбавіцца шляхам належнай корэляцыі програм.

Мы прапануем мэтодкому НКА выпрацаваць адпаведны проект програм з тым, каб т. т. грамадазнаўцы, выкладчыкі пэдтэхнікумаў, маглі падрабязна абмеркаваць яго і даць свае заўвагі і дадаткі.

# НАШ ВОПЫТ

А. Савельлеў

## Разьмер і прычыны пропуску вучнямі заняткаў у школах соцвыху ў мінулым навучальным годзе

*(Па матар'ялах абсьледваньня былых Віцебскай і Полацкай акруг)*

I

Бурны тэмп пашырэньня школьнае сеткі за апошнія гады, павялічэньне выдаткаў на ўстановы соцвыхаваньня, магутныя тэмпы падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў—усё гэта павінна было-б ствараць умовы для найхутчэйшага і лёгкага вырашэньня пастаўленай зараз ва ўсю шырыню задачы па ўсеагульнаму навучаньню.

Аднак, на практыцы мы заўсёды сустракаем шэраг зьявішчаў у самім школьным жыцьці, якія перашкаджаюць пасьпяховаму выкананьню гэтае задачы, затрымліваюць работу.

Не закранаючы такіх момантаў, як ня зусім правільнае разьмеркаваньне сеткі школ у многіх мясцох, як перабоі ў задавальненьні школы прыладамі, кепскае становішча многіх школьных будынкаў і інш., мы спынімся на зьявішчы, якое найбольш адмоўна адбіваецца на пасьпяховасьці работы школы і зьяўляецца аднэй з важных прычын другагодніцтва, а менавіта—на пропусках вучнямі школьных заняткаў.

Поўная нагрузка школьнага году, поўнае скарыстаньне вучнямі рабочых дзён школы зьяўляюцца адным з асноўных паказальнікаў ступені пасьпяховасьці вучняў. Вялікая колькасьць прапушчаных вучнямі школьных заняткаў, значная колькасьць дзён, калі школа цалкам не працавала, гавораць аб зьніжэньні каштоўнасьці вынікаў гадавой работы школы і вучняў гэтай школы. Пропускі школьных заняткаў ня толькі ў вясковых школах, але і ў гарадзкіх, у іншых выпадках нагэтулькі значныя, што ставяць пад пагрозу прапрацоўку гадавых праграм у тых ці іншых групах па некаторых дысцыплінах.

Гэтая акалічнасьць прымушае савецкую грамадзкасьць і масы асьветнікаў заваструць увагу на высьвятленьні разьмераў ненаведваньня вучнямі школьных заняткаў, і галоўнае, тых прычын, якія выклікаюць гэтыя пропускі.

Да апошняга часу гэтыя пытаньні не зьяўляліся об'ектам спэцыяльнага дасьледваньня, і аб разьмерах пропускаў вучнямі заняткаў былі толькі адрыўкавыя зьвесткі адносна паасобных школ, бяз сталага падліку прычын і соцыяльных груп вучняў, што прапускалі заняткі.

Першы вопыт больш дакладнага падыходу да гэтага пытаньня зроблены быў у мінулым (1929-30) навучальным годзе эканоміка-статыстычным сэктарам Дзяржпляну СССР, які правёў спэцыяльны падлік выбарачна ў некалькіх дзесятках школ па Саюзу, захапіўшы некалькі школ і на тэрыторыі Беларускай ССР.

Падлік гэты праводзіўся шляхам дакладных вестак, якія даваліся настаўнікамі аб пропуску заняткаў кожным вучнем, з высьвятленьнем прычын пропуску.

Увесь матар'ял гэтага абсьледваньня па беларускіх школах перасланы для апрацоўкі ў Маскву, і зараз мы маем пад рукамі толькі матар'ял з 17 школ, якія былі абсьледваны ў раёнах паўночнай часткі БССР (10 школ на тэрыторыі былой Віцебскай акругі і 7 школ былой Полацкай акругі).

Дякуючы таму, што абсьледваньне праводзілася выбарачным мэтодам, выбар школ для абсьледваньня быў зроблены вельмі старанна; выбіраліся школы найбольш тыповыя для тых акруг, дзе яны знаходзіліся. У лік памянёных 17 школ увайшлі дзьве школы гор. Віцебску (12-ая сямігодка і апорная 9-годка), дзьве сямігодкі і 6 прымітывак па вёсках былой Віцебскай акругі, і сямігодка гор. Полацку (9-я) і 1 сямігодка і 5 прымітывак у Полацкай акрузе. Падлікам былі ахоплены ўсяго 3274 вучні, з якіх па гор. Віцебску—795 (6,4% усіх вучняў г. Віцебску), па г. Полацку—297 (ці 11,4 проц. вучняў Полацкіх гарадзкіх школ), па вясковых школах былой Віцебскай акругі—1364 вучні (2,3 проц.) і па вясковых школах б. Полацкай акругі—818 вучняў.

Праўда, гэты процант ахопленых абсьледваньнем вучняў зусім малы ў адносінах да агульнай колькасьці іх і таму нельга на грунце атрыманых вынікаў рабіць пэўныя, закончаныя вывады, аднак, гэты матар'ял дастатковы для шэрагу практычных вывадаў з праведзенага абсьледваньня пры карыстаньні адноснымі велічынямі.

II

Прадугледжаны школьным плянам навучальны год ні ў воднай школе не выкарыстоўваецца вучнямі цалкам. Гэта залежала і ад школы і ад вучняў.

У абодвух выпадках у выніку мы маем страту школьнага рабочага часу, якая балюча адбіваецца на пасьпяховасьці і асобных вучняў і ўсяго школьнага колектыву. З прычыны гэтага, раней чым выясьняць разьмер і прычыны пропуску вучнямі школьных заняткаў, трэба спыніцца на разьмерах і прычынах перапынкаў у школьных занятках, якія не прадуглежаны былі школьным плянам.

Матар'ялам для высьвятленьня гэтага пытаньня для нас зьяўлялася абсьледваньне, якое было праведзена з гэтай мэтай былым Віцебскім плянава-статыстычным бюро ў чэрвені месяцы бягучага году па ўсіх школах былой Віцебскай акругі.

Перш за ўсё трэба адзначыць, што вызначаныя тэрміны пачатку і канца навучальнага году ня вытрымліваюцца. Так, за мінулы навучальны год па школах былой Віцебскай акругі мы маем наступны малюнак:

Па гор. Віцебску, замест вызначанага па пляну пачатку навучальнага году 15 жніўня, у сярэднім школы пачалі заняткі на 9 дзён пазьней (24 жніўня), пры гэтым у паасобных школах заняткі пачаліся 2 верасьня (спазьненьне на 16 дзен).

У вёсках заняткі ў школах пачаліся яшчэ пазьней: у сярэднім 15 верасьня па школах прымітыўках і 28 жніўня—па сямігодках. Былі выпадкі пачатку школьных заняткаў 15, 17 лістапада і нават 1 і 7 студзеня.

Адхіленьні ад вызначаных тэрмінаў сканчэньня школьных заняткаў куды меншыя, аднак у большасьці вясковых школ адсеў вучняў пачынаецца ўжо з першых вясновых месяцаў.

Такім чынам, толькі несваячасовы пачатак і сканчэньне вучобы значна скарачаюць навучальны год.

Заслугоўвае асаблівай увагі і страта школьнага часу з прычыны перапынкаў у школьным годзе, не прадугледжаных школьным плянам. У парушэньні паўнаты школьнага году гэтыя перапынкі адыгрываюць вельмі вялікую ролю. У сярэднім на 1 школу такія перапынкі ў гарадзкіх школах даюць страту каля 7 рабочых дзён, а па вясковых школах—каля 14 дзён у працягу навучальнага году.

Амаль што адзінай прычынай непрадугледжаных плянам перапынкаў у рабоце гарадзкіх школ зьяўляецца дэзынфэкцыя школьных памяшканьняў. Па вясковых школах гэтыя прычыны вельмі рознастайныя. Большасьць (51,6%) пазаплянавых перапынкаў у школьных занятках па вясковых школах прыпадае на дэзынфэкцыю школ (па сямігодках 70,1 проц. усіх перапынкаў); перапынкі з прычыны адсутнасьці настаўніка складалі 33,9 проц. (хвароба настаўніка—20,5 проц., адсутнасьць настаўніка—11,6 проц.,

настаўніцкія конфэрэнцыі і зьезды—1,8 проц. і г. д.); перапынкі, якія зьвязаны былі з станам школьных памяшканьняў, складаюць 3,0 проц. (з прычыны адсутнасьці школьнага памяшканьня—0,9 проц. рамонт школы—2,1 проц.); перапынкі з прычыны грамадзкай работы складалі 8,7 проц., перапынкі з прычыны дрэннага надвор'я мелі месца толькі ў дзьвюх школах. Урэшце, астатнія перапынкі былі ў выніку розных прычын: тутака і чыстка ячэйкі ЛКСМ ў аднэй школе, і звальненьне з працы настаўніка—клясава-варожага элемэнту, і здарэньне з настаўніцай, якая ўкінулася зімою ў рэчку, і шэраг іншых прычын.

Трэба адзначыць, што і ў бягучым 1930-31 навуч. годзе мы не пазбавіліся ад гэтых недахопаў: ня гледзячы на адтэрмінаваньне пачатку навучальнага году з 15 жніўня да 1 верасьня, і ў гэты тэрмін заняткі пачаліся далёка несваячасова ва ўсіх ня толькі вясковых, але і гарадзкіх школах.

Інакш стаіць справа з дачасным спыненьнем школьных заняткаў, асабліва ў сельскіх мясцовасьцях. Тут мы маем выпадкі вымушанага спыненьня работы школы, калі вучні па бытавых умовах спыняюць наведваньне школы. Яшчэ трэба пакласьці шмат сіл на растлумачальную работу сярод бацькоў вучняў, яшчэ трэба прарабіць вялікую выхаваўчую работу сярод вучняў, каб грунтоўна зьмяніць погляд на школу і паставіць апошнюю ў вачох сялянства на першае месца.

Трэба рашуча змагацца з такімі перапынкамі ў школьных занятках. Тое, што ў сярэдзіне навучальнага году школа раптам спыняе заняткі для дэзынфэкцыі, зьяўляецца вялікай недарэчнасьцю і кажа аб вельмі дрэнным становішчы школьна-санітарнай справы. Перапынкі ў рабоце школ з прычыны адсутнасьці ці хваробы настаўніка гавораць аб нездавальняючай выразнасьці і гнуткасьці ў рабоце інспэктарыятаў асьветы. Урэшце, у шмат якіх прарывах вінаваты і прафарганізацыі: скліканьне розных нарад і настаўніцкіх зьездаў у рабочы час школы, што адрывае працаўніка асьветы ад яго вытворчасьці і зрывае часта заняткі цэлай школы.

III

Часовыя перапынкі ў рабоце школы ў сярэдзіне навучальнага году вельмі перашкаджаюць выкананьню навучальнага пляну школы. Аднак, ня менш балюча адбіваецца на эфэктыўнасьці вынікаў навучальнага году і нерэгулярнае наведваньне вучнямі школьных заняткаў; паколькі гэта ненаведваньне прымае вялікія разьмеры, дык цяжка казаць аб пасьпяховасьці вучняў і добрых выніках скончыўшагася навучальнага году. Апрача гэтага, нельга запамятаваць, што менавіта з прапускаючых школьныя заняткі складаюцца кадры другагоднікаў—гэтае зло нашай беларускай школы, якое парушае ўсе разьлікі рэгулярнага і нормальнага разьвіцьця школьнае сеткі. Нарэшце, толькі дакладным вясьвятленьнем прычын ненаведваньня школы паасобнымі групамі вучняў можна намеціць правільныя шляхі да зьнішчэньня гэтай хібы ў рабоце нашых устаноў соцвыхаваньня.

Таму дасьледваньне разьмераў і прычын ненаведваньня вучнямі школьных заняткаў зараз становіцца актуальным пытаньнем і завастрае на сабе ўвагу і савецкае грамадзкасьці і настаўніцтва.

Пераходзячы да матар'ялу абсьледваньня, якое было праведзена па 17 школах былой Віцебскай і Полацкай акруг, перш за ўсе трэба сказаць, што толькі адна з іх (гарадзкая школа) у працягу мінулага 1929-30 навуч. году працавала поўную колькасьць прадугледжаных школьным плянам дзён. У сярэднім па ўсіх гарадзкіх школах навучальны мінулы год склаўся з 214 дзён, а па вясковых—192 дні, пры чым працяжнасьць навучальнага году па вясковых школах на Полаччыне ў сярэднім складала толькі 184 рабочыя дні (па Віцебшчыне—197 дзён).

Ва ўсіх абсьледваных школах вучняў, якія наогул не прапускалі заняткаў у працягу году, вельмі мала—4,8 проц (157 чал.). Гэты процант значна ўзрастае

па школах г. Віцебску і зьніжаецца ў вясковых школах, што відаць з наступных лічбаў.

| ПА ШКОЛАХ | Лік школ | У іх вучняў | З іх не прапускалі заняткаў (у % %) |
|---|---|---|---|
| **Гарадзкіх:** | | | |
| г. Віцебску | 2 | 795 | 9,8 |
| „ Полацку | 1 | 297 | 4,7 |
| **Вясковых:** | | | |
| былой Віцебскай акругі | 8 | 1364 | 3,5 |
| „ Полацкай „ | 6 | 818 | 2,1 |
| Разам па вясковых | 14 | 2182 | 3,0 |
| Разам па ўсіх ахопленых абсьледваньнем школах | 17 | 3274 | 4,8 |

Гэты процант вучняў, якія не прапускалі заняткаў, значна хістаецца, калі мы падзелім усіх ахопленых абсьледваньнем вучняў па соцыяльных групах.

| СОЦЫЯЛЬНЫЯ ГРУПЫ | % вучняў, якія не прапускалі заняткаў |
|---|---|
| Рабочыя | 7,8 |
| Служачыя кваліфік. | 12,5 |
| „ некваліфік. | 4,0 |
| Батракі | 0,0 |
| Сяляне-колгасьнікі | 3,1 |
| „ беднякі | 4,6 |
| „ серадням | 1,9 |
| „ абкладзеныя с.-г. падаткам індыв. | 4,2 |
| Саматужнікі без найман. раб. | 4,9 |
| „ з найманымі рабочымі | — |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і іншыя | 4,7 |

Такім чынам, дзеці рабочых і дзеці кваліфікаваных служачых даюць найбольшы процант наведваньня. Нізкі процант даюць групы сялянства, што тлумачыцца шэрагам бытавых умоў вёскі.

Разглядаючы ступень акуратнасьці ў наведваньні школы вучнямі розных узростаў, мы знаходзім, што процант вучняў, якія зусім не прапускалі заняткаў, хістаецца гэтак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 8 год | 3,9 проц. | 14 год | 5,7 проц. |
| 9 „ | 4,3 „ | 15 „ | 6,0 „ |
| 10 „ | 2,3 „ | 16 „ | 7,3 „ |
| 11 „ | 5,8 „ | 17 „ | 6,7 „ |
| 12 „ | 5,3 „ | 18 „ і стар. | 2,6 „ |
| 13 „ | 3,7 „ | | |

З гэтага відаць, што першыя тры групы па ўзросту, потым трынаццацігадовыя і старэйшыя (18 і больш год) даюць нязначны процант вучняў, што акуратна неведваюць школу; значна вылучаецца група 16-гадовых (а ў гэтых школах яна займае 8 проц. усяго складу вучняў) па вялікай колькасьці вучняў, якія не прапускалі зусім заняткаў у школе.

Ступень акуратнасьці ў наведваньні школы паміж хлопцамі і дзяўчатамі не дае вялікіх хістаньняў; характэрным зьяўляецца тое, што сярод дзяўчат процант акуратных крыху больш, чым сярод хлопцаў, і толькі нязначнае адхіленьне ад гэтага мы бачым па школах гор. Віцебску.

Процант вучняў, якія не прапускалі заняткаў у школе:

| | Хлопцы | Дзяўчаты |
|---|---|---|
| Па школах г. Віцебску | 9,9 | 9,7 |
| „ „ г. Полацку | 1,7 | 6,8 |
| „ вясковых школах Віцебск. акр. | 1,4 | 3,6 |
| „ „ „ Полацк „ | 2,1 | 2,1 |
| Разам па вясковых школах | 2,9 | 3,1 |

Цікава адзначыць залежнасьць сталага наведваньня школьных заняткаў ад пісьменнасьці бацькоў вучняў. Сярод вучняў, якія маюць няпісьменных бацькоў, ці ў якіх пісьменны толькі бацька, а матка няпісьменная, процант акуратных наведвальнікаў даходзіць толькі да 3,4. Тыя ж, што маюць пісьменную матку, даюць акуратных наведвальнікаў 8,8 проц.

Такое становішча, калі з усяе масы вучняў толькі каля 5 проц. (а па вясковых школах каля 3 проц.) вучняў стала наведваюць школьныя заняткі, зразумела, затрымлівае распрацоўку ўсяго програмнага матар'ялу.

IV

У сярэднім кожным вучнем, з ліку тых, што неакуратна наведвалі школьныя заняткі ў працягу мінулага году, было прапушчана дзён па школах:

**Гарадзкіх:**

| | |
|---|---|
| г. Віцебску | 13,8 дзён |
| „ Полацку | 14,8 „ |

**Вясковых:**

| | |
|---|---|
| былой Віцебскай акругі | 25,0 дзён |
| „ Полацкай „ | 27,9 „ |
| Разам па вясковых школах | 26,1 „ |
| Разам па ўсіх абсьледваных школах | 22,3 „ |

Тутака мы бачым, што ў сярэднім кожны вучань гарадзкой школы прапусьціў больш ½ месяца заняткаў, а па вясковых школах — больш 1 месяца. Заўважваючы паказаны вышэй вялікі процант вучняў, якія прапускалі школьныя заняткі наогул, можна беспамылкова сказаць, што ўсе нашы школы ў сярэднім адзін месяц (а вясковыя і больш месяца) у працягу мінулага навучальнага году працавалі ўпустую. Школьныя програмы, зразумела, павінны былі быць сьціснуты на 1 месяц.

Нельга не заўважыць, што колькасьць дзён, якія былі прапушчаны па школах былой Полацкай акругі, значна перавышае школы былой Віцебшчыны. Полацкія вясковыя школы даюць каля 98 проц. усіх вучняў, якія прапускалі заняткі. Гэта, зразумела, вельмі кепска адбілася на выкананьні школьных програм.

Сярэдняя колькасьць прапушчаных школьных дзён 1 вучнем у паасобных школьных групах па школах былой Віцебскай акругі характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Групы | Гарадзкія | Вясковыя |
|---|---|---|
| I | 22,8 | 35,1 |
| II | 13,8 | 29,1 |
| III | 12,5 | 20,1 |
| IV | 15,1 | 19,1 |
| V | 12,7 | 18,7 |
| VI | 10,2 | 14,4 |
| VII | 11,7 | 13,1 |
| VIII | 11,9 | — |
| IX | 11,5 | — |
| Усе групы | 13,8 | 25,0 |

З гэтай табліцы відаць, што па вясковых школах сярэдняя колькасьць дзён, якія прапускаліся адным вучнем, зьмяншаецца паступова ад групы да групы і даходзіць з 35,1 дня (І група) да 13,1 дня (VII група); па гарадзкіх школах такой правільнасьці няма: у першых трох групах наглядаецца зьмяншэньне сярэдняй колькасьці прапушчаных дзён, але IV група дае зноў павялічэньне; V і VI групы таксама зьмяншаюць разьмер пропускаў, але ў VII групе мы наглядаем зноў падвышэньне, якое стаіць амаль што бяз зьмен у групах І концэнтру. Такім чынам, па гарадзкіх школах „выпускныя“ групы даюць павялічэньне сярэдняга разьмеру прапушчаных вучнямі дзён школьных заняткаў.

Сярод вучняў І концэнтру сярэдняя колькасьць прапушчаных 1 вучнем дзён па ўсіх школах даходзіць да 25,6. Найменшую колькасьць дзён прапускаюць дзеці, якія ня маюць бацькоў (16,6); потым ідуць дзеці, бацькі якіх пісьменныя (21,5); найбольш прапушчаных у сярэднім 1 вучнем дзён прыпадае на групу дзяцей, бацькі якіх няпісьменныя (28,2 дні).

Паказаная вышэй колькасьць школьных дзён, якія былі прапушчаны ў сярэднім адным вучнем (22,3 дні), значна хістаецца ў залежнасьці ад паасобных соцыяльных груп вучняў.

Так:

| Соцыяльныя групы вучняў | У сярэднім 1 вучнем прапушчана |
|---|---|
| Рабочыя | 14,7 |
| Служачыя кваліфік. | 16,6 |
| „ некваліфік. | 14,0 |
| Батракі | 25,3 |
| Сяляне-колгасьнікі | 18,0 |
| „ -беднякі | 28,3 |
| „ -серанякі | 26,2 |
| „ якія абкладзены сел.-гасп. падаткам індыв. | 24,7 |
| Саматужнікі без найман. раб. | 13,5 |
| „ з найман. рабочымі | 25,0 |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і іншыя | 12,9 |

Тутака мы бачым, што групы сялянадзінаасобнікаў даюць у сярэднім на 1 вучня вельмі вялікую колькасьць прапушчаных вучэбных дзён, а дзеці сялянколгасьнікаў у сярэднім прапускалі значна менш. Шмат ніжэй сярэдняя колькасьць пропускаў у дзяцей рабочых.

Наогул па ўсіх соцыяльных групах сярэдняя колькасьць прапушчаных дзён гарадзкімі вучнямі меншая, чым вясковымі.

Сярэдняя колькасьць прапушчаных школьных дзён вучнямі рознага ўзросту выяўляецца ў наступных лічбах:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 8 год . . . | 23,8 дзён | 14 год . . . | 16,7 дзён |
| 9 „ . . . | 27,8 „ | 15 „ . . . | 14,4 „ |
| 10 „ . . . | 27,0 „ | 16 „ . . . | 12,9 „ |
| 11 „ . . . | 23,2 „ | 17 „ . . . | 14,2 „ |
| 12 „ . . . | 20,8 „ | 18 „ і стар. | 17,3 „ |
| 13 „ . . . | 19,7 „ | | |

Такім чынам, у залежнасьці ад узросту вучня, колькасьць прапушчаных за год у сярэднім школьных дзён зьмяншаецца, пры чым вучні 14-гадовага ўзросту даюць рэзкае зьніжэньне ў параўнаньні з 13-гадовымі; аднак, старэйшы ўзрост дае вялікі скачок у бок павялічэньня колькасьці прапушчаных школьных дзён. Гэта тлумачыцца тым, што 17-гадовы і старэйшага ўзросту вучань—гэта ўжо работнік у гаспадарцы, што адцягвае яго ад школы і школьных заняткаў.

V

Пропускі заняткаў вучнямі не разьмяркоўваюцца роўнамерна па месяцах году. Лік прапушчаных вучнямі за год дзён у процантных адносінах разьмяркоўваецца так:

| На школах | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад | Сьнежань | Студзень | Люты | Сакавік | Красавік | Май | Чэрвень | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Гарадзкіх:** | | | | | | | | | | | | |
| г. Віцебску . . . . . | 1,0 | 9,7 | 10,4 | 10,1 | 13,0 | 9.2 | 12.0 | 13,3 | 11,9 | 9,2 | 0,2 | 100,0 |
| „ Полацку . . . . . | 1,5 | 9,5 | 9,6 | 14,1 | 13,6 | 11,4 | 12,8 | 10,2 | 8,8 | 7.1 | 1,4 | 100,0 |
| **Вясковых:** | | | | | | | | | | | | |
| былой Віцебскай акр. | 0,7 | 16,8 | 12,5 | 8,2 | 9,0 | 7,8 | 7,9 | 10,7 | 10,9 | 14.9 | 0,6 | 100,0 |
| „ Полацкай „ . | 1,3 | 12,0 | 12.7 | 7,4 | 7,0 | 6,6 | 7,7 | 7,9 | 13,1 | 21,9 | 2,4 | 100,0 |

З гэтай табліцы мы бачым, што па гарадзкіх школах на сярэдзіну навучальнага году (лістапад—сакавік) прыпадае найбольшы процант пропускаў заняткаў; па вясковых школах гэтым характэрны пачатак і канец навуч. году: верасень—кастрычнік і красавік—май. Адносна малы процант, які прыпадае на жнівень месяц у вясковых школах (ён нават ніжэйшы за процант прапушчаных школьных дзён у жніўні па гарадзкіх школах), не павінен выклікаць зьдзіўленьня, калі мець на ўвазе адзначанае намі вышэй спазьненьне з пачаткам нав. году ў вясковых школах.

VI

Усе прыведзеныя вышэй лічбы гавораць за тое, што трэба прыняць адпаведныя меры, каб поўнасьцю зьнішчыць пропускі школьных заняткаў вучнямі, а дзе гэта немагчыма, мінімальна скараціць разьмер ненаведваньня вучнямі школы. Вырашыць гэтае пытаньне можна толькі шляхам зьнішчэньня тых прычын, якія выклікаюць ненаведваньне. Дзеля гэтага пры абсьледваньні ў 1929-1930 г. на высьвятленьне прычын ненаведваньня была зьвернута асаблівая ўвага, тым больш, што па гэтым пытаньні ніякіх матар'ялаў масавага наглядаць ня ў нас раней ня было.

Па школах, дзе праводзілася абсьледваньне, прычына ненаведваньня вучнем школы адзначалася настаўнікам у адпаведных формулярах паводле тлумачэньняў саміх вучняў. Зразумела, што магчыма дапусьціць у паасобных выпадках адхіленьні ад сапраўднасьці ў гэтых адказах саміх вучняў, але такія выпадкі могуць быць толькі адзіночнымі, і пры масавым абсьледваньні яны тра-

цяцца і не адыгрываюць значнай ролі. Апрача гэтага, тая акалічнасьць, што мы маем многа адзнак ненаведваньня школы па прычынах, якія вучнямі звычайна утойваюцца (прагул, рэлігійныя сьвяты і інш.), гаворыць аб уважлівым і крытычным падыходзе большасьці настаўнікаў, якія рэгістравалі прычыны ненаведваньня вучнямі школы, і аб значнай паўнаце высьвятленьня гэтага пытаньня. З гэтага агульнага палажэньня трэба часткова выключыць вясковыя школы былой Полацкай акругі, дзе, відаць, увага настаўнікаў ня была завострана належным чынам на пытаньні дакладнага высьвятленьня прычын ненаведваньня школы. У выніку, як мы ўбачым ніжэй, нявысьветленыя прычыны, вылучаныя ў асобную групу „іншых", маюць па гэтых школах вельмі вялікую ўдзельную вагу.

Програма абсьледваньня прадугледжвала групоўку прапушчаных вучнямі дзён школьных заняткаў з прычын спазьненьня ў школу, хваробы, дрэннага надвор'я, адсутнасьці вопраткі і абутку, занятасьці па хатняй гаспадарцы, прамысловай работы, рэлігійных сьвятаў, прагулу і іншых.

Пры пастаноўцы абсьледваньня меркавалася, што самі настаўнікі будуць даваць тлумачэньні прычын, якія аднесены ў 9 групу—„іншых". Гэта дало-б мажлівасьць больш падрабязна высьветліць разьмер пропускаў па іншых прычынах, не прадугледжаных у першых 8 групах. Аднак, гэтага не здарылася, і ў выніку апрацоўкі матар'ялаў можна было толькі вылучыць групу вучняў, якія прапускалі заняткі з прычыны занятасьці на грамадзкай працы і ў колгасах.

Удзельная вага кожнай з пералічаных вышэй прычын у агульнай колькасьці школьных дзён, якія былі прапушчаны вучнямі абсьледваных школ, выяўляецца ў наступным выглядзе (у %%):

| ПА ШКОЛАХ | Спазьненьне ў школу | Хвароба | Дрэннае надвор'е | Адсутнасьць вопраткі ці абутку | Занятасьць па хатняй гаспадарцы | Прамысловая праца | Рэлігійныя сьвяты | Прагул | Грамадзкая праца | Іншыя |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Гарадзкіх:** | | | | | | | | | | |
| г. Віцебску | 1,9 | 68,0 | 0,9 | 1,7 | 17,0 | 0,1 | — | 1,6 | 1,3 | 7,5 |
| „ Полацку | 3,8 | 72,3 | 2,4 | 4,9 | 8,6 | 0,5 | 0,3 | 1,5 | 0,9 | 4,8 |
| **Вясковых:** | | | | | | | | | | |
| былой Віцебскай акр. | 15,1 | 29,1 | 3,1 | 6,5 | 34,9 | 0,5 | 0,9 | 6,1 | 1,3 | 2,5 |
| „ Полацкай | 21,5 | 18,0 | 2,6 | 3,9 | 28,8 | 0,1 | 1,9 | 4,4 | — | 18,8 |

Адсюль мы бачым, што найбольшую ўдзельную вагу ў прапушчаных вучнямі школьных днёх займаюць пропускі з прычыны хваробы і занятасьці па хатняй гаспадарцы, пры чым першае месца з гэтых дзьвюх прычын займае ў горадзе хвароба, а ў вёсках—занятасьць па хатняй гаспадарцы.

Пераходзячы да разгляду разьмераў пропускаў заняткаў па паасобных прычынах, перш за ўсё трэба спыніцца на хваробе, якая зьяўляецца аднэй з галоўнейшых прычын ненаведваньня вучнямі школьных заняткаў.

Па гарадзкіх школах як г. Віцебску, так і Полацку хвароба служыць прычынай пропускаў больш паловы ўсіх прапушчаных вучнямі школьных дзён: 68 проц. па г. Віцебску і 72,3 проц. па Полацку.

Дзьвюхзменныя заняткі ў школьных будынках, дрэннае санітарна-гігіенічнае становішча апошніх, слабы мэдыцынскі нагляд за школамі, пры агульнай слабасьці гарадзкіх дзяцей,—усё гэта складае ўмовы, якія спрыяюць разьвіццю эпідэмічных хвароб. Зімою, у мінулым навуч. годзе, у г. Віцебску асабліва пашырылісяэ підэміі шкарлятыны і водры.

У выніку гэтага мінулы год і даў нам такую вялікую колькасьць пропускаў з прычыны хваробы і дзён, калі школы не працавалі ў сувязі з дэзынфэкцыяй памяшканьняў.

Пры наяўнасьці такой жа эпідэміі шкарлятыны і водры ў г. Полацку мы маем процант пропускаў з прычыны хваробы яшчэ большы, чым у Віцебску. Гэта кажа аб яшчэ горшым санітарным становішчы полацкіх гарадзкіх школ і горшым мэдыцынскім абслугоўваньні вучняў.

У вясковых школах процант пропускаў з прычыны хваробы некалькі ніжэйшы, чым у гарадзкіх (па Віцебшчыне—29,1 проц. і па былой Полацкай акрузе—18 проц.). Гэта тлумачыцца тым, што ў вёсцы няма дзьвюхзьменных заняткаў, дзеці больш знаходзяцца на вольным паветры, і таму яны здаравейшыя, бо санітарна-гігіенічныя ўмовы вясковых школ шмат горшыя, чым гарадзкіх, а школьныя дактары наогул ня вельмі заглядваюць у вясковыя школы.

Значная розьніца ў процантах прапушчаных заняткаў з прычыны хваробы вучняў па вясковых школах Віцебшчыны і Полаччыны тлумачыцца тым, што эпідэмія шкарлятыны, водры і дыфтэрыту, якая мела месца ў сярэдзіне навуч. году на тэрыторыі раёнаў гэтых акруг, у вёсках Полаччыны была ў меншым разьмеры, чым на тэрыторыі былой Віцебскай акругі.

Калі мы параўнаем процант прапушчаных дзён школьных заняткаў з прычыны хваробы хлопцамі і дзяўчатамі пасобку, дык заўважым наступнае:

| ПА ШКОЛАХ | % дзён, якія прапушчаны з прычыны хваробы | |
|---|---|---|
| | хлопцамі | дзяўчатамі |
| **Гарадзкіх:** | | |
| г. Віцебска | 70,2 | 65,9 |
| „ Полацку | 68,1 | 74,4 |
| **Вясковых:** | | |
| былой Віцебскай акр. | 25,9 | 33,3 |
| „ Полацкай „ | 17,3 | 19,3 |

Па ўсіх вясковых школах дзяўчатамі адносна больш было прапушчана школьных дзён з прычыны хваробы, чым хлопцамі. Гэта тлумачыцца тым, што хлопцы фізычна здаравейшыя, і што ўвага вясковых бацькоў да здароўя дзяўчат куды большая, чаму дапамагае і той погляд, што „невялікая бяда, калі дзяўчынка троху не давучыцца"...

З ніжэйпрыведзенай табліцы мы ўбачым, які процант вучняў розных соцыяльных груп не наведваў школы з прычыны хваробы, процант прапушчаных імі дзён з прычыны хваробы да агульнай колькасьці дзён ненаведваньня імі школьных заняткаў і сярэднюю колькасьць дзён пропускаў, якая прыпадае на 1 вучня:

| СОЦЫЯЛЬНЫЯ ГРУПЫ ВУЧНЯЎ | % вучняў, якія прапускалі заняткі з прычыны хваробы | % школьных дзён, якія былі прапушчаны з прычыны хваробы | У сярэднім 1 вучнем прапушчана дзён |
|---|---|---|---|
| Рабочыя | 18,0 | 20,6 | 11,3 |
| Служачыя кваліфікаваныя | 9,0 | 12,1 | 13,1 |
| „ некваліфікаваныя | 4,4 | 4,8 | 1.1 |
| Батракі | 0,6 | 5,0 | 7,8 |
| Сяляне-колгасьнікі | 7,7 | 6,3 | 8,1 |
| „ беднякі | 20,8 | 18,5 | 8,7 |
| „ серадзякі | 31,5 | 23,9 | 4,9 |
| „ якія абкладзены с.-г. падаткам індывід. | 0,8 | 0,8 | 9,8 |
| Саматужнікі без найманых рабочых | 2,9 | 3,3 | 1,1 |
| „ з найманымі рабочымі | — | 0,1 | — |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і іншыя | 1,1 | 0,8 | 9,3 |

Такім чынам, групы дзяцей сялян-беднякоў, серадњакоў і дзеці рабочых даюць найбольшы процант пропускаў з прычыны хваробы. Гэта тлумачыцца кепскім мэдабслугоўваньнем у вёсках і кепскімі жыльлёвымі ўмовамі ў горадзе. Аднак, па колькасьці дзён ненаведваньня школы ў сярэднім на аднаго вучня, які прапускаў заняткі ў школе з прычыны хваробы, мы бачым іншыя суадносіны. Першае месца тут займаюць дзеці кваліфікаваных служачых (13,1) і рабочых (11,3): гэта паказвае на больш сьвядомыя адносіны бацькоў да барацьбы з пашырэньнем эпідэмічных хвароб, што прымушае іх больш часу затрымліваць сваіх дзяцей дома, да поўнага ачуньваньня

Пропускі заняткаў з прычыны хваробы сярод вучняў першага концэнтру ва ўсіх абсьледваных школах складаюць 32 проц. ненаведаных вучнямі дзён школьных заняткаў.

Усе гэтыя лічбы гавораць аб тэй вялікай перашкодзе нормальнаму навучаньню, якую стварае хвароба вучняў. Побач з гэтым мы павінны зазначыць, што барацьба з гэтым зьявішчам не разгорнута належным чынам. Да гэтага часу пытаньне забесьпячэньня школ адпаведнымі памяшканьнямі ў дастатковай колькасьці застаецца ня вырашаным. Многія гарадзкія, раённыя і сельскія саветы ўсё яшчэ не зьвяртаюць належнай ўвагі на пытаньні забесьпячэньня адпаведнымі памяшканьнямі школ. Досыць успомніць даныя ўсесаюзнага школьнага перапісу 1927 г., каб уявіць сабе ўсю нязначнасьць кубатуры, якая прыходзіцца ў школах на 1 вучня, дрэннае асьвятленьне клясаў, цясноту школьных памяшканьняў, сырыя і халодныя пакоі і г. д.

Адначасова трэба адзначыць надзвычайна нязначную колькасьць школьна-санітарных дактароў у гарадох і амаль што поўную адсутнасьць іх па вёсках. Трэба проста сказаць, што мэдыцынскі нагляд за вучнямі зусім нездавальняючы. Санасьветная праца ў большасьці ня ідзе далей праверкі, ці памытыя шыі ды рукі, і абмяжоўваецца, такім чынам, пытаньнямі прымітыўнай гігіены. Санасьветная праца сярод бацькоў не праводзіцца амаль што нідзе, і ў выніку гэтага мы маем, што эпідэмічныя дзіцячыя хваробы знаходзяць у школах добры грунт для пашырэньня. Усё гэтае сьведчыць аб тым, што зараз, у часе рашучага наступу на фронце ўсеагульнага навучаньня, каб меціь поўную перамогу, трэба зараз жа палепшыць санітарнае становішча школы і ўзмацніць мэднагляд за вучнямі. Гэта справа ня толькі належных устаноў, але і ўсяго настаўніцтва, бо шмат чаго настаўніцтва можа само правесьці ў гэтай галіне, каб аздаравіць школу.

Урэшце, найбольш аўтарытэтнае слова пры вырашэньні гэтага пытаньня зможа сказаць рабочая і вясковая грамадзкасьць. Організацыя пад контролем грамадзкасьці гарачага сьнеданьня, дапамога ў абсталяваньні школы, пільная ўвага з боку бацькоў дзяцей змогуць значна зьнізіць процант пропускаў вучнямі школьных заняткаў з прычыны хваробы.

## VII

Як прычына ненаведваньня школьных заняткаў занятасьць па хатняй гаспадарцы займае першае месца па вясковых школах і другое—па гарадзкіх. У сярэднім па ўсіх школах у працягу школьнага году кожны вучань прапускаў каля 10 дзён (9,6) з прычыны занятасьці ў хатняй гаспадарцы. З гэтае прычыны мы бачым значны пропуск заняткаў як хлопцамі, так і дзяўчатамі, пры чым апошнія прапускалі менш за хлопцаў, за выключэньнем толькі вучняў віцебскіх гарадзкіх школ, дзе мы наглядаем адваротнае зьявішча. Процант вучня дзён, якія былі прапушчаны з прычыны занятасьці па хатняй гаспадарцы, па роду вучняў выяўляецца ў наступных суадносінах:

| ПА ШКОЛАХ | Хлопцаў | Дзяўчат | Разам |
|---|---|---|---|
| Гарадзкіх: г. Віцебску | 15,3 | 18,9 | 17,0 |
| „ Полацку | 9,2 | 8,3 | 8,6 |
| Вясковых: б. Віцебскай акр. | 35,9 | 33,7 | 34,9 |
| „ Полацкай „ | 29,4 | 28,0 | 28,8 |

Калі заўважыць, што 20 проц. вучняў гарадзкіх школ г. Полацку зьвязаны з сельскай гаспадаркай (дзеці сялян), стане зразумела перавага хлопцаў, якія адцягваюцца ад школы хатняй работай. Уплыў сельскай гаспадаркі на наведваньне школы яскрава відаць з наступнай табліцы:

| Соцыяльныя групы вучняў | % вучняў, якія прапусьцілі заняткі с прычыны занятасьці па хатняй гасп. | % школьных дзён, якія былі прапушчаны з прычыны зан. хатняй гаспадаркай | На 1 вучня ў сярэднім прыходзіцца дзён, прапушчаных з прычыны зан. хатняй гаспадаркай |
|---|---|---|---|
| Рабочыя | 12,8 | 6,1 | 4,6 |
| Служачыя кваліфікаваныя | 5,6 | 2,8 | 4,9 |
| „ некваліфікаваныя | 2,8 | 1,3 | 4,5 |
| Батракі | 0,4 | 0,3 | 6,6 |
| Сяляне-колгасьнікі | 8,9 | 7,7 | 8,4 |
| „ беднякі | 24,4 | 28,7 | 11,2 |
| „ серад:які | 39,8 | 49,9 | 12,0 |
| „ якія абкладзены с.-г. падаткам індыв. | 0,6 | 1,1 | 16,0 |
| Саматужнікі | 1,3 | 0,4 | 3,2 |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і інш. | 3,4 | 1,7 | 4,8 |

З усяе масы вучняў, якая адцягвалася хатняй гаспадаркай ад школы, амаль што 1/4 частку складалі дзеці беднякоў і 40 проц.—дзеці сялян-серадлякоў, яны адцягваліся на значны час, бо ў сярэднім кожным з іх прапускалася да 12 вучэбных дзён; гэтаксама вельмі вялікая і ўдзельная вага прапушчанага школьнага часу ва ўсёй колькасьці прапушчаных школьных дзён (беднякі—28,7 проц. і серадлякі—палову). Важна адзначыць, што ўсе гэтыя проценты значна ніжэйшыя па групе вучняў-дзяцей колгасьнікаў: колектыўная сельская гаспадарка куды лепш спрыяе наведваньню школы вучнямі з сям'і колгасьнікаў.

Усе астатнія групы даюць значна меншыя паказальнікі. Адносна вялікі процант вучняў—дзяцей рабочых, якія прапускалі заняткі з прычыны занятасьці па хатняй гаспадарцы, з якіх пераважную колькасьць складаюць дзяўчаты, тлумачыцца чыста бытавымі ўмовамі гарадзкога жыцьця. Дзяўчаты-школьніцы часта застаюцца дома для нагляду за малымі ў сям'і, іх пасылаюць у крамы і г. д. Разам з гэтым, сярэдняя колькасьць прапушчаных з гэтай прычыны заняткаў адным вучнем гэтай групы вельмі высокая (4,6 дзён).

Усё гэта сьведчыць аб тым, якую значную частку навучальнага году адбірае ў вучняў хатняя гаспадарка. Гэты недахоп павялічваецца яшчэ і ад таго, што пропускі з прычыны занятасьці па хатняй гаспадарцы звычайна прыпадаюць на вясновы час, калі ўзмацняецца тэмп школьнае працы ў сувязі з набліжэньнем канца навучальнага году і пачаткам падагульненьня вынікаў гадавой працы.

Побач з гэтым стаяць пытаньні аб пропусках школьных заняткаў з прычыны спазьненьня ў школу. Гэтыя пропускі ў пераважнай большасьці выпадкаў фактычна маюць тую ж прычыну, занятасьць па хатняй гаспадарцы. Па гарадзкіх школах спазьненьні складаюць адносна нявысокі процант у агульнай колькасьці пропускаў (1,9—па г. Віцебску і 3,8—па г. Полацку). Іншае становішча ў вясковых школах, дзе процант прапушчаных вучня-дзён з прычыны спазьненьня ў школу дасягае значнай вышыні, а менавіта: па школах былой Віцебскай акругі—15,1 проц. і па школах Полаччыны—21,5 проц. усяе колькасьці прапушчаных усімі вучнямі дзён. У гэтым выпадку мы маем справу ўжо амаль што выключна з ненаведваньнем з прычыны занятасьці па сельскай ці хатняй гаспадарцы, якая выклікала спазьненьне.

Цікава адзначыць, што з усяе колькасьці ахопленых абследваньнем вучняў спазьніліся к пачатку навучальнага году

27,6 проц. вучняў; з гэтага лку вучняў каля $^3/_4$ прыпадае на бядняцка-серадняцкую частку сялянства (26,6 проц.—сяляне-беднякі і 45,5 проц.—серадиякі).

Дзеці рабочых складаюць сярод ненаведваўшых школу з прычыны спазьненьня 8,1 проц. і дзеці кваліфікаваных служачых (а таксама і дзеці вайсковых служачых)—5,5 проц. Спазьненьне гэтай апошняй групы дзяцей тлумачыцца пераездамі па службе бацькоў пасьля пачатку навучальнага году. Удзельная вага такіх пропускаў дзяцьмі з іншых соцыяльных груп нязначная.

У сярэднім кожны вучань спазьніўся ў школу к пачатку навучальнага году на 11,2 дня, але па паасобных групах гэта мае такую лічбовую характарыстыку:

| | | |
|---|---|---|
| Рабочых | на | 3,7 дня |
| Служачых кваліфікаваных | „ | 5,3 „ |
| „ некваліфікаваных | „ | 0,8 „ |
| Батракоў | „ | 9,0 „ |
| Сялян-колгасьнікаў | „ | 14.2 „ |
| „ адзінаасобнікаў-беднякоў | „ | 15,1 „ |
| „ серадкякоў | „ | 11,5 „ |
| „ якія індывід. абкладз. сельскагаспадарчым падаткам | „ | 4,4 „ |
| Саматужнікаў | „ | 3,4 „ |
| Утрыманцаў, пэнсіянэраў і іншых | „ | 2,1 „ |

Бязумоўна, пераважнай прычынай гэтага спазьненьня зьявілася сельская гаспадарка. Можа выклікаць зьдзіўленьне вялікая сярэдняя колькасьць дзён спазьненьня ў школу вучняў-дзяцей колгасьнікаў, але тутака трэба мець на ўвазе, што абсьледваньне зроблена ў другой палове навучальнага году, калі моцная хваля колектывізацыі ахапіла шырокія пласты вясковага бядняцтва, і, такім чынам, вельмі значная частка вучняў, якія аднесены да групы дзяцей-колгасьнікаў, у пачатку навучальнага году была ў сем'ях беднякоў-адзінаасобнікаў.

Лічачы, што асноўнай прычынай спазьненьня к пачатку навучальнага году ў школу па групах вучняў-сялян зьяўляецца затрыманьне іх на рабоце па гаспадарцы, і дадаючы сюды адзначаную вышэй колькасьць дзён ненаведваньня школы з прычыны занятасьці па хатняй гаспадарцы, страта школьнага часу з прычыны занятасьці па сельскай гаспадарцы дасягае вельмі вялікіх разьмераў:

| | |
|---|---|
| Дзеці сялян-беднякоў | 26,3 дня |
| „ „ серадкякоў | 23,5 „ |
| „ „ абкладз. інд. с.-г. падаткам | 20,0 „ |
| „ „ колгасьнікаў | 22,6 „ |

Гэтыя лічбы настойліва патрабуюць сконцэнтраваньня ўвагі і настаўніцтва і ўсяе грамадзкасьці вёскі на пытаньні барацьбы з гэтым балючым зьявішчам. Толькі ўпартая і шырокая выхаваўчая работа сярод бацькоў, толькі меры грамадзкага ўзьдзеяньня на іх змогуць даць патрэбны эфэкт у гэтых адносінах. Але-ж да гэтага трэба прыступіць зараз-жа, бо кожны год мы маем усё новыя і новыя контынгенты вясковых вучняў, якія не пасьпяваюць ахапіць школьнае програмы ды і ня могуць гэтага зрабіць, бо пачынаюць наведваньне школы з вялікім спазьненьнем і спыняюць яго да сканчэньня навучальнага году.

Па меры пашырэньня сеткі колгасаў, па меры ўсё большага і большага ахопу колгасамі сялянскіх двароў, удзельная вага спазьненьняў у школу і спыненьне заняткаў да часу сканчэньня іх будзе зьмяншацца: дзяцей колгасьнікаў ня будзе затрымліваць сельская гаспадарка.

## VIII

У старыя часы адсутнасьць вопраткі і абутку была аднэй з галоўнейшых прычын ненаведваньня школы дзяцьмі гарадзкой і вясковай беднаты. З першых гадоў будаўніцтва савецкай школы ўрадам завастралася пытаньне на запесьпячэньні гэтых контынгентаў вучняў неабходнай вопраткай і абуткам.

Паводле вынікаў абсьледваньня, мы павінны адзначыць, што ў забесьпячэньні вопраткай і абуткам мы маем вялікія дасягненьні. Удзельная вага пропускаў з прычыны адсутнасьці вопраткі і абутку складае ва ўсёй колькасьці прапушчаных дзён па школах г. Віцебску 1,7 проц., па школах г. Полацку—4,9 проц., па вясковых школах Віцебшчыны—6,5 проц. і па вясковых школах былой Полацкай акругі—3,9 проц. Адносна Полаччыны трэба агаварыцца, што, бязумоўна, мае месца недавучот з пры-

чыны ня зусім уважлівай рэгістрацыі ў вясковых школах былой Полацкай акругі.

Соцыяльныя групы вучняў, якія не наведвалі заняткаў у школе з прычыны адсутнасьці вопраткі і абутку у адносінах усіх прапускаўшых з гэтае прычыны выяўляюцца ў наступным выглядзе:

| Соцыяльныя групы вучняў | % да агульнай колькасьці вучняў | У сярэднім 1 вучнем прапушчана дзён з прычыны адсутнасьці вопрат. і абут. |
|---|---|---|
| Рабочыя | 10,0 | 3,8 |
| „ кваліфікаваныя | 4,0 | 3,7 |
| „ некваліфікаваныя | 1,9 | 1,5 |
| Батрак | 0,9 | 7,0 |
| Сяляне-калгаснікі | 9,2 | 3,7 |
| „ беднякі | 32,8 | 4,4 |
| „ серадднякі | 37,2 | 5,2 |
| „ абкладз. с.-г. падаткам індывідуальна | 0,3 | 1,5 |
| Саматужнікі | 1,6 | 2,3 |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і іншыя | 2,1 | 4,7 |
| Разам | 100,0 | 3,5 |

У справе забесьпячэньня вопраткай і абуткам вучні-дзеці рабочых, служачых, саматужнікаў і сялян-колгасьнікаў знаходзіліся ў лепшых умовах, чым дзеці сялян адзінаасобнікаў, бо сярэдні разьмер пропуску вучнямі першых з пералічаных груп менш чатырох дзён у працягу ўсяго году. Найбольш працяжны пропуск з гэтае прычыны дае група дзяцей батракоў.

Усе паказаныя вышэй лічбы сьведчаць аб тым, што яшчэ шмат чаго трэба зрабіць, каб зусім ліквідаваць пропускі школьных заняткаў з прычыны адсутнасьці вопраткі і абутку. Трэба сачыць, каб гаспадарчыя організацыі больш уважліва падыходзілі да пытаньня школьнага забесьпячэньня, трэба ўзмацніць нагляд грамадзкасьці за разьмеркаваньнем нашых фондаў абутку і вопраткі паміж дзецьмі рабочых і гарадзкой беднаты ў гарадох, бядняцтва і колгасьнікаў— у вёсках.

Не апошняе месца сярод прычын, што перашкаджаюць рэгулярнаму наведваньню вучнямі школы, займае дрэннае надвор'е. Часам вялікія маразы і завірухі ўзімку, ліўні з вятрамі ўвосень прымушаюць вучняў прапускаць заняткі. Удзельная вага вучня-дзён, якія былі прапушчаны з прычыны **дрэннага надвор'я**, па гарадзкіх школах значна меншая, чым па вясковых. Так:

| Па школах | | % вучня-дзён, якія былі прапушчаны з прычыны дрэннага надвор'я: Хлопцамі | Дзяўчатамі | Усімі |
|---|---|---|---|---|
| Гарадзкіх: | г. Віцебску | 0,8 | 0,9 | 0,9 |
| | „ Полацку | 2,3 | 2,5 | 2,4 |
| Вясковых: | былой Віцебскай акругі | 3,1 | 3,1 | 3,1 |
| | былой Полацкай акругі | 2,7 | 2,4 | 2,6 |

Процант пропускаў па школах г. Полацку вышэйшы, чым па г. Віцебску з тае прычыны, што ў Полацку вучыцца многа дзяцей, якія жывуць за горадам. Меншы проц. па вясковых школах Полаччыны супроць школ былой Віцебскай акругі зьявіўся ў выніку недастатковай дакладнасьці ў рэгістрацыі прычын пропускаў.

З прычыны дрэннага надвор'я дзяўчаты больш прапускаюць школьныя заняткі, чым хлопцы. У сярэднім кожны вучань з прапускаўшых заняткі з прычыны дрэннага надвор'я не наведваў у год школы ў працягу каля трох дзён (2,7). Найбольшую колькасьць прапушчаных з гэтай прычыны дзён даюць дзеці служачых (у сярэднім 3,3 дня), найменшую—дзеці саматужнікаў (1,4).

Такім чынам, адносная велічыня пропускаў школьных заняткаў з прычыны дрэннага надвор'я не вялікая, аднак гэта амаль што цалкам зьвязана з пытаньнем забесьпячэньня вучняў вопраткай і абуткам. Вырашэньне гэтага апошняга пытаньня аднначасова вырашае амаль што цалкам пытаньне аб пропусках з прычыны дрэннага надвор'я.

## IX

Заслугоўваюць асаблівае ўвагі пропускі вучнямі заняткаў у сувязі з сьвяткаваньнем імі мясцовых рэлігійных сьвят. Трэба адзначыць, што сярод вучняў гарадзкіх школ г. Віцебску, дзе рабочая

праслойка сярод вучняў досыць моцная, ня было зарэгістравана ніводнага выпадку ненаведваньня школы з прычыны рэлігійных сьвят. Сярод гарадзкіх вучняў полацкіх школ гэтыя зьявішчы былі зафіксаваны, аднак гэтыя школы далі значна меншы процант прапушчаных дзён па адзначанай прычыне, чым вясковыя школы. Па вясковых школах былой Полацкай акругі процант вучнядзён, прапушчаных з прычыны сьвяткаваньня мясцовых рэлігійных сьвят, даходзіць да 2.

Вучні, што прапускалі школьныя заняткі ў дні рэлігійных сьвят, у адносінах да ўсіх абсьледваных складалі 9,3%. У сярэднім кожным з прапускаўшых з гэтае прычыны школу было прапушчана 2,5 школьных дня.

Социяльны стан прапускаўшых заняткі з гэтай прычыны выяўляецца ў наступным выглядзе:

| Соцыяльныя групы вучняў | % вучняў, якія прапускалі заняткі з прычыны рэліг. сьвят | % школьных дзён, прапушчаных з гэтае прычыны |
|---|---|---|
| Рабочыя | 2,6 | 2,1 |
| Служачыя кваліфікаваныя | 0,3 | 0,3 |
| Служачыя некваліфікаваныя | 0,3 | 0,1 |
| Батракі | 1,0 | 0,7 |
| Сяляне-колгасьнікі | 1,9 | 1,5 |
| „ бednякі | 29,8 | 25,7 |
| „ серадНякі | 60,0 | 61,3 |
| „ абкл. інд. с.-г. падаткам | 1,2 | 5,2 |
| Саматужнікі | 0,3 | 0,1 |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і інш. | 2,6 | 3,0 |

Пропуск заняткаў з прычыны сьвяткаваньня мясцовых рэлігійных сьвят вельмі значны ў сялянскіх групах: каля 91 проц. усіх вучняў, якія прапускалі школьныя заняткі з гэтае прычыны. Дзеці заможных сялян даюць вялікую лічбу прапушчаных імі дзён у часы рэлігійных сьвят: у сярэднім на аднаго вучня прыпадае 10 дзён у год, што перавышае сярэднюю лічбу пропускаў з гэтае прычыны ўсімі вучнямі ў чатыры разы (2,5 дзён).

Пры параўнаньні адносных разьмераў узроснага складу вучняў абсьледваных намі школ з разьмерамі ўзросных груп вучняў, якія не наведвалі школы ў дні рэлігійных сьвят, мы знаходзім наступнае:

| Узросныя групы | Проц. вучняў: У абсьледваных школах | Проц. вучняў: Не наведвалі школы ў дні рэлігійн. сьвят |
|---|---|---|
| Да 8 год | 1,5 | — |
| 8 „ | 10,2 | 14,6 |
| 9 „ | 10,7 | 17,5 |
| 10 „ | 11,8 | 17,3 |
| 11 „ | 11,1 | 18,1 |
| 12 „ | 10,3 | 14,6 |
| 13 „ | 9,1 | 12,5 |
| 14 „ | 9,2 | 5,4 |
| 15 „ | 9,2 | 3,6 |
| 16 „ | 8,0 | 0,8 |
| 17 „ | 5,4 | — |
| 18 і ст. | 3,5 | 0,7 |
| Разам | 100,0 | 100,0 |

Вучні малодшых узростаў, да 13 год уключна, даюць адносна многа пропускаў у дні рэлігійных сьвят. Пачынаючы з 14 год, уплыў гэтае прычыны на ненаведваньне школы зьмяншаецца. Найбольш вялікі процант прапускаўшых прыпадае на 9 і 10-гадовы ўзрост.

Цікава адзначыць сувязь разьмераў ненаведваньня школы вучнямі з прычыны сьвяткаваньня рэлігійных сьвят з пісьменнасьцю бацькоў. У сярэднім у год кожны вучань з ненаведваўшых школу з гэтае прычыны прапусьціў у семьях, дзе

| | |
|---|---|
| бацькі пісьменныя | 2,3 дня |
| пісьменны толькі бацька | 2,4 „ |
| пісьменная толькі матка | 3,5 „ |
| бацькі няпісьменныя | 2,5 „ |
| з вучняў, якія бацькоў ня маюць | 2,6 „ |

Гэтыя лічбы, узятыя толькі адносна вучняў першага концэнтру, кажуць пра ўплыў, які мае пісьменнасьць бацькоў на наведваньне школы вучнем у дні мясцовых рэлігійных сьвят.

Усё адзначанае вышэй прымушае констатаваць, што, ня гледзячы на шэраг, дасягненьняў на антырэлігійным фронце, шмат нашых школ, асабліва вясковых

яшчэ далёка ня вырашылі задач, пастаўленых перад імі на гэтым вучастку культурнай работы. Настаўніцтва, як відаць, яшчэ і да гэтага часу не заўсёды зразумела выключна вялікую важнасьць гэтага пытаньня.

Тутака мы маем падвойнае зло: сьвяткаваньне рэлігійных сьвят ня толькі атручвае вучня забабоннасьцю, але і адмоўна адбіваецца на пасьпяховасьці яго ў школе.

Выпадкі нічым неапраўданых пропускаў школьных заняткаў—прагулы—былі выяўлены ва ўсіх абсьледваных школах, як гарадзкіх, так і вясковых. Ненаведваньне заняткаў з прычыны прагулаў сярод вучняў вясковых школ значна перавышае колькасьць іх па гарадзкіх школах.

Прагулы наглядаліся больш сярод хлопцаў, чым сярод дзяўчат. Так, у полацкіх гарадзкіх школах прагулы складалі сярод хлопцаў 2 проц. усіх прапушчаных школьных дзён, а сярод дзяўчат—толькі 1,2 проц.; па вясковых школах Віцебшчыны хлопцамі прапушчана з прычыны прагулаў 7,9 проц. усіх ненаведваных школьных дзён, а дзяўчатамі—3,8 проц.

Прагулы мелі 18,4 проц. усіх вучняў, якія наогул прапускалі заняткі ў школах. Па паасобных соцыяльных групах вучняў усе прагулы разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| Соцыяльныя групы вучняў | % вучняў, у якіх былі прагулы | % дзён, якія былі прапушчаны з прычыны прагулу | У сярэднім на вучня было прагулаў-дзён |
|---|---|---|---|
| Рабочыя | 10,3 | 8,7 | 4,5 |
| Служачыя кваліфікаваныя | 5,3 | 2,5 | 2,5 |
| Служачыя некваліфікаваныя | 2.5 | 2,0 | 4,2 |
| Батракі | 0,7 | 1,3 | 1,0 |
| Сяляне-колгасьнікі | 6.2 | 9.0 | 7,8 |
| „ беднякі | 32,6 | 35,6 | 5.9 |
| „ сераднякі | 39.9 | 40.0 | 5,4 |
| Саматужнікі | 0,7 | 0,2 | 2,0 |
| Утрыманцы, пэнсіянэры і іншыя | 1,8 | 0,7 | 1,9 |
| Разам па ўсіх групах | 100,0 | 100,0 | 5.4 |

З усіх вучняў I концэнтру 19,8 проц. мелі прагулы, сярод жа вучняў II концэнтру прагулы мелі 15,5 проц.

Калі мы падзелім усіх вучняў, якія мелі ў мінулым годзе прагулы, на групы па пісьменнасьці бацькоў, дык знойдзем наступнае:

| Групы па пісьменнасьці бацькоў | Проц. вучняў, якія рабілі прагулы у дносінах да агульнага ліку вучняў адпаведн. групы | | У сярэднім адным вучнем прагулена школьных дзён | |
|---|---|---|---|---|
| | У I концэнтры | У II концэнтры | У I концэнтры | У II концэнтры |
| Бацькі пісьменныя | 12,7 | 13.9 | 4,5 | 4,1 |
| Пісьменны толькі бацька | 23,6 | 18,1 | 5,7 | 9,1 |
| Пісьменная толькі матка | 20,6 | 7,1 | 2,6 | 2,0 |
| Бацькі няпісьменныя | 20,0 | 18,0 | 5,0 | 6,8 |
| Бацькоў няма | 8,3 | 11,1 | 7,0 | 3,0 |

Па ўзросту вучняў прагулы характарызуюцца такім чынам:

| Узросныя групы | Проц. вучняў ва ўсіх абсьледваных школах | Проц. вучняў, у якіх былі прагулы |
|---|---|---|
| Да 8 год | 1,5 | 0,1 |
| 8 „ | 10,2 | 9,9 |
| 9 „ | 10,7 | 14,8 |
| 10 „ | 11,8 | 12,3 |
| 11 „ | 11,1 | 7,2 |
| 12 „ | 10,3 | 11,0 |
| 13 „ | 9,1 | 6.3 |
| 14 „ | 9,2 | 10,0 |
| 15 „ | 9,2 | 11.9 |
| 16 „ | 8,0 | 8.9 |
| 17 „ | 5,4 | 4,8 |
| 18 „ і стар. | 3,5 | 2,8 |
| Разам | 100,0 | 100,0 |

З гэтага мы бачым, што вучні 9, 10, 14 і 15 год даюць асноўную масу прагульшчыкаў, і з іх дзевяцігадовыя займаюць першае месца.

У справе зьнішчэньня пропускаў школьных заняткаў бяз усякай прычыны, у справе зьнішчэньня прагулаў вучняў першае слова належыць самой школе—настаўніцтву. Толькі сталай выхаваўчай работай сярод вучняў можна зьнішчыць прагулы. Побач з гэтым трэба ўзварушыць і грамадзкасьць, каб перамагчы

пасыўныя адносіны бацькоў да наведваньня дзяцьмі школы, бо нам вядомы не адзіночныя выпадкі, калі бацькі зусім абыяк адносяцца да прагулаў сваіх дзяцей.

X

Апрача пералічаных вышэй прычын ненаведваньня вучнямі школы, абсьледваньне адзначала яшчэ пропускі заняткаў з прычыны адрыву на грамадзкую працу і шэрагу рознастайных прычын, аб'яднаных у аднэй групе „іншых".

Грамадзкая праца вучня, як прычына ненаведваньня ім школы, займае адносна вельмі невялікую ўдзельную вагу ва ўсёй колькасьці прапушчаных за год вучня-дзён: па гарадзкіх школах г. Віцебску—1,3 проц., па гарадзкіх школах г. Полацку—0,9 проц., па вясковых школах былой Віцебскай акр.—1,3 проц.

Па вясковых школах былой Полацкай акругі гэтых зьвестак наогул не атрымана, бо гэтыя выпадкі там, відаць, увайшлі ў групу пропускаў з іншых прычын.

Шырокае ўцягненьне гарадзкіх вучняў у грамадзкую работу з адрывам ад школьных заняткаў узімку мела месца у сувязі з удзелам вучняў старэйшых школьных груп у кампаніі па колектывізацыі сельскае гаспадаркі.

Ненаведваньне школы па розных прычынах, якія адносіліся пры рэгістрацыі да групы „іншых", нельга падрабязна разгледзець, бо настаўнікі, якія абсьледвалі школы, не дэталізавалі іх і нават у паасобных выпадках (як, напрыклад, большасьць вясковых школ Полаччыны) у гэтую групу ўключалі і пропускі па прычынах, якія намі былі разгледжаны вышэй.

У сувязі з політэхнізацыяй школы школьныя програмы значна ўскладняюцца, і прапрацоўка іх патрабуе павялічэньня работы і вучня і настаўніка. Працяжнасьць навучальнага году не павялічваецца, і такім чынам на прапрацоўку новай програмы мы маем той самы час. Калі ў мінулым годзе з прычыны страты школьнага часу (і па віне самой школы і па віне вучняў) мы і пры старой програме з вялікімі цяжкасьцямі ўкладаліся ў навучальны год, дык цяпер гэта будзе ўжо зусім немажліва.

Максымальнае скарыстаньне ўсяго рабочага часу школы павінна стаць цяпер асноўнай нашай задачай, і на барацьбу з пропускамі школьных заняткаў вучнямі павінны, урэшце, зьвярнуць асаблівую увагу настаўнікі установ соцвыху, прыцягваючы і організуючы вакол гэтай справы ўсю грамадзкасьць.

Нельга забывацца, што ненаведваньне школ вучнямі—моцны тормоз у справе пасьпяховага выкананьня пляну ўсеагульнага навучаньня і політэхнізацыі нашае школы.

---

Д-р М. М. Слуцкая

# Малалетнія праванарушыцелі і аналіз іх трыманьня

*(Інстытут соцыяльнага перавыхаваньня Наркомасьветы БССР)*

З вялізнага матар'ялу, які быў пад маім наглядам за час мае працы ў комісіі па справах няпоўналетніх праванарушыцеляў і загадваньня псыхолёгічным габінэтам інстытуту соцыяльнага перавыхаваньня (з 1921 да 1925 г.), 104 дзяцей правапарушыцеляў былі дасьледваны мною з клінічнага і экспэрымэнтальна-псыхолёгічнага бакоў. Мэта гэтай працы—аналіз трыманьня і азначэньне тыпаў праванарушыцеляў на падставе матар'ялу, які аб іх ёсьць.

Па ўзростах гэта група дзяцей падзяляецца наступным чынам (дзяўчаты асобна не апісваюцца, бо яны бывалі выпадкова з прычыны непрыстасаванасьці інстытуту да іх утрыманьня):

| 7 г. | 8 г. | 9 г. | 10 г. | 11 г. | 12 г. | 13 г. | 14 г. | 15 г. | 16 г |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | — | 1 | 3 | 10 | 13 | 23 | 20 | 23 | 6 |

г. з. да 11 год усяго 6, з 11 да 14—46,

з 14—52; пераважныя ўзросты—гэта 13 14 і 15 год.

Паводле нацыянальнасьці, соцыяльнага стану, праванарушэньняў, колькасьці учынкаў, сямейнага стану і пісьменнасьці яны падзяляюцца наступным чынам:

| Узрост | | Нацыянальнасьць | | | | Пісьменных | Сямейн. стан | | | | Сацыяльны стан | | | | | | Род праванарушэньня | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Да 14 год | Пасьля 14 г. | Рускія | Яўрэі | Палякі | Інш. нац. | | Сіраты | Паўсіраты | Маюць бац. | Невядомы сям. стан | Дзяц. сялян | Чорнараб. | Саматужн. | Служачых | Гандляроў | Бяз пэўных заняткаў | Пакражы | Забойствы | Жарты, хуліг. і недысцыплін. | Бяспрытульн., бездакумэнтн., бадзяньне | Згвалтаван. | Падлогі і інш. | З іх рэцыдыв. |
| 51 | 53 | 71 | 32 | 7 | 5 | 80 | 58 | | | 3 | 22 | 9 | 36 | 14 | 4 | 19 | 66 | 3 | 13 | 14 | 1 | 7 | 31 |
| У процантах | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| 49 | 5 | 68,3 | 30,7 | 6,7 | 4,8 | 76,9 | 55,8 | 23,8 | 21,2 | 2,9 | 21,2 | 8,7 | 34,6 | 13,5 | 3,8 | 18,2 | 63,5 | 2,9 | 12,5 | 13,5 | 1,0 | 6,7 | 29,9 |

З гэтай колькасьці дзяцей 20 зьяўляюцца бяспрытульнымі адзін-два гады, 21—ад трох да пяці год, 13—ад шасьці да восьмі год, і 6—больш за 10 год, г. зн., бяспрытульныя з малых год.

У час соматычнага досьледу выяўлена: зьніжанае харчаваньне з выразным малакроўем у 42 выпадках. У астатніх адзначана харчаваньне сярэдняе і толькі ў паасобных выпадках добрае. З боку унутраных органаў: у 1 выпадку—сухоты лёгкіх, 3 выпадках—катар вярхушак, 1—хвароба сэрдца, 3—хронічны бронхіт, 8—паслабленае дыханьне лёгкіх, 4—глухія тоны сэрца і ў 6 выпадках—паслабленае дыханьне і адначасова глухія тоны сэрца, г. зн., усяго тых або іншых зьмен унутраных органаў адзначана у 25 выпадках (25 проц.).

Астатнія дзеці асаблівых адхіленьняў ад нормы ня мелі. Гэтыя вынікі прыблізна супадаюць з вынікамі досьледаў нормальных школьнікаў (паводле матар'ялаў антропомэтрычнага габінэту ЦДД). Што да антропомэтрычных вымераў, дык на іх падрабязна спыняцца няма патрэбы з прычыны беднасьці нашага матар'ялу, распыленасьці яго па ўзростах і адсутнасьці дакладных узростаў дасьледваных дзяцей. У агульных рысах магчыма адзначыць, што рост і акружына галавы не даюць рэзкага разыходжаньня з гэткімі данымі ў нашых школьнікаў. Акружына грудзей амаль заўсёды большая ў дасьледваных праванарушыцеляў, а дынамо-мэтрычныя вымеры мы ня мелі мажлівасьці праверыць з гэткімі ў нормальных дзяцей.

Дысгенэтычныя адзнакі (высокае цьвёрдае паднябеньне, прырослыя мочкі вушэй, няправільны прыкус і г. д.) адзначаны ў 25 выпадках, іншы раз па дзьве-тры адзнакі ў аднаго і таго-ж суб'екта.

Нэўролёгічныя сымптомы выяўлены толькі ў 15 выпадках. Часьцей за ўсё гэта—падвышэньне сухажыльных рэфлексаў, чырвоны дэрмографізм і зьніжэньне або падвышэньне гарлавога рэфлексу; у двух выпадках было зьніжэньне чуласьці ад болі і ў адным—касавокасьць. Органічнага паражэньня цэнтральнай нэрвовай сыстэмы з ачаговымі сымптомамі ў нашым матар'яле ня было выяўлена ніводнага разу.

Усе дзеці былі дасьледваны з экспэрымэнтальна-псыхолёгічнага, а таксама і псыхіятрычнага бакоў. Паводле мэтоду Бінэ-Сымона, было дасьледвана 75 дзяцей. З іх 41 далі разумовы ўзровень, адпаведны ўзросту (трэба толькі адзначыць, што ўзрост паказваўся дзяцьмі, а не докумэнтальна). Трынаццаць далі зьніжанную норму, г. зн. адсталасьць ад аднаго да двух год, што зусім можа быць школьнай адсталасьцю, 9 далі адсталасьць паміж 2-3 гадамі, што можа быць ужо лёгкай і сярэдняй разумовай адсталасьцю, 7 далі адсталасьць на 3 гады і больш—бязумоўна разумовая адсталасьць і на нашым матар'яле супала з клінічным дыягнозам „дэбільнасьці". Пяць дзяцей далі па Бінэ-Сымону разумовы ўзровень, вышэйшы ў адпаведнасьці з сваім ўзростам. Паводле кароткага

мэтоду профэсара Росолімо, былі дасьледваны 59 дзяцей, і разумовая адсталасьць адзначана ў 7 выпадках. Паводле профілю проф. Росолімо дасьледвана 20 дзяцей (старэйшыя ўзросты), пры чым 12 далі нормальную вышыню профілю з перавагай тыпу амнэстычнага, г. зн., з параўнаўчым западаньнем працэсу запамінаньня, 8 чалавек далі нізкі профіль з перавагай тыпу гіпотонічнага, 40 дзяцей былі дасьледваны паводле мэтоду Бэрнштэйна і 24—іншымі мэтодамі. Такім чынам, кожны быў дасьледваны 2 і больш мэтодамі.

Разумовая недастатковасьць нашых дзяцей роўна 15-20 проц., уключаючы сюды і цяжкія выпадкі дэбільнасьці. Вынікі нашых досьледаў аб разумовым разьвіцьці дзяцей праванарушыцеляў рэзка разыходзяцца з гэткімі д-ра Азярэцкага, які прыводзіць 60 проц. адсталасьці па Бінэ-Сымону і толькі 7 проц. нормы.

Аднак, д-р Азярэцкі дадае, што агульная орыентыроўка і пасьпяховасьць у школе і ў майстэрнях не пацьвярджаюць гэтай шырокай адсталасьці. Колькасьць жа олігофрэнаў ён вызначае ў 20 проц., што, магчыма, і адпавядае сапраўднай наяўнасьці разумова адсталых.

Патолёгічная спадчыннасьць адзначана сярод нашых дзяцей у 28 выпадках. Пераважае алькогольная; у паасобных выпадках душэўнае расстройства, сухоты і сыфіліс.. У сапраўднасьці гэты процант патолёгічнай спадчыннасьці значна большы.

З перанесеных хвароб у нашых дзяцей магчыма адзначыць наступныя: розныя тыфусы—у 17 выпадках, водра—у 20 і іншых занядужаньняў—14, усяго 135 занядужаньняў, пры чым у 16 выпадках прыпадае па 3 занядужаньні на кожнага, у 21 выпадку—па два, а ў 5 выпадках—па 4 і больш. Часьцей сустракаецца комбінацыя тыфусу з пнэўмоніяй. Фактычна гэты процант занядужаньня значна вышэйшы, бо, зусім зразумела, тут не паказаны хваробы ў раньнім дзяцінстве.

Цяпер пяройдзем да аналізу трыманьня дасьледваных намі дзяцей і да клінічнай дыягностыкі.

Праванарушыцель, зьяўляючыся ўпяршыню ва ўстанову, адрозьніваецца іншы раз адсутнасьцю самых элемэнтарных навыкаў і звычак да нормальнай таварыскасьці (ня ўмее нават іншы раз чыста есьці), неахайнасьцю, лёгкай узбуджанасьцю, недысцыплінаванасьцю, сярдзітасьцю і агрэсыўнасьцю, замкнёнасьцю і недаступнасьцю. Цяжка бывае прывучаць яго да парадку і працоўнага рэжыму, і часта ён спрабуе ўцячы. Нарэшце, ззаду ўсіх гэтых рысаў трыманьня стаіць бяспрытульнасьць, бадзяньне і праванарушэньне, г. зн., конфліктнасьць з асяродзьдзем і непрыстасаванасьць да навакольных умоў. Інакш кажучы, сума ўсіх рэакцый праванарушыцеля сьведчыць аб бясспрэчнай перавазе ў яго нэрвовай сыстэме процэсаў узбуджэньня і значнай недастатковасьці тормазных процэсаў.

Але ці магчыма тут гаварыць, у простым сэнсе гэтага слова, аб недастатковай прыстасаванасьці гэтых дзяцей да навакольнага асяродзьдзя? Адсутнасьць своечасовай соцыяльнай дапамогі, адсутнасьць адпаведных і ў дастатковай колькасьці установаў у значнай меры садзейнічае гэтым конфліктам і іншы раз злачыннасьцям. Шырокая вуліца захапляе дзіцячы натоўп, выкінуты за дзьверы хат. Дзіцячы організм, які расьце і формуецца, ня можа і не павінен яшчэ быць прыстасаваным да жыцьця ў самы цяжкі, мажліва, для яго момант. У гэтым сэнсе дзяцей-праванарушыцеляў у большай меры, чымся дарослых, магчыма таксама назваць соцыяпатамі, як прапануе проф. Ленц. „З тае прычыны, што ў большасьці выпадкаў,—піша проф. Ленц,—дэфэкты псыхопатаў створаны соцыяльнымі ўмовамі і пры новай соцыяльнай абстаноўцы могуць быць зьнішчаны, мы лічым больш правільным назваць іх соцыяпатамі (проф. Ленц „Крымінальныя псыхопаты“, 1927 г.).

Ёсьць вялізарная літаратура аб прычынах дзіцячай злачыннасьці і аб тыпах праванарушыцеляў. Значэньне бяспрытульнасьці, у самым шырокім сэнсе слова (сіроцтва, крайняя незабясьпечанасьць, занядбанасьць, уплыў вуліцы і рынку і г. д.), г. зн., значэньне соцыяльна-экономічнага фактару ў пахо-

джаньні дзіцячых праванарушэньняў настолькі бясспрэчнае і слушнае, што аб гэтым ня трэба і гаварыць. Лічбы красамоўна самі за сябе гавораць. Вялікі процант сірот і напаўсірот сярод праванарушыцеляў (да 75 проц.), перавага маёмасных правапарушэньняў (ад 60 да 80 проц.), паходжаньне дзяцей пераважна з незабясьпечанай часткі грамады, рост правапарушэньняў у гады стыхійных і народных бядот, залежнасьць роду праванарушэньня іншы раз ад спэцыфічных умоў краю (пераход мяжы, контрабанда, бандытызм у прымежнай паласе)— усё гэта не патрабуе асаблівага тлумачэньня і доваду. Вялікі, вельмі каштоўны матар'ял аб дзіцячым праванарушэньні ў Расіі і ў эўропейскіх дзяржавах ёсьць у кнігах Лявіціна(„Беспрытульныя", 1925 г.) і Куфаева („Маладыя праванарушыцелі", 1924 г.).

Аднак, соцыяльны фактар не зьяўляецца адзіным, які выклікае дзіцячую злачыннасьць. Вялізная армія беспрытульных выкідвае толькі пэўнае ядро дзяцей, якія ўступаюць у злачынны конфлікт з асяродзьдзем. Цяжкія рэцыдывістыя часта выходзяць з нормальнай сям'і і школы, і самыя лепшыя ўмовы адпаведнай мэдыка-выхаваўчай установы не заўсёды даюць добрае аздараўленьне гэтых тыпаў. Інакш кажучы, правапарушэньне не заўсёды зьяўляецца толькі рэактыўным станам галоднага і выкінутага дзіцяці, і крайняя патрэба яго не заўсёды зьяўляецца выключнай прычынай яго соцыяльнай конфліктнасьці і непрыстасаванасьці. Ступень соцыяльнага прыстасаваньня, г. зн., якасьць яго і нормальнасьць трыманьня дзіцяці забясьпечваюцца двума момантамі: 1) анатомічным і функцыянальным станам організму і, у прыватнасьці, мазгавой кары, з аднаго боку (момант біолёгічны) і 2) наяўнасьцю спрыяючых умоў (забясьпечанасьць, выхаваньне, навучаньне, прыклады і г. д.). Абодва гэтыя моманты важныя для ўтварэньня тыпу трыманьня асобы. Беспрытульнасьць, г. зн., холад, голад, безбароннасьць, адсутнасьць выхаваньня (г. зн. стварэньне ўмоўных сувязяй і тормозаў) зьяўляецца, зразумела, фактарам, які рэзка парушае правільнае трыманьне дзіцяці. Бесьперапыннае ўзбуджэньне харчовага і абароннага цэнтру дае цэлы шэраг патолёгічных рэакцый (пакражы, фальш, агрэсыўнасьць і г. д.), але, быць можа, зусім адэкватных для кожнага данага выпадку. „Біць заўсёды ахвотнікі знойдуцца"—гаворыць Пашка („Трое" Горкага). „Наш брат да шчэнту аграблены",—гаворыць ён у другім месцы. „Нас ніхто не пашкадуе і нам шкадаваць няма каго",—гаворыць Ільля. „Я нікога не хацеў душыць, мяне самога жыцьцё душыла",—панура заяўляе Ільля, які зрабіў цяжкае забойства і які жыў з думкай аб „чыстым жыцьці і кутку". Вось і ўся сутнасьць беспрытульнага дзяцінства і яго бязвыходнасьць у гэтых кароткіх словах таленавітага пісьменьніка.

Беспрытульнасьць, спыняючы процэс правільнага разьвіцьця дзіцяці, псуе яго шляхам кепскіх уплываў і пераключае яго рэакцыі на асоцыяльныя шляхі, але нярэдка лёгкасьць пераключэньня залежыць і ад стану цэнтральнай нэрвовай сыстэмы дзіцяці. Зробім спробу на нашым уласным матар'яле ўлічыць значэньне абодвух вышэйзазначаных момантаў у паходжаньні дзіцячых праванарушэньняў і адпаведна гэтаму вызначыць тыпы праванарушыцеляў.

Усіх дасьледваных дзяцей падзелім на дзьве групы, а менавіта: 1) дзеці нэрвова і душэўна хворыя і 2) дзеці з расстройствам трыманьня, але бяз пэўных занядужаньняў. У першай групе мы маем: 1 выпадак цыклёфрэніі, 3 выпадкі гістэрыі (з прыпадкамі), 2 выпадкі нэўрозу, 2 выпадкі падучкі, 3 выпадкі конституцыянальнай псыхопатыі (1 з іх цыклёід) і 11 выпадкаў олігофрэніі розных ступеняй, г. зн., усяго душэўных і нэрвовых занядужаньняў 22, альбо 22 проц. Мы маглі-б яшчэ дадаць вялікую колькасьць дзяцей нэўрастэнікаў, але яны разьмяркоўваюцца па другіх групах. Прыводжу некаторыя тыпы дзяцей, пры чым бяру выпадкі зусім пэўныя і спыняюся толькі на патолёгічных сымптомах.

Выпадак першы. Лазар А., 13 год, яўрэй. Мае 3 гады поўнага сіроцтва і жыве ў дзіцячым доме, у якім часта крадзе рэчы. Конституцыя пікнічная. Фізычна здаровы. Разумовая здольнасьць

вышэй нормы на два гады. Пэрыодычныя хістаньні настрою і трыманьня. Звычайнае трыманьне: ласкавы, сынтонічны, падпарадкуецца рэжыму, актыўны ў колектыве, любімы таварышамі, пасьпявае ў школе і ў майстэрні. Пэрыодычна прарабляе маніякальныя фазы гнеўнага характару: расстройства сну, зласьлівасьць, падвышэньне ініцыятывы з заўсёднымі конфліктамі з усімі, уцяканьні з інстытуту, пакражы, ілюзіі і галюцынацыі і паасобныя рэакцыі брэду: бачыў Леніна і Троцкага, гутарыў з братам, які жыве ў Амэрыцы. Працяжнасьць фазы—2-3 месяцы. Гэты час бадзяецца і прыводзіцца назад міліцыяй, потым ідзе фаза нормальнага трыманьня, якая цягнецца некалькі месяцаў. Дыягноз: цыклёфрэнія.

Выпадак другі. Хаім Л., 14 год, яўрэй, з гандлярскай сярэдняга дастатку сям'і, школьнік, злодзей-рэцыдывісты. Матка хварэе на мігрэнь. Хаім перанёс тры тыфусы і дзьве траўмы галавы. У 4 гады разьбіўся аб камень, у 10 год разьбіў галаву жалезам, пасьля чаго давялося накладваць швы. Заўсёды пакутуе ад галаўной болі. Констытуцыя пікнічная. Дысгенэтычныя адзнакі: вялікія вушныя ракавіны, мочкі вушэй прырасьлі, нізкі лоб, бровы зрасьлися, шырокія сківіцы. Вельмі глухія тоны сэрца каля вярхушкі і ўзбуджальны пульс у сувязі з мышачнай дзейнасьцю. Рэзка падвышаныя сухажыльныя рэфлексы, трывалы чырвоны дэрмографізм, падвышаная ўзбуджальнасьць вазомотораў і мышачны валік. Кепскі сон. Разумовая сфэра—норма Трыманьне: частае хістаньне настрою з перавагай прыгнечаньня Афэкты смутку, часты плач, іпохондрычныя скаргі, зьвязаныя пераважна з сэрцам, дражлівасьць і зьніжаная адпорнасьць усякім новым і рэзкім знадворным раздражэньням. Адсутнасьць ініцыятывы і мэтавых установак. Унушаем. Кепска звыкаецца з установай і часта імкнецца да хаты. Хваравіты нахіл да крадзяжу. Дыягноз: траўматычны нэўроз.

Выпадак трэці: Хоня Л., яўрэй, 10 год. Бяспрытульнасьць і поўнае сіроцтва ў працягу 3 год. Сьведка забойства бацькоў бандытамі. Маленькага росту, мае кволы склад цела. Голад прыгнаў яго з поўдня ў Беларусь (з партыяй дзяцей), няпісьменны. Уцякаў з прыёмніка, бадзяўся і жыў у разьніцы. Об'ектыўны досьлед: нэўроз сэрца, высокія сухажыльныя рэфлексы і гіпэрэстэзія. Школьная адсталасьць. Адсутнічаюць элемэнтарныя весткі і па тэстах дае сярэднюю адсталасьць. Трыманьне: хістаньні настрою, палегчаная ўзбуджальнасьць нэрвовай сыстэмы, выбухі гневу і злосьці. Пэрыодычна ласкавы і прыхільны. Даступны толькі вельмі мягкім і чулым адносінам. Рэжыму падпарадкуецца цяжка: лёгкія зрывы уцякацьні нахіл да бадзяньня. Частыя гістэрычныя прыпадкі: лёгкія сударгі, плач, крык і страхі. Прыпадкі ўзьнікаюць пры самых маленькіх няспрыяючых раздражэньнях. Дыягноз—гістэрыя.

Выпадак чацьвёрты. Роман Р., 15 год, беларус, селянін. З 4-х год поўнае сіроцтва. Выхаванец дзіцячых дамоў і вучань шостае клясы сямігодкі. Некалькі разоў крау у дзіцячым доме і ў краме (з узломам) пры ўдзеле другіх няпоўналетніх. Пры об'ектыўным досьледзе: акружына галавы—52 см. (памер паменшаны), густыя бровы, якія блізка зышліся і навісьлі, глыбокія маленькія вочы, недаверлівы і халодны погляд. Пагардлівая міміка. У разумовых адносінах формальных недахопаў няма. Профіль проф. Росолімо дае Р || 8+8+6.2 +9—тып амнэстычны. Паводле Бінэ-Сымона—норма. Але пры гэтым заўважаецца беднасьць думак, абмежаваны разумовы кругагляд і ўвага, якая хутка зморваецца. Усё гэта маскуецца нахілам да рэзонэрства і напышлівасьці ў гутарцы. Так, у асоцыяцыйным экспэрымэнце ён дае часта моўныя рэакцыі паводле надворных адзнак і надэкватных рэакцый, пры чым апошнія маюць напышлівы і штучны характар, як напрыклад: на слова „праца" адказвае „рэпродукцыя", на слова „неба"—„Чайкоўскі", на слова „лялька"—„макрофаг" і інш. Вольныя асоцыяцыі пачынае са слоў: „агрономія", астрономія", „фізыка", „эмбрыён" і г. д. Асноўныя рысы яго трыманьня: пераацэнка ўласнай асобы і крайні эгоцэнтрызм. Свае адносіны вызначае і эгрулюе згодна толькі сваіх уласных

патрэб. Рэжыму не падпарадкуецца зусім. „Што мне да ўсяго гэтага, я ўсёроўна тут ня буду, часта гаворыць ён і зусім ня прымае ўдзелу ў жыцьці колектыву дзяцей. На ўсё глядзіць пагардна. „Што за дзіўнае пытаньне“—яго часты адказ у час гутаркі. Разам з тым вельмі любіць, каб зьвярталі на яго ўвагу, любіць вызначацца сярод сваіх таварышоў, позіруе сваім трыманьнем, напышлівай і квяцістай гутаркай, сваёй зацікаўленасьцю літаратурай і музыкай. Заўсёды на вачох другіх нешта піша, іграе, любіць, каб яго пахвалілі. У другіх, асабліва ў старэйшых, паважае вясёлы характар і гумар. Іншы раз і сам пажартуе. Хоча стаць інжынэрам, але разам з тым мала працуе, ня сур‘ёзны. Роман Р.—тып складаны. Дыфэрэнцыйны дыягноз паміж шызоіднай псыхопатыяй і гістэрыяй. Вельмі цяжка паддаецца пэдагогічнаму ўплыву.

Выпадак пяты. Абраша С., 9 год, яўрэй, з нормальнай, зусім забясьпечанай рабочай сям‘і, вучань. Шмат разоў праходзіў комісію па справах няпоўналетніх праванарушыцеляў і інстытут. Сыстэматычныя пакражы грошай у розных банках. Вельмі прывабны на выгляд. Прыходзіць у банк, зацікаўлівае касіра, пачынаючы з ім гутарку, стараецца ўкрасьці. Фізычна здаровы, нэўролёгічных патолёгічных сымптомаў няма, разумовая сфэра—норма (сярэдняя). Дома і ў інстытуце тыповыя прыпадкі падучай хваробы. Дыягноз: гэнуінная эпілепсія.

Катамнэз. Цяпер працуе ў шавецкай майстэрні свайго бацькі, школу кінуў (цяжка вучыцца), красьці пакінуў. Прыпадкі працягваюцца. Быў нядаўна ў мяне на прыёме.

Выпадак 6. Амельян Х., 10-11 гадоў, беларус. Нарадзіўся байструком. Бацька—шавец. Патолёгічная спадчыннасьць: бацька алькоголік, а таксама і дзядзька па матчынай лініі; сама матка фізычна і псыхічна няпоўнацэнная (нявыразнае вымаўленьне, не адчувае і дэбільнасьць). Цяжкія ўмовы росту. Бяспрытульнасьць. Да 5 год жыў пры матцы („у чужых людзях“), дзе „білі і есьці не давалі“, а з пяці год жыў у дзіцячых дамох, таксама ў цяжкіх матар‘яльных ўмовах дзе і навучыўся красьці—„хлопцы навучылі“. Сам інфантыльнага і кволага складу з выразнымі дысгенэтычнымі адзнакамі. Разумовая сфэра—норма. Асноўныя рысы трыманьня: рэзкія, пэрыодычныя хістаньні настрою—ад некалькіх дзён да некалькіх тыдняў, падвышаная ўзбуджальнасьць, афэкты гневу і злобы. Хмуры і недаверлівы. Нахіл да ашуканства, хітрасьці, жорсткасьці і сыстэматычнага крадзяжу. Вельмі слаба паддаецца мэдыка-пэдолёгічнаму ўплыву. У добрыя хвіліны сам аб сабе са смуткам гаворыць; „усёроўна з мяне нічога ня выйдзе“.

Дыягноз: констытуцыянальная псыхопатыя (цыклёідная тыпу). Соц. прогноз цяжкі. Падлягае лячэньню і выхаваньню ў зачыненай лячэбнай установе, а не ў Інстытуце для праванарушыцеляў. За тры гады, што прабыў у інстытуце, ўсё-ж зьявілася некаторая стараннасьць ў працы.

Выпадак 7. Станіслаў Б., 15 год, селянін. Мае матку, няпісьменны, працуе на чужой гаспадарцы. Забіў старыка з мэтай грабяжу за пуд мукі. Об‘ектыўны досьлед: адсталасьць фізычнага разьвіцьця, паніжанае харчаваньне, акружына галавы менш нормы на два см., вялікія вушы, мочкі прырасьлі. Твар маскападобны, моторыка вялая і нязграбная. Сам вялы, пасыўны, нічым ня цікавіцца, але, пад уплывам таварышоў, прымае ўдзел у крадзяжы ў сьценах інстытуту. Разумовая сфэра: агульная орыентыроўка недастатковая, запас ведаў і ўяўленьня абмежаваны. Паводле Бінэ-Сымона ўзровень па ўзросту 10 год, г. зн., адсталасьць на 5 год, праўда, пры значным расьсеяньні тэстаў. Паводле другіх мэтодаў, западаньне ў асоцыяцыйных процэсах, кепскі сынтэз і аналіз. Кепскае ўяўленьне аб дазволеным і недазволеным: „красьці нельга таму, што зловяць і будзе дрэнна“. На зробленае забойства дае эмоцыянальную рэакцыю, але вельмі павярхоўную: „я ніколі аб гэтым ня думаю“. Агульная эмоцыянальная тупасьць. Дыягноз: олігофрэнія (форма—дэбільнасьць).

Выпадак 8. Уладзімер Г., 14 год, рускі, селянін. Формальная бяспрытульнасьць—адзін год, фактычная—значна большая. Уцякач вайны, малапісьменны. На вёсцы пасьвіў сьвіней. Сыстэматычны крадзеж. Пачаў красьці таму, што „есьці ня было чаго". Спадчыннасьць сухотная. Выразныя дысгенэтычныя адзнакі, высокія сухажыльныя рэфлексы і гіпэрэстэзія. Моторыка няспрытная, і бедная міміка. Экспэрымэнтальна-псыхолёгічны досьлед: кароткі Росолімо 17+10, паводле Бінэ-Сымона—адсталасьць на чатыры гады. Паводле другіх мэтодаў дае добрую памяць і параўнаўчае зьніжэньне асоцыяцыйных процэсаў. Аналіз і сынтэз здавальняючыя на конкрэтным і простым матар'яле і не ўдаецца на складаным і адцягненым. Сярод лічбовых опэрацый горш за ўсё ўдаецца дзяленьне. Моральна-прававыя разважаньні здавальняючыя (паводле анкеты). У асоцыяцыйным экспэрымэнце часта асоцыіруе паводле надворных адзнак. Увага вельмі няўстойлівая. Агульная орыентыроўка слабая. Трыманьне яго адрозьніваецца перш за ўсё крайняй узбуджальнасьцю і імпульсыйнасьцю. Кожнае жаданьне, якое ўзьнікае, у той жа час бяз усякага затрыманьня пераходзіць у дзеяньне. Процэсы ўзбуджэньня цалкам домінуюць у яго трыманьні. Лёгка паддаецца ўнушэньню. Апроч крадзяжу, заўважаюцца ашуканства і мана. Крадзеж яго мае выпадковы характар. Ён крадзе ўсё тое, што кепска ляжыць і пераважна праз „адчыненыя вокны і дзьверы". Ён нават у гэтай справе ня мае ініцыятывы і плянавасьці. Крадзе часта бяз усякай патрэбы і заўсёды няўдала, г. зн., пападаецца, але не бядуе, калі зловяць. Пераважаюць пры гэтым харчовыя інтарэсы: паесьці, пакурыць, выпіць і г. д. З гэткімі просьбамі заўсёды зьвяртаецца да ўсіх і, калі атрымлівае адмоўны адказ, гаворыць: „Вам шкода ці што?" Уладзімер Г. ні з кім не сябруе і да ўсяго адносіцца няпрыхільна. З інстытуту часта ўцякае і варочаецца назад пасьля няўдалай кражы. Няздольны да ўседлівай працы ў школе і ў майстэрні, хаця хоча быць краўцом.

Дыягноз: глыбока-разумовая адсталасьць, якая мяжуецца з дэбільнасьцю. Гіпотонік. Социяльны прогноз цяжкі. Загінуў ад соматычнага занядужаньня.

На гэтым я скончу агляд прадстаўнікоў першай групы. Усе яны хворыя на тое ці іншае нэрвовае або душэўнае занядужаньне. Але ці зьяўляецца праванарушэньне абавязковым компонэнтам гэтых клінічных форм? Зразумела, не. Праванарушэньне, не зьяўляючыся тут абавязковым і неадменным сымптомам, усё-ж паддаецца тлумачэньню, асабліва ў дзіцячым узросьце. Калі асоба дзіцяці яшчэ не сформавалася, калі тормазы яшчэ стала не ўмацаваліся, дык наймяншае паражэньне нэрвовай сыстэмы (псыхоз, нэўроз) перш за ўсё здымае гэтыя маладыя, яшчэ нямоцныя ўтварэньні мазгавой кары, г. зн. социяльныя тормазы або тое, што мы прызвычаіліся называць моральна-прававымі разуменьнямі. Асабліва часта мы знаходзім асоцыяльнае трыманьне ў дзяцей, якія перанесьлі пошасны энцэфаліт [1]).

На нашым матар'яле ня было такіх выпадкаў. Тое ж самае мы наглядаем таксама ў дарослых пры шмат якіх занядужаньнях. Так, разлад трыманьня ў прогрэсыўных паралітыкаў, у цыклёфрэнікаў і інш. пачынаецца якраз з асоцыяльных учынкаў і злачынстваў: растраты, фальшаваньня, сэксуальных праванарушэньняў і г. д. Што датычыцца оліґофрэніі, дык тут само сабою ўсё ясна. Недастатковае разьвіцьцё мазгавой кары зьяўляецца зусім самастойным фактарам недаразьвіцьця і слабасьці тормазных процэсаў і дыфэрэнцыровак. Калі мы да ўсяго гэтага яшчэ ўлічым факт бяспрытульнасьці, асаблівасьці дзіцячага ўзросту і, у прыватнасьні, пераходнага пэрыоду, дык гэтага зусім дастаткова для тлумачэньня сувязі асоцыяльнага іх трыманьня з тымі або іншымі хваравітымі зьявамі.

Астатнія 80 процантаў дзяцей разьмяркоўваюцца наступным чынам: каля 20 проц. складаюць гэтак званыя выпадковыя праванарушыцелі, якія нічым не

[1]) М. Слуцкая. Аморальнасьць пры псыхозах пасьля пошаснага энцэфаліту. „Современная психоневрология", 1926 г., № 5.

адхіляюцца ў сваім трыманьні ад нормы. Гэта—дзеці сям'і або бяспрытульныя, якія зрабілі адно якое-небудзь правапарушэньне пад уплывам патрэбы або якія выпадкова ўцягнуты таварышамі ці дарослымі. Праванарушэньні, якія робяцца імі,—гэта дробныя кражы, проста дзіцячыя жарты і неабдуманыя ўчынкі. Каяньне іх заўжды шчырае. Разумовае разьвіцьцё зусім дастатковае, і трыманьне іх у інстытуце правільнае.

У большасьці гэта разважныя, сымптомныя і актыўныя дзеці, якія адразу бяруць кіраўніцтва над дзіцячым колектывам, карыстаюцца аўторытэтам сярод дзяцей і службовага пэрсоналу. Сваім прыкладам яны падтрымліваюць нормальны тонус у інстытуце і добра самі выкарыстоўваюць для сябе ўсе яго магчымасьці. Яны вучацца, набываюць профэсіянальныя звычкі і часам пераходзяць у нормальныя дзіцячыя дамы, профшколы і іншыя ўстановы. У паасобных выпадках адзначаецца ў іх які-небудзь ухіл ў характары: індывідуалізм, нэгатывізм і інш.

Выпадак 9. Якаў А. 15 год. З нямецкіх колёністых, Самарскай губ. У 1921 годзе з прычыны голаду прыехаў у Менск разам з бацькамі для адпраўкі ў Амэрыку. Паездка не адбылася, і бацькі яго паўміралі. Ён пашоў служыць у вёску, дзе быў пастухом. Другі пастух угаварыў яго на кражу рэчаў з вышак (паліто, коўдра і іншыя рэчы). У кражы потым прызнаўся і быў дасланы ў комісію па справах няпоўналетніх, а затым у інстытут. Агульнае разьвіцьцё і трыманьне зусім нормальнае. Аб ім была пастанова мэдыка-пэдагогічнай конфэрэнцыі наступнага характару: „Выхаванец А. зусім здаровы, нормальны хлопчык, які зрабіў кражу пад уплывам абставін і таварышоў. У інстытуце выявіў глыбокую зацікаўленасьць да рамяства і адразу паступіў у шавецкую майстэрню. Разважлівы, дысцыплінаваны і любіць працу. Практычны склад розуму. За ім трэба наглядаць, але ў інстытуце доўга ня трымаць“. Згодна атрыманых вестак ён і зараз добра працуе ў саматужніка-шаўца.

Астатнія 55—60 проц. дзяцей складаюць яшчэ дзьве падгрупы гэтак званых сацыяльна-занядбаных і сацыяльна-скалечаных. Сярод іх мы знаходзім і разумова адсталых, але якія яшчэ не даходзяць да ступені олігофрэніі, і некаторыя разладзьдзі характару і трыманьня, якія не даходзяць да ступені пэўнага занядужаньня. Падзел на соцыяльна занядбаных і соцыяльна скалечаных, можа, крыху ўмоўны. Ён уласна выражае розныя ступені аднэй і тэй-жа зьявы. Пад соцыяльна занядбанасьцю мы маем на ўвазе доўгі ўплыў кепскіх і шкодных умоў асяродзьдзя на нэрвовую сыстэму дзіцяці або падлетка. Вынікам гэтага зьяўляецца школьная і профэсіянальная занядбанасьць, адсутнасьць нормальных жыцьцёвых звычак і паўторныя праванарушэньні (пераважаюць маёмасныя). Такія дзеці цяжка паддаюцца мэдыка-пэдолёгічнаму ўплыву, процэс перавыхаваньня іх ідзе марудна. Але ўсё-ж настойлівасьць пэдагогічнага складу, добра пастаўленая работа і правільны падыход да саміх дзяцей (гэта значыць уменьне ўзбудзіць да дзейнасьці тыя ці іншыя цэнтры і тым самым затормазіць другія, якія вельмі актыўныя) забясьпечваюць зусім добры канец і поўную прыстасаванасьць іх да жыцьця, нават найбольш цяжкіх з іх.

Соцыяльна скалечаныя-ж адрозьніваюцца больш глыбокім і трывалым разладам трыманьня. У іх мы знаходзім разбураючыя соцыяльныя моманты, іншы раз зусім спэцыфічныя, якія адыгралі ролю ў стварэньні іх характараў. Гэтыя шкодныя моманты часта трапляюць на паслабленую нэрвовую сыстэму, якая кепска супраціўляецца. У выніку: трывалыя зьмены трыманьня, глыбокая асоцыяльнасьць, вельмі цяжкая і часта немагчымая перавыхаваўчасьць. У харчовым, абарончым і іншы раз у палавым цэнтры ўтвараюцца моцныя ачагі падвышанай узбуджальнасьці. Гэта ўжо псыхопатычныя асобы, якія мяжуюць з душэўнахворымі, соцыяльна непрыстасаваныя. Гэта, зразумела, ужо крайнія тыпы гэтай катэгорыі, адносна якіх соцыяльны прогноз вельмі сур'ёзны. Але пераважаюць больш мяккія формы, якія таксама ахвотна паддаюцца некатораму ўплыву. Не заўсёды можна выявіць

дакладную мяжу гэтых дзьвюх форм (социяльна-занядбаных і социяльна-скалечаных), тым больш, што мы ніколі ня маем об'ектыўнага анамнэза і не заўсёды можам улічыць усю суму і працяжнасьць шкодных уплываў на дзіця і яго трыманьне да паступленьня пад наш нагляд. А апошні таксама не заўсёды бывае доўгім. Ва ўсякім разе гэта падгрупа социяльна скалечаных (на нашым матар'яле) невялікае—7-8 проц. і не зьяўляецца небясьпечнай і безнадзейнай у справе выхаваньня дзяцей праванарушыцеляў.

У гэтых жа групах мы можам вызначыць тры тыпы трыманьня, паводле характару процэсаў вышэйшай нэрвовай дзейнасьці: 1) тып ураўнаважаны, прыблізна 15 проц., рэакцыя іх адэкватная, своечасовая і даволі дакладна дыфэрэнцыяваная; моторыка ў іх добрая; выбухі рэакцый назіраюцца і ў іх, але толькі часамі; гэтыя дзеці зьяўляюцца і больш даступнымі выхаваўчаму ўплыву; 2) тып тормазны, таксама ня больш 15 проц.; гэтыя дзеці большай часткаю вялыя, няспрытныя, няжвавыя, часта малаздольныя і нават адсталыя, цяжка звыкаюцца з новымі ўмовамі, марудна засвойваюць навыкі жыцьцёвыя і вучэбныя; сярод іх часта нэгатывістыя, упартыя, замкнёныя, злосныя і з нахілам да імпульсыйных актаў; патрэбна многа работы, каб перамагчы іх супраціўленьне выхаваўчым уплывам; 3) тып узбуджальны; група найбольшая па ліку—30 проц.; частыя хістаньні настрою, няўстойлівая ўвага, лёгкая эмоцыянальная ўзбуджальнасьць (іншы раз афэкты), недысцыплінаванасьць, частая конфліктнасьць, малая ўседлівасьць у працы і ўцяканьні зьяўляюцца асноўнымі мотывамі іх трыманьня; у гэтых дзяцей мы сустракаем іншы раз і патолёгічныя рысы характару.

Гэтыя тры тыпы прадстаўлены, зразумела, толькі схэматычна. Тут магчымы пераходныя формы, а таксама і другія. У аснове падзелу гэтых тыпаў ляжыць толькі клінічны досьлед і нагляд.

Цяпер спынімся на некаторых прадстаўніках гэтых дзьвюх падгруп.

Выпадак 10. Х. Ш. 17 год. З дзесяці год поўнае сіроцтва і ўплыў вуліцы. Вучань талмуд-торы (яўрэйская рэлігійная навучальная ўстанова). Горкая дзяцінства ў сям'і няшчаснага местачковага шаўца. Вядомы злодзей, які пераважна краў з вышак, мае больш ста зарэгістраваных пакраж. Першы выхаванец інстытуту, калі ён быў яшчэ колектарам. Быў раней і ў колёніі для праванарушыцеляў, і часты госць комісій па справах няпоўналетніх.

Сярэдні рост, атлетычны склад, але вельмі нязграбны, непаваротлівы і марудны (па мянушцы Мішка). Бледны, шырокі, спакойны твар, нізкі лоб, бровы зрасьліся, брудны, абадраны, з кашлатай галавою,—вось яго аблічча ў час паступленьня. Няпрыветлівы, эмоцыянальна тупы, недаверлівы („як тут праўду сказаць", кажа ён у гутарцы), часам злосны, з пенай каля роту накідваецца на выхавацеля і разьбівае шкло ў вакне. Нізкі разумовы ўзровень (нізкая норма) і слабая ініцыятыва. У моц прывычкі і пад уплывам асяродзьдзя ён набыў кар'еру злодзея. Цэлыя тры гады прабыў Х. у інстытуце, зрабіўшы пры гэтым многа пакраж і некалькі разоў уцякаў. Вельмі марудна і павольна прывыкаў да ўстановы і сыстэматычнай працы. Старанна вучыўся і працаваў у шавецкай майстэрні, даючы сярэднюю пасьпяховасьць. Нідзе ня быў з першых. Прызвычаіўся да парадку і чыстаты, стаў вельмі акуратным, больш даступным і мягкім. Нават напісаў сам уласную аўтобіяграфію і перадаў загадчыку. Зрабіўшы апошнюю кражу, самавольна пакінуў інстытут з прычыны пакаяньня і сораму. Вернуты загадчыкам назад, плакаў і быў доўга засмучаны. Апошнія паўтары гады быў уседлівы. Падтрымліваў парадак і дысцыпліну ў інстытуце. У ліпені 1924 г. быў выпушчаны з інстытуту, як поўналетні, і, скончыўшы сваё навучаньне і выхаваньне, быў прыняты як чаляднік на абутковую фабрыку. Доўга яшчэ падтрыліваў адносіны з інстытутам і загадчыкам.

Катамнэз: працуе і зараз на фабрыцы, комсамолец, і будучае яго не выклікае ніякай небясьпекі. Зразумела, толькі доўгі нагляд дазволіў нам лічыць яго толькі

соцыяльна-занядбаным, але ня больш. Тып тормазны з нізкім разумовым узроўнем і нахілам да імпульсыйных актаў.

Выпадкі 11, 12 і 13. Яго бліжэйшыя таварышы ў інстытуце: З. Б., 15 г., яўрэй, сын сталяра, 7 год бяспрытульны. Краў з кішэняй. Тып ураўнаважаны, сынтонны, з дастатковым разумовым разьвіцьцём.

Н. І., 17-ці год, злодзей рэцыдывіст, некалькі год бяспрытульны. Тып ураўнаважаны, настойлівы, але з паранояльнымі рысамі. Разумовае разьвіцьцё добрае.

І. В., 18 год, яўрэй, мае толькі матку. Разумова нормальны. Зрабіў некалькі пакраж. Тып ураўнаважаны, добрадушны і актыўны.

Усе яны вышлі з інстытуту чаляднікамі, дагэтуль працуюць на абутковай фабрыцы, комсамольцы. Адзін з іх быў абараны сваім колектывам у Горсавет. Соцыяльна занядбаныя.

Выпадак 14. Тодар М. 15, год, рускі, селянін. Крадзеж і бадзяньне. З 5-ці год пачынаецца яго ўцякацтва (у 1914 годзе бацькі выехалі з Заходняга краю ў Самарскую губ.). З 8-мі год поўнае сіроцтва і бадзяньне. Адзінокі, варочаецца ён у Віленскую губ. Ня маючы прытулку, бадзяецца і трапляе да салдат, з якімі і пераносіць цяжкае салдацкае жыцьцё на фронце на працягу 2 год. Трапляе разам з імі ў палон і як сапраўдны салдат бяжыць з палону, трапляе ў Мазыр. Тут пачынаецца яго бадзяньне па дзіцячых дамох, комісіях па справах няпоўналетніх і г. д. З захапленьнем апавядае аб здарэньнях на вайне: „як даводзілася засякаць сваіх і чужых“, „як грукаталі гарматы, як стралялі і забівалі“. „Ахвотна пашоў-бы і зараз на вайну“, кажа ён. Ёсьць, зразумела, і некаторая выдумка ў яго апавяданьнях. Досьлед іназіраньне: адсталасьць фізычнага разьвіцьця, нізкі лоб, вялікія вушы, мочкі прырасьлі, твар востры, рэзка звужаецца да падбародку, доўгія рукі. Ва ўсёй фігуры – нешта падобнае да малпы. Высокія сухажыльныя рэфлексы і рэзкая гіпэрамэзія. Значная разумовая адсталасьць (паводле Бінэ—чатыры гады) і вельмі няроўная, але на даходзіць да ступені олігофрэніі. Так, ня ведаючы самых простых рэчаў („у месяцы 80 дзён“), ня выконваючы самага простага тэсту, досыць дакладна разьбіраецца ў адцягненых разуменьнях. Складае добра сказ з трох слоў (няпісьменны), дае адэкватныя рэакцыі ў асоцыяцыйным экспэрымэнце і г. д. Эмоцыянальна тупы. Халодны, жорсткі. Да ўстановы і асоб не прывыкае: „лепш бадзяцца, чым тут жыць—часта гаворыць ён,-чакаю толькі цёплага часу, каб уцячы“. З ім цяжка ўвайсьці ў контакт і пасябраваць. „Эй, кіньце“—яго звычайная пагаворка. Любіць хваліцца. Ідэалы Тодара—стаць рамізьнікам або набыць дзесяцін пяць зямлі і зажыць сваёй гаспадаркай. Граматы ня хоча: „іншы раз няпісьменны жыве лепш пісьменнага“. Вельмі любіць паесьці. Будуючы пляны свайго будучага, гаворыць: „з вопраткай ня важна, абы есьці добра“. „Я там падпасьвіўся“, успамінае ён сваё жыцьцё на вёсцы.

Але за ўсім гэтым ледзяным пакровам і недаступнасьцю ўсё-ж іншы раз прабіваюцца і соцыяльна-станоўчыя рэакцыі. Калі-б Тодар быў багаты, дык ён бы „дапамагаў сваім бедным сваяком“. У асоцыяцыйным экспэрымэнце ён дае тры разы рэакцыю „дзіця“ на словы „маці, любіць і шкада“; на словы „дзіця“ адказвае „люблю“. І сапраўды Тодар любіць і абараняе малалетніх выхаванцаў, зусім не сябруючы з равесьнікамі і са старэйшымі.

Дыягноз: соцыяльная занядбанасьць і глыбокая скалечанасьць плюс недастатковае разумовае і фізычнае разьвіцьцё (пры невядомай спадчыннасьці).

Адсутнасьць сталага прытулку з 5 год, войстрая барацьба за існаваньне з 8 год, жахі вайны падаюць на ня зусім поўнацэнную конституцыю. У выніку—глыбокая скалечанасьць асобы дзіцяці, вялікае узбуджэньне абарончага і харчавога цэнтраў, поўная адарванасьць ад нормальных дзіцячых умоў, асяродзьдзя і імкненьняў. Злосны малады дзядуля—асоба зусім псыхопатычная. Соцыяльны прогноз вельмі цяжкі. Патрэбна шмат работы і вельмі добрыя ўмовы, каб вярнуць Тодару страчанае дзяцінства.

З усіх дасьледваных намі дзяцей крыху ізолявана стаіць невялічкая група гэтак званых бадзяг і вандроўнікаў, якія таксама маюць за сабой то ці іншае праванарушэньне. Сярод іх мы маем розныя тыпы разумовай здольнасьці і трыманьня. Пытаньне аб бадзяньні наогул зьяўляецца вельмі складаным. Крэпелін (курс псыхіатрыі) зусім слушна зьвязвае бадзяньне з душэўным разладам. „Адсутнасьць прогрэсіі (бадзякі, прывычныя злачынцы) абумоўліваецца большаю часткаю ненормальным разьвіцьцём асобы... Наогул бадзякі маюць у сабе элемэнты ясна выражанага душэўнага разладу“. Сапраўды, мы добра ведаем з псыхіятрычнай клінікі, што вельмі часта першым сымптомам душэўнага занядужаньня зьяўляецца нахіл да ўцяканьняў, бадзяньне, уход з дому бяз пэўнай мэты (шызофрэнія, прогрэсыўны паралюш, маніякальна-дэпрэсыўны псыхоз, гістэрыя і інш.). Эпілептычны эквівалент мае сваім зьместам нярэдка доўгую вандроўку хворых, аб якой яны самі нічога не памятаюць. Оліґофрэны таксама маюць нахіл да бадзяньня. Нарэшце, эпідэмічны энцэфаліт у гэтых адносінах дае асабліва выразны малюнак. Шмат якія хворыя, што перанесьлі гэтую цяжкую хваробу, сапраўды не знаходзяць сабе спакою і павінны часта бадзяцца з месца на месца, каб мець хаця-б часовы спакой. Нарэшце, у дзяцей мы маем тую-ж зьяву: бадзяньне бяз мэты, часта небясьпечнае, уход з дому і г. д.

Ясна, што той ці іншы разлад вышэйшай нэрвовай дзейнасьці зрывае тормазы аседласьці (ствараючы на іх месцы ачагі ўзбуджэньня) або зьяўляецца прычынай іх недаразьвіцьця.

Некаторыя аўтары зьвяртаюць увагу на сувязь паасобных выпадкаў бадзяньня з родавым інстынктам (проф. Ленц). Нарэшце, у некаторых выпадках бадзяньне гэта проста патолёгічны нахіл. Але не заўсёды мы, аднак, знаходзім у асоб, якія маюць нахіл да бадзяньня і вандровак, пэўна-выражаную патолёгію. Калі мы зьвернемся да дзіцячага матар'ялу, дык іншы раз зусім незразумела, чаму дзіця зморана ад змаганьня з жыцьцём, пакідае ўстанову, якая дае яму ўсё. Часта яны ўцякаюць у самыя лютыя маразы, амаль голыя і выбіраюць для гэтага небясьпечныя спосабы (праз вокны 3-га паверху і інш.). „Усёроўна тут ня буду, уцяку“. „Толькі да цяпла дажыву“. „Лепш бадзяцца буду, чым тут жыць“ - заяўляюць дзеці. А часта зусім маўчаць і ўцякаюць, зноў вяртаюцца і зноў уцякаюць. Побач з нахілам да бадзяньня аднэй з прычын, чаму дзеці ўцякаюць, зьяўляецца, магчыма, аднастайнасьць умоў дзіцячага дому. Усякая дзіцячая ўстанова, пасьля вольнага жыцьця, зьяўляецца для дзяцей тормазным раздражняльнікам. Дзіця з пераважнымі процэсамі ўзбуджэньня ў нэрвовай сыстэме, пажыўшы некаторы час у такіх абставінах, паводле закону station ноўчай індукцыі, у пэўны момант узбуджаецца і ўцякае Гэта якраз добра ілюстравана ў Сэйфулінай: „Анкетаў ніякіх ня люблю і не жадаю“,—заяўляе Грышка. і, „абрыдла ўсё: і спальні з аднолькавымі ложкамі і коўдрамі, і сталоўка з новымі драўлянымі сталамі“. Лёгка прыжыўся Грышка ў колёніі ў „гіпаманіякальнага Мартынава“ таму, што ня было там ні анкет, ні правіл, апроч таго—„столькі народу за дзень перабачыш“. Рознастайнасьць, зьмена ўражаньняў, яркасьць пераживаньня зьяўляюцца моцнымі раздражняльнікамі, якія клічуць гэтых дзяцей у „сьвет“, на „вялікую дарогу“. Магчыма, што адпаведныя ўмовы на месцы многа каго з іх прывязалі-б і зрабілі-б аселымі. У Джэка Лёндона ёсьць апавяданьне „Бадзякі і зухі“. Славуты пісьменьнік спрабуе разьвязаць проблему бадзяньня. „Я зрабіўся бадзякам, бо ў крыві маёй была цяга да бадзяньня, якая не давала мне спакою... Я вышаў на дарогу таму, што ня мог жыць без дарогі... Бо быў створаны так, што ня мог усё сваё жыцьцё працаваць на аднэй і тэй-жа зьмене, бо мне было лягчэй бадзяцца, чым не бадзяцца“. Пасьля гэтых слоў чакаеш, што вось-вось пісьменьнік загаворыць аб тыпах нэрвовай сыстэмы.

Выпадак 15. Лёня Я, 12 год. Рускі. Нарадзіўся ў Менску. Бацька быў чыгуначным майстрам. Пяць год поўнага сіроцтва. Быў у знаёмых на вёсцы, ад

іх хутка ўцякае, і з 8 год пачынаецца яго бадзяньне. Спачатку Бахмач, Арол, Бранск, Масква, Самара, Казань, зноў Масква і, нарэшце, зноў прыяжджае у Менск. Быў у прыёмніках, ляжаў у больніцах, усюды станавілася „сумна“ і ўцякаў. Іншы раз рабіў выпадковыя дробныя пакражы Досьлед і нагляданьне: жывы, выразьлівы твар і прывабная ўсьмешка Заняпад харчаваньня. Падвышаны сухажыльны рэфлекс, чырвоны дэрмографізм і лёгкая ўзбуджальнасьць вазоматораў. У разумовых адносінах здольны. Трыманьне: лёгка узбуджаецца, раздражлівы, афэкты гневу і злосьці, агрэсыўны і на кожны конфлікт рэагуе гістэрычным прыпадкам: крык, плач і г. д. У добрыя хвіліны даступны, ласкавы і падпарадкуецца рэжыму. Выразны эгоцэнтрызм. Тонка характарызуе асоб, якія з ім жывуць. Загадчыца аддзелам прававой абароны яму падабаецца больш за усіх: „яна верыць мне, зьвяртае на мяне ўвагу, а другія лічаць мяне злачынцам“, На другім месцы ставіць аўтара гэтых радкоў за тое, што „вы заўжды клапоціцеся аб адпраўцы“, загадчыка інстытутам паважае за тое, што ён „справядлівы і нікога не баіцца“. З хлопцаў ніхто яму не падабаецца, больш любіць быць сярод дарослых. Жаданьні Лёні: хацеў-бы мець настаўніка і разьяжджаць з ім па розных краінах. Хацеў-бы шмат вучыцца, стаць пісьменьнікам, пісаць вершы і ведаць музыку. Жыць-бы хацеў на беразе мора, дом збудаваў-бы высока і глядзеў-бы на ўсё мора. Да інстытуту прывыкаў кепска. Часта ўцякаў і зноў варочаўся. Заўсёды клапаціўся аб „адпраўцы куды-небудзь“. Марыў аб Туркестане. Нарэшце ён сьпісаўся з нейкім далёкім сваяком і быў да яго адасланы ў Днепрапятроўск, адкуль прыслаў шчыры ліст. Катамнэз: гады два назад я яго сустрэла ў Менску. Вырас, спакойны, займаецца ў фабзавучы і марыць стаць інжынэрам. Дыягноз: гістэрыя.

Выпадкі 16 і 17. Янка П. 14-ці год, рускі. Юзік В. 14-ці год, паляк. Два таварышы, суседзі і па школе і па ўчынках. Разам зрабілі злачынства, разам вандравалі і марылі. У школе вучыліся па 4-5 год, добра пасьпявалі, і абодва здольныя ў разумовых адносінах.

Янка П. поўны сірата, жыве з братам, бацька трымаў рэсторан і быў алькоголікам. Раньнія гады ён правёў у грамадзе дарослых, у рэсторане. Першы раз украў да пачатку бадзяньня, выпадкова гуляючы з дзяцьмі на вышках.

Юзік В. мае бацькоў. Бацька чорнарабочы, п'е рэдка і ў меру. Жывуць сярэдня. Юзік рос і разьвіваўся правільна. Сяброўства Янкі і Юзіка цягнецца чатыры гады. Два гады разам вандруюць. Перад другой вялікай вандроўкай Юзік абакраў свайго бацьку—два пярсьцёнкі і яшчэ дробязь. „Бачачы, як некаторыя людзі раскашаюцца, і нам захацелася мець грошы“, апавядае Юзік з свайго мінулага. Першы раз паехалі проста „у сьвет вандраваць“ і зусім бяз грошай. Гэта было ў 1922 годзе. Кіеў, Адэса, Харкаў, Масква. У Маскве Юзік захварэў брушным тыфусам. Яшчэ да гэтага ў Кіеве таварышы пасварыліся, жабравалі, і Янка вярнуўся да хаты. Па дарозе кралі і г. д. Па звароце Юзіка дахаты таварышы сустрэліся цёпла і згаварыліся ехаць у Амэрыку, „пад уплывам розных кніг“. У Амэрыку не даехалі, па дарозе розныя сустрэчы і прыгоды. Ваня з нейкай жанчынай даехаў да Ленінграду, а Юзік з Віцебску вярнуўся дахаты. Паміж паездкамі—арышты, крымінальны вышук, комісія па справах няпоўналетніх, інстытут, уцёкі і зноў усё спачатку. У інстытуце трымалі сябе вытрымана і скромна, але трохі фанабэрыста. Не пазбаўлены некаторай самадавольнасьці. Рэжыму падпарадкуюцца здавальняюча. Ладзяць і зацікаўліваюць таварышоў, з якімі ахвотна дзеляцца сваімі ўражаньнямі. У інстытуце доўга ня жывуць; ціха зьнікаюць разам з інстытуцкімі рэчамі. Крадуць часьцей па меры патрэбы. Тыпы нэрвовай сыстэмы хутчэй уроўнаважаныя з асобнымі ачагамі ўзбуджэньня.

Выпадак 18. Уладзімер Д. 14-ці год, пазашлюбны дзіця. Быў знойдзены ў лесе і выхоўваўся міласэрнай сястрой ў Пскоўскай губ. З 10 год пражывае ў чырвонаармейскіх аддзелах, быў нават адзін раз паранены. Лячыўся ў шпіталі ў Ленінградзе, адкуль трапіў

у псыхіятрычную больніцу. Затым трапляе ва ўстанову проф. Грыбаедава, а далей Граборава. З апошняй самавольна уцёк, быў у некалькіх гарадох, жыў у дзіцячых дамох і прабраўся ў Маскву да Калініна. Быў накіраваны ў дзіцячы дом, але адтуль уцёк „бадзяцца“, карміўся па хатах і гэтак дабраўся да Менску.

Досьлед і нагляданьне: фызычнае разьвіцьцё дастатковае, рэзкая сутуласьць. Гутарка шапялявая, моторыка нязграбная, міміка бедная. Падвышаныя сухажыльныя рэфлексы і паніжаны гарлавы. Дысгенэтычныя адзнакі выражаны. Агульная орыентыроўка недастатковая. Запас ведаў абмежаваны (у месяцы 24 дні, у годзе 16 месяцаў і г. д.). Лічыць кепска і то на конкрэтным матар'яле. Моўная продукцыя нязначная. Асоцыяцыйныя процэсы слабыя. Але зато ведае такія тэрміны, як „мінімум, максімум, экспэрымэнт, псыхолёгічны досьлед“ і іншыя падобныя. Відаць, што праходзіў праванавуковыя інстытуты. Любіць шмат разважаць і філёзофстваваць. Сябе ацэньвае правільна: „я вялікі, але розум у мяне маленькі“. „Шкода паперы і вашае працы“, часта гаворыць ён. Гаворыць, што жыве ў кожным інстытуце, пакуль ня скончыцца „псыхолёгічны досьлед“. „Гэта вам трэба з псыхолёгічнага пункту погляду“, часта гаворыць ён у адказ на запытаньне да яго. Наогул ён жыць тут ня будзе, „пойдзе куды-небудзь“. У інстытуце вёў гультайскае жыцьцё. Паводле атрыманых вестак, аднак, ён даволі доўга жыў у інстытуце, уцёк год-два назад.

На гэтым я скончу агляд груп і тыпаў праванарушыцеляў. Тут трэба адзначыць толькі, што сярод нашых дзяцей ня было сапраўдных наркоманаў, і параўнаўча мала было дзяцей з выразна ўяўленымі патолёгічнымі захапленьнямі, сапсутых, гэта значыць тых, якіх багата ў буйных прамысловых гарадох і паселішчах, а таксама сталіцах. У гэтым факце адбіваецца (ва ўсякім разе за гады маіх назіраньняў) скромнасьць і нязначная велічыня нашага цэнтру. Асобныя выпадкі злоўжываньня сьпірытусовымі напіткамі, выпадкі п'янства і сэксуальных учынкаў бывалі, зразумела, і ў нас.

У заключэньне не магу ня спыніцца, хаця-б у некалькіх словах, на выніках нашай працы, на нашых мажлівасьцях і межах нашага ўплыву. Выхаваньне малалетніх праванарушыцеляў, бязумоўна, цяжкая праца, якая патрабуе надзвычайнага напружаньня сіл усіх працаўнікоў. Тут, бязумоўна, патрэбны ахвяры. Але праца бясспрэчна ўдзячная, 25-30 проц. дзяцей не паддаюцца нашаму ўплыву. Гэтыя дзеці хворыя, глыбока скалечаныя, аб якіх мы пісалі вышэй. Але гэтыя дзеці, уласна кажучы, павінны ўтрымоўвацца ва ўстановах лячэбнага тыпу, а не ў агульных інстытутах. А для посьпеху ў межах астатніх 65—75 проц. таксама патрэбны вельмі вялікія магчымасьці і сродкі: добрыя матар'яльныя ўмовы самой установы, адпаведны высокакваліфікаваны, аўторытэтны склад і, бязумоўна, навуковая пастаноўка ўсяе гэтае справы (добрая школа, майстэрні, навуковыя габінэты, дапаможныя лячэбныя сродкі і г. д.). Мае таксама вялікае значэньне і выбар месца для такой установы (горад, колёнія). Для гэтых дзяцей маюць значэньне ня толькі ўнутраныя ўмовы ўстановы, але і ўвесь знадворны ўплыў. Трэба цьвёрда памятаць, што большасьць з іх разумова здольныя, дасьціпныя і могуць быць пераключаны на правільныя шляхі разьвіцьця.

וועלכע די קינדער נעמען אוף זייער גערן און אומבאמערקטערהייט פאר זיי ברײנגט דאס זיי גרויסע נוצן.

אין די 2 שא קענען די קינדער טאן, וואס זיי ווילן: לייענען, שפילן מיטן פילקע, מאכן פיזקולטור, שפילן אין די אויבנדערמאנטע שפילן א. ד, ג, אבער דאס אלץ איז ארגאניזירט.

מע דארף זאגן, אז אין אנהויב פון דער ארבעט האבן מיר געהאט זייער פיל שטערונגען מיצאד די עלטערן. אט אומגעפער, וועלכע שטימונגען פ׳עגן זיך הערן: „ארבעטן אף א גארטן קען ער בא מיר אין דערהיים״, „א גאנצן ווינטער האט ער זיך געלערנט, מעג ער איצטער אפרוען״ א. ד. ג. דאס האט זיך זייער אפגערופן אף דער באציונג פון די קינדער צו דער שול ארבעט. דער שול איז אויסגעקומען צו פירן א גרויסע ארבעט אף דעם געביט: דערקלערן די אופגאבן פון שול. לעסאף האבן מיר געשאפן א פעדקרייז פון עלטערן, עס האט זיך ארגאניזירט אן עלטערן בריגאדע פון 12 מאן, וועלכע האבן געמאכט א שאבעסניק אין קינדער קאלווירט, געהאלפן ארגאניזירן דעם קינדער יאמטעוו, געווידמעט דער גערעטניש פון סאלאט און קארטאפעל פון קינדער קאלווירט, וואס האט זייער סטימולירט, אַז די קינדער זאלן בעסער זיך באציען צו דער שול אַרבעט. נאך איין מאמענט, וועלכער האט געשטערט אין דער שול ארבעט—דאס איז די אפגעשטאנענקייט פון די כעווריע גופע. מע דארף אונטערשטרייכן, אז די קינדער זיינען ניט געבוג געזעלשאפטלעך געוען, דעריבער איז אויסגעקומען גאנץ שווער מיט זיי דורכפירן א מער ערנסטע געזעלשאפטלעכע, נויטיקע ארבעט, און דעריבער האבן מיר זיך גענומען פאר דער פראגע פון געבן זיי מער יעדיעס, מער קאלעקטיווע ארבעט-געוויינהייטן, געבן זיי געזעלשאפס׳עכע געוויינהייטן.

פון דאס אלץ, וואס מיר האבן אויבן געשריבן, איז קענטיק, אז די זומער שול קען ברענגען גרויסע נוצן סיי אין זין פון געזונטן אפרו פון די קינדער, סיי אין זין, וואס די קינדער זיינען מער ארגאניזירט און קענען פירן א גרויסע ארבעט אויסער די ראמען פון שול, קענען באקומען א ריי נייע יעדיעס און געוויינהייטן, וועלכע זיי האבן ניט קיין מעג׳עכקייט צו באקומען אין דער ווינטער שול.

אין דער וייטערדיקער ארבעט פון דער זומערשול גייט אריין: דערלערנען אונדזער ראיאן-רייכטימער, דערלערנען די נאטור, טייכן, אזיערעס, וועלדער, קאלווירטן. דאס וועט זיין א גוטער קאנט קענטעניש מאטעריאל און דאס קען מען דורכפירן דורך שפאצירן, דורך עקסקורסיעס. א. אז. וו. אויך אין דער ווייטער האבן מיר אַנגעמערקט נעמען מיט דער שול אן אקטיוון אנטייל אין דער שניט קאמפאניע, דערביי דערלערנען, געוויינטלעך, די מאשינעס, מיט וועלכע מע ארבעט אפן פעלד.

דער מאטעריאל, וועלכן מיר האבן געגעבן, איז נאך א רוי-מאטעריאל, איז נאך ניי און איז דורכגעפירט געווארן אן קיינשום דערפארונג פון פריער, דעריבער קען ער ארויסרופן פיל ניט קלארקייטן.

1. דערלערנט די שעדיקער פון קרויט (קרויט פליי капустная блоха), זייער ביאָלאגישע סוויוע, זייער שעדיקייט. אלס רעזולטאט פון דעם, האָבן די קינדער אקטיוו געקעמפט מיט זיי מיט דער הילף פון אַ באשפריצער (опрыскиватель), אין וועלכן ס'האט זיך געפונען טאַבאַק-שטויב.

2. פאנאנדערגעקליבן פארשיידענע מיסטגראָזן, זייער ביאלאָגישע סוויוע, פארשיידענע שטיינגלעך פון מיסטגראזן, וואָרצלען, ליגנדיקע און שטייענדיקע שטיינגלעך, פארשפרייטונג פון מיסטגראָזן א. ד. ג. זייער שאדן, געפירט מיט זיי אַ קאמף מיט דער הילף פון אַ קולטיוואטאָר און מיט דער הילף פון פרימיטיווע מאכשירים,וועלכע די קינדער האָבן געמאַכט אלס רעזולטאַט פון דער גארטן-ארבעט.

3. אין פראָצעס פון גארטן-ארבעט פאנאנדערגעקליבן די גארטן-קולטורן.

די סקאנט פון דער ארבעט: די קינדער האָבן געבראַכט פארשיידענע מיסטגראָזן און געמאַכט אַ טאבעלע מיט דערקלערונגען, געמאכט אַ געניעם פלאַן פון דעם גארטן, פון דעם קינדער-קאָלווירט, געמאַכט אַן עקסקורסיע און דערלערנט די פעלד-קולטורן, וועלכע ס'זייט דער גרויסער קאלווירט. ווידער שטייט דאָ די פראַגע פון מיסטגראזן, וועלכע מיר פארגלייכן מיט די מיסטגראזן פון גארטן קולטורן. די קינדער האָבן אויך דורך אַן אופגאבע פון אַ דאלטאָן-ארבעט געבראכט מוסטערן פון פארשיידענע קולטורן און מאכן אַ טאבעלע (מיר האָבן געמאכט אַן עקסקורסיע אין וואלד מיטן ציל צו באקאָנען זיך מיט דעם „וואָס שטעלט מיט זיך פאר דער וואלד אין זומער"). אלס אַ פויעל יויצע פון דער עקסקורסיע, האָבן מיר געמאכט אַ טעכנישע עקסקורסיע אין קאָלווירט מיטן ציל וויסן, „ווי אזוי ס'גרייט זיך אונדזער עלטערער קאלווירט צום שניט צייט" און „אין וואָס פאַר אַ צושטאנד געפינט זיך דער קאָלווירטישער אינווענטאר". אלס אַ דיסקאָנט פון דער ארבעט וועט זיין: מאַכן אַ מאָדעל פון אַ מאַשין און אַ סכעמע. דערביי ווילן מיר אונטערשטרייכן, אז די קינדער האָבן אף דער עקסקורסיע דערלערנט אַריי מאשינעס.

אויך אלס א רעזולטאט פון דער עקסקורסיע איז די שול אָרגאניזירטערהייט געגאנגען העלפן דעם קאָלווירט איינקלייבן די היי פון לאָנקע.

מע דארף אונטערשטרייכן, אז דער קאָלווירט פון די דערוואקסענע האָט פיל מיטגעהאָלפן אין דער ארבעט פון קינדער-קאָלווירט, מיט דעם, וואָס זיי האָבן געגעבן פערד-קראפט, זוימען, באמיסטיקונג א. ד. ג.

ווי מיר זעען פון די איבנאָנגעוויזענע, האָט די שול געפירט אַ שטיקל צוזאמענדיקע ארבעט מיטן שטעטלדיקן קאלווירט, און אונדזער ציל איז טאַקע דערביי געווען אַזאַ.

דער קינדער-קאָלווירט האָט נאָך פאר די קאניקולן, בא זיין אָרגאניזאציע, געמאכט אַן אָפּמאך מיטן שטעטלדיקן קאָלווירט איבער אַריי פראגן, נאָר מיטן פארמאכן די ווינטער-שול האָט זיך אויך געשלאָסן די ארבעט אין קינדער-קאָלווירט. ווען מיר זיינען צוגעטראָטן צו אָרגאניזירן די זומער-שול, האבן מיר גאָר ניט געטראכט, אַז פון דעם פארלאָזענעם, פארוואָקסענעם מיט מיסטגראזן העקטאר ערד זאל מען שוין קענען עפעס מאכן. ערשט מיט אַן ארגאניזירטער ארבעט פון די קינדער האבן מיר אופגעלעבט דעם קאלווירט און ער וועט געבן גוטע רעזולטאטן. עמעס, די קינדער זיינען געווען פעסימיסטיש געשטימט און האבן ניט געהאט קיין גרויס כוישעק צו דער גאָרטן-ארבעט, מאַכמעס זיי האָבן געהאט קימאט אַ רעכטע טיינע: „מען האָט מער ניט גערעדט און מען וועט ווייטער לאָזן אַזוי", נאָר דאָ האָבן מיר געפרווט אופלעבן די ארבעט אַף פאָלגנדיקן אויפן.

די פארוואלטונג פון קינדער-קאָלווירט האָט דערקלערט אַן איבערקוק פון דער אפגעטאנענער ארבעט אפן גאָרטן. דעם איבערקוק האָט דורכגעפירט דער פאָרזיצער פון קאָלווירט פון דערוואקסענע צוזאמען מיט די קינדער פון ראט. דערביי האט דער פארזיצער אנגעוויזן אַף אריי דערגרייכונגען אין דער ארבעט, געגעבן אָנווייזונגען, האָט צוגעזאָגט קומען צו הילף. דאָס האָט געדינט אלס איבערבראָך אין דער שטימונג, וועלכע ס'האָט געהערשט בא די קינדער ביז איצט, „אז דאָס איז נאָר א שפיל-קאלווירט", ס'האבן זיך גלייך ארגאניזירט קינדער-בריגאדעס, קעדיי צו זאמלען אש, קעדיי אונטערצושיטן די קרויט. דערביי האָט דער ראט פון קינדער-קאָלווירט צוזאמען מיט די לערער באשטימט דורכפירן אַ פרימאָרגן, געווידמעט דעם צייטיק-ווערן פון קארטאָפל און סאלאַט, און דער פרימאָרגן איז גלענצנדיק, פול מיט קינדערשן ענטוזיאזם, דורך. צום 1-טן יול האָבן די יונגע קאָלווירט-ניקעס איינגעאָרדנט מיט לאָזונגען און פלאקאטן דעם רויטן ווינקל פון שטעטלדיקן קאלווירט, און אף דער פייערלעכער טייל אונטערגעטראגן דעם לעצטן אַ ראַפּאָרט וועגן דער אָפגעטאָנענער ארבעט און וועגן דער ארבעט, וועלכע אים שטייט פאר אין זין פון מיטצוהעלפן דעם גרויסן קאָלווירט צו דער שניט-קאמפאניע.

ס'איז אין שול פאר דעם זומער-פעריאָד אריינגעטראָגן געוואָרן פיל נייס אין זין פון אָרגאַניזירן דעם אָפרו פון די קינדער.

אין רעזשים פון ארבעט פלעגט אריין טעגלעך 2 שא שפילן, ארגאניזירטע פיזקולטור, לאטא, לייענען פארשיידענע ביכעלעך א. ד. ג.

דערביי ווילן מיר באמערקן, אז די שפילן דינען גלייכצייטיק קעדיי צו פארפעסטיקן די יעדיעס, וועלכע די קינדער האבן באקומען אין ווינטער-שול: צ. ב, די שפיל „Веселая арифметика„ גיט די מעגלעכקייט, שפילנדיק, אויסלערנען זיך אדער פארפעסטיקן די יעדיעס אף אריפמעטיק, „רייזע אף דער לעוואנע" גיט די מעגלעכקייט צו באקאנען זיך איבערפלעכלעך מיט דער זון סיסטעם (וועלכע פלאניעטן), „מיטן וואגנע" „5 יאריקער פלאן" א. ד. ג.—דאס זיינען אלץ שפילן,

פראקטיק האט שוין דערוויזן, אז מיטן שליסן דעם ענדע לערן יאר אין שול שליסט זיך אויך די ארבעט אין קינדער־ קאלווירט; די שול קינדער קוקן ניט נאך נאך די געוויקסן, די קינדער פארגעסן, אז דאס איז זייער אייגענער קאלווירט, אז אין די פארזייטע קול-טורן ליגט זייער ארבעט, זייער ענטוזיאזם, און די גאנצע ארבעט פון קינדער קאלווירט גייט פאר-לארן. די קינדער קאלווירטן שפילן איצט א ראלע פון א גרויסן דערציונגס פאקטאר, און אויב מען הויבט אן אין פרילינג אן ארבעט, קעדיי ארגאניזירן עס און לעסאף לאזן א סאף, וועט זיך באקומען א שפיל אין א קינדער קאלווירט, וואס עס ווירקט אין נעגאטיוון זייט אפן קינד אין דער פראגע פון דערציונג.

אזוי, אוועקשטעלן א געזינטע ארבעט אין קינדער קאָלווירט ווערט אויך איינע פון אונדזער הויפט אופגאבן אין דער גאנצער ארבעט פון דער זומער-שול.

לעסאָף, דער דריטער מאמענט—די קינדער נוצן ניט אויס בעשום אויפן זייערע קאניקולן קעדיי האבן א געזונטן אָפרו. אינמערסטן טייל ווערן די קינדער צעווילדעוועט, טוען אָפּ אלע ניט געזונטע שפיצלעך (רייסן קליינע עפל, באָדן זיך א גאנצן טאג א. ד. ג.), וועלכע ברייגנט זייער פיל שאָדן, אינדערצייט ווען מען קען דעם אָפרו אָרגאניזירן, דערצו זאָלן די קינדער פירן א געוויסע פיזישע לייכטע ארבעט. צום גרויס באדויערן, עקזיסטירט נאָך ביז איצט א פאלשע מיינונג בא א טייל לערער (שוין אָפגערעט בא די עלטערן), אז רוען הייסט גארנישט ניט טאָן, זיין אינגאנצן פריי. דאָס איז אין גרונט ניט ריכטיק, און דאָס ,אייגנטלעך, האט אונדז פארשווערט אין דער פראגע פון אָרגאניזירן די ארבעט אין דער זומער-שול.

ס'קען זיך פון די אופגאבן באקומען אן איינדרוק, אז עס שאפט זיך נאָך א ווינטער שול אין זומער, ווייל דער מאטעריאל איז א גאנץ ערנסטער. נאָר דאָס וועט זיין ניט ריכטיק, די אלע ארבעטן, די גאנ-צע פראָגראם, וועלכע מיר האָבן אָנגעמערקט, האָבן מיר ערנסט פארוואנדלט אין א קלאסן ארבעט, אין אן ארבעט אין שול, נאָר אין פרינציפּ האָבן מיר געלייגט, אז די קינדער זאָלן, אָפּרוענדיק, בא-קומען די געוויינהייטן און יעדיעס, אז די גאנצע ארבעט, וועלכע מיר רעכענען דורכפירן, זאָל זיין אף דער פרייער לופט. דעריבער נוצן מיר אויס דעם פלאץ אפן גאָס, טישלעך און ביינקלעך אין שאָטן, ווו די קינדער זאלן קענען סיי ארבעטן, סיי לייענען, סיי שמועסן (געוויינלעך אויסשליסן די רעגנדיקע וועטערן), דעריבער האבן מיר געבויט דעם רעזשים פון טאָג אַף עקסקורסיעס (טעכנישע און נאטור-ווסנשאפטלעכע), ארבעט אפן פעלד פון קינדער קאָלווירט, ארבעט אין קאָלווירט פון דערוואָקסענע, שפּילן (פיזקולטור און גייסטיקע), שמועסן איבער די עקסקורסיעס און עפּיזאָדישע פראגן (פּיאָנער צענויפלו 11 יול א. ד. ג.) ס'איז דאָ אייך אזא קליינער טייל פון די לימודים, ווו ס'קומט אויס צו זיצן נאר אין ק/אס, צ. ב. פארפעסטיקן די יעדיעס פון די קינדער אף מאטעמאטיק, ארבעטס-פראָצעסן סטאָלעריי. דערביי שטרייכן מיר אונטער, אז דאָס סטארען מיר זיך דורכפירן ווי ווייט מעגלעד אף דער פרייער לופט.

וואָס פאר א קאָמפלעקס האָבן מיר געלייגט אין גרונט פון אונדזער ארבעט?

מיר האבן גענומען דעם קאמפלעקס „אונדזער קינדער קאָלווירט״, דערביי האבן מיר איינגעשלאָסן פאָלגנדיקע טעמעס:

1. די קולטורן פון דעם גאָרטן פון אונדזער קינדער-קאָלווירט.
2. לאָנקע, פעלד, וואלד, וועלכע רינגעלן ארום אונדזער גארטן (געוויקסן קולטורן).
3. שעדיקער און מיסטגראָזן פון אונדזער גאָרטן און פעלד, דער קאמף מיט זיי.
4. צונרייטונג צו דער שניט און הארבסט פארזיי קאמפאניע פון קאלווירט פון דערוואקסענע און די מיטהילף פון יונגע קאָלווירטניקעס.
5. מיטארבעט מיטן גרויסן קאָלווירט און די מיטהילף דעם יונגן קאלווירט מיצאד דעם לעצטן.
6. ארבעט מיט די עלטערן.

אין יעסאד פון קאָמפלעקס האבן מיר געלייגט דורכפירן אן אָרגאניזירטע קאָלעקטיווע ארבעט פון די קינדער אין קינדער-קאָלווירט, דורכפירן א גע-זעלשאפטלעכע ארבעט קעדיי מיטצוהעלפן דעם קאָל-ווירט פון דערוואָקסענע אין דער ארבעט פון אראָפּ-נעמען די גערעטעניש, דערלערנען די ארבעט און קולטורן, וועלכע ס'האָט דער קינדער קאָלווירט און קאָלווירט פון די דערוואקסענע.

געוויינלעך, אפן באזע פון די אלע קאנט מאטעריאלן, אפן באזע פון דער ארבעט, וועלכע די שול פירט דורך, פלעגן מיר עס אין די אופגאבן פון די דאלטאָן-ארבעטן אדער שמועסן פארבינדן מיט פראגן פון קאלווירט, וועלכע זיינען שייעך צום גאַנצן פארבאנד: צ. ב, ווען מיר האבן דערלערנט די קול-טורן פון אונדזערע קאָלווירטן, געהאט דאלטאן אר-בעט, ווו די קינדער האָבן געארבעט איבער מאטע-ריאלן, וועלכע זיינען שייעך צו קולטורן פון גאנצן פארבאנד: בוימוואל, סאָיע, און אנד, וואס עס גיט די מעגלעכקייט סיי פארפעסטיקן די יעדיעס, וועלכע די קינדער האָבן באקומען אין שול, סיי געבן נייע יעדיעס.

מיר וועלן זאָגן, אז די הויפט ארגאניזאציע פון ארבעט בא אונדז איז געווען דאלטאן ארבעט. דאס איז דערפאר, קעדיי די קינדער זאלן, ערשטנס, ניט פילן אף זיך דעם יאָך פון קלאס, זיי זאלן קענען פריי אויספילן די אופגאבע, וועלכע זיי באקומען. דערביי פלעגן מיר טיילוויים געבן אזוינע ארבעט, וועלכע זאָלן אויסגעפילט ווערן אפן גארטן פראקטיש אדער אפילע גייסטיק. אין די אופגאבן פון דאלטאן ארבעט פלעגן זיין אזוינע אופגאבן: „גיי אפן גארטן רייס אויס מיסטגראזן פון פארשיידענע מינים, ברייגנ זיי אין קלאס״ אדער, „גיי מעסט אויס דעם גארטן, קעדיי זאָלסט קענען מאכן א פלאן״ א. ד. ג.

אַ פאר ווערטער וועגן דעם, וואָס פאר אַן ארבעטן מיר האָבן דורכגעפירט איבער די אויבנאָנגעוויזענע טעמעס:

## גאָרלאָווסקע און הירשהאָרן

# אַ פּרוּוו

(פון אַן אַרבעט אין אַ זומער 2-קאָמפּלעקט. ייד שול אין אסטראָשיצקי-האָראָדאָק.)

נאָך ביז איצט איז די פראַגע פון דער אַרבעט פון די שול-קינדער אין זומער פעריאָד ניט געלייזט געוואָרן, כאָטש מען האָט זייער פיל וועגן דעם גערעדט. די פראַגע פון דער שול-אַרבעט אין זומער פעריאָד שפּילט א באזונדער ראָל אין איצטיקן פעריאָד אין צוזאמענהאנג מיט דער קאָלווירטן באוועגונג, אין צוזאמענהאנג דערמיט, וואָס פאר דער שול זיינען אנטשטאַנען נייע אופגאבן אין זין פון מיטהעלפן, דעם איבערבוי פּראָצעס פון אונדזער גאַנצער פאָלקס-ווירטשאַפט.

די שולן האָבן, ווי דאָס ראָוו, ביז איצט זיך פאַרנומען נאָר אין די ראַמען פון די $\frac{3}{4}$ יאָר, און אַף ווייטער פלעגן די שולן פאַרלאָזן ווערן אַף העפקער. ס'פלעגט אין זיי קיין שום ארבעט ניט געפירט ווערן. דערביי פלעגן זיך באַמערקן די אומנאָרמאַלע דערשיינונגען, וואָס די קינדער פלעגן ניט האָבן קיין באַשטימטן צענטער פון אָרגאַניזאציע. ס'פלעגט ניט זיין, ווער ס'זאָל אָרגאַניזירן דעם קינדס ארבעט אין זומער, ווער ס'זאָל געבן אַ ריכטונג אין דער אַרבעט פון דער קינדערישער זעלבסט-אָרגאַניזאַציע אין זומער, האַקלאַל ס'פלעגט ניט זיין קיין שום אָנפירונג פון די לערער מיט די קינדער, דאָס פלעגט ברענגען צו אַ גרויסער דעזאָרגאַניזאַציע פון דער שול-אַרבעט. מע דאַרף אונטערשטרייכן, אז דאָס פלעגט זייער שטארק ווירקן אַף דער ארבעט פון דעם 1-טן פעריאָד פון דער שול-ארבעט אין ווינטער.

מיר וועלן מיט היינטיקער נאָטיץ זיך טיילן מיט דער דערפארונג, וואָס מיר האָבן באקומען פון א קורצטערמיניקער ארבעט אין א זומער 2-קאָמפּלעקט. שול אין אסטראָשיצקי-האָראָדאָק. מיר ווארענען דעם לעזער, אז אין דער ארבעט זיינען געוויס געווען פיל בלויזן מאַכמעס די שוואַכע באדינגונגען, אין וועלכע ס'האָט זיך געפונען די שול. וועגן וועלכע מיר וועלן אין קורצן אונטן דערמאָנען, און אויך דערפאר, ווייל אין אונדזער רעשוס האָבן מיר קיין שום דערפארונג פון פריער.

איז וואָס זיינען געווען אונדזערע צילן באַם שאַפן די זומער-שול?

מיר האָבן שוין אין קורצן אויבן אָנגעוויזן, אז דער הויפּט ציל איז פאָרזעצן די אָרגאניזאציע פון דער קינדער-ארבעט און אופמערקזאמקייט ארום די הויפּט אופגאבן פון אונדזער בויונג. נאָר דאָס איז די פאָרמול.

ווי געוויינטלעך, קומט אויס דער שול אין מעשעך פון א גאנצן יאָר צו פאַרנעמען זיך מיט די פראַגן פון אינדוסטריאַליזאציע און קאָלעקטיוויזאציע. אין פיל שולן פלעגט מען טאקע דורכפירן א גרויסן געזעלשאפטלעכע אַרבעט אין זין פון מיטהעלפן דעם אָרטיקן קאָלווירט, צום פרילינג פאַרזיי, מען פלעגט טאקע דערלערנען דעם קאָלווירט, אָבער מיט דעם זיך באגרענצן, ווייל דערלערנען און מיטהעלפן דעם קאָלווירט, אויסשליסנדיק איינעם פון די הויפּט פעריאָדן פון דער קאָלווירט ארבעט—א טייל פון פרילינג און זומער, באטייט עס—דורכלאָזן א גרויסן עטאפּ פון דער שול ארבעט. דערלערנען דעם קאָלווירט איינגאנצן קען מען נאָר דעמאָלט, ווען מען דערלערנט און מען פירט אין אים א געזעלשאפטלעכע נוצלעכע ארבעט אין מעשעך פון א גאנצן יאָר, ווייל דער זומער פעריאָד פון דעם קאָלווירטן עקזיסטענץ צייכנט זיך אויס פון די $\frac{3}{4}$ יאָר, וועגן וועלכע מען האָט צוטאָן אין שול. די פעלד, די לאָנקע, די נאַטור, דער קאנט אינגאנצן גענומען זיינען גאָר אנדערש, ווי די קינדער האָבן אים געזעען ביז זייערע קאניקולן. דער פאקט, וואָס דעם קאָלווירטניק גערטנער קומט אויס צו קעמפן מיט שעדיקער, בלייבט פאַר דעם שול-קינד פרעמד; אין בעסטן פאל וויים ער וועגן דעם אויבערפלעכלעך. ער ווייס אָבער ניט, וועלכע שעדיקער און וועלכע מיסט-גראָזן עס וואקסן אַף די גערטנער און די פעלדער. ער ווייס ניט די מיטלען, ווי צו קעמפן מיט זיי, ער פרוּווט עס ניט טאָן, עמעס, ער ווייס נאָר פון א ווינטערדיקן אָדער פרילינגדיקן פרוּוו, וועלכע ווערט נעבעך פאַרטריקנט, שטייענדיק אפן שול-פענצטער.

דער קינד זאָל נאָכשפּירן נאָכן גאנצן גאַנג פון וווּקס פון קאָלווירט-קולטורן, נאָך דער ארבעט אין קאָלווירט, נאָך די נאטור דערשיינונגען אין זומער (דאָס האָבן מיר ניט און דאָס בלייבט פאר דעם קינד אַ סאָד)—דאָס איז די צילן פון אָרגאַניזאַציע פון דער זומער שול.

ווי מיר זעען, שאַפט זיך ארום דער פראגע א נייער, ברייטער לעבן-מאטעריאל פאר דער שול סיי בענויגייע געזעלשאפטלעכע, סיי נאטור דערשיינונגען. די שול קען דא פירן א ברייטע געז. ארבעט. דערביי מוז מען אונטערשטרייכן, אז די פראגע פון דערלערנען „אונדזער קאנט" הויפּט אָן שפּילן א באזונדער אינטערעסאנטע און וויכטיקע ראָל.

א צווייטער מאמענט, וועלכער האט געשטויסן צו דער ארגאניזאציע פון דער זומער שול—דאס איז די עקזיסטענץ פון א קינדער קאלווירט בא דער שול. דאס איז א דערשיינונג, וועלכע האט פארן לעצטן יאָר אנגענומען א מאסן כאראקטער אומעטום. קלאר, אז די

# У ДАПАМОГУ НАСТАЎНІКУ

## Што чытаць дзецям.

*Рэкомэндацыйны сьпіс дзіцячай беларускай літаратуры для чытаньня ў школе і дома, прыстасаваны да дэталізаваннай программы для IV групы чатырохгадовай і сямігадовай школы.*[1])

У мэтодычнай запісцы да програмы па грамадазнаўству для IV групы чатырохгадовай і сямігадовай школы чытаем: „Грамадазнаўства на гэтай ступені павінна мець характар ня столькі адукацыйны, колькі выхаваўчы. Яно павінна ўзьдзейнічаць ня столькі на розум, колькі на пачуцьцё і волю, выхоўваючы з вучня сьвядомага і адданага соцыялістычнаму ладу маладога грамадзяніна".

З найбольшым посьпехам настаўнік можа дасягнуць гэтае мэты, наладзіўшы ў школе сыстэматычнае чытаньне мастацкай дзіцячай літаратуры, якая адбівае гэроізм і патос рэволюцыі, асабліва рэволюцыі Кастрычніцкай, змаганьне чалавека з прыродаю і г. д. Такіх кніг вельмі многа. і чытаюцца яны дзяцьмі з захапленьнем. Бяда толькі ў тым, што настаўнік, перагружаны мноствам ускладзеных на яго абавязкаў, часта ня мае часу выбраць адпаведныя кніжкі, дапасаваць іх да процэсу свае штодзённай працы, іначай кажучы, надаць чытаньню сыстэму.

Зьмешчаны тут рэкомэндацыйны сьпіс мае на мэце дапамагчы настаўніку ў гэтай справе. Сьпіс пабудаваны па наступнаму прынцыпу: да кожнай тэмы комплексу, на якую адведзен большменш значны час, падабрана некалькі кніжак мастацкай дзіцячай літаратуры, у якіх матар'ял тэмы альбо падтэмы адбіваецца ў мастацкай форме. Напрыклад, для падтэмы „Лютаўская рэволюцыя" падабраны кніжкі: Алейнікаў— „Баявыя дні". Насімовіч, — „Грозныя дні" і г. д.

Такі рэкомэндацыйны сьпіс і карыстаньне ім дапамогуць настаўніку наладзіць кіраваньне чытаньнем дзяцей у школе і дома, а сыстэматычнае чытаньне мастацкай дзіцячай літаратуры, дапасаванае да прапрацоўваемага комплексу, дасьць станоўчыя выхаваўчыя вынікі.

### ТЭМА II

### ПРЫРОДА С. С. С. Р.

#### Паходжаньне зямлі

**Гарабурда К.—Як стварыўся сьвет і зямля.** З малюнкамі. БДВ. 1930 г. Цана 50 к.

Кніжка дае гісторычны агляд розных поглядаў на стварэньне сьвету. Разгледжана наша сонечная сыстэма з яе плянэтамі, зоры, комэты, туманнасьці ў сьвятле сучасных дасягненьняў навукі. Кніга мае на мэце змаганьне з ненавуковымі, забабоннымі поглядамі на стварэньне зямлі і сьвету.

#### Поўнач

**Лявонаў Н.—Па берагох паўночных мораў.** БДВ. 1929 г. Цана 25 к.

Зьмест. Да цёплага мора. У паморцаў. На промысел з паморцамі цераз Архангельск. На Мурманскіх промыслах.

**Кажэўнікаў А.—Чалавек-песьня.** БДВ. 1930 г. ст. 171. Цана 50.

Гэтая кніжка, вельмі цікавая па зьместу, асабліва каштоўна тым, што ў ёй памастацку адлюстравана жыцьцё лапароў, і вельмі прыгожа апісана прырода поўначы СССР.

[1]) Ухвалена мэтодкомам НКА.

## Цэнтр

**Пакроўскі С.—Сярод імшараў.** БДВ. 1929 г. Ст. 37. Цана 20 к.

Кніжка пра птушак, якія водзяцца у цэнтральнай паласе.

**Колакалаў П.—Дуплё.** БДВ. Ст. 40. Цана 20 к.

Сяляне верылі ў нячыстую сілу. Малады селянін зьніштожыў гэтую веру, паказаўшы, што сяляне за нячыстую сілу прымалі звычайны пянёк.

## Урал

**Сураскі.—На мяжы Эўропы і Азіі.** БДВ. Стар. 65. Цана 25 к.

**Караблёў Е.—Каля пяці ручаёў.** БДВ. 1929 г. Стар. 280. Цана 1 р.

Аповесьць у трох частках аб краязнаўчай экспэдыцыі на Урал, наладжанай вучнямі. З дарослых прымалі ўдзел у вандраваньні настаўнік і стары забабонны дзед, заўзяты шукальнік золата і знаўца Уралу. Аповесьць знаёміць з прыродаю мала зьведанае краіны, з яе невычарпальнымі багацьцямі (вандроўнікі адшукалі багатыя скарбы золата і плятыны).

## Туркестан

**У пяскох Каракуму** (сэрыя „Вакол Сьвету“). БДВ. 1929 г. Стар. 156. Цана 45 к.

Зборнік туркестанскіх апавяданьняў пра прыроду Туркестану і жыцьцё тубыльцаў.

## Сібір

**Чукоўскі Н.—Расійская Амэрыка.** БДВ. 1929 г. Стар. 96. Цана 35.

Гісторыя экспэдыцыі Бэрынга і Чырыкава да паўночна-заходніх бэрагоў Амэрыкі, сутычкі з дзікунамі, паўстаньне сібірскіх катаржнікаў, паляваньне на пясцоў і мядзьведзяў—вось матар'ял гэтай кніжкі.

# ТЭМА IV

Як стварыўся СССР (шлях да Кастрычніка)

## Жыцьцё сялян за прыгонам.

**Фарафонтава Т.—Апавяданьне прыгоннай бабулькі.** БДВ. 1928 г. Ст. 28. Цана 20 к.

Старая бабуля расказвае аб сваім жыцьці ў часе прыгону. Маці яе засеклі розкамі, яе прамянялі на сабаку. Шмат давялося цярпець ёй ад лютай пані. У прадмове да кнігі зазначана: „Гэта не казка, а праўда“. Запісана яна са слоў бабулі Мар'і Іванаўны Волкавай. Жыве цяпер прыгонная бабуля ў Маскве.

## Жыцьцё рабочых і сялян пасьля скасаваньня прыгону.

**Андрэеў Л.—Пятруська на дачы.** З жыцьця рабочых падлеткаў да Кастрычніцкай рэволюцыі. БДВ. Стар. 38. Цана 13 к.

Пятруська, які вучыўся на цырульніка, трапляе першы раз на вёску і захапляецца жыцьцём сярод прыроды. У другім апавяданьні „Сьмерць Сымонкі“ гаворыцца, як памёр адзінока ў больніцы хлопчык, якога зьбіў п'яны майстар кравец.

**Алэйхем Ш.—Хлопчык Мотка.** БДВ. 1930 г. Цана 40 к.

Кніжка малюе быт местачковых рамесьнікаў і дробных гандляроў у дарэвалюцыйныя часы.

**Адамовіч Е. Бяз маці. Апавяданьне.** „Чырвоная Зьмена“, 1928 г. Ст. 28. Цана 10 к.

Апавяданьне аб жыцьці бядняцкай сям'і. Дзяўчынка Наталька застаецца гаспадарыць з сваім бацькам у той час, калі матка пашла зарабляць на фабрыку. Яна ўпраўляецца з хатняй гаспадаркай і пасьпявае праходзіць з таварышамі тое, што ім задаецца ў школе.

**Громаў М.—У царскай казарме.** БДВ. 1930 г. Стар. 44. Цана 18 к.

Апавяданьне з жыцьця старой арміі. Гэта ўрывак з апавяданьня „За крыжамі“. Быт царскай казармы ў гэтым апавяданьні паказаны праз ураженьні вясковага хлопца, якога ўзялі на царскую службу і які раней не сустракаўся „з ваеншчынай“.

**Кажэўнікаў А. Ганулька.** БДВ. 1930 г. Стар. 111. Цана 35 к.

„Апавяданьне „Ганулька“ — праўдзівы абразок з жыцьця дзяцей рабочых і рабочае сям'і у дарэвалюцыйныя часы“ (З прадмовы).

**Мамін-Сібірак—Зімоўка на Студзёнай.** Апавяданьне. „Чырвоная Зьмена“ 1928 г., Стар. 30. Цана 10 к.

У апавяданьні „Зімоўка на Студзёнай“ малюецца жыцьцё беднага чалавека—купецкага вартаўніка, які жыў далёка ад людзей на гандлёвым шляху. Жыў ён разам з сваім верным сабакам Музгаркам. Суровыя малюнкі паўночнай прыроды, адзінокае жыцьцё ў лесе сярод рознага звяр'я, сьмерць Музгаркі і, як вынік гэтага, прысьпешаная сьмерць вартаўніка—вось канва апавяданьня.

**Мамін-Сібірак.—Карміле ц.** Апавяданьне, ст. 28. Цана 10 к.

Дзеці-рабочыя ў часы панаваньня царызму несьлі на сваіх плячох цяжар і крыўду большую, чым нават дарослыя. У апавяданьні „Кармілец“ паказана жыцьцё і праца дзяцей на заводзе і трагічныя вынікі, якія былі масавым зьявішчам.

## Рэволюцыйнае змаганьне

**Бухштаб—Гэрой падпольля.** БДВ. 1930 г. Цана 25 к.

Падпольная работа рэволюцыянэраў-тэрорыстых 70 гадоў, іх жыцьцё на волі і ў турме. Аб тым, як рэволюцыянэр Краўчынскі забіў шэфа жандараў Мезенцава.

**С. Заяіцкі—Вялікі перавал.** БДВ. 1930 г. Стар. 212. Цана 60 к.

Апавяданьне „Вялікі перавал" ахоплівае пэрыод вайны і рэволюцыі. Дзея адбываецца ў панскім асяродзьдзі. Хлопчык з рабочае сям'і Васілёк выхоўваецца „панамі", але зусім не захапляецца панскімі звычаямі і імкнецца да навукі і адчувае сябе лепш у кухні, чымся ў панскіх пакоях. Кастрычнік выганяе пана за межы, а Васіль застаецца з бальшавікамі.

**Качаткоў.—Пад царом.** БДВ. 1930 г. Стар. 109. Цана 35 к.

Вясковы хлопчык у дарэволюцыйныя часы трапляе ў Маскву на „вучобу" у сталярную майстэрню. З майстэрні ён уцякае і трапляе на завод. Тут ён захапляецца рэволюцыйнаю дзейнасьцю. У канцы кніжкі апавядаецца, як яго судзяць за рэволюцыйную дзейнасць і кідаюць на шэсьць год у вастрог.

## Ленін—заснавальнік і правадыр бальшавіцкае партыі

**Ліліна З.—Наш настаўнік Ленін.** Кніжка для дзяцей. Стар. 16. Цана 3 к.

**Ліліна З.—Ленін маленькі.** БДВ. 1930 г. Ц. 10 к.

Добрая кніжка, якая апавядае цёпла і проста дзецям аб тым, як жыў і працаваў У. І. Ленін. Яна паказвае Леніна маленькім хлопчыкам Валодзяю, і вялізарная фігура правадыра становіцца блізкаю і роднаю дзіцяці.

## Лютаўская рэволюцыя і Кастрычнік

**Алейнікаў П.—Баявыя дні.** БДВ. 1930 г. Цана 16 к.

Гэты нарыс пабудованы у форме шэрагу кароценькіх апавяданьняў пра Кастрычніцкія дні ў Ленінградзе і напісаны лёгкаю мастацкаю моваю.

**Насімовіч.—Грозныя дні.** 1929 г. Стар. 82. Цана 20 к.

У часы імпэрыялістычнае вайны падлетак-уцякач, перацярпеўшы шмат усякіх прыгод, трапляе ў Маскву на завод. Тут ён прымае ўдзел у рэволюцыйным руху, а ў дні Кастрычніка актыўна змагаецца за ўладу рабочых і сялян.

**Джон Рыд.—Дзесяць дзён, якія ўзварухнулі сьвет.** БДВ. 1930 г. Стар. 64. Цана 20 к.

Скарочанае выданьне вядомай кніжкі Рыда, аб якой У. І. Ленін сказаў, што яна павінна быць распаўсюджана ў мільёнах экзэмпляраў.

## Грамадзянская вайна.

**Голубеў П.—Яўхімка-партызан.** БДВ. 1930 г. Стар. 47. Цана 17 к.

Апавяданьне аб часох калчакаўшчыны. Прыгоды вясковага хлопчыка, які трапіў да чырвоных партызан.

**Грыгор'еў С.—Паравоз Э-т 5324.** БДВ. 1930 г. Стар. 52. Цана 25 к.

У сваім апавяданьні „Паравоз Э-т 5324", Грыгор'еў вельмі жыва расказвае аб дзецях сібірскага чыгуначнага пасёлку, якія ў часы грамадзянскай вайны паправілі папсуты паравоз, што стаяў на станцыі, і скарысталі яго супроць ворага. Гэта адна з лепшых кніжак дзіцячай бібліотэчкі.

**Грыгор'еў С.—Чырвоны бакэн.** БДВ. 1930 г.

Галадаючы Максімка папераджае выбух катлоў на параходзе. Гэты выбух падрыхтаваў здраднік-мэханік.

**Драздоў А.—Унук комунара.** БДВ. 1928 г. Стар. 198. Цана 75 к.

„Пры агульнай беднасьці беларускае дзіцячае літаратуры бадай што самым мізэрным яе аддзелам зьяўляецца рэволюцыйная романтыка. „Унук комунара" як раз належыць да яе. Цікава і здавальняюча распрацавана аповесьць. Парыская комуна зьвязана з Кастрычніцкай Рэволюцыяй. І дзед і ўнук—абодва комунары і абодва гінуць за рэволюцыю, за комуну, толькі адзін на барыкадах Парыжу, другі—у Крыме, у час севастопальскага паўстаньня. Аповесьць насычана соцыяльным зьместам. Простаю і зразумелаю дзіцяці моваю даецца яскравае прадстаўленьне аб клясавай барацьбе і соцыяльнай сутнасьці груп і асоб. („Зьвязда").

**Новікаў-Прыбой.—У бухце „Отрада".** БДВ. 1930 г. Стар. 52. Цана 15 к.

Апавяданьне старога параходнага мэханіка аб тым, як яго дзеці далучыліся да партызанаў, як яго арыштавалі белыя і прысудзілі да кары сьмерці і як ён падарваў параход, на якім белыя накіраваліся супроць чырвоных партызан.

# ТЭМА V

## Як мы будуем соцыялізм у СССР

**Мінаеў.—Назарка верхавод.** БДВ. 1930 г. Стар. 67. Цана 20 к.

Сучасны быт гарадзкіх і вясковых дзяцей: дзеці будуюць дом-комуну; хлапчукі—сыны ўдавы чырвонаармейца едуць па дровы ў лес; першы заработак фабзайца; таварыскі суд піонэраў.

**Грыгор'еў С.—Сыгналы вяліканаў.** БДВ. 1930 г. Цана 30 к.

У кніжцы „Сыгналы вяліканаў" аўтар паказвае савецкіх дзяцей, іх жыцьцё. Проста, без выкрутасаў, апавядае аўтар, як тры хлопчыкі, перамагаючы вялікія цяжкасьці, будуюць маленькую радыёстанцыю,

**Віря.—Маленькі балагол.** БДВ. 1928 г. Стар. 48. Цана 25 к.

Кніжка зьмяшчае апавяданьні: „Маленькі балагол“, „Упарты“ і „Падарунак бацькі“. Два першыя з яўрэйскага местачковага жыцьця. Піонэр Нохім у час хваробы бацькі і цяжкага становішча сям'і становіцца балаголам. Мота („Упарты“) шмат церпіць ад бацькі за тое, што ня хоча наведваць хэдэру. Дзея адбываецца ў часе польскае окупацыі.

**Даніэль М. — Лейбка-„Берлінчык“** БДВ. 1929 г. Стар. 32. Цана 12 к.

Апавяданьне з жыцьця сучаснага яўрэйскага мястэчка.

**Гарын А.—Лета ў пладовым садзе.** БДВ. 1930 г. Стар. 60. Цана 25 к.

Аўтар кніжкі апавядае, як вучні разам з сваім настаўнікам прымалі ўдзел ва ўсіх летніх работах у садзе, як яны праводзілі назіраньні і як, д якуючы такім мэтодам працы, яны азнаёміліся з галоўнымі процэсамі садоўніцтва.

## Нацыянальнае пытаньне

**Красн шчокаў В.—Якубка цыганёнак.** Стар. 16. Цана 10 к.

„Якубка цыганёнак“ чытаецца дзяцьмі з захапленьнем і зарысоўвае перад імі малюнкі яшчэ ня выжытай нацыянальнай варожасьці, якая захавалася да нашых часоў паміж тупымі і сытымі людзьмі, як „прыбраная паня“ з белай павязкай на лобе падбухторыла на маленькага скрыпача сваіх дзяцей, апошнія-ж нацкавалі злоснага сабаку на Якубку, які зарабляў на сваю галодную сям'ю.

**Канапніцкая М.—Мэндэль Гданскі.**

**Станюковіч К.—Ісайка.** БДВ. Менск, 1930 г. Цана 30 к.

Вельмі мастацкія апавяданьні, прапрацоўка якіх, бясспрэчна, паспрыяе інтэрнацыянальнаму выхаваньню.

**Явар Х.—Ічэ.** БДВ. 1929 г. Стар. 40. Цана 15 к.

## Колгаснае будаўніцтва

**Чалядзінскі Л.—Барацьба за колгасы,** БДВ. 1930 г. стар. 95. Цана 20 к.

Нарысы аб колектывізацыі Клімаўшчыны.

**Аляшчук.—Кулак і поп—ворагі батрацтва.** БДВ. 1930 г. Стар. 38. Цана 12 к.

„У змаганьні бедняка з кулаком рэлігія стаіць на баку багацеяў, бо яна вучыць бедняка быць жабраком, пакорным, цярплівым“. Яна гаворыць“: шукайце перш за ўсё царства боскага, а рэшта дадасца вам“. Вось чаму з рэлігіяй трэба змагацца.

**Пасьлядовіч.—Зруйнаваныя межы.** БДВ. 1930 г. Стар. 60. Цана 25 к.

Апавяданьні пра колектывізацыю.

# ТЭМА VI

## СССР і капіталістычны сьвет

**Грынат.—Месяц у Кітаі.** БДВ. 1930 г. Цана 30 к.

У форме цікавага апавяданьня аб падарожжы расійскага матроса ў Кітай падаюцца веды аб геаграфічным палажэньні Кітаю, колькасьці насельніцтва, сельскай гаспадарцы, аб эксплёатацыі працоўных Кітаю замежнымі капіталістымі, аб кітайскім рэволюцыйным руху.

**Дзьмітрыева Н.—Чай. Апавяданьне.** Стар. 42. Цана 25 к.

Апавяданьне знаёміць з працай на плянтацыях чаю і на фабрыцы, з побытам кітайцаў рабочых, якіх эксплёатуюць гаспадары.

### Англія

**Гуміле***ў***скі Л.—Чорны Джордзі.** БДВ. 1930 г., Стар. 28. Цана 15 к.

У гэтай кніжцы паказана жорсткая эксплёатацыя, якая пануе ў Англіі, і забастовачны рух рабочых. Дзея адбываецца ў нашы дні. Хлопчык Джордзі навучаецца ненавідзець сваіх клясавых ворагаў так сама, як іх ненавідзяць старыя рабочыя.

### Францыя

**Алтаеў А.—Да апошняе хвіліны.** 1928 г. Стар. 48. Цана 20 к.

Перад чытачом у яскравых і праўдзівых фарбах праходзіць апісаньне барыкадаў рэволюцыі, гэройства комунараў, радасьць пролетарыяту.

**Асанг А.—Чорная хваля.** БДВ. 1928 г. Стар. 104. Цана 35 к.

Апавядаецца аб тым, як французы будавалі чыгункі ў пустыні Сахары, і як яны эксплёатавалі рабочых і мясцовае насельніцтва—нэграў. Паказаны звычаі нэграў і іх адносіны да французаў, іх імкненьне вызваліцца з-пад улады апошніх.

### Амэрыка

**Бахаоўская.—Хрыстафор Колюмб.** БДВ. 1928 г. Стар. 36. Цана 15 к.

Простаю моваю ў форме апавяданьня расказана аб прыгодах Колюмба ў часе падарожжа ў Амэрыку.

# АСЬВЕТА ЗА МЕЖАМІ

## П.-А. Злучаныя Штаты

### Беспрацоўе сярод настаўнікаў Нью-Ёрку

Дэпартамэнт народнай асьветы прымае захады, каб скараціць сьпіс беспрацоўных настаўнікаў і зрабіць больш справядлівае разьмеркаваньне месц. Месцы будуць давацца, галоўным чынам, тым, у каго ёсьць права быць сталым настаўнікам.

У сьпіс беспрацоўных унесены 3842 прозьвішчы, ня лічачы тых, якія атрымалі пасьведчаньні на права выкладаньня ў чэрвені гэтага году.

Меркавалася, што на працягу 1931 г. прыбавяцца 1373 вольныя месцы за лік зьмяншэньня перагрузкі клясаў, новых школ, прасоўваньня па службе, адстаўкі, сьмерці і добраахвотнага адмаўленьня ад пасады. Апроч таго, разьлічваюць запоўніць 2825 вольных месц на часовыя пасады. На гэтыя месцы будуць пераважна накіроўвацца тыя, каму дагэтуль не ўдалося атрымаць месца намесьніка.

Нью-Ёркскі губэрнатар Франклін Рузавэльт, пры закладцы новага будынку ў нормальнай школе Освэго, заявіў, што ў штаце ўжо ёсьць 5000 беспрацоўных настаўніц. Ён раіў не павялічваць кадры настаўнікаў, бо іх няма дзе дзяваць. Бацьком ён раіў не глядзець на прафэсію настаўніцы, як на адзіны мажлівы занятак, прыгодны для іх дачок.

### Школьны бюджэт

Бюджэт дэпартамэнту народнай асьветы датычыцца, галоўным чынам, школы. Бюджэт на новы год прадбачыць некаторыя зьмены ў навучаньні. Норма вучняў на клясу будзе паменшана, бо перапаўненьне клясаў—адна з галоўных прычын значнага ліку непасьпяваючых. Міністэрства народнай асьветы выдала пастанову—аддаць асаблівую увагу праблеме непасьпяховасьці і зьнішчэньню гэтае зьявы. Траты на зьвязаныя з гэтым мерапрыемствы складаюць каля 1/8 усяго павялічэньня бюджэту.

Згодна апублікаванай нядаўна справаздачы міністэрства народнае асьветы агульная сума, якая выдаткавана гор. Нью-Ёркам на патрэбы народнай асьветы ў 1929 г., была рэкорднай, а менавіта: 173.036.363 доляры, г. з. на кожны вучэбны дзень трацілася 900.000 дол. У гэтым годзе мяркуецца павялічыць выдаткі на асьвету на 6.000.000 доляраў.

### Ліквідацыя няпісьменнасьці ў Паўднёва-Амэрыканскіх Злучаных Штатах

У Паўднёва-Амэрыканскіх Злучаных Штатах налічваюць 3.000.000 няпісьменных. Больш дакладна лік няпісьменных будзе выяўлены ў часе перапісу 1930 г.

### Абавязацельствы амэрыканскіх профэсароў

Комітэт па пытаньнях этыкі пры амэрыканскай асоцыяцыі унівэрсытэцкіх профэсароў апублікаваў правілы, якія павінны рэгуляваць па-заслужбовыя заняткі профэсароў. Гэта выклікана тым, што некаторыя компаніі і трэсты карыстаюцца за ўзнагароду паслугамі унівэрсытэцкіх профэсароў для складаньня дакладаў, чытаньня лекцый і для іншых мэт. Некаторыя электрычныя і газавыя кампаніі нават даюць звычайна грошы розным коледжам і унівэрсытэтам на фінансаваньне тэхнічных вынаходак, якія належаць да іх галіны прамысловасьці.

### Забарона карыстацца ў нью-ёркскіх школах падручнікам гісторыі проф. Хэйэс і Мун

Гэты падручнік „Новай гісторыі Эўропы“, складзены профэсарам Колюмбійскага унівэрсытэту Хэйэс пры ўдзеле проф. Мун, выкарыстоўваўся ў нью-ёркскіх народных школах на працягу 17 год, але нядаўна быў забаронены радай школьных адміністратараў на падставе „скаргі“, што ён шкодны ў грамадзкіх і рэлігійных адносінах.

Скарга была пададзена адным попам, які даводзіў, што гэта кніга абражае пашану палітычнай дэмократыі і патрыотызму, што яна заахвочвае да радыкалізму крытыкай экономічных асноў сучаснай грамады, пад назвай капіталізму, і што кніга абараняе рымска-каталіцкую царкву і крытыкуе протэстанцкую. Поп назаляў сваімі скаргамі дэпартамэнту народнай асьветы і радзе адміністратараў школ да таго часу, пакуль апошняя ня вынесла пастановы аб забароне гэтай кнігі.

## Ангельшчына

### Кадэцкія корпусы ў школах

Некаторыя з членаў комітэту па народнай асьвеце пры Лёндонскім провінцыяльным савеце ўнесьлі прапанову, каб зачыніць кадэцкія корпусы пры школах, якія знаходзяцца пад загадам Лёнданскага савету і спыніць выдачу на гэтыя корпусы грошай. Тыя, што ўнесьлі прапанову, мотывавалі яе тым, што кадэцкія корпусы рыхтуюць вучняў да вайсковай кар‘еры, чаго шмат якія бацькі зусім не жадаюць. „Недалёка той час,—гаварыў адзін з абараняўшых прапанову,—калі ўсе сьвядомыя людзі ў Лёндане запатрабуюць, каб сыстэма выхаваньня была канчаткова звольнена ад мілітарызму, у якой бы то ні было форме.

Большасьцю галасоў, супроць 38, гэта прапанова была адхілена. Прыхільнікі кадэцкіх корпусоў казалі, што „вышэйшы абавязак чалавека—быць гатовым абараняць сваю бацькаўшчыну“, а ў гэтай падрыхтоўцы кадэцкія корпусы адыгрываюць значную ролю.

З тэй прычыны, што вайсковае міністэрства спыняе дапамогу гэтым організацыям, Лёнданскім платнікам падаткаў прыдзецца ўзяць на сябе лішнія клопаты для падтрыманьня кадэцкіх корпусоў.

### Рэлігійнае выхаваньне ў школах

Архіяпіскап Уэльскі заявіў на сходзе, што пытаньне аб народнай асьвеце ў Ангельшчыне знаходзіцца цяпер у пераходным стане, і вынікі новых урадовых мерапрыемстваў застаюцца невядомымі. Аднак, ніколі яшчэ ня было гэтулькі спрыяючых (!) умоў для ўвядзеньня пэўнай сыстэмы рэлігійнага выхаваньня ва ўсіх пачатковых школах, ніколі ня было гэтакіх „многаабяцаючых умоў“ для выкладаньня рэлігійных прадметаў, а таму вельмі шкода будзе, калі не скарыстаць такіх вялікіх мажлівасьцяй. На сходзе абгаварваўся плян увядзеньня пэўнай сыстэмы выкладаньня рэлігійных прадметаў у школах.

### Ці павінны загадчыкі цэнтральных школ мець унівэрсытэцкую адукацыю?

У Паўночным Уэльсе гэта пытаньне было разьвязана згодна поглядам нацыянальнага саюзу настаўнікаў, а менавіта, што ня варта ўстанаўляць тут строгіх правіл, а пры прызначэньні настаўніка на такую пасаду прымаць пад увагу яго вопыт і шырыню яго жыцьцёвых поглядаў.

У іншых провінцыях таксама пераважвае погляд, што ня варта прытрымлівацца ў гэтым занадта строгіх абмежаваньняў.

### Асьвета дарослых

На штогодняй конфэрэнцыі асоцыяцыі па распаўсюджваньню асьветы сярод дарослых у Лідсе прамоўцы адзначалі, што сярод насельніцтва расьце імкненьне да „разуменьня асноўных проблем жыцьця“, што з пункту погляду выхаваньня ёсьць шырокая мажлівасьць для атрыманьня вынікаў. Ніводная соцыяльная, экономічная ці палітычная ўстанова

ў сучасны момант ня можа ўнікнуць крытыкі. Рацыяналізацыя нашых ідэй зьяўляецца яшчэ больш важнай, чымся рацыяналізацыя прамысловасьці. Асьвета ахоплівае цяпер дарослых больш, чым да вайны. Сярод вучняў заўважаецца значная зьмена ў густах і запатрабаваньнях. Галоўным чынам цікавіць слухачоў псыхолёгія, філёзофія і літаратура.

## Францыя

### Конгрэс нацыянальнага сындыкату настаўнікаў і настаўніц

Конгрэс нацыянальнага сындыкату настаўнікаў і настаўніц прыняў рэзолюцыю, якая протэстуе супроць таго, што настаўнікі сьвецкай школы ў адносінах зарплаты знаходзяцца ў горшым становішчы ў параўнаньні з іншымі чыноўнікамі.

Рэзолюцыя патрабуе, каб з мэтай поўнай асыміляцыі настаўнікаў з чыноўніцтвам аклады настаўнікаў параўняць з акладамі паштовых служачых; дапамога на сям'ю павінна быць павялічана.

## Эльзас-Лётарынгія

### Конфлікт паміж мясцовымі эльзаскімі настаунікамі і настаунікамі, якія прыехалі з Францыі

На сходзе членаў Мозэльскага аб'яднаньня асьветнікаў, на якім прысутнічала 600 чалавек, адзін адстаўны настаўнік-аўтономісты пачаў рэзка нападаць у сваёй прамове на настаўнікаў, якія прыехалі з Францыі. Удзельнікі сходу рашуча протэставалі супроць гэтага. Сход прыняў рэзолюцыю: патрабаваць скасаваньня тых пераваг, якімі карыстаюцца мясцовыя настаўнікі ў параўнаньні з іншымі.

## Італія

### Адзіны падручнік

Міністэрства народнай асьветы выдае для ўсіх пачатковых школ Італіі адзіны падручнік пад назвай „Кніга Дзяржавы“. Ён будзе падзелены на пяць частак—па аднэй частцы для кожнае клясы. Кнігі 1-е і 2-е клясы маюць два выданьні, адно—для гораду, а другое—для вёскі, 3-я, 4-я і 5-я часткі выходзяць у адным выданьні.

У складаньні падручніка прымаюць удзел вядомыя аўтары, якія пішуць для маладога пакаленьня. У кнізе ёсьць матар'ял для чытаньня і гутаркі на рэлігійныя і гісторычныя тэмы, шмат артыкулаў, афяраваных „Дучэ“ (Мусоліні), фашысцкай рэволюцыі, замірэньню Італіі з папай і г. д.

## Грэцыя

### Конгрэс настаўнікаў пачатковай школы

З 6 па 13 ліпеня г. г. у Атэнах адбыўся 13-ы конгрэс організацый настаўнікаў пачатковай школы, якія далучаюцца да МФУО. На конгрэсе выступаў з прамовай міністар народнай асьветы. Прыняты рэзолюцыі аб прасоўваньні па службе, аб скарачэньні часу службы да атрыманьня пэнсіі, аб адстаўцы, аб удзеле настаўнікаў у савеце інспэкцыі і аб супрацоўніцтве дзяржаўных служачых з іншымі катэгорыямі, якія працуюць па найму.

На конгрэсе было высунута патрабаваньне, каб злучыць усе профсаюзы грэцкіх настаўнікаў.

## Індыя

### Хваляваньне сярод вучняў

Агэнцтва Рэйтэр паведаміла, што 17 дзяўчат прымалі ўдзел у пікетах, якія абкружалі Бэтунскі жаночы коледж. Большасьць гэтых вучняў былі арыштаваны 18 ліпеня г. г. Пасьля арышту другой партыі студэнтак 300 чалавек кінулася да агароджы коледжу, але настаўнікі (!), з дапамогаю паліцыі, адбілі наступ.

## Нямеччына

### Проекты рэорганізацыі сярэдняй школы ў Нямеччыне

„Дэйтшэ Алгемэйнэ Цэйтунг“ паведамляе, што прускі міністар фінансаў унёс проект аб скарачэньні тэрміну навучаньня ў сярэдняй школе да 8 год, аб адмене выпускных іспытаў у сярэдняй школе і аб увядзеньні замест таго ўступных іспытаў ва ўсіх вышэйшых навучальных установах.

### Адмаўленьне у адмене экзамэнаў у Нямеччыне

Згодна паведамленьня „Бэрлінэр Бэрзэнцэйтунг“, міністэрства народнай асьветы провінцыі Швэрын адхіліла хадайніцтва саюзу настаўнікаў аб адмене экзамэнаў пры прыёме ў сярэднюю і спэцыяльную школу для дзяцей, якія скончылі пачатковыя школы.

### Школьная забастоўка ў Нямеччыне

Цэнтральны орган нямецкай комуністычнай партыі „Ротэ Фанэ“ паведамляе, што ў пачатковых школах № 5 і № 9 г. Бэрліну пачалася забастоўка вучняў, падтрыманая бацькамі вучняў. Прычынай забастоўкі зьявілася звальненьне маладога настаўніка, члена раённага парляманту (райсавету) Бэрліна Фрыца Бэйэса за прыналежнасьць яго да комуністычнай партыі. Вучні 2-ое клясы, якою кіраваў т. Бэйэс, пры падтрыманьні сваіх бацькоў, аднагалосна патрабавалі аднаўленьня на пасадзе свайго настаўніка, заявіўшы, што яны не пачнуць займацца да таго часу, пакуль ня будзе вернуты іх настаўнік, лепшага за якога няма ва ўсёй школе. Сапраўднай прычынай звальненьня Бэйэса зьяўлялася яго выступленьне ў раённым парляманце з рэзкай крытыкай социял-дэмократаў, якія кіруюць народнай асьветай Прусіі.

---

## Кангрэсы і конфэрэнцыі

### Міжнародны конгрэс геомэтраў

„Нэйе Цурхер Цэйтунг“ паведамляе, што 13 верасьня ў Цурысе зачыніўся чарговы міжнародны зьезд геомэтраў. На зьезьдзе прысутнічала 550 дэлегатаў. Зьезд вынес пастанову аб тым, каб дамагацца ўніфікацыі знакаў, якія ўжываюцца пры рысаваньні карт і плянаў, а таксама тэрмінаў, якія ўжываюцца ў геодэзіі.

Зьезд раіць захоўваць дакладнасьць кадастравых вымераў у залежнасьці ад гаспадарчага значэньня зямельных дзялянак, якія абмяраюцца, і шырока ўжываць у часе вымераў мэтод полярных координатаў, комбінуючы яго з оптычным вымерам адлегласьцяй і фотограмэтрыяй. Зьезд вынес пастанову аб тым, каб стварыць міжнародную організацыю геомэтраў, падобную да організацый юрыстах і доктароў.

### Міжнародны зьезд гісторыкаў мастацтва

„Энэпанданс Бэльж“ паведамляе, што ў Брусэлі адчыніўся XII міжнародны зьезд гісторыкаў мастацтва. На зьезьдзе прысутнічае звыш 800 дэлегатаў, у тым ліку офіцыйныя прадстаўнікі 19 дзяржаў Эўропы. Зьезд вылучыў тры сэкцыі: 1) па выкладаньні гісторыі мастацтва і музэяграфіі, 2) мастацтву Эўропы сярэдніх вякоў і 3) мастацтву рэнэсансу і сучаснаму. На зьезьдзе і ў сэкцыях будзе заслухана 160 дакладаў. Зьезд працягнецца 10 дзён.

### Міжнародны зьезд буржуазных пэдагогаў

Згодна паведамленьня „Бэрлінэр Бэрзэнцэйтун“, у Вісбадэне паміж 5 і 7 кастрычніка пад старшынствам профэсара Кэршэнштэйнэра адбудзецца пэдагогічны зьезд. Асноўным дакладам на зьезьдзе будзе даклад „Аб задачах і межах дзейнасьці дзяржавы ў галіне народнай асьветы“. Апроч таго, зьезд заслухае даклад профэсара Сяргея Гесэна „Аб формах залежнасьці сыстэмы народнай асьветы ад дзяржавы“.

### Конфэрэнцыя францускa-нямецкага студэнцтва

Згодна паведамленьня „Бэрлінэр Таґеблят“, у Мангейме гэтымі днямі адбылася конфэрэнцыя буржуазных студэнцкіх організацый Францыі і Нямеччыны. Конфэрэнцыя заслухала даклады францускіх профэсароў Лякруа „Аб злуча-

ных Штатах Эўропы". Шалея „Аб ідэолёгічным і моральным зьліжэньні народаў" і даклад старшыні таварыства франка-нямецкага зьліжэньня „Аб мэтах і задачах таварыства".

Конфэрэнцыя вылучыла сталы комітэт з прадстаўнікоў францускага і нямецкага студэнцтва, у задачы якога ўваходзіць падрыхтоўка навуковых экскурсій, абмен пэрыодычнымі студэнцкімі выданьнямі і інш.

## СССР і заграніца

### Народная асьвета СССР

Ангельскі настаўнік, які пабываў у гэтым годзе ў СССР, зьмясьціў артыкул у часопісе нацыянальнага саюзу настаўнікаў „Скулмастэр".

„У мінулым,—гаворыць ён,—мы нічога ня ведалі аб экспэрымэнтальнай працы сваіх таварышоў у СССР". Ён вылучае наступныя моманты ў нашай працы бясплатнасьць навучаньня, дзякуючы якой школы зрабіліся даступнымі для ўсіх упяршыню ва ўсім сьвеце, жыцьцёвы контакт паміж школай і экономічным жыцьцём дзяржавы. „Кожная школа мае сувязь з фабрыкай ці колгасам, дзякуючы чаму адхіляецца тая нерэальнасьць, з якой нам даводзіцца змагацца ў ангельскіх школах", гаворыць ён. Ён апісвае коратка ўсю сыстэму навучаньня. Адносна школьных будынкаў кажа, што програма пяцігадовага пляну хутка выконваецца, у СССР будуюцца гэткія новыя школы, аб якіх ангельскім настаўнікам даводзіцца толькі марыць. Ніводная сучасная сярэдняя школа ў Ангельшчыне ня можа з імі зраўняцца.

### Аб пэдагогічнай выстаўцы ў Ленінградзе

„Нью-Ёрк Таймс" паведамляе, што на выстаўку людзі ішлі гэткімі-ж натоўпамі, як у Амэрыцы ідуць у кіно. „З гэткай-жа стараннасьцю, якая ў нас выяўляецца толькі ў адносінах да забаў,—гаворыць аўтар,—1500 рускіх штодзённа імкнуліся на выстаўку". Газэта адзначае таксама значную колькасьць рабочых сярод наведвальнікаў і тую цікавасьць, з якой яны слухалі тлумачэньні.

### Друк аб усеагульным навучаньні ў СССР

Заходня-эўропейскія газэты зьмясьцілі шмат артыкулаў на гэтую тэму. „Ротэ Фанэ" вітае гэты крок, як сьмяротэльны ўдар па няпісьменнасьці"; „Юманітэ" прыводзіць у сваёй нататцы лічбы разьвіцьця школьнай сеткі, дашкольнай асьветы, тэхнічнай і профэсіянальнай асьветы; Нью-Ёркская" „Дэйлі Уоркер" дае весткі аб усеагульным навучаньні. „Нэйе Фрэйе Прэсэ", „Фосішэ Цайтунг", „Індэпандане Бэльж" даюць кароткія інформацыі па гэтым-жа пытаньні.

### Нямецкая настаўніцкая газэта аб рабфаках

Орган саюзу настаўнікаў „Лейпцыгер Лерэрцэйтунг" зьмяшчае весткі аб рабфаках СССР, згодна якіх за мінулы 1929-30 навучальны год ва ўсіх рабфаках у ССР лічылася 60 тысяч студэнтаў, з іх 10 тысяч у нацыянальных рэспубліках. Утрыманьне аднаго студэнта абыходзіцца ў вячэрніх рабфаках 170 руб., а ў дзённых—550 руб. у год. Газэта адзначае, што да гэтага часу скончылі рабфакі 49.000 студэнтаў, з іх 6000 вярнуліся на фабрыкі і вёскі, а 43.000 вучацца далей: 51 проц. у вышэйшых тэхнічных установах, 21 проц. у социяльна-экономічных, 15 проц. у сельскагаспадарчых, 7 проц. у мэдычных, 5 проц. у пэдагогічных і 5 проц. у мастацкіх.

Газэта адзначае, што рабфакаўцы вучацца ня горш за іншых студэнтаў.

### Выстаўка малюнкаў савецкіх мастакоў у Англіі

„Манчэстэр Гардыян" зьмясьціла рэцэнзію аб выстаўцы савецкіх мастакоў у Англіі. Адзначаючы, што выстаўка выклікае вялікую цікавасьць, газэта падкрэсьлівае, што сярод экспонатаў няма ніводнага, які не заслугоўваў-бы ўвагі. Асабліва цікавыя, паводле погляду газэты, гравюры па дрэву. Газэта вылучае працы мастакоў Вярэйскага, Купрыянава, Філонава і Юстыцкага. Сюжэты малюнкаў узяты з жыцьця Чырвонай арміі, рабочых, сялян, рыбакоў і школьнікаў.

# КНІГАПІС

**Р. Рудоміно. Грамадазнаўства. Падручнік для VI гр. навучаньня. Выданьне II, перапрацаванае. 1930 г.**

I.

Рэцэнзуемы падручнік мае многа дадатных бакоў. Першае і асноўнае—гэта сам факт існаваньня яго: настаўнік і вучань маюць упяршыню адзін падручнік, замест тых шматлікіх (зусім непрыстасаваных) кніг, якімі карысталіся пры выкладаньні грамадазнаўства. Падручнік мае таксама шэраг пераваг у параўнаньні з другімі аналёгічнымі падручнікамі па грамадазнаўству, напр., падручнікам маскоўскага выданьня. Да яго дадатных бакоў трэба аднесьці наступнае: 1) аўтар падручніка выбраў самы неабходны матар'ял, і таму аб'ём падручніка зусім невялікі, але яго хапае для вывучэньня грамадазнаўства на працягу аднаго году навучаньня; 2) аўтар цьвёрда прытрымліваецца праграмы і выкладае ўсё сыстэматычна, а таму нічога лішняга або выпадковага ў падручніку няма (аўтар нават крыху скупаваты); 3) з боку знадворнага афармленьня падручнік таксама здавальняе: матар'ял падзелены на асобныя разьдзелы, тэмы, што значна палягчае засваеньне матар'ялу; да кожнай тэмы даюцца пытаньні і заданьні, якія маюць на мэце накіраваць увагу вучня на асобныя вузлавыя пытаньні вывучаемай тэмы (праўда, тут аўтар ня зусім спраўляецца са сваёй задачай, але аб гэтым ніжэй).

Але пабач з гэтымі дадатнымі бакамі, падручнік мае і цэлы шэраг значных недахопаў, якія датычацца як зьместу, так і мэтоду апрацоўкі матар'ялу. У большасьці гэтых недахопаў аўтар не вінаваты, і іх можна аднесьці за кошт праграмы, якая яшчэ і да гэтага часу ня зусім улічыла тыя новыя задачы, якія стаяць перад школай у сучасны момант (політэхнізацыя школы і, значыцца, самая шчыльная сувязь з вакольным жыцьцём яшчэ не знайшлі свайго адбітку ў праграмах). Можна было-б таксама спрачацца і аб мэтазгоднасьці вывучэньня тэй ці іншай тэмы або аб парадку іх вывучэньня ў школе, але гэта ўжо выходзіць з рамак данага артыкулу і адносіцца хутчэй да праграмных пытаньняў. Аднак усё-ж такі пры разглядзе падручніка нельга будзе цалкам адмовіцца ад некаторых прынцыповых пытаньняў, а таму мы іх будзем закранаць хоць-бы схематычна.

Аўтар дае цэлы шэраг няправільных формулёвак альбо няправільна тлумачыць некаторыя проблемы. Нялішне напомніць, якую вялізную шкоду можа прынесьці недакладная формулёўка пры выкладаньні такой дысцыпліны, як грамадазнаўства. Часта аўтар карыстаецца гатовымі ўжо тэрмінамі, ня ўскрыўшы іх унутранага зьместу, альбо дае ім зусім няправільнае тлумачэньне. На стар. 3 гаворыцца: „народная гаспадарка СССР розьніцца ад народнай гаспадаркі ўсякай іншай краіны", але няма ніводнага слова аб тым, што наогул трэба разумець пад тэрмінам „народная гаспадарка". А гэта было-б вельмі патрэбна, бо калі ў далейшым аўтар разглядае гэтую самую проблему, дык вывады аб народнай гаспадарцы атрымліваюцца ня зусім ясныя, напр.: на стар. 5 гаворыцца: „народная гаспадарка СССР падзяляецца на дзьве галіны—прамысловасьць і сельскую гаспадарку", але крыху ніжэй гаворыцца ўжо нешта іншае: „такім парадкам, прамысловасьць, сельская гаспадарка, гандаль, транспорт і фінансы зьяўляюцца асноўнымі галінамі народнае гаспадаркі". Нейкую супярэчнасьць мы ўжо маем: раней гаварылася аб „дзьвюх галінах", а цяпер іх крыху больш. Далей гаворыцца так: „але нашае разуменьне аб народнай гаспадарцы СССР было-б няпоўным, калі-б мы не пазнаёміліся са спосабамі вытворчасьці і прыладамі працы, якія ёсьць у распараджэньні працоўных СССР". Паўстае пытаньне: „чаму няпоўнае?", а можа, і ня трэба іх (спосабы вытворчасьці і г. д.) зусім уключаць у тэрмін „народная гаспадарка?" І апошняе запытаньне: дык што-ж усё-ж такі народная гаспадарка?.. Пасьля тлумачэньня аўтара такое запытаньне зьяўляецца зусім натуральным.

Аўтар праз меру спрашчае некаторыя палажэньні. Напр., у адным месцы аўтар мімаходам дае наступнае тлумачэньне аб сутнасьці індустрыялізацыі: „Савецкая ўлада паставіла сваёй асноўнай задачай як мага больш разьвіваць уласнае машынабудаўніцтва, г. зн., індустрыялізаваць нашу краіну" і г. д. Па нашай думцы, тэрмін „індустрыялізацыя" значна шырэйшы, і нельга яго зводзіць выключна да машынабудаўніцтва.

Разглядаючы розныя віды апалу, аўтар кажа, што каменны вугаль мае шырокае ўжываньне ў

гаспадарчым жыцьці, дзякуючы яго таннасьці... Гэта зусім не адпавядае сапраўднасьці, бо ў сучасны момант каменны вугаль, папершае, досыць дарагі матар'ял, і ён ужываецца ў гаспадарцы пасьля цэлага шэрагу перааапрацовак (гл., напр., артыкулы Асінскага ў „Праўдзе" за м. г.), а падругое, сам аўтар крыху ніжэй кажа (14 стар.) „нафта і каменны вугаль—апал досыць дарагі..."

Каб параўнаць становішча рабочых у СССР і ў Нямеччыне, аўтар прыводзіць лічбы за 1926 г. паводле якіх нямецкі рабочы, па яго словах, атрымоўваў на 26 проц. больш, чым рабочы СССР. Гэта няправільнае высьвятленьне сапраўднасьці. Папершае, чамубярэцца 26 г., а ня 30 г, або, нарэшце, 29 г.; падругое, чаму аўтар нічога ня кажа аб перавагах, якія мае наш рабочы ў параўнаньні з рабочымі капіталістычных краін—соцстрах ды інш.? Спасылка на 1932 г., калі, па словах аўтара, наш рабочы будзе атрымліваць на 25 проц. больш, не выратоўвае справы.

Гаворачы аб спажывецкай коопэрацыі, трэба было-б закрануць і культурна-бытавы яе бок — ролю коопэрацыі ў перабудове быту. Пытаньню соцспаборніцтва аддаецца вельмі мала месца—якіх-небудзь пяць-шэсьць радкоў ва усёй кніжцы, а пра новыя соцыялістычныя мэтоды працы, як ударніцтва, брыгады і г. д. зусім нічога няма. Некаторыя факты і лічбы ў падручніках ужо застарэлі (напр., у БССР ёсьць тры вышэйшыя навучальныя ўстановы), але зусім зразумела, што гэта ня віна аўтара, і настаўніку самому ўжо прыдзецца папаўняць гэты прабел газэтным ды іншым матар'ялам.

У разьдзеле аб культурнай рэволюцыі няма ніводнага слова аб нацполітыцы партыі, аб нашых посьпехах у галіне культурнага будаўніцтва на нац. мовах, няма ніводнага слова аб нацполітыцы капіталістычных дзяржаў. Наогул зьдзіўляе тое, што такая выключна важная тэма, як нацполітыка партыі, зусім не распрацавана ў падручніку.

У дадатку да програмы па грамадазнаўству ёсьць г. зв. „яўэлемэнты", аб якіх там зазначана: „яўэлемэнты ў яўрэйскіх школах прапрацоўваюцца ў вызначаным аб'ёме, а ў беларускіх школах—крыху ў скарочаным відзе". З мэтай інтэрнацыянальнага выхаваньня гэта мела-б вялікае значэньне. Падручнік павінен быў даць такі матар'ял, бо не заўсёды нават і настаўнік зможа знайсьці такі матар'ял. Зусім правільна робіць перакладчык гэтага падручніка на яўрэйскую мову, калі сьвядома пашырае гэтую тэму і ўключае цэлы шэраг момантаў аб нацпытаньні наогул.

Настаўнік таксама ня знойдзе ў падручніку ніякага матар'ялу аб ваенізацыі і антрыэлігійнай працы. Але тут ужо хутчэй віна самой програмы, якая абышла маўчком усе гэтыя моманты.

Гэтым у асноўным вычэрпваюцца ўсе заўвагі, што да зьместу першай часткі падручніка—„сучаснасьць". Пытаньні мэтодычнага характару будуць разгледжаны далей.

II.

Пры пераходзе да гісторычнай часткі яскрава кідаецца ў вочы такі недахоп: аўтар ніводным словам не растлумачвае сувязі паміж абедзьвюма часткамі падручніку, у выніку чаго вучню зусім незразумела, чаму пасьля тэмы „Культурная рэволюцыя" (апошняя тэма разьдзелу „Сучаснасьць") трэба вывучаць прамысловы пераварот у Ангельшчыне. Між іншым, такая адарванасьць ёсьць нават і паміж асноўнымі тэмамі гістарычнай часткі, напр., паміж першай і другой тэмай.

Гістарычная частка пачынаецца тэмай „Прамысловы пераварот у Ангельшчыне". Програма ФЗС (маскоўская) робіць, па нашай думцы, правільна, калі раіць пачынаць гістарычны курс з Вялікай Француская Рэв. Прыводжу яе мотывіроўку: „Програма прапануе пачынаць з Вял. Фр. Рэв., а не з прам. перавароту, з тае прычыны, што 1) прам. пераварот у Францыі адбыўся пазьней рэволюцыі, і 2) лягчэй для вучняў зразумець сутнасьць прам. пер. на матар'яле, аб'яднаным для Англіі і Францыі ў пэрыод 30-40 гадоў.

У гістар. частцы аўтар, па нашай думцы, дапусьціў вялікую памылку мэтодычнага (а можа, і мэтодолёгічнага зьместу). Справа ў тым, што асобны гістарычны факт разглядаецца зусім ізолявана ад цэлага шэрагу аналёгічных і зусім ня зьвязаных з рачаіснасьцю сёньняшняга дню. Прадстаўленьне аб тым, што вучань можа мысьліць, так сказаць, „гістарычна", абстрактна, ня вытрымлівае ніякай крытыкі. Вучань (і ня толькі вучань) толькі тады зразумее тэй ці іншы гістарычны факт, альбо зьявішча, калі ён знойдзе для іх якія небудзь апорныя пункты ў вакольным жыцьці, альбо зможа гэты факт зьвязаць з больш знаёмымі фактамі нядаўнага мінулага [1]). Напры-

[1]) Рэзолюцыя Ўсерасійскай Конфэрэнцыі па вучэбнай кнізе ставіць падручніку такую задачу: „неабходна, каб кожны новы факт пашыраў здольнасьць вучняў „бачыць", адшукваць у вакольным жыцьці ды ў агульнай суме людзкога вопыту аналёгічныя зьявішчы, вызначыць ім месца ў шэрагу фактаў і садзейнічаць разьвіцьцю ўменьня дапасаваць набытыя веды да жыцьця, да яго перабудовы".

клад, гаварыць аб становішчы якобінскай рэспублікі і не спасылацца на блёкаду СССР у гады грамадзянскай вайны, альбо таксама гаварыць аб вандзейскім паўстаньні і нічога не сказаць аб кулацкіх паўстаньнях і аб ролі духавенства пры гэтым у часы грамадзянскай вайны ў нас і г. д.,—значыць вярнуцца да старой „истории“ з усімі яе „прелестями“. Уяўленьне аб тым, што гэта робіць альбо павінен рабіць сам настаўнік ня зусім правільнае, бо мы не павінны забывацца на тое, што: 1) вельмі часта маем справу са слаба падрыхтаванымі настаўнікамі ў пытаньнях мэтодыкі; 2) **падручнік сам** павінен агітаваць за **такі** мэтод вывучэньня грамадазнаўства. Пры **такім** мэтодзе ўсе г. зв. „элемэнты“ (антырэліг., інтэрнац. і г. д.) будуць ужо не элемэнтамі ў праграмах матэрыялу, а складанымі часткамі ўсяго курсу. Сапраўды, дзе яшчэ будзе такая мажлівасьць для гутаркі на антырэлігійную тэму, як пры вывучэньні вандзейскага паўстаньня, альбо калі лепш высьвятліць такое выключна важнае пытаньне, як роля партыі ў стварэньні Чырвонай арміі, як не пры вывучэньні гісторыі якобінскай арміі з яе сыстэмай політработы і г. д.?

Загавор Бабэфа і асабліва прычыны яго няўдачы тлумачацца ў падручніку вельмі „проста“: знайшоўся нейкі здраднік, які здрадзіў паўстанцам, і таму загавор ня ўдаўся. Тут трэба было-б растлумачыць вучням нерэальнасьць ідэй Бабэфа, як утопістага, які думаў, што можна шляхам загавору, ня прымаючы пад увагу соцыяльна-экономічных умоў, перабудаваць грамаду.

Трэба было-б больш выразна высьветліць здрадніцкую ролю буржуазіі ў Чартыскім руху. Тут трэба было-б падкрэсьліць той момант, што буржуазія ў сваёй барацьбе за выбарчую рэформу скарыстала рабочы рух, але потым, калі яна задаволіла ўсе свае запатрабаваньні, яна зразу перайшла ў наступ на рабочую клясу. Гэта самае трэба было-б хоць закрануць і ў тэме аб рэволюцыі 48 г. у Францыі, паказаўшы, як у першы пэрыод рэволюцыі, калі прамысловая буржуазія змагалася з фінансавай арыстократыяй, яна „заігрывала“ з рабочымі, але калі рабочыя сталі больш энэргічна змагацца за свае соцыяльна-экономічныя запатрабаваньні, яна (буржуазія) расправілася з імі „па-кавэньякску“.

Гаворачы аб паўстаньні Пугачова, трэба было-б па нашай думцы, зрабіць агульны вывад аб характары сялянскіх войн, аб іх прычыне. Матар'ял для такіх вывадаў у вучняў VI групы ўжо ёсьць—яны ўжо знаёмы з сялянскай вайной 1525 г. у Нямеччыне і з паўстаньнем Разіна.

Разьдзел „Беларусь ў 18 в. пачынаецца так: „Пасьля 3-га падзелу Польшчы (1795 г.) этнографічная Беларусь увайшла ў склад Расійскай Імпэрыі“ і г. д., але што гэта за падзел, чаму падзялілі Польшчу, хто і г. д.—вучні зусім ня ведаюць, бо ніхто з імі гэтага не вывучаў.

Перад тым, як перайсьці да разгляду мэтодычнага боку падручніка, хочацца некалькі слоў сказаць аб г. зв. „дадатковым матар'яле“ (дакуманты ды інш.). Тут ня ўсё гладка.

1. Па нашай думцы, было-б куды лепш, калі-б такі матар'ял быў пададзены ў самым тэксьце. Але калі такі матар'ял ужо дадзены як дадатковы, дык трэба было яго належным чынам апрацаваць. Аўтар жа іншы раз дае сухі матар'-ял, і ня ведаеш, што з ім рабіць (гл., напр., прыкладны статут с/гаспадарчай арцелі, стар. 67).

2. Аўтар дае кароценькае апавяданьне (1/2 старонкі) на ст. 150 і прапануе на аснове яго зрабіць „даклад“...

3. Па свайму зьместу ён (дадатковы матар'ял) не заўсёды падыходзіць, а часам бывае нават шкодны. Некалькі прыкладаў: гаворачы аб перавагах буйнай прамысловасьці над дробнай, аўтар раіць (34 стар.) прачытаць апісаньне заводу Форда, але дадзены малюнак такі, што прачытаўшы яго, можна зрабіць вывад, што, Фордаўская сыстэма дасканалая ва ўсіх адносінах. Куды лепей было-б даць апісаньне соцыялістычнага гіганту.

Характарыстыку Пугачова аўтар дае на аснове „Капитанской Дочки“ Пушкіна і забывае пра тое, што клясавая прырода Пушкіна дыктавала яму апісаць Пугачова, як ліхога злодзея (гл. стар. 224).

Апавяданьне „Канец Людовіка XVI“ (урывак) напісана так, што выклікае самае моцнае спачуваньне да Людовіка, і, прачытаўшы гэты адрывак, мімвольна пачынаеш верыць яму, што ён „памірае бязьвінным“...

III.

У **мэтодычных** адносінах падручнік мае шмат недахопаў. Першы і асноўны: форма перадачы зьместу апавядальная, догматычная, без якога-небудзь пытаньня, якое накіроўвала-б думку вучня да якіх-небудзь вывадаў, наогул ніякіх „адхіленьняў“ ад агульнай тэмы, у выніку чаго складаецца такое ўражаньне, што матар'ял можа і вельмі навуковы, але і досыць сумны... А вядома, якую карысьць можа прынесьці ўдала прыведзены прыклад, апавяданьне і г. д., як гэта можа ажывіць нават і такі матар'ял як політэкономія. Такая „акадэмічная“ ўстаноўка ў форме перада-

чы зьместу мае ўплыў і на мову падручніка — яна ў большасьці акадэмічна-газэтная (калі такая комбінацыя магчыма).

Улюбёны стылявы прыём у аўтара—гэта сказы-формулы, напр.: Сувязь паміж прамысловасьцю і сельскай гаспадаркай ажыцьцяўляецца праз памен, гэта значыць праз гандаль". Чым не „Капітал" Маркса?

Некаторыя месцы нагадваюць цяжкія па сваёй форме, даклады і зусім ня відаць, каб аўтар паклапаціўся перапрацаваць іх для дзяцей. Трэба зусім выразна сказаць, што словы т. Крупскай аб тым, што „пэдолёгія не заўсёды ўжываецца ў практыцы школы", застаюцца правільнымі і ў адносінах да гэтага падручніка і да шмат другіх, якімі карыстаецца наша школа...

Нарэшце, яшчэ адно пытаньне. На сёньняшні дзень ужо ніякіх спрэчак няма аб тым, што школе патрэбен не падручнік наогул, а г. зв. „рабочая кніга".

Ня гледзячы на тое, што рэцэнзуемы падручнік з надворнага боку нагадвае рабочую кнігу, бо ёсьць ў ім і пытаньні, і заданьні, і назвы вузлавых тэм і г. д. — усё-ж такі гэта яшчэ не рабочая кніга. Бо што трэба разумець пад тэрмінам „рабочая кніга"? Тав. Крупская ў сваім дакладзе на Ўсерасійскай Конфэрэнцыі па вучэбнай кнізе кажа так: „Падручнік павінен даваць ня толькі веды, ён павінен даць цэлы шэраг арганізацыйных звычак, навучыць працаваць самастойна, навучыць працаваць у колектыве".

Падручнік Рудоміно покуль што, бязумоўна, не задавальняе гэтым запатрабаваньням, бо „пытаньні", якія там даюцца, маюць на мэце толькі „выспрашивать" матар'ял, а „заданьні", у большасьці выпадкаў, не організуюць вучня, а маюць досыць абстрактны характар. Але абвінаваціць у гэтым аўтара было-б па крайняй меры няправільна, бо пытаньне аб рабочай кнізе яшчэ зусім новае і покуль што разьвязана толькі ў тэорытычным пляне. Добрую рабочую кніжку, якая-б задавальняла нашы запатрабаваньні, мы будзем мець толькі праз некаторы час, калі самі настаўнікі (альбо групы настаўнікаў) возьмуцца за складаньне падручнікаў на аснове іх практыкі ў працоўнай політэхнічнай школе.

**Л. Царт.**

---

# „Ударнік"

*(Замест рэцэнзіі)*

Так азаглаўлены лемантар для гарадзкіх школ граматы. Лемантар выданы БДВ, на першай старонцы якога аўторытэтна напісана: „Навукова-мэтодолёгічным комітэтам НКА БССР рэкомэндаваны ў якасьці падручніка для гарадзкіх школ граматы"

Аўтары лемантара „Ударнік" т.т. А. Камлюк і П. Пруднік у сваёй прадмове кажуць пра тое, што „адсутнасьць спэцыяльнага лемантара для гарадзкіх школ граматы ва ўмовах БССР не давала магчымасьці пабудаваць процэс навучаньня грамаце на блізкім і даступным для гарадзкога рабочага матар'яле. Гэты недахват мы імкнуліся ліквідаваць, складаючы лемантар „Ударнік".

Згодзімся з таварышамі аўтарамі „Ударніка", што яны гэты недахват у добрым лемантары імкнуліся папоўніць. І сапраўды папоўнілі. Лемантар „Ударнік" складаецца з 221 старонкі (!), узбагачаны малюнкамі і дыяграмамі, выданы тыражом у 80 тысяч. экз. Усё як быццам добра, і назва адпавядае ўдарным тэмпам. Ну, адным словам, усё паўдарнаму!

Ці так жа сапраўды ўсё добра на самай справе? Усе даныя даводзяць аб тым, што лемантар „Ударнік" побач са станоўчымі бакамі мае шмат недахопаў, якія кажуць пра політычную аўтарскую няпісьменнасьць. Гэтая політычная няпісьменнасьць сустракаецца на працягу ўсяго лемантара. Прыходзіцца дзіву давацца, чаму так здарылася, што на 14-м годзе Кастрычніка зьяўляецца лемантар пад такой прыгожай назвай, які складзены політычна няпісьменнымі людзьмі.

А цяпер пяройдзем да разгляду таго вялікага матар'ялу, якім запоўнены лемантар „Ударнік" для гарадзкіх школ граматы. Першая старонка пачынаецца словамі: „Нашы заводы". Для пачатку гэта добра. Тэкставы матар'ял, які зьмешчаны на 6-22 старонках зьяўляецца як-бы ўступам у програму ліквідацыі няпісьменнасьці, таму мы іх апушчаем і пачнем агляд непасрэдна з 23 старонкі.

Артыкул, прысьвячаны Усесаюзнай комуністычнай Партыі, дзе паказана, што „комуністычная партыя—перадавы авангард рабочай клясы", і далей для таго, каб гэта падмацаваць, аўтары кажуць пра тое, што „пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі рабочая кляса, батракі і беднякі змагаліся супроць капіталістых і абшарнікаў. Пад кіраўніцтвам

комуністычнае партыі працоўныя перамаглі".

На гэтым становіцца кропка. Ні слова аб тым, калі гэтая барацьба супроць абшарнікаў і капіталістых вялася, і ў чым выразілася перамога працоўных мас.

Лістаем лемантар старонка за старонкаю і хочацца супакоіцца, што ўсё будзе добра, але-ж не. На 103 старонцы сказана, што „рабочая кляса, пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі, пасьпяхова будуе соцыялізм". Пытаньне аўтарам: дзе-ж падзеліся беднякі і серадлякі? З гэтага відаць, што аўтары запамяталі пра саюз рабочай клясы з серадняком і пра беднякоў, якія зьяўляюцца апорай рабочай клясы на вёсцы.

Соцыялістычнае будаўніцтва выклікае шалёнае супраціўленьне з боку клясавага ворага. Жадаючы прывіць нянавісьць да класавага ворага, аўтары „Ўдарніка" кажуць пра кулака і нэпмана наступнае:

„Нэпман увесь час марыць пра ўласную фабрыку, пра ўласны завод. Нэпман марыць пра прыбыткі, якія ён атрымліваў ад эксплёатацыі рабочых... Кулак пануе на нястачах батрака ды бедняка. Кулацкія карэньні—гэта дробная гаспадарка. індывідуальная гаспадарка". (Разьбіўка наша Я. Н.).

Проста незразумела, чаму гэта задумалі расказаць аўтары пра „мары" нэпмана? Няўжо нэпман у сваёй „дзейнасьці" толькі абмяжоўваецца „марамі"? Здаецца, што гэта далёка ня так. Сьцьвярджэньні, што „кулацкія карэньні—гэта дробная гаспадарка, індывідуальная гаспадарка", проста зьяўляецца бязглуздзіцай.

Гаворачы пра кулака, як ворага колектывізацыі, аўтары загібаюць такое, што зьяўляецца ня чым іншым, як хлусьнёю лявацкага кірунку, на лінію комуністычнай партыі.

Ліквідуем кулака і нэпмана як клясу. Такі наказ комуністычнай партыі".

Аўтары, мабыць, запамяталі, што XVI зьезд УсеКП(б) вынес досыць ясную пастанову, паводле якой ліквідацыя кулацтва (а ня нэпманаў) як клясы ставіцца зусім па іншаму.

Другі разьдзел лемантара прысьвечаны будаўніцтву буйных колектыўных гаспадарак. Гэты разьдзел пачынаецца артыкулам, які прысьвечаны саюзу рабочых і сялян. У артыкуле гаворыцца, што „свайго вызваленьня беднацкае і серадняцкае сялянства магло дасягнуць толькі ў цесным саюзе з рабочай клясай і пад яе кіраўніцтвам, у супольнай барацьбе супроць капіталістых і памешчыкаў. Гэтая супольная барацьба рабочых і сялян палажыла пачатак моцнаму саюзу паміж імі".

Чаго тут не хапае? Тут не хапае ленінскай партыі, якая стаяла і непахісна стаіць на чале барацьбы рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас за перамогу соцыялізму. Здаецца, што саюз рабочай клясы з асноўнай масай сялянства ня спыніўся на саюзе, які грунтаваўся неабходнасьцю барацьбы супроць капіталістых і памешчыкаў Дзе-ж падзеўся вытворчы саюз рабочае клясы, які пачынаецца пасьля скончэньня грамадзянскай вайны і працягвае існаваць зараз. Мабыць, аўтары запамяталі і гэтую „маленькую" дробязь.

На 124 старонцы аўтары даюць заклік, які агітуе „за буйныя колгасы, за масавую і суцэльную колектывізацыю цэлых вёсак, сельсаветаў і раёнаў". І тут сказана ня ўсё. Упушчана „маленькая" дробязь, а менавіта: саўгасы, якія адыгрываюць вядучую ролю ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. А нельга абыходзіць ролі саўгасаў у справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі на соцыялістычны лад.

На 179 старонцы чытаем: што і „дыктатура пролетарыяту стварылася ў нашым краі на аснове саюзу рабочых і працоўных сялян... Рабочыя і працоўныя сяляне не маглі-б перамагчы капіталістых і памешчыкаў, калі-б ня мелі такога саюзу. Сяляне не маглі-б разьбіць памешчыкаў без кіраўніцтва з боку рабочых". Тут зноў адсутнічае кіруючая роля ленінскай партыі ў стварэньні пролетарскай дыктатуры. Гэтага забываць нельга.

Які ж можна зрабіць агульны вывад? Ня гледзячы на шмат недахопаў, якія маюць, бязумоўна глыбока прынцыповае значэньне, лемантар „Ударнік" зьяўляецца спробай стварэньня такой літаратуры па ліквідацыі няпісьменнасьці, якая абгрунтавана на матар'ялах, узятых з вытворчасьці, з жыцьця нашых фабрык, заводаў, саўгасаў і колгасаў. Гэтую спробу трэба замацаваць і пашырыць як мэтод на складаньне ўсіх падручнікаў.

Пара ўжо дабіцца таго, каб нашы падручнікі для масавай граматы, асабліва па ліквідацыі няпісьменнасьці, былі пазбаўлены політычных ляпсусаў і ўсякай бязглуздзіцы.

У заключэньне напомнім аўтарам і Галоўмэтодкому, што ў такіх падручніках павінна быць уведзена адпаведная частка матар'ялаў, якія-б паказвалі контррэволюцыйную сутнасьць вялікадзяржаўнага шовінізму, беларускага нацдэмократызму і шовінізмаў розных колераў і організоўвалі-б рабочыя масы на барацьбу з імі. Аб гэтым у падручніку ня сказана ніводнага слова

**Я. Мядзьведзеў.**

---

**А. П. Шохін—„Пути и формы политехнизации школы". (Даклад на Ўсерасійскім зьезьдзе па політэхнічнай асьвеце). Дзяржвыдавецтва РСФСР 1930 г. Стар. 48,** *Цана 10 к. Тыраж 20.000.*

Даклад т. Шохіна аб шляхох і формах політэхнізацыі школы зьяўляецца надта каштоўным укладам у літаратуру па гэтаму пытаньню. Кніжка дае шэраг практычных установак у тым, як політэхнізаваць школу. Пытаньне пастаўлена так, што кожны настаўнік, калі прачытае брошурку, будзе яскрава ўяўляць, па якім шляху ён павінен ісьці ў штодзённай практычнай працы.

Аўтар кніжкі, пачынаючы з пытаньняў агульнага характару, паступова пераходзіць да асноўнага: сутнасьці політэхнізму, організацыі вытворчай працы і сувязі яе з навучаньнем умоў, што забясьпечваюць пабудову політэхнічнай школы. Т. Шохін спыняецца таксама і на тым, што толькі шляхам соцспаборніцтва і ўдарніцтва можна здолець усе цяжкасьці, што стаяць на шляху політэхнізацыі школы. У заключным слове выяўлены тыя ўмовы, пры якіх школу можна лічыць політэхнічнай.

Да дакладу і заключнага слова прыкладзены тэзісы.

Не абыходзіць аўтар таксама і тых ухілаў, што зроблены таварышамі ад генэральнай лініі перабудовы школы.

Кніжка ў цэлым у значнай ступені адказвае на пытаньне аб ролі вучэбна-вытворчых цэхаў школы пры політэхнізацыі. Але гаворыць ён аб гэтым надта няпоўна (ст. 29).

Кніжка выдана добра. Цана нязначная. З кніжкай павінен пазнаёміцца ня толькі настаўнік, але і наогул кожны. хто працуе ў галіне політэхнізацыі школы, альбо цікавіцца гэтай справай.

Пажадана, каб Наркомасьветы прыняў належныя крокі да прасоўваньня гэткіх кніжак у асьветніцкую масу.

**Мік. Цыганоў.**

# Часовая інструкцыя аб рабоце Галоўрэпэрткому і яго мясцовых органаў

1. Для контролю за спэктаклямі, кіно-карцінамі, эстрадай і ўсімі творамі, якія выконваюцца публічна, па БССР організуюцца: у Менску - галоўны комітэт па контролю за рэпэртуарам (галоўрэпэрткам), у гарадох Віцебску і Гомлі—гаррэпэрткомы і ва ўсіх раёнах—раённыя комітэты па контролю за рэпэртуарам (райрэпэрткомы).

2. Галоўрэпэрткам ствараецца пры галоўмастацтве БССР у складзе працаўніка па рэпэрткому (старшыня), прадстаўнікоў ад ЦК КП(б), ЦК ЛКСМБ, ПП, АДПУ, БВА, ЦСПСБ, Наркомасьветы, ЦП Рабіс, Белапп і 2 рабочых.

3. У абавязкі галоўрэпэрткому ўваходзяць:

а) дазвол да пастаноўкі па БССР спэктакляў, разгляд і зацьверджаньне сцэнарыяў, дазвол на дэмонстраваньне кіно-карцін, эстрадных нумароў, музычных і іншых твораў;

б) выдача дазволаў на організацыю па БССР ці ў асобным горадзе, раёне тэатральных гастроляў і іншых мастацкіх колектываў;

в) складаньне і апублікаваньне сьпісаў і паведамленьняў аб дазволеных а таксама і забароненых да публічнага выконваньня твораў;

г) контроль за рэпэртуарам усіх відовішчных прадпрыемстваў з правам зачыненьня іх і забароны асобным артыстым выступаць на сцэне;

д) кантроль за друкаваньнем рэклямных матар'ялаў аб публічных відовішчах, незалежна ад спосабаў і колькасьці друкаваньня;

е) агульны контроль за рэпэртуарам мастацкіх частак, перадачай на радыё-станцыях, вечарамі ў клюбах, нардамох і іншых мясцох, дзе публічна выконваюцца тыя ці іншыя мастацкія творы;

ж) кіраўніцтва і контроль за работай гарадзкіх і раённых рэпэрткомаў.

4. Гарадзкія рэпэрткомы ствараюцца пры гарадзкіх аддзелах нарасьветы ў складзе: інспэктара політасьветы (старшыня), прадстаўнікоў ад гаркому КП(б)Б, гаркому ЛКСМБ, ДПУ, профорганізацыі, і 2 рабочых;

5. Раённыя рэпэрткомы ствараюцца пры райаддзелах нарасьветы ў складзе: інспэктара політасьветы (старшыня), прадстаўнікоў ад РК КП(б)Б, РК ЛКСМБ, ДПУ, профорганізацыі і 2 рабочых альбо батракоў.

6. У абавязкі гарадзкіх і раённых рэпэрткомаў уваходзіць:

а) дазвол да пастаноўкі ў гарадох і раёнах спэктакляў, эстрадных выступленьняў, музычных і іншых мастацкіх твораў;

б) контроль за рэпэртуарам усіх відовішчных прадпрыемстваў з правам зачыненьня іх і забароны асобным артыстым выступаць на сцэне ў даным горадзе ці раёне;

в) контроль за друкаваньнем рэклямных матар'ялаў аб публічных відовішчах, незалежна ад спосабаў і колькасьці друкаваньня;

г) агульны контроль за рэпэртуарам, мастацкімі часткамі, перадачай на радыё-станцыях, вечарамі ў клюбах, нардамох і іншых мясцох, дзе публічна выконваюцца тыя ці іншыя мастацкія творы.

7. Дазволы галоўрэпэрткому сапраўдны па ўсёй БССР, дазволы гарадзкіх і раённых рэпэрткомаў сапраўдны ў даным горадзе ці раёне.

Пастановы гарадзкіх і раённых рэпэрткомаў могуць быць адменены толькі галоўрэпэрткомам па хадайніцтву зацікаўленых асоб ці па свайму пагляду.

8. Раённыя і гарадзкія рэпэрткомы падпарадкаваны і робяць справаздачы аб сваёй рабоце непасрэдна перад галоўрэпэрткомам, узгадняючы сваю работу з належнымі організацыямі і органамі на мясцох.

9. Дазволы на організацыю гастроляў у БССР ці ў асобным горадзе, раёне тэатрам, эстрадным, цыркавым і іншым колектывам выдае толькі галоўрэпэртком.

10. Рэпэрткомы, выдаючы дазволы на публічнае выкананьне тых ці іншых твораў, павінны паказаць у дазволе:

а) на які тэрмін выдан дазвол;

б) у якіх мясцох можа быць выкананы твор (уся рэспубліка для галоўрэпэрткому, увесь раён—для райрэпэрткому, ці ў асобным горадзе, колгасе і інш.);

в) для якога гледача можа быць выкананы твор (для ўсякай аудыторыі, альбо толькі для рабочай ці сялянскай);

г) ідэолёгічна-мастацкую каштоўнасьць твораў.

11. Без дазволу рэпэрткому ніводзін мастацкі твор ня можа быць прыняты да пастаноўкі профэсіянальнымі тэатрамі, студыямі, кіноорганізацыямі.

12. Ва ўсіх выпадках наладжваньня публічных відовішчаў, акрамя тых, якія наладжваюцца клюбамі, нардамамі, хатамі-чытальнямі і г. д. у парадку абслугоўваньня сваіх членаў і сіламі самадзейных мастацкіх гурткоў, кіраўнікі відовішчных прадпрыемстваў павінны паведаміць рэпэрткам аб часе, месцы і рэпэртуары відовішча для атрыманьня дазволу, незалежна ад таго, што рэпэртуар быў ужо прагледжаны рэпэрткомам.

13. Адказнасьць за рэпэртуар відовішчаў, якія наладжваюць клюбы, нардамы, хаты-чытальні, партыйныя і комсамольскія організацыі ў парадку абслугоўваньня сваіх членаў, нясуць кіраўнікі даных

прадпрыемстваў і організацый, робячы справаздачу ў гэтай галіне свае работы па патрабаваньню рэпэрткомаў.

Увага: а) самадзейныя мастацкія гурткі могуць ставіць творы, якія выконваюцца публічна ўпяршыню, толькі з дазволу рэпэрткому;

б) выступленьні профэсіянальных артыстых могуць адбывацца толькі з дазволу рэпэрткому ў кожным асобным выпадку;

в) творы, забароненыя зусім, ці для данай аудыторыі, ні ў якім разе ня могуць распрацоўвацца і выконвацца. Адказнасьць за гэта нясуць кіраўнікі і выканаўцы;

г) у выпадку наладжваньня адкрытых платных выступленьняў самадзейных мастацкіх гурткоў, ці выезду іх у іншы горад, раён, патрэбен дазвол рэпэрткому;

д) дэмонстраваньне кіно-карцін у клюбах, нардамох і інш. мясцох можа адбывацца без паведамленьня рэпэрткому, калі ёсьць агульны дазвол галоўрэпэрткому на права дэмонстраваньня гэтай кіно-карціны ў данай аудыторыі.

14. Усю сваю работу рэпэрткомы павінны праводзіць у цеснай сувязі з грамадзкасьцю данага гораду, раёну, наладжваючы грамадзкія прагляды, абгаварэньні, дыспуты, чыткі тых твораў, што рыхтуюцца да пастаноўкі, прыцягваючы да работы па контролю за рэпэртуарам партыйную, комсамольскую і савецкую грамадзкасьць.

Пастановы і заўвагі ў часе дыспутаў, грамадзкіх праглядаў, абгаварэньняў і г. д. улічваюцца рэпэрткомам, але не зьяўляюцца для яго абавязковымі.

15. Члены рэпэрткому маюць права:

а) вольнага ўваходу на ўсе відовішчныя прадпрыемствы, дзе публічна выконваюцца мастацкія творы, адміністрацыя прадпрыемства павінна адводзіць для іх месца;

б) прапанаваць унесьці тыя ці іншыя папраўкі ў мастацкія творы ці зусім забараніць іх.

Увага 1. Гэтыя правы маюць члены галоўрэпэрткому па ўсёй БССР і члены гарадзкіх і раённых рэпэрткомаў у даным горадзе ці раёне;

2) Забарону твораў у часе іх выкананьня член рэпэрткому можа рабіць у выключных выпадках з абавязковым і безадкладным паведамленьнем галоўрэпэрткому.

3) Прапановы асобных членаў рэпэрткомаў выконваюцца ў абавязковым парадку і могуць быць адменены толькі пастановай рэпэрткому.

16. Нагляд за выкананьнем гэтае пастановы ўскладаецца на органы політконтролю ПП, ДПУ, БВА.

---

# Пастановы Колегіі НКЗ

## Аб выніках комплектаваньня БДУ, пэдінстытутаў і пэдкурсаў у верасьні-кастрычніку 1930 г.

1. Адзначыць, што дзякуючы правільна ўзятай лініі па выкананьню дырэктыў партыі і ўраду аб арабочваньні навучальных устаноў, дзякуючы ўзятым тэмпам падрыхтоўкі кадраў лік рабочых, батракоў і іх дзяцей, колгасьнікаў і сялян-бednякоў, уцягнутых у вучобу, значна павялічыўся.

Так, мы маем:

а) па ВНУ: замест 174 прынятых па 1-й курыі ў 1929-30 вуч. годзе—353 у 1930-31 вуч. годзе;

б) па рабфаках: замест 657 рабочых у 1929-30 г.—2733 у 1930-31 г.;

в) перавыкананьне 1-й курыі па наргасу і саўбуду БДУ;

г) перавыкананьне курыі колгасьнікаў і сялянбеднякоў і серадНякоў амаль па ўсіх установах.

2. Разам з гэтым колегія НКА зазначае, што ў выніку недастатковай ўвагі з боку самога апарату НКА і мясцовых інспэкторыятаў, у выніку позьняга разгортваньня вярбовачнай работы з боку пэдінстытутаў і пэдтэхнікумаў, а таксама і па прычынах шпаркага разгортваньня ВТНУ і індустрыяльных тэхнікумаў па БССР, якія ў значным ліку адцягнулі тыя контынгенты, якія-б папалі ў пэдустановы—пэд. ВНУ і пэдтэхнікумы ня выканалі запрапанаваных урадам курыяў па прыёму.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Так, па 1-й курыі па пэдфаку | замест 40% | вык. | 33% |
| „ пэдінстыт. | „ 40 „ | „ | 22,7„ |
| „ пэдтэхн. | „ 40 „ | „ | 21,9„ |

3. Асабліва кепска па прычынах, адзначаных вышэй, абстаіць справа с колькасным і якасным прыёмам на пэдкурсах, дзе, апроч недабору ў 500 асоб, сарвана комплектаваньне 1-й курыі. (Замест 20% выканана па 2-гадов. курсах—12% і па аднагадовых—4,6%).

4. Усё гэта сыгналізуе небясьпеку пагоршаньня соцыяльнага складу настаўніцтва, з аднага боку, і пагрозу невыкананьня пляну ўсеагульнага навучаньня на будучы год, як вынік недаўкомплектаваньня пэдкурсаў.

5. Колегія НКА лічыць неабходным:

а) абавязкова дабіцца поўнага ўкомплектаваньня 2-гадовых і аднагадовых пэдкурсаў, згодна вызначаных лічбаў. Прасіць ЦК ЛКСМБ паставіць рашуча пытаньне аб выкананьні мобілізацыі комсамольцаў у ліку ня менш 200 асоб;

б) улічваючы пагрозу вялікага адсеву, які ўжо вызначыўся па шэрагу курсаў і тэхнікумаў, прапанаваць кіраўніком устаноў правесьці шырокую растлумачальную працу сярод студэнцтва і адначасова прыняць рашучыя захады да паляпшэньня матар'яльна-бытавых умоў студэнцтва.

Прасіць ЦБ Пролетстуду пашырыць сваю працу па растлумачэньню студэнцтву значэньня самазамацаваньня для выкананьня плянаў усеагульнага навучаньня;

в) з мэтай сваячасовай падрыхтоўкі да верасьнёўскага прыёму 1913 г. і забесьпячэньня як агульных контынгентаў прыёму, гэтак і рабочабатрацкай і колгаснай курыяў лічыць неабходным

з 1 сьнежня разгарнуць сетку курсаў з ахопам прыблізна каля 50% вызначаных контынгентаў прыёму;

г) устанавіць такі парадак падрыхтоўчых курсаў, які-б прымацаваў курсанта да пэўнай ўстановы (падача заявы на імя тых ВНУ, альбо тэхнікумаў, пры якім існуюць, альбо да якіх прымацаваны курсы; падача заявы з усімі докумэнтамі, патрэбнымі пры паступленьні ў навучальную ўстанову);

д) з боку грамадзкіх і комсамольскіх організацый павінна быць дадзена адпаведная колькасьць людзей.

## Організуецца дзяржаўны ансамбль народных інструмэнтаў

Колегія НКА пастанавіла:

1. Організаваць пры музтэхнікуме ансамбль народных інструмэнтаў, які вылучыць у асобную мастацкую адзінку—„дзяржаўны ансамбль народных інструмэнтаў".

2. Лічыць магчымым даць дотацыю „дзяржаўнаму ансамблю".

## Аб політэхнічнай станцыі

Колегія НКА пастановіла:

1. Навукова-дасьледчую політэхнічную станцыю падпарадкаваць навукова-дасьледчаму інстытуту пэдагогікі і цэдолёгіі.

2. Даручыць т. Эвенчыку дагаварыцца з Наркомфінам адносна вызначэньня каштарысаў для станцыі.

3. Даручыць пэдфаку БДУ адшукаць асобу для пасады дырэктара станцыі.

4. Даручыць тэхнічнай групе на працягу 3 дзён распрацаваць проект ацяпленьня будынкаў станцыі і сумесна з навукова-дасьледчым інстытутам пэдагогікі і цэдолёгіі правесьці неабходныя работы па ацяпленьні ў тэрміновым парадку.

5. Для коордынацыі опэрацыйнай працы дасьледчай політэхнічнай станцыі, дзіцячай тэхнічнай станцыі і сельска-гаспадарчай станцыі скласьці савет з 11 асоб, у лік якіх уваходзяць: 1 прадстаўнік ад Мэтодкому НКА, 1 прадстаўнік ад ЦК ЛКСМБ, 3 дырэктары станцый, 1 прадстаўнік ад ЦП працасьветы, 1 прадстаўнік ад ІТС, 1 прадстаўнік ад Навукова-дасьледчага інстытуту Пэдагогікі і пэдолёгіі, 1—ад НДІ С/гаспадаркі, 1—ад НДІ Аховы працы, 1—ад НДІ.

Старшыня абіраецца з іх ліку.

Старшыня савету і сябры працуюць у парадку грамадзкай нагрузкі.

6. Мэтодычнай працай усіх станцый кіруе мэтодком НКАсьветы.

## Аб стандартных проектах школьнага будаўніцтва.

Колегія НКА пастанавіла:

1. Прапанаваць т. Клімаву зрабіць заказы зьмен тыповых проектаў масавых школ, каб прыстасаваць іх да політэхнізацыі.

2. У сувязі з тым, што выпрацоўка зьмен патрабуе пэўнага часу, што адцягне пачатак пабудоў школ, пабудовы пачынаць па ўжо ўстаноўленаму тыпу, не чакаючы выпрацоўкі зьмен тыповых проектаў.

3. На працягу 3 месяцаў тэхн.-буд. групе распрацаваць проекты культбаз і Цэнтральнага дзіцячага дому з тым, каб у канцы лютага проекты ўжо былі на мясцох.

4. Даручыць т. т. Ошараву, Сьцепанюку і Клімаву выпрацаваць програмы для проектаваньня культбаз.

## Становішча ліквідацыі няпісьменнасьці па Асіпавіцкаму раёну.

Колегія НКА, заслухаўшы даклад аб становішчы ліквід. няпісьменнасьці па Асіпавіцкаму раёну, пастанавіла:

Констатаваць, што ў Асіпавіцкім раёне справа з ліквідацыяй няпісьменнасьці стаіць пад пагрозай значнага недавыкананьня пляну. Тлумачыцца гэта няўважлівымі адносінамі да справы ліквідацыі няпісьменнасьці як з боку кіруючых раённых організацый, так і з боку профсаюзаў і комсамолу. Адным з самых буйных недахопаў зьяўляецца слабае прыцягненьне сродкаў грамадзкіх організацый—прыцягнута да гэтага часу 25%, а прадугледжана па пляну 50%. Ня прыцягнуты да справы ліквідацыі няпісьменнасьці (згодна дэкрэту СНК) пісьменнае насельніцтва. Не наладжана справа з забесьпячэньнем лікпунктаў асьвятленьнем.

Выходзячы з гэтага, колегія НКА лічыць неабходным:

1) зьвярнуцца да Асіпавіцкага раённага Выканаўчага Комітэту з лістом, у якім прапанаваць, каб ён больш аддаваў увагі справе ліквідацыі няпісьменнасьці і наогул культурнага будаўніцтва.

2. Даручыць т. Сьцепанюку запытаць Белкоопсаюз аб прычынах незабесьпячэньня сваячасова газай лікпунктаў.

3. Прапанаваць інспэктуры політасьвет-групы ўпарадкаваць справу па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод нацменшасьцяй.

## Да новага набору ў пэдагогічныя ВНУ і пэдтэхнікумы

У верасьні 1931 г. мяркуецца прыняць ва ўсе пэдагогічныя ВНУ, падпарадкаваныя НКА, 1780 чалавек. Для падрыхтоўкі ў ВНУ будзе організован шэраг курсаў, якія, разам з рабфакамі, дадуць 975 чалавек. Рэшта месц будзе аддадзена для вольнага прыёму.

У пэдтэхнікумы будзе прынята 2790 чалавек. З гэтага ліку 1400 чалавек мяркуецца падрыхтаваць праз грамадзкія курсы. На вольны прыем прадбачыцца 1390 месц.